ПРОЛЕТАРЫІ ЎСІХ КРАІН, ЗЛУЧАЙЦЕСЯ!

# БОЛЬШЭВІК БЕЛАРУСІ

ПАЛІТЫКА-ЭКАНАМІЧНЫ
ШТОМЕСЯЧНІК
ОРГАН ЦК КП(б)Б

ГОД ВЫДАННЯ IX

№ 9
Чэрвень 1935 г.

ЗМЕСТ



Адрас рэдакцыі:
Менск, Чырвонаармейская вул.
ЦК КП(б)Б, пакой № 105.
Тэлефон адказнага рэдактара па камутатару 20000 даб. 80; адк. сакратара — 2, гарадскі — 21044.



# Аб прапагандысцкай рабоце ў бліжэйшы час

*Пастанова Цэнтральнага Камітэта ВКП(б)*

ЦК ВКП(б) лічыць недапушчальнай тэндэнцыю некаторых партыйных арганізацый згарнуць на лета прапагандысцкую работу.

Палітыка-выхаваўчая работа партыі не можа насіць «сезоннага» характару, а павінна весціся сістэматычна, на працягу ўсяго года.

ЦК ВКП(б) прапануе партыйным арганізацыям, не ўстанаўляючы стандартных адзіных тэрмінаў заканчэння работы партыйных школ і гурткоў, не дапускаючы гонкі і папярова-фармальнага выканання плана, забяспечыць поўнае праходжанне праграмы школ і гурткоў палітграматы, гісторыі партыі і ленінізма. Партыйныя камітэты павінны арганізаваць у кожным гуртку, па сканчэнні ім сваёй работы, праверку таго, як члены гуртка засвоілі асноўныя пытанні праграмы і палітыкі партыі, ні ў якім разе не ператвараючы гэтай праверкі ў экзамены.

Для скончыўшых кандыдацкія школы неабходна ў летні перыяд арганізаваць гурткі для вывучэння асноўных этапаў гісторыі партыі, падрыхтоўваючы членаў гурткоў к далейшаму сістэматычнаму вывучэнню гісторыі партыі, а таксама гурткі па бягучай палітыцы і пытаннях міжнароднага становішча.

Для членаў партыі, прашоўшых сістэматычны курс гісторыі партыі, неабходна арганізаваць больш грунтоўнае вывучэнне тых этапаў гісторыі партыі, засваенне якіх неабходна членам партыі для разумення ўмоў і сродкаў перамогі нашай партыі.

Неабходна асабліва растлумачыць, што марксізм у нас вырас і ўмацаваўся ў барацьбе з народніцтвам (народавольніцтва і т. п.), як злейшым ворагам марксізма, і на аснове разгрому яго ідэйных палажэнняў, сродкаў і метадаў палітычнай барацьбы (індывідуальны тэрор, які выключае арганізацыю масавай партыі).

Неабходна дабіцца, каб члены партыі засвоілі, што марксізм-ленінізм вырас, умацаваўся і перамог перш за ўсё ў барацьбе са старымі народнікамі, а потым у барацьбе з меншавікамі і эсэрамі.

У асаблівасці неабходна глыбокае засваенне важнейшых этапаў пасляокцябрскага перыяду і барацьбы партыі з трацкізмам, трацкісцка-зіноўеўскай групай, правым ухілам, «левымі» комуністамі і іншымі антыпартыйнымі групоўкамі. Гэта вывучэнне павінна адбывацца на падставе твораў Леніна—Сталіна, матар'ялаў з'езда, канферэнцый і пленумаў ЦК партыі.

Побач з гэтым ЦК ВКП(б) рэкамендуе стварэнне гурткоў па вывучэнню паасобных твораў класікаў марксізма-ленінізма.

У ходзе заняткаў усіх школ і гурткоў абавязкова праводзіць гутаркі з членамі гурткоў па пытаннях палітыкі партыі і міжнароднага

становішча, растлумачваючы членам гурткоў няясныя для іх або цікавячыя іх пытанні.

Для кандыдатаў, якія не праходзілі школ палітграматы, а таксама для спачуваючых неабходна стварыць гурткі, у якіх, у залежнасці ад узроўню падрыхтоўкі і ад граматнасці членаў гуртка, павінна быць пастаўлена азнаямленне з асновамі партыйнай праграмы, арганізацыі і работы нашай партыі—або на аснове падручнікаў палітграматы, або шляхам правядзення вопытнымі прапагандыстамі спецыяльных гутарак аб тым, як пабудавана, як працуе і за што змагаецца наша партыя.

ЦК ВКП(б) прапануе крайкомам, абкомам і ЦК нацкомпартый, а таксама райкомам арганізаваць пры камітэтах актыў прапагандыстаў і агітатараў для вядзення прапагандысцкай і агітацыйнай работы па заданнях партыйных камітэтаў, сістэматычна інструктуючы і падрыхтоўваючы гэты актыў.

Ліквідацыя «сезоннасці» прапагандысцкай работы павінна пацягнуць за сабой і ліквідацыю сезоннасці ў падрыхтоўцы і перападрыхтоўцы прапагандыстаў і арганізацыю сістэматычнай падрыхтоўкі прапагандыстаў на працягу ўсяго года.

ЦК ВКП(б) перасцерагае супроць практыкі, што ўстанавілася ў партыйных арганізацыях, калі ўвесь асноўны кадр прапагандыстаў на працягу кароткага летняга перыяду адрываецца ад прапагандысцкай работы і прапускаецца праз наспех і неахайна арганізаваныя курсы з дрэнна падабраным складам выкладчыкаў, у выніку чаго прапагандысты не атрымліваюць належнай падрыхтоўкі.

У бліжэйшы час асаблівая ўвага партыйных арганізацый павінна быць звернута на падрыхтоўку і перападрыхтоўку прапагандыстаў па гісторыі партыі і па ленінізму.

Неабходна адабраць на гэтыя курсы праверaных прапагандыстаў і вылучыць для іх лепшых выкладчыкаў, маючы на ўвазе, што ад прапагандыста ў першую чаргу залежыць узровень палітыка-выхаваўчай работы ў партыйных школах і гуртках.

**ЦК ВКП(б).**

# Вынікі чэрвеньскага пленума ЦК ВКП(б) і задачы большэвікоў Беларусі

*Даклад тав. Н. Ф. ГІКАЛО на менскім партыйным актыве 17—18 чэрвеня 1935 г.*)*

Таварышы! На чэрвеньскім пленуме ЦК ВКП(б) стаялі два пытанні: аб праполцы, уборцы і загатоўках і аб службовым апараце сакратарыята ЦВК СССР і Енукідзе.

У рашэннях пленума ЦК аб праполцы, уборцы і загатоўках вызначаны канкрэтныя задачы, якія перад намі стаяць у сувязі з другім, калі можна так выразіцца, і больш сур'ёзным турам сельскагаспадарчых работ гэтага года.

## Нашы поспехі і недахопы ў сельскай гаспадарцы

Пленум ЦК праходзіў у перыяд, калі калгаснае сялянства пад кіраўніцтвам ленінскай партыі паспяхова закончыла сяўбу, даўшы значна больш высокія якасныя паказчыкі і больш сціслыя тэрміны сяўбы ў параўнанні з мінулымі гадамі. Гэтыя поспехі сталі магчымымі дзякуючы таму, што калгаснае сялянства пры дапамозе і пад кіраўніцтвам пролетарскай дзяржавы на справе ажыццяўляе ўказанні правадыра нашай партыі тав. **Сталіна,** з класічнай чоткасцю і яснасцю даныя ім у прынятым на II з'ездзе калгаснікаў-ударнікаў статуце сельскагаспадарчай арцелі.

План веснавой сяўбы ў асноўным па СССР быў закончан 25 мая замест 10 чэрвеня ў мінулым годзе.

Трэба асобна падкрэсліць, што рашэнні VII усесаюзнага з'езда советаў, рашэнні II з'езда калгаснікаў-ударнікаў, прынятны на ім Прыкладны статут сельскагаспадарчай арцелі, у распрацоўцы якога прымаў непасрэдны ўдзел тав. **Сталін,** яшчэ больш натхнілі ўсю партыю, увесь рабочы клас, калгаснікаў, увесь совецкі народ на тое, каб не толькі выканаць, але і перавыканаць, не толькі колькасна, але і якасна, план вялікіх работ соцыялістычнага будаўніцтва.

Калі ахарактарызаваць 1935 год хоць-бы па першых выніках сяўбы, то можна сказаць, што 1935 год з'яўляецца годам далейшых выключных поспехаў у справе практычнай непасрэднай рэалізацыі сталінскіх указанняў. Выключныя поспехі мы маем і на іншых участках нашай соцыялістычнай будоўлі: у галіне прамысловасці, умацавання абароназдольнасці краіны і т. д. У будаўніцтве соцыялізма, у

*) Даклад друкуецца па скарочанай стэнаграме.

пабудаванні бяскласавага соцыялістычнага грамадства мы за гэтыя гады гіганцкі рушылі наперад.

Адстаючыя рэспублікі, краі і абласці, да якіх належала яшчэ ў пачатку 1934 г. і Совецкая Беларусь, ператварыліся ў перадавыя квітнеючыя соцыялістычныя рэспублікі, краі, абласці.

Мы ў БССР маем больш чым 75 процантаў калектывізацыі. Зразумела, работы яшчэ тут прадстаіць многа, але галоўнае—у тым, што **калгасны лад і ў нас, у БССР, на граніцы з капіталістычным Захадам перамог канчаткова і беспаваротна. Звароту да ранейшай галечы, голаду і прыгнечання няма і быць не можа.**

Наша партыя пад геніяльным кіраўніцтвам **Сталіна** заўсёды своечасова і правільна ўказвала працоўным масам шляхі далейшага паспяховага руху наперад.

Гістарычнае рашэнне ЦК партыі адносна ліквідацыі картак на хлеб і некаторыя іншыя прадукты, прынятае па ўказанню тав. **Сталіна,** яшчэ раз пацвердзіла моц, магутнасць, калі можна так сказаць, заможнасць нашага Совецкага саюза.

Калі мы возьмем хоць-бы такі адстаючы ўчастак, як соўгасы, якія, асабліва ў нас, у Беларусі, у сяўбе і хлебаздачы кожны год адставалі, то ў гэтым годзе ў соўгаснай сістэме мы маем значны пералом.

Зернавыя соўгасы па Саюзу закончылі сяўбу на 20—25 дзён раней мінулага года.

У БССР пераважна жывёлагадоўчыя соўгасы, і яны ў гэтым годзе закончылі сяўбу на 10—12 дзён раней мінулага года.

Тэхнічная база, машынная база соўгасаў, як і ўсёй сельскай гаспадаркі, непамерна вырасла ў параўнанні з папярэднімі гадамі.

У гэтым годзе намечана ўбраць камбайнамі па соўгасах сістэмы НКСоўгасаў СССР 90 проц. ураджаю. Гэта ўжо высока механізаваная гаспадарка. Гэта—важнейшая аснова для велізарнага ўздыму прадукцыйнасці працы, высокай якасці ўборкі і без страт, якой мы павінны дабіцца ў соўгасах ужо ў 1935 годзе.

Калі ўзяць даныя аб ураджайнасці **ў нас, у БССР, то** мы ў гэтым годзе маем паказчыкі лепшыя, чым калі-б там ні было за папярэднія гады. І галоўнае цяпер у тым, каб мы захавалі і своечасова і без страт сабралі хлеб, які спее на нашых палях, каб мы нашай большэвіцкай работай атрымалі ўраджай яшчэ большы, чым мяркуем зараз. А гэта можна зрабіць, калі мы выканаем ускладзеныя на нас ЦК ВКП(б) задачы—**па-большэвіцку правядзем праполку і падрыхтоўку да ўборачнай кампаніі, скарыстаем поўнасцю ўборачныя машыны і збярэм без страт увесь ураджай, які мы маем.**

Вялікі ўраджай патрабуе велізарнай арганізацыі сіл, сродкаў, людзей, вялікай работы вакол гэтай справы. І іменна адказнасць наша сёння ў сувязі з перспектывай на добры ўраджай нязмерна павышаецца, і задачы нашы ўскладняюцца.

Мы ў гэтым годзе маем лепшыя віды на ўраджай па ўсіх абласцях, краях і рэспубліках таму, што мы лепш падрыхтаваліся да сяўбы і якасна правялі сяўбу ў самы скарочаны і ўраджайны адрэзак часу.

Трэба з усёй рэзкасцю падкрэсліць, што ў барацьбе за высокі ўраджай у параўнанні з нашымі магчымасцямі мы робім толькі першыя крокі.

Трэба з уласцівай большэвікам самакрытычнасцю прызнаць, што калі-б мы яшчэ лепш працавалі з пачатку сельскагаспадарчага года,

яшчэ лепш скарысталі сельскагаспадарчыя машыны і трактары, аддалі-б больш увагі падбору высокаякаснага насення і радковай сяўбе, мы маглі-б дабіцца яшчэ больш высокага ўраджаю. Задача зараз заключаецца ў тым, каб па-бальшэвіцку забяспечыць прапо́лку, змагацца за ўраджай сапраўды, як паложана бальшэвікам—перадавым людзям. Калі мы гэта зробім, то, безумоўна, ёсць усе магчымасці значна павысіць ураджайнасць.

Асобныя дырэктары соўгасаў і старшыні калгасаў імкнуцца ўтаіць ураджай, даючы няправільныя даныя аб ураджайнасці. У нас і на сёнешні дзень ускрываюцца ў паасобных МТС, соўгасах і калгасах спробы даць няправільныя даныя аб ураджайнасці, прыбядніцца, заявіць, што, вядома, віды на ўраджай добрыя, але ўсё-ж лепш, моў, застрахавацца. Па такіх антыдзяржаўных справах трэба моцна біць.

У нас, у Беларусі, віды на ўраджай, асабліва па яравых, лепшыя, чым у мінулым годзе.

Асобныя нашы калгасы ў 1934 г. дабіліся высокіх ураджаяў. Напрыклад, калгас «Чырвоны барацьбіт», Новадворскага сельсовета, Менскага раёна, атрымаў у 1934 г.: жыта азімага 13 цнт. з гектара, пшаніцы азімай 16 цнт. з гектара, аўса 15,5 цнт., пшаніцы яравой 17 цнт. Па ўсіх зернавых гэты калгас мае ў сярэднім 12,8 цнт. з гектара.

Калгас «Чырвоны», Сененскага сельсовета, Сененскага раёна, даў у сярэднім 13,5 цнт. зернавых з гектара.

Калгас імя Калініна, Пухавіцкага раёна, даў 13,8 цнт. азімага жыта з гектара.

Чаму ўсе калгасы Менскага, Сененскага, Пухавіцкага і іншых раёнаў не могуць наблізіцца да паказчыкаў гэтых калгасаў?

Я не лічу, што гэтыя калгасы па сваёй ураджайнасці з'яўляюцца выключна перадавымі ў Беларусі. Дзесяткі і сотні калгасаў паказалі ўжо бальшэвіцкія ўзоры барацьбы за высокі ўраджай. Я ўзяў серадняко́ў з перадавых, таму што мы маем па яравой пшаніцы ў Слуцкім раёне калгасы, якія даюць 22—23 цнт. з гектара. **І работа павінна быць пастаўлена так, каб сярэдняя ўраджайнасць па БССР даганяла хоць-бы серадняко́ў з перадавых. Гэта мінімум, якога мы, бальшэвікі, павінны дасягнуць у найкарацейшы тэрмін.**

Мы павінны ў гэтым годзе даць усёй сельскагаспадарчай прадукцыі больш і лепш па якасці, чым у мінулым годзе, не толькі па зярну, але і па ільну, бульбе, і іншых культурах.

## Прапо́лка і падрыхтоўка да ўборкі—баявыя задачы

Пленум Цэнтральнага Камітэта партыі своечасова, правільна і рашуча папярэдзіў усе партыйныя арганізацыі, што для таго, каб справіцца з прапо́лкай і ўборкай ураджаю, мы перш за ўсё павінны пакончыць з настроямі самацёку. Мы павінны рашуча змагацца з малейшымі праяўленнямі самацёку, проціпаставіўшы ім нашу бальшэвіцкую волю, напорыстасць, пільнасць і арганізаванасць. Гэтага патрабуе ад нас партыя і вялікі **Сталін. (Бурныя апладысменты).**

Наша тэхнічная база ў сельскай гаспадарцы нязмерна вырасла. У нас, у Беларусі, у 1934 г. ва ўборачнай кампаніі мы мелі па сістэме Наркамзема трактарны парк у 2.433 трактары, а ў гэтым годзе мы маем к уборачнай кампаніі 3.864 трактары—павелічэнне на

1.500 трактароў, больш чым на трэць усяго трактарнага парку. Апрача таго, трактарны парк па соўгасах павялічыўся на 171 трактар. Пры такой машынаўзброенасці нашай сельскай гаспадаркі мы павінны лепш, чым калі-б там ні было, правесці ўборку.

З падрыхтоўчымі работамі да ўборачнай у нас не ўсё добра. Даныя аб рамонце ўборачных машын на 10 чэрвеня 1934 г. паказваюць: адрамантавана малатарань з механічнай цягай 43,1 проц., малатарань з коннай цягай—27,1 проц., снопавязалак коннай цягі—25,1 проц., жняярак-лабагрэек—38,8 проц., конных грабель—46,2 проц. Па рамонту зернаачышчальных машын мы на 10 чэрвеня маем—0. Зернаўлавіцеляў устаноўлена—0. Гэтыя даныя вельмі паказальны. Яны гавораць аб тым, што ў нас яшчэ вельмі і вельмі дрэнна ідзе падрыхтоўка да ўборкі.

Мы павінны па калгасах МТС убраць трактарнымі і коннымі снопавязалкамі 88 проц. усёй плошчы пад аўсом, ячменем, яравой пшаніцай і т. д. Мы маглі-б за 8 дзён убраць машынамі 454 тысячы гектараў азімых—каля поўмільёна гектараў, што складае 62 проц. азімага кліну. Між тым становішча з рамонтам машын сведчыць аб тым, як у нас не разумеюць, недаацэньваюць гэтай справы. У нас ёсць самасупакоенасць, думаюць, што мы можам уборку хлеба і хлебаздачу правесці на «ура». Ні ў якай меры гэта справа не выйдзе. Уборка ўраджаю без страт і хлебаздача патрабуюць поўнага і правільнага скарыстання ўсіх машын, падрыхтоўкі машын і людзей, асвоіўшых складаныя машыны. Аднак, становішча з рамонтам уборачных машын і малатарань унушае сур'ёзную трывогу.

Трэба, каб уся КП(б)Б неадкладна і моцна ўзялася за гэту справу, інакш мы можам сарвацца ў добра пачатым сельскагаспадарчым годзе.

У нас, у Беларусі, ёсць недаацэнка прапалачных работ на зернавых пасевах. Калі мы не возьмемся, як след, за тое, каб зламаць канчаткова і раз назаўсёды гэтыя апартуністычныя адносіны да прапалкі зернавых пасеваў, якія існуюць у нас, у Беларусі, то мы добрых ураджаяў не будзем збіраць.

Вясной гэтага года ў канцы сяўбы ў цэлым радзе раёнаў і нават дзе-ні-дзе ў рэспубліканскіх установах былі размовы аб тым, што ў гэтым годзе не абавязкова разгорнутая барацьба з пустазеллем, бо палі не засмечаны. Гаварылі, што ў нас у мінулым годзе восенню былі моцныя марозы і снягі, якія, нібыта, пабілі ўсё пустазелле, і што вясной гэтага года было такое пахаладанне, якое затрымала рост пустазелля. Гэтым апартуністычным тэорыям трэба даць рашучы адпор. Пагледзіце на яравыя, і вы ўбачыце, як жаўцее свірэпка. Яе так проста не вытравіш ні марозамі восенню, ні замаразкамі вясной. Трэба 5—6 і больш год засаб змагацца супроць свірэпкі, каб знішчыць яе. Увесь час трэба весці ўпартую барацьбу. А яравыя пасевы ў нас пакрыты зараз гэтай свірэпкай.

Аднак, прапалка праходзіць вельмі і вельмі слаба. Мы маем такія адстаючыя раёны, у якіх на 15 чэрвеня прапалата ўсяго, як напрыклад, у **Камарынскім** раёне—3,6, у **Расонскім**—6,3, у **Мсціслаўскім**—6,5 проц., у **Чырвонапольскім**—12, у **Плешчаніцкім**—14 процантаў пасеваў.

У нас ёсць раёны, якія па прапалцы з'яўляюцца перадавымі, як напрыклад, **Бабруйскі** раён—80 проц., **Чэрыкаўскі**—72 проц., **Гомельскі**—77 проц., **Багушэўскі**—67 проц., **Прапойскі**—67 проц. і. т. д.

Вось, тав. Рыскін, штосьці не відаць Менска ў перадавых раёнах па праполцы, напэўна, «памыліліся» з лічбай. (Смех.)

Ёсць рад калгасаў, якія па-большэвіцку ўзяліся за праполку, каб сапраўды дабіцца высокага ўраджаю. Вось у Лёзненскім раёне на 11 чэрвеня ў калгасе «Соцыялістычная бацькаўшчына» поўнасцю закончана праполка ільну, праполата 8 гектараў ячменю, 12 гектараў пшаніцы, адрамантавана 28 калёс, 4 касілкі, 4 конных грабель, адным словам усё, што ў іх ёсць. Адрамантавана памяшканне для хавання хлеба, загатоўлена для сушкі 8 кубаметраў дроў. Як бачыце, у гэтым калгасе людзі не палагаюць, што лета і восень гэтага года будуць сухія, не будзе дажджоў. Яны правільна лічаць, што трэба рыхтавацца да горшага, і на выпадак, калі будуць дажджы і трэба будзе хлеб прасушыць, у іх ужо загатоўлена 8 кубаметраў дроў.

У калгасе «Сцяг працы», Чэрыкаўскага раёна, таксама нядрэнна працуюць калгаснікі. Мы маем цэлы рад і другіх калгасаў, дзе калгаснікі нядрэнна працуюць на праполцы.

Але ёсць калгасы, якія патрабуюць нашага большэвіцкага ўмяшання. Вось, напрыклад, у Магілеўскім раёне з 16.460 гектараў яравых не праполата ні аднаго гектара. У гэтым раёне адзін член сельсовета заявіў: «Нашы дзяды не палолі—і мы не будзем палоць».

Ну, калі дзяды не палолі і калі магілеўскія раённыя арганізацыі будуць раўняцца па дзядах, тады гэта не будзе большэвіцкі 1935 год барацьбы за высокую ўраджайнасць, а гэта будзе дзедаўскі год, які, бадай, не зробіць гонару кіраўнікам Магілеўскага раёна.

Трэба моцна падцягнуцца магілеўскім таварышам. Нельга цягнуць усю рэспубліку назад. А ў нас ёсць раёны, якія цягнуць назад усю рэспубліку.

Зараз цэлы рад іншых работ—ворыва папару, цаліны—ідзе слаба.

У радзе раёнаў яшчэ няма сапраўднай большэвіцкай барацьбы за высокі ўраджай 1935 і 1936 г.

Нам неабходна ўлічыць, што **ў гэтым годзе больш, чым калі-небудзь, мы ў Беларусі будзем мець вялікую нагрузку работ на невялікім параўнаўча адрэзку часу.**

Вясенняе пахаладанне і паследаваўшае затым быстрае наступленне цяпла, дажджы і т. д. прывялі да быстрага пасявання і азімых, і яравых. Таму ў гэтым годзе мы будзем мець становішча, калі ў нас адначасова будзе велізарны фронт работы: амаль адначасовае пасяванне і азімых і яравых, работа па сенаўборцы, па сеназдачы, работа па ільну, па праполцы, па цярабленню, работа па хлебаздачы і т. д., і т. д., і ўсё гэта—на невялікім адрэзку часу, калі прадстаіць прарабіць велізарную колькасць працаёмкіх работ.

І наша падрыхтоўка сёння вырашае ўсё.

У нас асталося яшчэ ў Беларусі, прыкладна, 25 процантаў аднаасобнікаў. Большасць **гэтых аднаасобнікаў—будучыя калгаснікі.** Таму задача ўцягнення аднаасобнікаў у калгасы на аснове сталінскага статута сельскагаспадарчай арцелі павінна перад намі ўвесь час стаяць. За апошні час, прыкладна, за два з паловай месяцы веснавой сяўбы мы маем некаторае аслабленне работы па калектывізацыі. Гэта—рэзультат некаторага аслаблення нашай палітычнай, масавай, арганізатарскай большэвіцкай работы на вёсцы.

Мы павінны правесці велізарную масавую палітычную работу сярод аднаасобнікаў.

## Хлебапастаўкі трэба арганізаваць

Хлебапастаўкі трэба правесці па-баявому. Тут перад усёй КП(б)Б стаіць цэлы рад буйнейшых задач у бягучым годзе.

Ні ў якай меры нельга думаць, што 1935 год па хлебапастаўках у нас можа прайсці самацёкам, што можна абыйсціся без узмацнення нашай арганізатарскай і масавай палітычнай работы.

Нельга забываць, што класавы вораг пры тых велізарных поспехах, якія мы маем і па СССР, і ў нас, у БССР, будзе ісці на ўсё, каб папрабаваць падарваць нашу работу і нашу гаспадарку на тым ці іншым участку і, у асаблівасці, па хлебапастаўках. Нельга забываць, што астаткі разбітага класавага ворага будуць аказваць шалёнае супраціўленне, будуць імкнуцца арганізаваць кулацкі сабатаж сярод адсталай часткі аднаасобнікаў і нават калгаснікаў на ўборцы і, у асаблівасці, пры выкананні абавязацельстваў перад дзяржавай.

Таму мы павінны павысіць нашу большэвіцкую пільнасць, нашу арганізаванасць і ўсякім самацёчным апартуністычным настроям даць сакрушальны адпор.

Падрыхтоўка матар'яльнай базы для хлебапаставак у нас праходзіць як быццам не так дрэнна, але ўсё такі другая чарга складскага будаўніцтва зацягваецца. Дзе-ні-дзе ідуць яшчэ спрэчкі на мясцах, чакаюць фондаў з рэспубліканскага цэнтра. «Вось, моў, павінны дошкі прыслаць для таго, каб навес пабудаваць». І чакаюць, пакуль дадуць разнарадку з СНК Беларусі, а каб мабілізаваць свае ўнутраныя рэсурсы, гэтага не робяць. Чакаюць і дачакаюцца, пакуль хлеб падмокне. А гэтага партыя не дапусціць і не даруе. Мы ў Беларусі не можам дапусціць гібелі хоць-бы аднаго кілограма хлеба.

Мы можам, абавязаны і павінны дабіцца такога становішча, каб наш хлеб быў лепшым па якасці, каб не загінуў ні адзін кілограм хлеба. **Мы павінны для гэтага напружыць усе сілы.**

Тут трэба моцна папрацаваць органам Заготзярна. Мясцовыя партыйна-совецкія арганізацыі дапамагаюць ім і будматар'яламі і людзьмі. Трэба ім самім значна лепш арганізавацца, добра ўзяцца за рамонт і за ачыстку ад кляшча старых складаў.

**У нас ёсць усе ўмовы для паспяховага выканання работы па прыёмцы і хаванню хлеба.**

Хлеб—гэта найвялікшая справа. Калі хто-небудзь дапусціць страту хоць-бы аднаго кіло хлеба, за гэта трэба моцна караць. Тут мы не можам цярпець ні малейшай расхлябанасці.

І калі мы пры вялікім ураджаі не справімся з хаваннем хлеба—гэта будзе антыпартыйная, антыдзяржаўная справа.

У мінулым годзе мы малацьбу расцягнулі на 2—3 месяцы. Гэта адбілася і на тэрмінах выканання пярвейшай запаведзі—абавязацельстваў перад дзяржавай, і на своечасовым разліку з калгаснікам па выпрацаваных ім працаднях. А гэта мае буйнейшае і палітычнае, і гаспадарчае значэнне.

Мы павінны за тэмпы малацьбы ў гэтым годзе грунтоўна, па-большэвіцку змагацца. Мы можам малацьбу закончыць у 1—1½ месяцы, калі як след паставім работу і поўнасцю скарыстаем машыны.

Лепшых людзей трэба на малацьбу паставіць таму, што малацьба і звязаныя з ёю работы—выключна адказная справа.

Асабліва вялікую работу трэба правесці па ўборцы хлябоў без страт. У мінулым годзе было вельмі многа страт.

Рашэнні пленума ЦК партыі прама гавораць, што поле лічыцца

ўбраным толькі тады, калі яно адпаведнай камісіяй агледжана і падпісан акт аб тым, што поле ўбрана і зярнят на ім не асталося. А ў нас гэта справа часамі так пастаўлена, што і грабель не маюць, і няма падборкі каласоў, і няма зернаўлавіцеляў на ўборачных машынах і т. д.

Мы павінны забяспечыць падрыхтоўку кадраў, якія адначасова з добрай тэхнічнай работай па загатоўцы хлеба забяспечвалі-б нам і палітычную работу сярод хлебаздатчыкаў. З кадрамі ў нас не ўсё добра, напрыклад, на барысаўскай базе Заготзярна працуе рахункавод Есюкоў—сын царскага турэмнага наглядчыка. Другі работнік у той-жа канторы—загадчык оргуліку Ясінаў—былы афіцэр, які падтрымліваў і падтрымлівае сувязь з кулакамі.

Раённыя партыйныя арганізацыі і кіраўнікі Заготзярна павінны ўважліва праверыць кадры. Мы не можам цярпець таго, каб у 1935 г. пры найвялікшым уздыме, велізарнейшым энтузіязме, любві к партыі і савецкай уладзе з боку калгаснікаў у нашым загатоўчым апараце працавалі не нашы людзі. Тут павінна быць праведзена рашучая барацьба з пралезшымі туды чужакамі, ворагамі народу. Трэба камандзіраваць у апарат Заготзярна нашых лепшых людзей, трэба прасунуць у самым апараце Заготзярна здольных работнікаў.

Мы маем усе магчымасці быстра і добра выканаць задачы, ускладзеныя на нас партыяй і ўрадам у праполцы, уборцы без страт і выкананні абавязацельстваў перад дзяржавай па пастаўках.

Для гэтага трэба разгарнуць сапраўды бальшэвіцкую арганізатарскую палітычную масавую работу сярод насельніцтва ва ўсіх раёнах, калгасах, соўгасах, перамагчы самацёк, апартуністычныя дабрадушныя адносіны да справы.

Нам ні ў якім выпадку нельга зазнавацца, супакойвацца на ранейшых поспехах.

Трэба пакончыць з пагардлівымі адносінамі да сельскагаспадарчых машын, да іх скарыстання, рамонту, да падбору людзей, умеючых, ведаючых, асвоіўшых гэтыя машыны. Трэба ўмець канкрэтна кіраваць людзьмі і работай.

Нам трэба разгарнуць работу за далейшую калектывізацыю, бо гэта работа ў нас, асабліва за апошнія месяцы, аслабела.

Трэба зразумець усю сілу і значэнне сталінскага статута сельскагаспадарчай арцелі. Цяпер, як ніколі, калгаснік моцна адчувае перавагі буйнай соцыялістычнай гаспадаркі, калгаснік ведае, што зямля яму аддана на вечнае карыстанне, калгаснік ведае—і гэта ён выражае хоць-бы ў сваіх адносінах да дзяржаўных абавязацельстваў,—што ён гаспадар зямлі савецкай, гаспадар нашай вялікай савецкай радзімы. І таму элементы адміністравання ў адносінах калгаснікаў, навязванне сустрэчных планаў па хлебапастаўках, непатрэбнае дзёрганне і перакідкі людзей—нецярпімы і злачынны. Трэба моцна ўдарыць па руках тых, хто адважваецца не выконваць сталінскі статут сельскагаспадарчай арцелі—гэты непарушны закон.

Працаваць метадамі адміністравання, крыкам і шумам мы нікому не дазволім.

Мы спазняемся па пытаннях праполкі, падрыхтоўкі сельгасмашын, падрыхтоўкі да ўборкі, малацьбы і падрыхтоўкі да загатовак. Таму асабліва неабходна ахапіць кожны ўчастак работы канкрэтным бальшэвіцкім кіраўніцтвам.

У нас людзі часта прывыкаюць к таму, каб рабіць вывады з сярэдніх лічбаў. Гэта няправільна. Ёсць наперадзе ідучыя і ёсць адстаючыя раёны. Такое-ж становішча ўнутры раёнаў. Мы не дазволім каму-б там ні было хавацца за спіной перадавікоў, за сярэднімі раённымі або сярэднімі рэспубліканскімі лічбамі.

Мы павінны канкрэтна ў кожным выпадку правяраць усюды, кожны ўчастак работы. Зараз, як ніколі, неабходна ўзмацніць канкрэтнае кіраўніцтва, кіраўніцтва жывым чалавекам. Трэба ўмець канкрэтна кіраваць, уваходзіць у дэталі, у «дробязі», з веданнем справы.

Трэба правільна расстаўляць людзей, трэба так адносіцца к людзям, як вучыць нас тав. Сталін. Іменна цяпер пытанне аб чалавеку, клопаты аб чалавеку, асвоіўшым машыны, асвойваючым тую ці іншую справу, з усёй сілай устае перад намі. **Гістарычны лозунг Сталіна «кадры вырашаюць усё» — гэта баявая праграма ўсёй нашай работы.**

Указанні тав. Сталіна, што «жанчыны ў калгасах — вялікая сіла», патрабуюць ад нас велізарнай работы з чалавекам, стварэння неабходных умоў для работы жанчыны ў полі, у калгасе, вылучэння жанчын-калгасніц на кіруючую работу.

Паглядзіце на праполцы, на ўборцы, на ферме, па ільну ў асаблівасці, на найбольш складаных працэсах апрацоўкі ільновалакна, большай часткай працуе жанчына. І работу сярод жанчын-калгасніц нам не трэба забываць ні ў якай меры. Пара больш энергічна праводзіць у жыццё рашэнні і ўказанні тав. **Сталіна** і ў гэтым пытанні.

Ордэнам Леніна ўзнагароджан рад рэспублік і абласцей. Зараз кожная вобласць, кожная рэспубліка дабіваецца пяршынства ў сацыялістычным спаборніцтве. І дрэнна будзе, калі мы, ордэнаносная рэспубліка, у такіх важных работах, як праполка, уборка і загатоўкі, будзем цягнуцца ў хвасце, будзем адставаць. Мы абавязаны ўсё зрабіць для таго, каб не адставаць, а выйсці і ў гэтым годзе на адно з перадавых месц у Совецкім саюзе.

## Аб службовым апараце Сакратарыята ЦВК СССР і аб Енукідзе

Пераходжу да наступнага пытання парадку дня пленума — аб службовым апараце Сакратарыята ЦВК і Енукідзе.

Рашэнне пленума ЦК па гэтаму пытанню мае выключна важнае **палітычнае значэнне.**

Тав. **Сталін** яшчэ ў 1933 г. на студзеньскім пленуме ЦК і ЦКК гаварыў:

> «Трэба мець на ўвазе, што рост магутнасці совецкай дзяржавы будзе ўзмацняць супраціўленне апошніх астаткаў паміраючых класаў. Іменна таму, што яны паміраюць і дажываюць апошнія дні, яны будуць пераходзіць ад адных форм наскокаў да другіх, больш рэзкіх форм наскокаў, апелюючы да адсталых слаёў насельніцтва і мабілізуючы іх супроць совецкай улады. Няма такой пакасці і паклёпаў, якіх-бы гэтыя былыя людзі не ўзвялі на совецкую ўладу і вакол якіх не папрабавалі-б мабілізаваць адсталыя элементы. На гэтай глебе могуць ажыць і зашавяліцца разбітыя групы старых контррэвалюцыйных партый

эсэраў, меншавікоў, буржуазных нацыяналістаў цэнтра і акраін, могуць ажыць і зашавяліцца асколкі контррэволюцыйных апазіцыйных элементаў з трацкістаў і правых ухілістаў. Гэта, вядома, не страшна. Але ўсё гэта трэба мець на ўвазе, калі мы хочам пакончыць з гэтымі элементамі быстра і без асаблівых афяр. Вось чаму рэволюцыйная пільнасць з'яўляецца той самай якасцю, якая асабліва неабходна цяпер большэвікам».

Не так даўно мы, партыя, краіна, страцілі аднаго з любімейшых кіраўнікоў партыі, бліжэйшага саратніка тав. **Сталіна**—Сергея Міронавіча **Кірава**, загінуўшага ад зладзейскай рукі подлых падонкаў контррэволюцыйнай зіноўеўска-трацкісцкай групы.

Гінучыя астаткі класавага ворага, бачачы сваю немінучую пагібель, ідуць на любую подласць, каб папрабаваць сарваць наша соцыялістычнае будаўніцтва, пахіснуць сталёвыя рады большэвікоў, выхаваных **Леніным—Сталіным**, унесці дэзарганізацыю ў нашы рады, адпомсціцца за найвялікшыя поспехі і перамогі соцыялізма.

Гэта забойства магло мець месца таму, што асобныя звенні нашых арганізацый і некаторыя комуністы страцілі неабходную пільнасць, страцілі настарожанасць, абавязковую для большэвіка.

Справа Енукідзе, становішча ў службовым апараце Сакратарыята ЦВК СССР зноў ставіць перад усёй партыяй выключна важнае пытанне аб неабходнасці ўзмацнення рэволюцыйнай пільнасці.

Енукідзе не толькі не зрабіў для сябе вывадаў з папярэджанняў партыі і тав. **Сталіна**, але, наадварот, лічыў, што ён, знаходзячыся на высокім пасту, можа благадушаставаць і быць добрым дзядзенькай у адносінах да класавага ворага.

Енукідзе карыстаўся давер'ем партыі і ўрада, займаў адказны пост сакратара ЦВК СССР.

Енукідзе ў сваім апартуністычным дабрадушшы дапусціў пранікненне ў апарат ЦВК СССР чужых людзей, заклятых ворагаў партыі і рабочага класа, і аказваў прамое падтрыманне гэтым ворагам.

Енукідзе—гэта перараджэнец, які не толькі не апраўдаў давер'я партыі, але па сутнасці здрадзіў інтарэсам партыі і рабочага класа.

І пленум ЦК зрабіў зусім правільна, вывеўшы Енукідзе з ЦК і выключыўшы яго з партыі за палітычнае і бытавое разлажэнне. І такое рашэнне ЦК партыі сустрэне поўнае адабрэнне ўсёй партыі, усіх членаў партыі. **(Бурныя апладысменты.)**

Справа Енукідзе яшчэ раз паказвае, як мы павінны быць цяпер асабліва пільнымі, быць сапраўднымі большэвікамі, умець працаваць так, як нас вучыў **Ленін** і вучыць **Сталін**, апраўдаць велізарнейшае давер'е рабочага класа, калгаснікаў, усяго працоўнага народу совецкай краіны.

Енукідзе—гэта чалавек, які перарадзіўся, разлажыўся, споўз у балота абывательшчыны, адзін з тых «вяльмож», якія, як гаварыў таварыш **Сталін**, «лічаць, што партыйныя і совецкія законы пісаны не для іх, а для дурняў», якія не бачаць розніцы паміж дзяржаўнымі грашыма і сваімі асабістымі.

І ў нас, у Беларусі, ёсць падобнага роду «вяльможы». Ёсць такі былы член партыі Поппе—кіраўнік трэста Белдрэў, чалавек, які знаходзіўся ў партыі з 1917 года.

За час работы ў трэсце, з мая 1934 г. па красавік 1935 г., Поппе раздаў аднаасабова групе работнікаў апарата трэста пад выглядам

палепшання соцыяльна-бытавых умоў каля 150 тысяч руб. Грошы гэтыя ён выдаваў строга сакрэтным парадкам штомесячна па 500—800 руб.

Вось, напрыклад, заява на імя Поппе: «Кіраўніку Белдрэва Поппе—начальніка сектара снабжэння Рубенчыка. Працую ў сістэме Белдрэва 7 год, за гэты час ніякай матар'яльнай дапамогі для палепшання сваёй жылой плошчы не атрымліваў».

Чаму ён павінен атрымліваць ад дзяржавы на палепшанне сваёй жылой плошчы—неяк не зразумела.

Далей ён піша ў заяве: «Кватэра мая патрабуе капітальнага рамонту, па плану і каштарысу капітальны рамонт павінен абыйсціся ў тысячу рублёў. Прашу аказаць дапамогу».

Поппе піша рэзалюцыю: «Выдаць за кошт сродкаў трэста 800 руб. на рамонт кватэры Рубенчыка».

Другая справа яшчэ больш цікавая. Поппе піша запіску: «Тав. Караткевіч, 4 жніўня г. г. вам пераведзена 500 руб. на дробныя расходы». **(Смех.)**

І яшчэ цэлы рад такіх дакументаў. Гэта асабіста Поппе распараджаўся. Ён добры дзядзенька. І ясная справа, калі праходзіла чыстка, яму хлопалі людзі, як-жа: «член партыі з 1917 г., адказны работнік, кіраўнік і ўсё такое іншае. Пад яго кіраўніцтвам дабіліся поспехаў...» як гэта бывае ў нас, часта бывае, ведаеце. А ён «пад сваім уласным кіраўніцтвам» раздаў людзям дзяржаўныя грошы. Асабіста Поппе за гэты час, акрамя таго што выдаваў другім, сам атрымаў 14.150 рублёў за адзін год работы.

Вось разлажыўшыйся чалавек, былы член партыі, адказны работнік.

Зразумела, што Поппе выключан з партыі і аддан пад суд, аб чым рашыла парткалегія і апублікавана ў газеце «Звязда». Гэта справа паказвае, па-першае, што ў нас у паасобных арганізацыях яшчэ няма сапраўднай рэволюцыйнай пільнасці, і, па-другое, што ў нас часамі недастаткова ўважліва прыслухоўваюцца к голасу радавога комуніста. Кожная заява комуніста павінна быць разабрана і даведзена да канца. Аб дзеяннях Енукідзе многа было заяў радавых комуністаў і беспартыйных. Аб дзеяннях Поппе таксама было многа заяў радавых комуністаў і беспартыйных.

## Некаторыя пытанні партыйнай работы

Партыйную работу мы павінны паставіць зараз на выключную вышыню. Трэба разгарнуць работу з нізавымі партыйнымі арганізацыямі, ахапіць усіх членаў партыі партыйнай работай, строга праводзіць унутрыпартыйную дэмакратыю. Партыйныя арганізацыі павінны ведаць, чым жыве і дыша комуніст. Сходы павінны праходзіць так, каб людзі маглі гаварыць тое, што яны ведаюць, уносіць свае прапановы, прымаць удзел у партыйным жыцці.

Кожны член партыі павінен ведаць, што яго заяву разбяруць і лаяць яго не будуць, калі ён праў. І ў той-жа час трэба справу ў партыі паставіць так, каб паклёпы на комуніста рашуча і моцна праследваліся.

Без рэволюцыйнай пільнасці, без большэвіцкай партыйнасці мы не зробім нашу партыйную арганізацыю моцнай, стойкай і маналітнай, адпавядаючай гістарычным задачам, пастаўленым перад намі.

Нам трэба навесці моцны парадак у нашым уласным партыйным доме.

Цэлы рад фактаў паказвае, што на справу пастаноўкі ўліку і хавання партыйных дакументаў часта падбіраліся людзі, не адпавядаючыя свайму назначэнню—або занадта маладыя па партыйнаму стажу, або, у горшым выпадку, беспартыйныя, або яшчэ горш—не нашы людзі. І ў рэзультаце гэтага справа абстаяла надзвычай дрэнна.

І таму зусім зразумела, што ЦК ВКП(б) патрабаваў, каб асабіста сакратары райкомаў займаліся праверкай і выдачай партыйных білетаў.

Раней партыйнай тэхнікай займаліся самыя буйныя і правераныя людзі партыі, а цяпер у выключна адказны перыяд нашай работы гэта справа перадавяралася часта трэцеступенным асобам.

Гістарычнае ўказанне таварыша **Сталіна** аб тым, што кадры, людзі вырашаюць усё, для бальшэвікоў Беларусі мае выключна важнае значэнне.

Адносіны да людзей у нас павінны быць сапраўды бальшэвіцкімі, сапраўды сталінскімі.

Прыходзяць сакратары з раду раённых арганізацый і гавораць: вось актыў наш, актыў маленькі, чалавек 25—30, а калі пазнаёмішся з гэтымі людзьмі, аказваецца, што значная частка з іх маюць партыйныя спагнанні, даныя ім 4—5 год таму назад.

І вось чалавек носіць увесь час гэтыя вымовы. Ён паспеў ужо даказаць у сваёй рабоце, што ён аддан партыі, што ён вырас, заслужыў бальшэвіцкіх адносін да сябе. І ўсё ходзіць з гэтымі вымовамі.

Не ўмеем мы падыходзіць к людзям, к жывому чалавеку.

Трэба рэзка, карэнным чынам гэту справу змяніць.

Таварыш Сталін вучыць нас, як трэба, падбіраючы работнікаў, уважліва вывучаць людзей перш чым высоўваць на якую-небудзь работу. А ў нас часамі проста механічна людзей перасоўваюць. Сядзіць чалавек тры-чатыры месяцы на адной рабоце, глядзіш, а ён ужо на другой рабоце, праз пяць месяцаў—на трэцяй, і не ведаеш, што ён з сябе прадстаўляе, як ён ведае справу, як працуе, бо нідзе нельга яго праверыць, і сам ён пры такіх перасоўках работу не асвойвае.

Вывучэнне людзей, падбор людзей, партыйныя бальшэвіцкія адносіны да людзей—вось што нам цяпер трэба.

Мы ўстанавілі такі парадак, што ні аднаго чалавека не будзем караць у ЦК, калі не выклікаем яго ў ЦК, калі ён не будзе сам прысутнічаць на пасяджэнні і даваць тлумачэнні.

Нельга выносіць вымову завочна.

А ў нас часамі бывае так, што чалавек у раёне чэсна выконвае свой абавязак перад партыяй і краінай, працуе, скажам, на хлебазагатоўчай кампаніі, а ён сам—дырэктар прадпрыемства, і яму выносяць вымову за невыкананне промфінплана, выносяць завочна, тады, калі ён працуе на вёсцы, і даведваецца ён аб гэтым праз газету. І атрымліваецца нядобра. З гэтым трэба пакончыць.

Нам трэба заняцца кадрамі і з пункту погляду вылучэння людзей. У нас бяда ў тым, што мы часта вылучаем і прасоўваем людзей, якія больш на віду ў партыйных арганізацый. Гэта сведчыць аб тым, што мы мала ведаем людзей, не вывучаем людзей.

Я нядаўна папрасіў, каб мне далі прозвішчы беспартыйных, якіх можна вылучыць. Мне далі весткі аб адной жанчыне-бядначцы, якая вырасла за апошнія гады,—гэта Архіпенка, беспартыйная бядначка.

працуе тры гады даяркай, з 1931 г. у адным калгасе Муралаўскага сельсовета.

За час работы яна выгадавала 65 цялят, адыходу не было. За ўвесь час калгас выконвае план мяса і малакопаставак. Яна—ударніца, некалькі раз прэміравана.

Бачыце, чалавек тры гады працуе на такім цяжкім участку і ні аднаго разу не было ў яе буйных памылак, беспартыйны і адданы душой совецкай уладзе чалавек.

Вось Мурзін Іван—беспартыйны, радавы калгаснік з 1930 г., брыгадзір калгаса «Полымя рэволюцыі». Скончыў па-ўдарнаму калгасную школу. Добры арганізатар калгаснай вытворчасці. Яго брыгада першая скончыла веснавую сяўбу і яшчэ дапамагала другім калгасам. У гэту веснавую пасеўную кампанію калгас вышаў перадавым. Да ўступлення ў калгас быў серадняком. Можа быць вылучан старшынёй калгаса.

Я ўзяў брыгадзіра, даярку, радавых калгаснікаў для таго, каб паказаць, як гэтыя людзі растуць. А які рост за апошнія 2—3 гады мы маем сярод комуністаў на вёсцы, колькі ў нас вырасла актыва на прадпрыемствах і ў раёнах, колькі ў нас ёсць комуністаў, сапраўды паказаўшых сябе на справе, у барацьбе супроць кулацтва, за выкананне абавязацельстваў перад дзяржавай, у барацьбе супроць нацдэмаў і вялікадзяржаўных шавіністаў, у барацьбе за промфінплан—людзей, адданых партыі да канца.

Колькі ў нас ёсць такіх людзей, колькі моцных актывістаў стварылася і вырасла, але мы іх дрэнна прасоўваем таму, што к людзям часта адносімся фармальна.

Тав. **Сталін** правільна патрабуе ад нас, каб мы рашуча высоўвалі і прасоўвалі лепшых людзей. Паглядзіце, колькі ў нас за гэты час вырасла і прасунулася дасканалых большэвікоў-беларусаў.

Вазьміце, напрыклад, тав. **Валковіча,** другога сакратара ЦК. Гэта адзін з найлепшых большэвікоў, моцны большэвік. Нядаўна ён сядзеў у Бабруйскім раёне, дзе недахопаў і труднасцей было многа. ЦК вучыў, дапамагаў, і ён вырас у выдатнага большэвіка. Ён сур'ёзна хварэў, але дасканала працаваў і працуе, як моцны большэвік.

Паглядзіце, колькі вылучана ў раёнах сакратароў райкомаў, загадчыкаў аддзелаў, колькі людзей вылучана на гаспадарчую работу дырэктарамі прадпрыемстваў, колькі ў нас ёсць выдатных беларусаў-рабочых, цяперашніх дырэктароў прадпрыемстваў, якія добра спраўляюцца з работай і перавыконваюць промфінплан. А Беларусь-жа амаль не мела буйных прадпрыемстваў, а зараз у нас ёсць буйнейшыя прадпрыемствы, якімі трэба ўмець кіраваць.

А, з другога боку, вацьміце, напрыклад, Белкаапсаюз. Матар'ялы па Белкаапсаюзу гавораць, што якраз у Белкаапсаюзе беларускіх кадраў у нас вельмі мала. Чаму гэта? Не прасоўваюць людзей. На самой справе ў нас ёсць цэлы рад беларусаў-комуністаў, працуючых на гандлёвай рабоце, якія вельмі добра сябе праявілі, якіх можна і трэба прасоўваць.

**Беларуская Совецкая Соцыялістычная Рэспубліка** атрымала высокую ўзнагароду—ордэн Леніна. Гэты ордэн **заваёван актывам КП(б)Б, актывам калгаснікаў, рабочых, якія, не пакладаючы рук, па-большэвіцку працавалі на прадпрыемствах, у калгасах. БССР атрымала ордэн Леніна, значыць—кіравалі і працавалі добра, але ўся асноўная работа ляжала на плячах калгаснікаў і рабочых.**

**У 1935-жа годзе мы ўпаўнаважаных амаль нікуды не пасылалі. Людзі ўнізе, калгаснікі—беларусы, яўрэі, палякі, раённы актыў, працавалі і працуюць так, як належыць большэвікам працаваць.**

Зразумела, у нас ёсць многа прарываў, ёсць яшчэ людзі, якіх мы недастаткова праверылі, якія дрэнна працуюць. Трэба ім дапамагчы і падцягнуць іх. Але трэба разумець і ведаць , што мы дабіліся поспехаў таму, што КП(б)Б у цэлым і актыў КП(б)Б пры падтрыманні і пры самым актыўным удзеле ў соцыялістычнай будоўлі рабочых і калгаснікаў нашай Совецкай Беларусі—працавалі па-ўдарнаму. Іменна дзякуючы гэтаму мы дабіліся найвялікшай узнагароды, якую ЦК партыі і ўрад далі Беларусі.

І мы цяпер сур'ёзна павінны змагацца за тое, каб ні ў якай меры не дапускаць момантаў дабрадушша, самацёку, папушчэння, каб была сапраўдная большэвіцкая баявая рэволюцыйная работа і пільнасць, каб сапраўдныя большэвікі прасоўваліся і вылучаліся на кіруючую работу.

Гэтага можна лепш і хутчэй дабіцца, калі мы з вамі самі будзем вучыцца.

ЦК партыі і ў асаблівасці асабіста тав. **Сталін** сістэматычна займаецца пытаннямі вучобы і росту членаў партыі.

**Маркс, Ленін, Сталін** не раз указвалі, што без рэволюцыйнай тэорыі не можа быць і рэволюцыйнага руху, указвалі на велізарнае значэнне для партыі рэволюцыйнай тэорыі, якая дае руху ўпэўненасць, сілу арыентоўкі і разуменне ўнутранай сувязі акружаючых падзей. Наша партыя адрознівалася тым, што яна заўсёды ўмела спалучаць тэорыю з практыкай. Наша партыя і ў тэорыі, і на практыцы разбіла ўсіх ворагаў і будзе іх разбіваць, бо яна мае ў сваіх руках магутную зброю ленінізма. І сёння, калі мы падыходзім да выключна адказнага перыяда гісторыі чалавецтва і нашай краіны, мы павінны сябе падкаваць мацней, чым калі-б там ні было.

А ў нас з партыйнай вучобай справа абстаіць дрэнна.

Прапагандысты ў нас часта слабенькія, з партыйным стажам з 1932—34 г. Больш 50 проц. прапагандыстаў, выкладчыкаў па гісторыі партыі, па пытаннях тэорыі—вельмі маладыя члены партыі. З пункту погляду граматнасці 60 проц. з іх—людзі з ніжэйшай асветай, палітычнай і агульнай, і нават не атрымліваўшыя палітычнай асветы.

У нас да гэтага часу гэта важнейшая справа пастаўлена па кампанейску, сезонна. Выкладанне вядзецца часта так і такой мовай, што цяжка слухаць і мала што зразумееш.

Правільна ЦК партыі і тав. **Сталін** ставяць пытанне адносна таго, што нам трэба пытаннямі вучобы займацца моцна. Вылазкі контррэволюцыйных трацкістаў і апартуністычныя скажэнні ў пытаннях тэорыі, меўшыя месца ў нас, у Беларусі, у асобных арганізацыях, школах і гуртках, патрабуюць большэвіцкай пільнасці ад кожнага з нас на фронце тэорыі, на фронце вучобы.

Беларуская акадэмія навук перакладае цэлы рад работ **Маркса, Леніна, Сталіна.** Гэта вялікая справа. Але калі гэтай справай займаюцца дрэнна, то так перакладаюць, што скажаюць геніяльныя выказванні асновапаложнікаў класікаў марксізма-ленінізма.

Возьмем справу Дунца. Працуючы намеснікам наркома асветы, ён накладваў сваю руку на рад пытанняў, на рад выданняў і працягнуў на яўрэйскай мове антысовецкую трацкісцкую кнігу.




Пытаннямі тэорыі, пытаннямі вучобы трэба моцна займацца, каб сапраўды падняцца на больш высокую ступень. Трэба моцна і моцна займацца. Нельга інакш. Нельга і таму, што задачы, якія стаяць перад намі, выключна вялікія і адказныя.

Для таго, каб узмацніць партыйную работу, палепшыць партыйную вучобу і лепш працаваць над павышэннем ідэйна-палітычнага ўзроўню комуністаў, у Менску ствараюцца тры раённыя камітэты партыі. Работай гэтых райкомаў будзе кіраваць Менскі гарком КП(б)Б. Галоўная задача райкомаў — партыйная работа, арганізатарская, прапагандысцкая, агітацыйна-масавая работа, пытанні кадраў, прасоўвання, вылучэння, вывучэння партыйцаў і т. д.

Гэта справа вельмі вялікая і важная. Арганізацыя райкомаў будзе спрыяць узмацненню і ажыўленню партыйнай работы, павышэнню актыўнасці членаў партыі, лепшай арганізацыі актываў, партыйных сходаў і т. д.

Мы павінны праводзіць партыйныя сходы так, каб усё больш і больш на трыбуну выходзілі члены партыі, якія ніколі на актывах не выступалі. У нас ёсць цэлы рад такіх людзей, якія ніколі на актывах не выступаюць. Бывае, што таварыш у сябе ў партарганізацыі сцясняецца выступіць, а тым больш на актыве, баіцца, што заблытаецца, паглядзіць на таварышоў, адзін з другім загаварылі, усміхаюцца з якога-небудзь повадў, а ён думае, што гэта яго высмейваюць. **(Смех).** Трэба таварышу дапамагаць, у асаблівасці ўпершыню выступаючаму на актыве. Бо актыў-жа—гэта вялікая школа.

Трэба так арганізаваць справу, каб актывы сталі сапраўднай школай для кожнага актывіста і каб актывіст адчуў, што ён сапраўды з'яўляецца актыўным членам нашай партыйнай арганізацыі, калі ён нават не выступіў на актыве, але сваім галасаваннем, сваімі рэплікамі, прапановамі прымаў актыўны ўдзел на сходах і, прышоўшы на прадпрыемства, ва ўстанову, партарганізацыю мог ведаць і сказаць, што ўвесь партыйны актыў разам арганізоўваў, вырашаў справу.

Іменна так павінны праходзіць сходы актыва ў нас з пункту погляду выхавання комуніста, каб актыў узнімаў большэвіцкі дух, каб пасля актыва чалавек адчуваў, што ў яго ёсць што сказаць таварышам, якія паслалі яго на актыў, каб гэтым ён у сваю чаргу ўзнімаў комуністаў.

Таму нам трэба дабіцца і мы даб'ёмся таго, каб сходы актыва сталі сапраўды большэвіцкім традыцыйным актывам з пункту погляду і палітычнай вострасці, і сапраўднай большэвіцкай самакрытыкі, і вялікай прынцыповай ідэйна-палітычнай вышыні.

Мы павінны дабіцца таго, каб наш актыў быў так арганізован, каб з кожным разам, калі ён будзе збірацца, ён даў-бы магчымасць усім удзельнікам актыва прайсці добрую большэвіцкую ленінскасталінскую школу.

Мы даб'емся таго, каб на гэтых актывах і людзі правяраліся, каб да людзей прыглядаліся, каб людзей ведалі.

Мы цэлы рад нядрэнных работ выканалі, але недахопаў у нас многа ёсць. Гэтыя недахопы мы, зразумела, пераможам. Калі мы, большэвікі, адзін аднаму толькі прыемныя рэчы будзем гаварыць, будзем адзін аднаго толькі хваліць і т. д., то мы адзін раз сустрэнемся на сходзе, а другі раз надакучыць такая абстаноўка дабрадушша і адсутнасці большэвіцкай самакрытыкі.

Недахопаў у нас яшчэ многа, і калі мы будзем утойваць гэтыя недахопы, то нядобра ў нас атрымаецца і ў рабоце і ў адносінах.

Калі самі сябе крытыкаваць не будзем, недахопаў і хвароб нашых не знішчым.

У нас атрымліваецца часамі, што мы крытыкай займаемся ад з'езда да з'езда, ад канферэнцыі да канферэнцыі. Часамі некаторыя таварышы так і думаюць—пачакаю наступнай канферэнцыі або пленума, там пакрытыкую як след. Гэта няправільна.

Калі актыў пакрытыкуе гарком партыі або ЦК КП(б)Б за тую ці іншую практычную работу, нічога страшнага не будзе, калі правільна будуць крытыкаваць, таму што мы гэта ўлічым, выправім, і справа будзе лепш ісці. Калі-ж мы будзем заўсёды гаварыць «вось добра», «вось дасканала», тады ўсе ўмовы будуць ствярацца для таго, каб у нас былі небольшэвіцкія адносіны, супроць чаго рашуча папярэджваў нас тав. **Сталін.**

Ёсць такія комуністы, якія ў сваёй практычнай рабоце паддаюцца лесці і даюць сябе ёю падкупіць. Класавы вораг скарыстоўвае гэта, каб пралазіць у нашы ўстановы, на кіруючую работу, каб прабаваць падрываць наша соцыялістычнае будаўніцтва. І ў рэзультаце атрымліваецца здрада соцыялізму, здрада справе партыі, справе рабочага класа.

Супроць лесці, супроць падхалімства, супроць алілуйства, нецярпімых у большэвіцкім асяроддзі, супроць чаго з асаблівай сілай змагаецца і заклікае партыю змагацца таварыш Сталін, павінны мы ўзняць нашу ярасць.

Мы, беларускія большэвікі, змагаліся супроць белапалякаў, змагаліся супроць контррэволюцыйных апартуністычных наскокаў на партыю, змагаліся супроць шавіністычных і нацыяналістычных элементаў, за генеральную лінію партыі. Мы не будзем цярпець у сваіх радах і падхалімаў, двурушнікаў, апартуністаў, бяздзейнікаў, чужаедаў.

Мы даб'емся таго, каб нашы актывы, згодна ўказанням тав. **Сталіна,** праводзіліся ў адпаведнасці са старымі большэвіцкімі традыцыямі, каб на нашых актывах з большэвіцкай вострасцю і прамалінейнасцю абмяркоўваліся пастаўленыя пытанні, каб нашы актывы праходзілі на аснове большэвіцкай самакрытыкі і на высокім, прынцыповым палітычным і тэарэтычным узроўні, каб кожны таварыш, прышоўшы на актыў, ведаў, што ён карыстаецца вялікім давер'ем партыі.

Мы актыў збіраем, а не клапоцімся аб тым, каб актыў (а менскі-ж актыў—гэта рэспубліканскі актыў) адчуваў сябе культурна ўстроеным так, каб ён мог добра папрацаваць, падумаць, абмеркаваць у дзелавой абстаноўцы пытанні.

Актыў павінен быць тым ключом, які дасць нам магчымасць найбольш правільна, па-большэвіцку арганізоўваць і праводзіць у жыццё задачы, ускладзеныя на нас партыяй, мабілізоўваць партыйную арганізацыю для баявой большэвіцкай работы.

* * *

Большэвікі Беларусі даб'юцца і ў 1935 г. па гаспадарчых паказчыках і ў прамысловасці і ў сельскай гаспадарцы не толькі колькасных, але і высокіх якасных рэзультатаў.

Мы павінны сабраць ураджай без страт і ў найкарацейшы час, датэрмінова выканаць нашы абавязацельствы перад пролетарскай

дзяржавай. Нашы калгаснікі ўжо ў 1935 годзе, як ніколі ў папярэднія гады, рушацца наперад к культурнаму, заможнаму жыццю.

КП(б)Б здолее дабіцца такога становішча, каб, улічыўшы ўрокі справы Енукідзе, перамагчы ўсякія элементы разлажэння, апартунізма, здрадніцтва інтарэсам партыі, адкуль-бы яны ні выходзілі.

Мы здолеем ачысціць рады нашай партыі ад усякіх элементаў зазнайства, гонару, абывательшчыны і мяшчанства, якія ў паасобных звеннях КП(б)Б яшчэ ёсць.

Мы здолеем дабіцца таго, каб ідэйная ўзброенасць кожнага члена КП(б)Б была ўзнята на нязмерную вышыню. Партыя—гэта сталёвая кагорта, кіруемая вялікім **Сталіным,**—не можа цярпець у сваіх радах адсталых мяшчанствуючых членаў партыі.

Мы здолеем прывесці «партыйную гаспадарку» у парадак і ў такі парадак, каб КП(б)Б на гэтым участку, як і на другіх, заняла перадавое месца.

У адказ на вялікую ўзнагароду—ордэн Леніна—мы яшчэ мацней возьмемся за работу, яшчэ цясней згуртуемся вакол ЦК ВКП(б) і нашага роднага вялікага **Сталіна. (Бурныя апладысменты).**

Таварышы! Наша партыя атрымала вялікія перамогі. Кожны на сваім участку ўкладваў сваю волю, сілу, энергію, каб камень за камнем будаваць социялістычнае грамадства. Партыю, усіх нас вёў і вядзе ад перамогі да перамогі наш вялікі правадыр і настаўнік, наш любімы і родны **Сталін. (Бурныя апладысменты).**

Геніяльная празорлівасць таварыша **Сталіна,** мудрае, спакойнае разуменне, што трэба рабіць на самых сур'ёзных этапах, сталёвая ўпэўненасць у сілы народаў Совецкага саюза, у сілы большэвіцкай партыі забяспечылі нашы велізарныя поспехі.

Таварыш **Сталін** адстаяў вялікі сцяг **Леніна** ад шалёных наскокаў контррэволюцыйных трацкістаў, зіноўеўцаў, «левых» і правых апартуністаў. Таварыш Сталін нясе гэты сцяг далей, узбагаціўшы і ўзбагачаючы скарбніцу марксізма-ленінізма.

Пад кіраўніцтвам **Сталіна** соцыялізм перамог на шостай частцы свету. Пад мудрым сталінскім кіраўніцтвам соцыялізм пераможа ва ўсім свеце! **(Бурныя апладысменты, пераходзячыя ў авацыю. Усе ўстаюць. Крыкі: «Няхай жыве вялікі Сталін!»).**

---

**Д. Конік**

# Асаблівую ўвагу—падрыхтоўцы і перападрыхтоўцы прапагандыстаў

Пастаноўка марксісцка-ленінскай вучобы яшчэ далёка адстае ад пастаўленых партыяй патрабаванняў. Гэта адставанне з асобаю сілай было ўскрыта пры падвядзенні партарганізацыямі ўрокаў, звязаных са зладзейскім забойствам тав. Кірава. Абгаварэнне гэтых урокаў значна ўзняўшае не толькі актыўнасць і самакрытыку, але і ідэйную ўзброенасць партыйных мас, адначасова з усёй відавочнасцю паказала, што пастаноўка марксісцка-ленінскага выхавання і асабліва вывучэння гісторыі партыі пастаўлена нездавальняюча.

Папярэднія вынікі па партасвеце за 1934-35 навучальны год сведчаць аб тым, што пытанні арганізацыі марксісцка-ленінскай вучобы ў гэтым годзе займалі ў рабоце гарадскіх, раённых і нізавых партарганізацый значна большае месца, чым у мінулыя гады. Але гэта яшчэ не гаворыць аб тым, што партарганізацыі ўзяліся як след за сапраўды большэвіцкае ажыццяўленне задач у галіне ідэйна-палітычнай работы, пастаўленых перад партыяй на XVII з'ездзе тав. Сталіным.

Прапагандысцкія кадры, якія па сутнасці вырашаюць поспех і якасць марксісцка-ленінскага выхавання комуністаў, не ўсюды былі ў цэнтры ўвагі партарганізацый. У радзе партарганізацый была выкрыта засмечанасць прапагандысцкіх кадраў чуждымі элементамі.

Рашаючым у сапраўды большэвіцкім кіраўніцтве партасветай з'яўляецца непасрэдны ўдзел кіруючага партыйнага актыва ў прапагандысцкай рабоце. У апошні час намеціўся некаторы перадом у гэтым напрамку. Рад сакратароў райкомаў і парткомаў уключыліся ў прапагандысцкую работу. Віцебскі гарком КП(б)Б арганізаваў дзяжурства членаў бюро ГК пры доме партактыва для кансультацыі комуністаў. Сакратары гаркома тт. Жураўлёў і Башмачнікаў даюць кансультацыі па пытаннях партыйнага будаўніцтва, а іншыя таварышы—па пытаннях совецкага будаўніцтва і т. д.

З першых сакратароў райкомаў 21-го раёна 11 кіруюць групамі партактыва, пераважна па гісторыі партыі. На прадпрыемствах гор. Менска 19 сакратароў парткомаў вядуць прапагандысцкую работу і кіруюць тымі або іншымі гурткамі. Аднак гэтага далёка і далёка яшчэ недастаткова.

Па правераных аддзелам культуры і прапаганды ленінізма ЦК КП(б)Б—21 раёну ў прапагандысцкай рабоце ўдзельнічае ўсяго 34 кіруючыя работнікі. Ёсць такія раёны, у якіх ні адзін член райкома партыі не вядзе прапагандысцкай работы.

У Менску 109 сакратароў парткомаў, а ў прапагандысцкай рабоце ўдзельнічаюць толькі 19 чалавек. Зусім недастаткова выкарыстоў-

ваюцца ў якасці прапагандыстаў падрыхтаваныя інструктары райкомаў і кіруючыя совецкія, прафесіянальныя і комсамольскія работнікі раёнаў.

Паводле даных 60 райпартарганізацый, прапагандыстамі працуе 2 030 чалавек, якія ў партшколах і гуртках навучаюць 29.573 комуністаў, што складае 93,1 % членаў і кандыдатаў партыі гэтых раёнаў. Прапагандыстамі ў гэтых 60 партарганізацыях працуюць пераважна маладыя па ўзросту і партыйнаму стажу комуністы, якія не бачылі жыцця мінулага, не праходзілі школы грамадзянскай вайны, не маюць, к таму-ж, дастатковай падрыхтоўкі і вопыту прапагандысцкай работы. Калі ўлічыць усё гэта, дык стане зусім зразумелым, што, побач з далейшым прыцягненнем кіруючага актыва да прапагандысцкай работы, сістэматычная работа па ідэйнаму ўзбройванню і вырошчванню прапагандыстаў з'яўляецца асноўнай, рашаючай задачай усіх партарганізацый.

Правільная арганізацыя выкладання гісторыі партыі, асабліва пасляокцябрскага перыяда, з'яўляецца галоўным і рашаючым звяном у партыйнай прапагандзе.

Належная пастаноўка вывучэння гісторыі партыі ў сеці партасветы—магутны сродак, які забяспечвае палітычную свядомасць членаў і кандыдатаў партыі, магутная сіла для павышэння рэволюцыйнай пільнасці, вырошчвання і выхавання большэвіцкіх кадраў.

Майская прамова тав. Сталіна, у якой з агромнейшаю сілай прагучэў на ўсю краіну лозунг **«кадры вырашаюць усё»,** з'яўляецца праграмаю нашай работы. Выкананню гэтай задачы павінна быць падначалена ўся сістэма партыйнай асветы. Партыйная асвета, у якой вядучае месца займае вывучэнне гісторыі ленінскай партыі, з'яўляецца адным з важнейшых сродкаў, пры дапамозе якога наша партыя вырошчвае, выхоўвае і ідэйна ўзбройвае шматлікія кадры большэвіцкіх арганізатараў, палітычных правадыроў народных мас, кіраўнікоў, прапагандыстаў, агітатараў. І вось, з гэтага пункту погляду вырошчвання і выхоўвання партыйных большэвіцкіх кадраў, трэба падыходзіць да задач партыйнай асветы, да арганізацыі палітычнай вучобы комуністаў у духу сталінскай непрымірымасці да ворагаў партыі і павышэння рэволюцыйнай пільнасці і боездольнасці члена партыі.

Некаторыя комуністы іншы раз забываюць свой свяшчэнны абавязак быць заўсёды крыштальна чэсным, добрасумленным, рэволюцыйна-пільным. А забываючы пра гэта, яны часта пападаюць у абдымкі класавага ворага. Тыповым узорам такога роду разлажыўшыхся і перарадзіўшыхся, меншавіствуючых «комуністаў» з'яўляецца А. С. Енукідзе, які за палітычнае і бытавое разлажэнне выведзен са складу Пленума ЦК ВКП(б) і выключан з партыі.

Выкарыстаўшы гнілы лібералізм і мяшчанскія паводзіны Енукідзе, класавы вораг канчаткова сцягнуў яго з партыйных рэек і ўцягнуў у балота махровай абывательшчыны і распусты. Рашэнне пленума ЦК па справе Енукідзе ёсць узор сталінскай непрымірымасці, не гледзячы на асобы, да тых, хто ставіць асабістыя інтарэсы вышэй інтарэсаў партыі, хто страціў большэвіцкую пільнасць.

Пастанова ЦК ВКП(б) «Аб прапагандысцкай рабоце ў бліжэйшы час» ёсць агромнай палітычнай важнасці рашэнне, якое мабілізуе на яшчэ большае ўзмацненне нашай прапагандысцкай работы, на ўзмацненне барацьбы за ідэйную ўзброенасць комуністаў.

Гэта абавязвае ўсе партыйныя арганізацыі не толькі не аслабляць, а яшчэ больш узмацніць у наступіўшы летні перыяд барацьбу за

ўзорную пастаноўку марксісцкай асветы. Трэба цвёрда памятаць, што ў летні час партыйна-палітычная вучоба комуністаў не спыняецца і не аслабляецца. Патрабаванне партыйнага статута аб тым, што кожны комуніст абавязан з дня ў дзень працаваць над сваім ідэйным узбраеннем, з'яўляецца непахісным партыйным законам. Гэту зусім відавочную для кожнага комуніста-большэвіка ісціну яшчэ і яшчэ раз прыходзіцца напомніць, бо ў некаторых таварышоў, а часам нават і ў паасобных партарганізацый, ёсць прыхільнасць да летніх «канікул».

> «ЦК ВКП(б) лічыць недапушчальнай тэндэнцыю некаторых партыйных арганізацый згарнуць на лета прапагандысцкую работу.
>
> Палітыка-выхаваўчая работа партыі не можа насіць «сезоннага» характару, а павінна весціся сістэматычна, на працягу ўсяго года» (з пастановы ЦК ВКП(б) ).

Партарганізацыі павінны забяспечыць поўнае заканчэнне праграмы па гісторыі партыі па ўсёй сеці, ні ў якім разе не дапускаючы гонкі і павярхова-фармальнага праходжання праграмы.

Пасля таго як закончыцца прапрацоўка вучэбнага плана партыйных школ, трэба падвесці вынікі партыйнай вучобы, вывучыць наколькі засвоілі слухачы праграму, праверыць ідэйны рост кожнага комуніста, не дапускаючы ў гэтай справе момантаў аказёньвання, шкалярскіх метадаў праверкі (экзамены і т. д.).

Пры падвядзенні вынікаў партыйнай вучобы неабходна вывучыць і падсумаваць работу кожнага прапагандыста: яго ўменне па-большэвіцку выхоўваць і вырошчваць комуністаў, змагацца за ідэйную чыстату большэвіцкай прапаганды, яго веды і вывучэнне слухачоў партыйнай школы і гуртка.

Заканчэнне работы той ці іншай школы ні на адзін дзень не павінна прыпыніць вучобу комуністаў, якія ў данай школе займаліся.

У сваім рашэнні ЦК ВКП(б) запісаў:

> «Для скончыўшых кандыдацкія школы неабходна ў летні перыяд арганізаваць гурткі для вывучэння асноўных этапаў гісторыі партыі, падрыхтоўваючы членаў гурткоў к далейшаму сістэматычнаму вывучэнню гісторыі партыі, а таксама гурткі па бягучай палітыцы і пытаннях міжнароднага становішча.
>
> Для членаў партыі, прашоўшых сістэматычны курс гісторыі партыі, неабходна арганізаваць больш дасканалае вывучэнне тых этапаў гісторыі партыі, усваенне якіх неабходна членам партыі для разумення ўмоў і сродкаў перамогі нашай партыі».
>
> «...Для кандыдатаў, якія не праходзілі школ палітграматы, а таксама для спачуваючых неабходна стварыць гурткі, у якіх, у залежнасці ад узроўню падрыхтоўкі і ад граматнасці членаў гуртка, павінна быць пастаўлена азнаямленне з асновамі партыйнай праграмы, арганізацыі і работы нашай партыі—або на аснове падручнікаў палітграматы, або шляхам правядзення вопытнымі прапагандыстамі спецыяльных гутарак аб тым, як пабудавана, як працуе і за што змагаецца наша партыя» (з пастановы ВКП(б) ).

Партарганізацыі, якія закончылі партыйную вучобу па праграмах, павінны пераключыць усю сець партасветы на вывучэнне

паасобных работ класікаў марксізма, паасобных этапаў гісторыі і пытанняў бягучай палітыкі нашай партыі.

Работа гэта павінна быць арганізавана такім чынам, каб даць магчымасць таварышам паглыбіць тыя веды, якія яны набылі за зіму. Лепшым сродкам для гэтага з'яўляецца стварэнне гурткоў па вывучэнню паасобных этапаў партыйнай гісторыі, асабліва пасляокцябрскага яе перыяда.

У гэтым годзе трэба ў значна большых маштабах, чым у папярэднія, арганізаваць гурткі па вывучэнню паасобных пытанняў міжнароднага рэвалюцыйнага руху. Кітайская рэвалюцыя, гераічная барацьба германскіх комуністаў супроць фашызма выклікаюць вялікую зацікаўленасць у асяроддзі комуністаў. Стварэнне гурткоў па вывучэнню пытанняў міжнароднага рэвалюцыйнага руху і барацьбы брацкіх компартый—важнейшая задача партыйнай вучобы.

Па прыкладу мінулых год трэба шырока практыкаваць для комуністаў, комсамольцаў і беспартыйных таварышоў, асабліва для партыйнага актыва, цыкл даступных дакладаў і лекцый па асобных пытаннях марксізма-ленінізма, гісторыі партыі і бягучай палітыкі.

Натуральна, што ўся гэта работа патрабуе, каб усе ўстановы, якія абслугоўваюць партыйную вучобу (партгабінеты, бібліятэкі, кансультацыі, экскурсіі), знаходзіліся ўвесь час у стане баявой мабілізаванасці і ні ў якой меры не аслабілі сваёй работы.

На ўчастку партыйнай асветы, як і ўсюды, патрэбны чуласць, клапатлівасць і ўвага да запатрабаванняў і патрэб людзей. Тут справа ідзе аб ідэйным выхаванні кадраў, аб тэарэтычным узбагачэнні іх свядомасці, аб шліфоўцы іх палітычнай думкі. Тут патрэбны асабліва клапатлівыя адносіны да кожнага паасобнага чалавека, улік разнастайнасці ідэйных запросаў, выключаючы які-б там ні было шаблон і трафарэт у падыходзе да людзей.

Гэта правіла павінна быць засвоена кожным партыйным кіраўніком і прапагандыстам пры арганізацыі партыйна-палітычнай вучобы комуністаў.

Адной з важнейшых задач, якая павінна быць зараз у цэнтры кіраўніцтва партыйнай прапагандай, з'яўляецца справа падрыхтоўкі і перападрыхтоўкі прапагандысцкіх кадраў. Прапагандыст вырашае поспех партыйнай асветы.

Вось кандыдацкая школа на «Профінтэрне» (Віцебскі раён). Кіраўнік—т. Брук, работніца, скончыла вячэрні комвуз. Яна ніколі не ідзе на заняткі не прапрацаваўшы тэмы на семінары прапагандыстаў. Ні разу не прапусціла семінара, і грунтоўна прапрацоўвае матар'ял, які ёй параіць кіраўнік семінара. Акрамя падручніка, чытае яшчэ і класікаў марксізма—Сталіна, Леніна.

У яе слухач т. Веліканаў адзін час быў пасіўным і не цікавіўся вучобай. Тав. Брук ідзе да яго на дом і высвятляе, чаму ён не займаецца і манкіруе вучобай. Яна ўказала Веліканаву і яго жонцы, што яе муж вучыцца дрэнна. Не абмежаваўшыся гэтым, т. Брук дапамагала яму працаваць над матар'ялам. Урэшце т. Веліканаў стаў адным з лепшых па паспяховасці, умела выкарыстоўвае з дапамогай сваёй жонкі вольны час на даму для работы над сабой.

Такіх прыкладаў, якія гавораць аб тым, што прапагандыст вырашае поспех ідэйна-палітычнага росту сваіх слухачоў, можна прывесці не мала. Але гэта тым больш патрабуе вялікай увагі і дапамогі далейшаму росту прапагандыста.

ЦК ВКП(б), надаючы выключнае значэнне падрыхтоўцы і перападрыхтоўцы прапагандысцкіх кадраў, паставіў гэту задачу як важнейшую ў рабоце ўсіх партарганізацый.

> «Ліквідацыя «сезоннасці» прапагандысцкай работы павінна пацягнуць за сабою і ліквідацыю сезоннасці ў падрыхтоўцы і перападрыхтоўцы прапагандыстаў і арганізацыю сістэматычнай падрыхтоўкі прапагандыстаў на працягу ўсяго года».

ЦК КП(б)Б абавязаў кожны ГК і РК распрацаваць практычныя мерапрыемствы, якія-б забяспечылі за летні перыяд перападрыхтоўку ўсіх наяўных прапагандыстаў нізавой сеці. На прапагандысцкую работу трэба вылучаць лепшых, вырасшых членаў партыі, забяспечыўшы падрыхтоўку іх праз летнія кароткатэрміновыя курсы.

За летні перыяд гэтага года толькі аддзелам культуры і прапаганды ленінізма ЦК КП(б)Б праз Ленпартгарадок, Віцебскую, Гомельскую і Магілеўскую соўпартшколу будзе перападрыхтавана 1015 чалавек прапагандысцкіх кадраў, тады як летам 1934 года было перападрыхтавана толькі 166 чалавек. За лета будзе перападрыхтавана заг. партгабінетамі і райпрапагандыстаў 180 чалавек, кіраўнікоў пропсемінараў 270 чалавек, прапагандыстаў школ 560 чал. у тым ліку 395 прапагандыстаў па гісторыі партыі.

Важнейшай і рашаючай прадпасылкаю лепшага выканання гэтага плана з'яўляецца правільны і сур'ёзны падыход кіраўніцтва партарганізацый да камплектавання прапагандысцкіх курсаў.

Трэба пакончыць з фармальным падыходам да вылучэння людзей на прапагандысцкую работу, адбіраць толькі сапраўды прыгодных да гэтай адказнейшай справы, сур'ёзна абдумаць і ўзважыць іх кандыдатуры. Гэтым самым будзе папярэджана цякучасць прапагандысцкіх кадраў, палепшана справа падбору прапагандыстаў. З праверaных 19 партарганізацый за зімовы перыяд партыйнай вучобы знята, адхілена ад прапагандысцкай работы і выбыла па невядомых прычынах 121 прапагандыст з агульнай колькасці 351. Гэта значыць, што больш адной трэці прапагандыстаў было зменена толькі за зімовы перыяд партыйнай вучобы. Гэта ярка сведчыць аб неахайных, небальшэвіцкіх адносінах раду партарганізацый да падбору прапагандыстаў, што яшчэ мае сям-там месца і на сёнешні дзень.

На курсы прапагандыстаў трэба адбіраць таварышоў партыйна вытрыманых і палітычна развітых, неабходна ўлічваць таксама аўладанне імі вуснай і пісьмовай мовай. Недахопы гэтага роду ў немалой ступені адбіваюцца на рабоце прапагандыста, на чоткасці і правільнасці яго выкладання. Не ганяцца за колькасцю «ахопленых» падрыхтоўкаю людзей, а адбіраць таварышоў, сапраўды здольных да прапагандысцкай работы.

Улічваючы велізарнейшы рост гурткоў па гісторыі партыі, усё ўзрастаючую патрэбнасць у прапагандыстах-выкладчыках гісторыі партыі, неабходна паклапаціцца ў першую чаргу аб падрыхтоўцы дастатковай колькасці гэтых кадраў праз сець курсаў на месцах. У рабоце гэтых курсаў прапагандыстаў асобы ўпор павінен быць зроблен на вывучэнне совецкага перыяда гісторыі партыі.

Важнейшая задача таксама—стварэнне курсаў па падрыхтоўцы прапагандыстаў кіраўнікоў гурткамі ленінізма. У рабоце гэтых курсаў асобую ўвагу неабходна звярнуць на тое, каб у выкладанні ленінізма не было схематыкі. Безумоўнае патрабаванне, прад'яўляемае да

выкладання, заключаецца ў тым, каб вывучэнне ленінізма вялося на базе гісторыі партыі з прыцягненнем адпаведных матар'ялаў і фактаў.

Неабходна ў той-жа час, каб на курсах падрыхтоўкі прапагандыстаў як па гісторыі партыі, так і па ленінізму была звернута ўвага на прапрацоўку асноўных задач другой пяцігодкі і важнейшых рашэнняў партыі ў галіне арганізацыйнага і ідэйна-палітычнага кіраўніцтва, як гэта прадугледжваецца рэкамендуемымі аддзеламі партыйнай прапаганды і агітацыі ЦК ВКП(б) вучэбнымі планамі курсаў па падрыхтоўцы прапагандыстаў.

Работа курсаў падрыхтоўкі і перападрыхтоўкі прапагандыстаў павінна быць узорам таго, як трэба арганізаваць справу марксісцка-ленінскага ўзбраення комуністаў. Гэта асабліва трэба падкрэсліць, таму што ў сеці партыйнай асветы ўсё яшчэ не знішчан стандарт і шаблон.

Нярэдкі факты, калі ўсе комуністы на прадпрыемствах, без уліку ўзроўню іх падрыхтаванасці, вывучаюць гісторыю партыі па адных і тых самых крыніцах (як правіла, па падручніку), па аднаму і таму-ж плану, разлічанаму на адзін і той-жа тэрмін. Здавалася-б ясна, што не можа быць аднаго і таго-ж плана для таварыша, які к заняткам ледзь адольвае 15—20 старонак падручніка і для таварыша, які можа паспяхова справіцца з больш фундаментальным матар'ялам і ў большай колькасці. Бо адна справа—профсаюзную, скажам, дыскусію вывучаць з таварышом, які ў той перыяд быў ужо ў партыі; другая справа—гэтую дыскусію вывучаць з таварышом, які ўпершыню даведваецца аб ёй.

Не дзіўна, што пры ігнараванні гэтых элементарных правіл сярод значнай масы гурткоўцаў наглядаецца нездаволенасць вучобай.

Зусім ясна, што пры такой пастаноўцы справы вывучэнне гісторыі партыі вядзецца надта павярхова і не забяспечваецца галоўная задача: на геніяльных узорах ленінска-сталінскай тактыкі барацьбы з антыпартыйнымі групоўкамі выхоўваць членаў партыі ў духу бальшэвіцкай рэволюцыйнай пільнасці і ўзбройваць іх уменнем распазнаваць класавага ворага.

Ва многіх гуртках выкладанне гісторыі партыі вядзецца бяззуба, не ставіцца ў цэнтр увагі іменна вывучэнне тактыкі і прыёмаў барацьбы нашай партыі з усякімі антыпартыйнымі групоўкамі—тактыкі і прыёмаў, якія далі нашай партыі магчымасць перамагчы і разбіць нагалаву гэтыя групоўкі.

> «Неабходна асабліва растлумачыць, што марксізм у нас вырас і акрэп у барацьбе з народніцтвам (народавольніцтва і т. п.), як злейшым ворагам марксізма і на аснове разгрому яго ідэйных палажэнняў, сродкаў і метадаў палітычнай барацьбы (індывідуальны тэрор, які выключае арганізацыю масавай партыі).
>
> Неабходна дабіцца, каб члены партыі ўсвоілі, што марксізм-ленінізм вырас, акрэп і перамог перш за ўсё ў барацьбе са старымі народнікамі, а потым у барацьбе з меншавікамі. У асаблівасці неабходна глыбокае ўсваенне важнейшых этапаў пасляокцябрскага перыяда і барацьбы партыі з трацкізмам, трацкісцка-зіноўеўскай групай, правым ухілам, «левымі» комуністамі і іншымі антыпартыйнымі групоўкамі. Гэта вывучэнне павінна адбывацца на аснове твораў Леніна-Сталіна, матар'ялаў з'ездаў, канферэнцый і пленумаў ЦК партыі» (з пастановы ЦК ВКП(б)).

Баявая задача ўсіх партарганізацый—улічыць вынікі зімовай вучобы з тым, каб у леті перыяд унікнуць меўшыя месца недахопы.

Красавіковы пленум ЦК КП(б)Б звярнуў выключную ўвагу на партыйную прапаганду, як магутны сродак ідэйнага ўзбраення і росту комуністаў. Вызначыўшы рад практычных мерапрыемстваў па ўзняццю марксісцка-ленінскага выхавання на яшчэ вышэйшую ступень, пленум ЦК КП(б)Б з асобаю сілай падкрэсліў выключную важнасць і значэнне беларусізацыі ў марксісцка-ленінскім выхаванні.

Пленум патрабаваў ад усіх партарганізацый сур'ёзнай практычнай работы ў справе сапраўды большэвіцкага правядзення беларусізацыі марксісцка-ленінскага выхавання.

Усе гэтыя пытанні павінны быць асабліва завостраны пры абгаварэнні вынікаў зімовай партвучобы. Вось чаму трэба падвергнуць шырокаму абгаварэнню і крытыцы работу, недахопы і слабасці кожнага гуртка, слухача, прапагандыста. Абгаварэнне, вывучэнне і крытыка вынікаў работы гурткоў і школ павінны праводзіцца на сходах слухачоў і прапагандыстаў кожнага паасобнага гуртка, на партыйных сходах. На гэтых сходах трэба не сярэднія лічбы выводзіць і не адзнакамі аперавацъ, а **«рапартаваць аб тым, колькі людзей мы вырасцілі за такі-та перыяд і як мы дапамагалі людзям у тым, каб яны раслі і загартоўваліся ў рабоце» (Сталін).**

Праведзеная рэарганізацыя Культпропа ЦК ВКП(б) стварае неабходныя прадпасылкі для больш сканцэнтраванай і дыферэнцыяванай увагі да надзвычай шматлікіх і разнастайных кадраў, якія працуюць у галіне культуры і прапаганды.

Гэта рэарганізацыя праведзена і для рашучага ўмацавання справы партыйнай прапаганды, для пастаноўкі на належную вышыню прапаганды ленінізма ў радах партыі і вывучэння імі гісторыі партыі. Іменна клопатамі аб павышэнні тэарэтычнага ўзроўню членаў і кандыдатаў партыі, іх ідэйнай узброенасці, іх выхавання ў духу ленінска-сталінскай прынцыповасці, партыйнасці і партыйнай пільнасці прадыктавана стварэнне самастойнага аддзела партыйнай прапаганды і агітацыі.

Гэта пастанова Цэнтральнага Камітэта нашай партыі мабілізуе партыйныя арганізацыі на далейшае рашучае ўзмацненне партыйна-выхаваўчай работы, на далейшы ўздым ідэйна-палітычнага жыцця партыйнай арганізацыі, на павышэнне авангарднай ролі кожнага комуніста ў барацьбе з класавым ворагам і яго лазутчыкамі, за справу далейшага пераможнага будаўніцтва соцыялістычнага грамадства.

Трэба штодзенна вучыцца марксізму-ленінізму, трэба ўпарта і настойліва авалодваць гэтай сапраўды праўдзівай і адзінай навукай, бо яна, як гаварыў Сергей Міронавіч Кіраў, «вывучае супраціўленне супроцьстаячых нам класаў унутры краіны і за яе межамі, і гэта навука павінна займаць першае месца».

Марксізм-ленінізм асвятляе нам шлях у барацьбе за перамогу. Ён дае нам сілу арыентоўкі і ўпэўненасць у перамозе нашай справы. Ён вучыць нас быць заўжды і ўсюды ў баявой гатоўнасці, усяляючы ў нас новую энергію, волю, рэволюцыйную зоркасць і стойкасць.

# К праекту плана падручніка па гісторыі КП(б)Б

*(ад Інстытута Гісторыі партыі пры ЦК КП(б)Б)*

> Зробім гісторыю партыі Леніна набыткам кожнага комуніста, кожнага комсамольца, кожнага барацьбіта за соцыялізм! На вопыце барацьбы партыі з ворагамі партыі яшчэ мацней загартуем нашу моладзь! За ідэйную ўзброенасць кожнага комуніста тэорыяй Маркса, Энгельса, Леніна.
> (З першамайскіх лозунгаў ЦК ВКП(б)).

Гісторыя нашай партыі, партыі Леніна—Сталіна,—найвялікшая, багацейшая і найярчэйшая старонка ў гісторыі барацьбы працоўных усяго свету за вызваленне ад усякай эксплаатацыі, ад усякага прыгнечання. Наша партыя прарабіла велізарны вопыт барацьбы, пачынаючы ад падполля ва ўмовах лютага тэрора царызма да кіраўніцтва будаўніцтвам соцыялізма ў нашай вялікай краіне,—вопыт, які мае найвялікшае міжнароднае значэнне.

Дзесяткі год песцілі нашу партыю тт. Ленін і Сталін і выкавалі яе ў жорсткіх баях з усякімі ворагамі як унутры партыі, так і па-за ёю, у самую магутную, загартаваную партыю пролетарыята—партыю новага тыпу. Толькі наша партыя прывяла пролетарыят к перамозе, забяспечыўшы адзінства і згуртаванасць, пролетарскую жалезную дысцыпліну ў сваіх радах.

Пад кіраўніцтвам вялікага ленінца, правадыра нашай партыі—тав. СТАЛІНА—выкананы ленінскія заветы. Соцыялізм перамог у нашай краіне моцна і назаўсёды. З Расіі нэпаўскай СССР стаў краінай соцыялістычнай. Контррэволюцыйная, падрыўная работа класавага ворага, які звіваецца ў апошніх сударгах, прыбягае да самых подлых агідных сродкаў барацьбы аж да тэрора, не ў стане расстроіць нашы згуртаваныя рады, не можа пахістаць вялікі будынак соцыялізма, пабудаваны пад кіраўніцтвам партыі Леніна—Сталіна.

Каб быць свядомым і актыўным удзельнікам гэтага вялікага соцыялістычнага будаўніцтва, неабходна ведаць вопыт барацьбы, вопыт будаўніцтва, які прарабіла наша партыя. Кожнаму члену партыі неабходна ведаць гісторыю нашай партыі і асабліва пасляокцябрскі яе перыяд, які з'яўляецца багацейшым перыядам у гісторыі большэвізма, маючым рашаючае значэнне ў жыцці і рабоце нашай партыі.

> «Трэба, каб члены партыі былі знаёмы не толькі з тым, як партыя змагалася і перамагла кадэтаў, эсэраў, меншавікоў, анархістаў, але і з тым, як партыя змагалася і перамагла трацкістаў, «дэмакратычных цэнтралістаў», правых ухілістаў, права-лявацкіх уродаў і зіноўеўцаў, гэтай беспрыкладнай у гісторыі нашай партыі, групы, якая зрабіла двурушніцтва сваёй запаведдзю і скацілася ў балота контррэволюцыйнага тэрарызма». (З пастановы ЦК КП(б)Б).

Вывучэнне і разуменне гісторыі партыі забяспечвае ўсваенне асноў марксізма-ленінізма, павышае ідэйную ўзброенасць членаў партыі. Без ведання і разумення гісторыі партыі нельга павысіць і ўзмацніць рэволюцыйную пільнасць членаў партыі. Гісторыя партыі з'яўляецца лепшаю зброяй выхавання большэвіцкіх кадраў. Асабліва належыць падкрэсліць ролю вывучэння і ўсваення гісторыі партыі ва ўмовах БССР, дзе нашы партыйныя кадры з'яўляюцца параўнаўча маладымі, дзе далейшы рост совецкіх беларускіх кадраў мае агромнае значэнне. У пастанове ЦК КП(б)Б «Аб задачах партыйна-арганізацыйнай і палітычна-выхаваўчай работы ў КП(б)Б» гаворыцца:

> «Адзначаючы рост совецкіх беларускіх кадраў і вылучэнне іх на адказную работу ва ўсіх галінах народнай гаспадаркі і культуры, значнае павелічэнне праслойкі навуковых кадраў у нашых ВНУ, ВТНУ і тэхнікумах непасрэдна з рабочых і калгаснікаў і стварэнне беларускай інтэлегенцыі, да канца адданай справе соцыялізма, справе комуністычнай партыі,—пленум ЦК КП(б)Б абавязвае ўсе партыйныя і совецкія арганізацыі яшчэ больш энергічна і смела адбіраць, рыхтаваць і вылучаць на адказную совецкую і партыйную работу кадры з рабочых-беларусаў, з перадавых людзей калгасаў, з беларускай совецкай інтэлігенцыі».

Важнейшым сродкам выхавання большэвіцкіх беларускіх кадраў з'яўляецца вывучэнне і ўсваенне гісторыі нашай партыі, гісторыі ВКП(б) і яе неадрыўнай часткі—КП(б)Б.

КП(б)Б мае вялікі і багаты вопыт барацьбы за рэалізацыю ў канкрэтных умовах Беларусі генеральнай лініі партыі, яе ленінскай нацыянальнай палітыкі, барацьбы супроць контррэволюцыйнай зіноўеўска-трацкісцкай групы, правага ўхілу і т. д., беларускага нацыянал-дэмакратызма і іншага роду шавінізма (яўрэйскага, польскага і т. д.), супроць ухілаў як у бок мясцовага нацыяналізма (беларускага, яўрэйскага, польскага і т. д.), так і ў бок вялікадзяржаўнага шавінізма.

Тым часам, КП(б)Б не мае яшчэ сваёй сістэматычна ўложанай, напісанай гісторыі.

ЦК КП(б)Б, на чале з тав. Гікало, паставілі перад Інстытутам гісторыі партыі БССР сур'ёзнейшую і адказнейшую задачу—стварыць падручнік па гісторыі КП(б)Б. Інстытут гісторыі партыі, прыступаючы да выканання гэтай задачы, склаў план, па якому будзе напісан першы падручнік па гісторыі КП(б)Б, прызначаемы ў першую чаргу для сеці партасветы. Гэты план друкуецца ніжэй для шырокага азнаямлення і абмеркавання яго членамі партыі, у першую чаргу партыйным актывам, выкладчыкамі гісторыі партыі і т. д.

Гэта і зразумела. Напісанне падручніка па гісторыі КП(б)Б—гэта справа ўсёй КП(б)Б. Толькі пры актыўнай дапамозе ўсёй партыйнай арганізацыі, партыйнага актыва, Інстытут гісторыі партыі, пад кіраўніцтвам ЦК КП(б)Б, справіцца з гэтай адказнейшай задачай. Большэвіцкая крытыка недахопаў і прабелаў, якія ёсць у плане, усякія ўказанні, заўвагі па чыстцы, адшліфоўкі і адточанасці фармулёвак, папаўнення прапушчаных момантаў па частцы пабудовы і ізлажэння канкрэтнай гісторыі КП(б)Б у падручніку—маюць велізарнейшае прынцыповае значэнне і дапамогуць стварыць сапраўды большэвіцкі, вытрыманы ў духу вучэння Маркса—Энгельса—Леніна—Сталіна падручнік гісторыі КП(б)Б.

У сваю чаргу Інстытут гісторыі партыі зварачае ўвагу таварышоў

на некаторыя моманты, якія падлягаюць шырокаму абмеркаванню. Пажадана, каб таварышы выказаліся па пытанню аб тым, наколькі ўкладальнікам плана ўдалося сканцэнтраваць найбольшую ўвагу на барацьбе партыі з антыпартыйнымі групоўкамі, паказаць метады барацьбы апошніх з партыяй і як партыя выкрыла і разграміла гэтыя групоўкі, а таксама паказаць агромную творчую работу партыі як у даокцябрскі, так і асабліва ў пасляокцябрскі перыяд. Наколькі, далей, план правільна вырашае пытанне аб элементах агульнай гісторыі ўсёй ВКП(б) у падручніку па гісторыі КП(б)Б, як адпраўных пунктах для асвятлення тых-жа пытанняў у КП(б)Б, як непарыўнай часткі адзінай маналітнай ВКП(б). План выходзіць з таго, што пытанні развіцця КП(б)Б павінны асвятляцца з пункту погляду яе барацьбы за рэалізацыю і ажыццяўленне ў канкрэтных умовах Беларусі, як нацыянальнай рэспублікі, якая мае свае асаблівасці, рашэнняў з'ездаў, канферэнцый і пленумаў ЦК ВКП(б).

Далей трэба адзначыць, што, выходзячы з вышэй паданых-жа прынцыпаў, у плане праводзіцца тая-ж перыядызацыя КП(б)Б, як і ВКП(б) у цэлым. Толькі ў рамках гэтай асноўнай перыядызацыі адзначаецца рад момантаў у гісторыі КП(б)Б, выцякаючых з умоў яе дзейнасці ў перыяд грамадзянскай вайны (акупацыі, падполля і т. д.). Трэба таксама ўказаць на пераемнасць, якая ўстанаўляецца ў плане паміж КП(б)Б і большэвіцкімі арганізацыямі, якія існавалі і працавалі ў Беларусі да яе ўтварэння, як нацкомпартыя, і да ўтварэння БССР.

Зусім зразумела, што ў плане займае значнае месца нацыянальнае пытанне.

Прынцыповая ўстаноўка, якая праводзіцца ў плане, зводзіцца к таму, што «нацыянальнае пытанне ёсць частка агульнага пытання аб пролетарскай рэволюцыі, частка пытання аб дыктатуры пролетарыята» **(Сталін)** і што толькі большэвікі ў барацьбе за перамогу дыктатуры пролетарыята, за пераможнае соцыялістычнае будаўніцтва, у барацьбе на два фронты супроць ухілу ў бок мясцовага нацыяналізма (беларускага, яўрэйскага, польскага і т. д.) і ў бок вялікадзяржаўнага шавінізма, адзіна правільна вырашылі і нацыянальнае пытанне і што таржаство ленінска-сталінскай нацыянальнай палітыкі знаходзіць сваё выражэнне ў агульным уздыме і росквіце соцыялістычнага будаўніцтва ў цэлым, у тым ліку і беларускай савецкай культуры.

Сутнасць і дзейнасць контррэволюцыйных дробна-буржуазных партый разглядаецца ў плане з пункту погляду выкрыцця, барацьбы і разгрому іх КП(б)Б.

У гэтым уступе к плану закранута толькі частка пытанняў, падлягаючых асвятленню. Мы не сумняваемся, што ў працэсе абмеркавання плана будзе ўзняты і рад новых пытанняў, якія дапамогуць Інстытуту дапоўніць і палепшыць увесь план у цэлым і сапраўды правільна па-большэвіцку вырашыць некаторыя яшчэ не зусім высненыя праблемы з гісторыі КП(б)Б.

Інстытут гісторыі партыі пры ЦК КП(б)Б зварачаецца да членаў партыі з просьбай прыняць актыўны ўдзел у абмеркаванні плана шляхам змяшчэння ў нашым друку артыкулаў, заметак, прапаноў, прысылкі сваіх заўваг і прапаноў у Інстытут і т. д. і т. п. Інстытут са свайго боку ў бліжэйшы час мяркуе арганізаваць абгаварэнне плана на шырокіх нарадах партыйнага актыва і выкладчыкаў гісторыі партыі ў буйнейшых цэнтрах БССР (Менск, Гомель, Віцебск і т. д.). і на ўсебеларускай нарадзе.

# ІНСТЫТУТ ГІСТОРЫІ ПАРТЫІ І ОКЦЯБРСКАЙ РЭВОЛЮЦЫІ пры ЦК КП(б)Б

*Праект*

## План падручніка па гісторыі КП(б)Б

### УСТУП

### КП(б)Б—неразрыўная частка адзінай маналітнай ВКП(б)

Барацьба за генеральную лінію партыі і задача вывучэння гісторыі ВКП(б) і КП(б)Б. Гісторыя партыі—астрэйшая зброя партыі ў барацьбе супроць усякага роду апартунізма. Асабліва важнае значэнне вывучэння Пасляокцябрскага перыяда гісторыі партыі. Ленін і Сталін аб асаблівасцях эпохі фармавання большэвізма. Асаблівасці эканамічнага і палітычнага развіцця Расіі. Гістарычныя карэнні большэвізма. Ленін—арганізатар партыі большэвікоў. Марксізм-ленінізм—ідэйная аснова партыі. Міжнародны характар большэвізма. ВКП(б)—партыя новага тыпу. Ленін—Сталін—правадыры новага тыпу, выхавальнікі партыі. Ленін і Сталін аб арганізацыйных прынцыпах большэвізма.

Маркс-Энгельс-Ленін-Сталін аб інтэрнацыянальным характары класавай барацьбы пролетарыята. Вучэнне марксізма-ленінізма аб нацыянальным пытанні, як падначаленым пытанню агульнай барацьбы пролетарыята за сваю дыктатуру, за соцыялізм. Нацыянальна-каланіяльнае пытанне ў эпоху імперыялізма і пролетарскай рэволюцыі. Нацыянальна-каланіяльная палітыка царызма, у прыватнасці ў Беларусі. Сельская гаспадарка і прамысловасць ў Беларусі. Класы і класавая барацьба ў Беларусі ў канцы XIX і пачатку XX стагоддзя. Многанацыянальны склад насельніцтва Беларусі. Нацыянальна-вызваленчы рух у Беларусі, яго соцыяльная база і гегемонія пролетарыята ў ім. Буржуазныя і дробна-буржуазныя партыі ў Беларусі (меншавікі, с-р., Бунд, БСГ і т. д.) і барацьба з імі большэвікоў. Рэволюцыйны рух на тэрыторыі ўсёй б. Расійскай імперыі, як адзіны рэволюцыйны працэс. Адзінства інтарэсаў пролетарыята і працоўных на тэрыторыі ўсёй Расіі на ўсіх этапах рэв. барацьбы. Рускі пролетарыят—барацьбіт супроць усякага прыгнечання, у тым ліку і нацыянальнага. Партыя большэвікоў—адзіная партыя пролетарыята ўсіх нацый б. Расіі. КП(б)Б частка ВКП(б). Супроць контррэволюцыйнай тэорыі двухкарэннасці. Барацьба КП(б)Б на два фронты ў нацпытанні.

## ГЛАВА I

## Узнікненне большэвіцкіх арганізацый у Беларусі і іх дзейнасць да рэволюцыі 1905—1907 гг.

### § 1. Рэволюцыйны рух у Беларусі ў канцы XIX ст.

Народніцкі рух у Беларусі. Узнікненне і першыя крокі рабочага руху. Арганізацыя партыі «Пролетарыят». Развіццё рабочага руху ў 90-ыя гады і дзейнасць с.-д. арганізацый. Узнікненне дробна-буржуазных нацыянал-рэфармісцкіх арганізацый у Беларусі (ЛСД, Бунд, ППС) і барацьба рэволюцыйных с.-д. супроць іх, СДПЛ і яе ўплыў у Беларусі. І-шы з'езд РСДРП і яго месца ў гісторыі партыі.

### § 2. Узнікненне большэвіцкіх арганізацый у Беларусі і іх барацьба з апартунізмам у рабочым руху

Старая «Искра» і кіруючая роля ў ёй Леніна. Барацьба Леніна з эканамізмам. Зубатаўшчына і барацьба з ёю. Зубатаўскія арганізацыі ў Беларусі. «Искра» і дзейнасць іскраўцаў у Беларусі. Работа іскраўцаў у рабочых масах. Барацьба «Искры» з «Бундам». Ленінская ацэнка «Бунда». II з'езд партыі і яго месца ў гісторыі партыі і ў міжнародным рабочым руху. Узнікненне і развіццё большэвіцкіх арганізацый у Беларусі. Іх барацьба з меншавікамі ў арганізацыях РСДРП у Беларусі. Арганізацыйнае аб'яднанне соцыял-дэмакратычных груп у Беларусі і стварэнне Паўночна-заходняга і Палескага камітэтаў РСДРП. Барацьба большэвікоў за III з'езд партыі. Работа большэвікоў сярод рабочых, у вёсцы і іншых слаях насельніцтва.

## ГЛАВА II

## Большэвіцкія арганізацыі ў Беларусі ў рэволюцыі 1905—07 гг.

Большэвіцкая ацэнка характару рэволюцыі, яе рухаючых сіл і ленінскі план перарастання буржуазна-дэмакратычнай рэволюцыі ў соцыялістычную. Барацьба супроць антыпролетарскай лініі меншавікоў, Троцкага, эсэраў у рэволюцыі 1905 г. Памылкі Р. Люксембург у пытаннях рэволюцыі 1905 г. Нацыянальна-вызваленчая барацьба ў рэволюцыі 1905 г. і гегемонія пролетарыята. Рэволюцыя 1905 г.—адзіны працэс на тэрыторыі ўсёй б. Расіі. Водгукі на 9-е студзеня 1905 г. у Беларусі. III з'езд партыі і барацьба за рэалізацыю яго рашэнняў. Масавы рух летам 1905 г. Окцябрская стачка. Арганізацыя профсаюзаў. Барацьба большэвікоў з меншавікамі, Бундам па пытанню аб партыйнасці профсаюзаў. Хваля пагромаў і роля большэвікоў у арганізацыі самаабароны. Снежаньскае паўстанне. Кіраўніцтва большэвікоў рабочым і аграрным рухам у Беларусі. Работа большэвікоў на прадпрыемствах. Большэвіцкія арганізацыі ў вёсцы і іх кіраўніцтва сялянскімі камітэтамі і арганізацыямі. Ваенна-баявая работа і работа ў арміі. Партыйнае жыццё і партыйнае будаўніцтва менскай і іншых арганізацый. Роля партыйнага друку. Барацьба большэвікоў з меншавікамі ў арганізацыях РСДРП у Беларусі па пытаннях партбудаўніцтва. Абласныя канферэнцыі і з'езды арганізацый РСДРП у

Беларусі. Стварэнне абласнога саюза РСДРП Літвы і Беларусі. IV і V з'езды партыі. Меншавіцкі і буржуазна-нацыяналістычны Бунд у рэвалюцыі 1905 г. Нацыянал-рэфармісцкая БСГ. Буржуазна-нацыяналістычныя і сіяніскія групоўкі. Барацьба з трацкісцка-меншавіцкай нацыяналістычнай фальсіфікацыяй у асвятленні гісторыі рэвалюцыі 1905 г. у Беларусі.

Прычыны паражэння рэвалюцыі 1905-07 гг. Міжнароднае значэнне рэвалюцыі 1905 г.

## ГЛАВА III

## Большэвіцкія арганізацыі ў Беларусі паміж двума рэвалюцыямі

### § 1. Гады рэакцыі

Большэвіцкая ацэнка перыяда рэакцыі. Гады рэакцыі ў Беларусі. Сталыпіншчына і абвострание класавай барацьбы ў вёсцы Беларусі. Узмацненне нацыяналізма. Буржуазна-кулацкая, нацыяналістычная сутнасць «Нашай нівы». Ленін-Сталін у барацьбе на два фронты за захаванне і ўзмацненне большэвіцкай партыі супроць ліквідатараў і адзавістаў, супроць Багданаўшчыны, Троцкага, апартуністычных хістанняў Каменева і інш. Барацьба Леніна ў гэты перыяд з нацыяналізмам і вялікадзяржаўным шавінізмам. Рабочы клас і рабочы рух у гады рэакцыі ў Беларусі. Стан партыйных арганізацый і барацьба з ліквідатарствам і адзавізмам у Беларусі. Барацьба Менскай групы супроць ліквідатарства, адзавізма і трацкізма. Рэзалюцыя Віленскай канферэнцыі супроць ліквідатарства і адзавізма. Аб кіраўніцтве партыі рабочым класам у перыяд рэакцыі. Канкрэтныя формы і метады работы і кіраўніцтва.

### § 2. Гады ўздыму

Уздым рабочага руху. Водгукі ў Беларусі на ленскія падзеі. Перамога большэвікоў ва ўсіх галінах рабочага руху. «Правда» і роля ў ёй Сталіна. Пастаноўка партыяй нацыянальнага пытання ў гады ўздыму. Значэнне работы Сталіна «Марксізм і нацыянальнае пытанне». Рабочы клас і рабочы рух у Беларусі. Разгортванне работы Палескай, Менскай, Віленскай, Дзвінскай і інш. большэвіцкіх арганізацый у Беларусі. «Правдистские группы» у Беларусі. Пражская канферэнцыя 1912 г. і яе значэнне для развіцця і работы большэвіцкіх арганізацый у Беларусі. Уплыў на работу партарганізацый Беларусі большэвіцкіх арганізацый у буйных пролетарскіх цэнтрах. Работа большэвіцкіх арганізацый у вёсцы Беларусі.

«Наша ніва» і яе шавіністычная буржуазна-кулацкая ідэалогія і тактыка. Буржуазна-нацыяналістычная і ліквідатарская пазіцыя Бунда. Бунд—актыўны ўдзельнік трацкісцкага ліквідатарскага жнівеньскага блока.

### § 3. Імперыялістычная вайна

Ленінская ацэнка імперыялістычнай вайны. Лозунгі большэвікоў у гады імперыялістычнай вайны і іх міжнароднае значэнне. Барацьба Леніна з соцыял-шавіністамі і цэнтрыстамі ў Расіі і на міжнароднай

арэне. Барацьба з трацкізмам, як з найбольш тонкай і небяспечнай разнавіднасцю апартунізма. Ленінская тэорыя аб пабудове соцыялізма ў адной краіне. Беларусь у гады імперыялістычнай вайны. Адбітак вайны на прамысловасці і с.-г. у Беларусі. Становішча рабочага класа і рабочы рух. Сялянства і аграрны рух. Масавыя рэпрэсіі супроць большэвіцкіх арганізацый. Працэс над большэвіцкай фракцыяй IV дзяржаўнай думы. Здрадніцтва Каменева. Суд над членамі Палескага камітэта. Палескі камітэт у час імперыялістычнай вайны. Падпольная работа большэвікоў у Беларусі і на фронце. Уздым рабочага руху і рух у арміі (паўстанне ў Гомелі ў канцы 1916—пач. 1917 гг.). Беларускі нацдэмакратызм у гады вайны. Соцыял-шавінізм Бунда. Барацьба з фальсіфікацыямі гісторыі большэвіцкіх арганізацый у Беларусі паміж двума рэволюцыямі.

## ГЛАВА IV

## Большэвіцкія арганізацыі ў Беларусі ў перыяд заваёвы дыктатуры пролетарыята.

*(Люты—Окцябр)*

### § 1. Большэвіцкія арганізацыі ад лютага да ліпеньскіх дзён 1917 г.

Звяржэнне царызма. Двоеўладства. Партыя пасля лютаўскай рэволюцыі. Ленін і Сталін аб перарастанні буржуазна-дэмакратычнай рэволюцыі ў соцыялістычную. Барацьба партыі супроць правых (група Сеўрука, Вайцінскага, Каменева) і левых (Багдацьеў). Ход лютаўскай рэволюцыі ў Беларусі. Аднаўленне і развіццё большэвіцкіх арганізацый у Беларусі. Гомельская арганізацыя большэвікоў. Аб'яднанне с.-д. арганізацый у Беларусі і памылковасць уваходжання большэвікоў у іх. Советы ў Беларусі. Менскі совет і кіруючая роля большэвікоў у ім.

Значэнне красавіковых тэзісаў Леніна і пастаноў Усерасійскай красавіковай канферэнцыі. Барацьба большэвіцкай фракцыі з меншавікамі і бундаўцамі ўнутры «аб'яднанак». Лінія на раскол. Значэнне расколу «аб'яднанкі» у Менску для развіцця большэвіцкага руху ў Беларусі і на Заходнім фронце. Роля тав. Мяснікова. Сялянскі з'езд Менскай губерніі (красавік 1917 г.). Роля большэвікоў і т. Фрунзе ў разгортванні сялянскага руху. Першы франтовы з'езд Зах. фронту. Красавіковая дэманстрацыя. Барацьба большэвікоў супроць чэрвеньскага наступлення на фронце і супроць «Пазыкі свабоды». Барацьба з соцыял-здрадніцкімі партыямі меншавікоў, эсэраў на фронце. Братанне на фронце. Рост стачачнага руху. Здрадніцкая роля меншавікоў і бундаўцаў. Рух с-г. пролетарыята. Рост сялянскага і нацыянальнага вызваленчага руху. Рост партыйных арганізацый, партбудаўніцтва. Непасрэднае кіраўніцтва ЦК мясцовымі арганізацыямі. Большэвікі і нацыянальнае пытанне ў 1917 г. Барацьба з вялікадзяржаўным шавінізмам. Нацыянальна-вызваленчая барацьба ў Беларусі. Барацьба большэвікоў з буржуазным нацыяналізмам. «Бел. нац. камітэт» і «Цэнтральная рада бел. арганізацый». Барацьба з контррэволюцыйнымі нацыяналістычнымі партыямі (БСГ, Бунд і інш.).

## § 2. Большэвіцкія арганізацыі ў Беларусі ў перыяд падрыхтоўкі ўзброенага паўстання

Партыя ў ліпеньскія дні. VI з'езд партыі і курс на ўзброенае паўстанне. Роля т. Сталіна на VI з'ездзе партыі. Большэвіцкія арганізацыі ў Беларусі ў барацьбе за выкананне пастаноў VI з'езда партыі і за мабілізацыю мас у гэтых мэтах. Тав. Кагановіч Л. М.—старшыня Палескага камітэта. Большэвікі—на чале барацьбы з карнілаўшчынай. Контррэволюцыйная роля расійскіх дробна-буржуазных партый (меншавікі, эсэры) і мясцовых нацыяналістычных (БСГ, Бунд і т. д.) і барацьба з імі большэвікоў. Дэмакратычная нарада. Заваяванне большэвікамі большасці ў советах і іншых масавых арганізацыях. Рост і роля большэвіцкага друку. Дапамога ЦК у выданні газеты «Звязда». Указанне Цэнтральным Камітэтам у лістах да мясцовых арганізацый Беларусі на неабходнасць абласнога і франтовага аб'яднання партыйных сіл. Паўночна-заходняя абласная і франтовая нарада РСДРП у Менску (верасень 1917 г.). Прынянцце статута ваенных арганізацый. Стварэнне Ўсебеларускага і франтовага партыйнага аб'яднання і роля т. Мяснікова. Першая і другая Паўночна-заходняя абласныя канферэнцыі РСДРП(б). Рашэнне ЦК аб паўстанні 10 (23) кастрычніка. Падрыхтоўка ўзброенага паўстання ў Беларусі. Подлае штрэйкбрэхерства Каменева—Зіноўева. Барацьба большэвіцкіх арганізацый у Беларусі супроць Каменева—Зіноўева і іх паслядоўцаў (Грамашэўскі і інш.). Барацьба большэвіцкіх арганізацый у Беларусі за скліканне II з'езда Советаў.

## § 3. Окцябр у Беларусі

Окцябрскае паўстанне. Характар і рухаючыя сілы Окцябрскай соцыялістычнай пролетарскай рэволюцыі. Ленін і Сталін—правадыры соцыялістычнай рэволюцыі. Окцябрская рэволюцыя—адзіны працэс на тэрыторыі ўсёй б. Расійскай імперыі. Большэвіцкія арганізацыі ў Беларусі супроць штрэйкбрэхерскай пазіцыі Каменева і Зіноўева і іх паслядоўцаў у Беларусі. Суадносіны сіл у Беларусі ў Окцябры і асаблівасці ўмоў барацьбы за пролетарскую рэволюцыю ў Беларусі і на Заходнім фронце. Кіраўніцтва большэвікоў нацыянальна-вызваленчай барацьбою ў Беларусі. Велізарны рост рабочага і сялянскага руху ў Беларусі. Захват улады Советам у Менску. Роля большэвіцкага Менскага Совета. Узброеныя сілы Менскага Камітэта РСДРП(б) і Менскага Совета. Роля армій Заходняга фронту ва ўзброеным паўстанні. Ліквідацыя органаў час. урада ў Беларусі і захват улады Советамі рабочых і салдацкіх дэпутатаў. Стварэнне Ваенна-Рэволюцыйнага камітэта заходняй області і фронту. Адзіны фронт расійскай вялікадзяржаўнай і мясцова-нацыяналістычнай контррэволюцыі супроць пролетарскай рэволюцыі. Магілёўская стаўка, як штаб усерасійскай контррэволюцыі. Кіруючая роля і прамая, непасрэдная дапамога буйных пролетарскіх рэволюцыйных цэнтраў нацыянальным акраінам Расіі, у прыватнасці Беларусі. Роля большэвіцкіх арганізацый і Советаў Беларусі і Заходняга фронту ў садзейнічанні перамозе пролетарыята ў сталіцах. Окцябр і вызваленне нацыянальнасцей. Міжнароднае значэнне Окцябрскай соцыялістычнай рэволюцыі. Буржуазна-нацыяналістычныя і трацкісцкія фальсіфікацыі ў асвятленні гісторыі Окцябра ў Беларусі.

# ГЛАВА V

# Большэвіцкія арганізацыі ў Беларусі ў першы перыяд совецкай улады

## § 1. Трыумфальнае шэсце совецкай улады

Кіруючая роля партыі ў стварэнні і ўмацаванні дыктатуры пролетарыята і пролетарскай дзяржавы. Дэкрэты аб міры, аб зямлі. Рабочы кантроль. Нацыяналізацыя банкаў і буйных прамысловых прадпрыемстваў. Дэкларацыя праў народу. Арганізацыя і ўмацаванне совецкай улады на месцах у Беларусі. Барацьба большэвікоў за пераmір'е на Заходнім фронце. Барацьба большэвікоў за разгром вярхоўнай стаўкі—цэнтра арганізацыі сіл контррэволюцыі. Рэалізацыя дэкрэтаў аб рабочым кантролі і зямлі. 2-гі франтовы, 2-гі абласны з'езд советаў і 3-ці сялянскі з'езд Меншчыны і Віленшчыны. Тав. Мяснікоў—галоўнакамандуючы Зах. фронтам. Арганізацыя абласных органаў совецкай улады. Магілеўскі з'езд советаў. Выступленне на гэтым з'ездзе т. Кагановіча Л. М. Перамога большэвікоў на выбарах ва ўстаноўчы сход у Беларусі і на Зах. фронце.

## § 2. Барацьба з контррэволюцыяй

Барацьба з унутранай контррэволюцыяй у краіне Советаў. Разгром першых выступленняў контррэволюцыі. Стаўка контррэволюцыі на разгром сов. улады шляхам адрыву ад Совецкай Расіі нацыянальных акраін.

Контррэволюцыйны «1-ы ўсебеларускі кангрэс» (снежань 1917 г.) і яго разгон Советам народных камісараў Зах. обласці і фронту. Контррэволюцыйная дзейнасць «Беларускай Вайсковай Рады» і яе роспуск Соўнаркомам Зах. обласці і фронту. Выступленне белапольскага корпуса Даўбор-Мусніцкага. Арганізацыя партыяй узброеных сіл для адпору контррэволюцыі. Барацьба з выступаўшымі са зброяй у руках супроць совецкай улады контррэволюцыйнымі расійскімі (меншавікі, эсэры) і мясцова-нацыяналістычнымі) (БСГ, Бунд і інш.) партыямі.

## § 3. Рост і работа партыйных арганізацый у Беларусі

Рост партыйных арганізацый і ўнутрыпартыйнае жыццё. Работа большэвікоў у профсаюзах і выцясненне з іх меншавікоў, бундаўцаў і эсэраў. Работа ў вёсцы і далейшае разгортванне там класавай барацьбы. 3-яя паўночна-заходняя абласная канферэнцыя. Барацьба большэвіцкіх арганізацый у Беларусі за ажыццяўленне ленінскай нацыянальнай палітыкі.

## § 4. Барацьба супроць наступлення германскага імперыялізма

Барацьба партыі за ленінскую лінію ў пытанні аб міры. VII з'езд партыі. Барацьба большэвіцкіх арганізацый у Беларусі за рэалізацыю рашэнняў VII з'езда партыі. Барацьба супроць «левых» комуністаў у Беларусі. Большэвікі на чале барацьбы пролетарыята і працоўнага сялянства супроць наступлення нямецкага імперыялізма. Эвакуацыя

Сов. Зах. Абласнога камітэта большэвікоў і Соўнаркома Зах. Обл. і фронту з Менска ў Смаленск. Вынікі першага перыяда савецкай улады ў Беларусі. Барацьба супроць нацыяналістычных скажэнняў гісторыі першых ста дзён совецкай улады ў Беларусі.

## ГЛАВА VI

## КП(б)Б у перыяд грамадзянскай вайны. Партыя ў барацьбе з германскім імперыялізмам і стварэнне БССР. 1-шы з'езд КП(б)Б

### § 1. Работа большэвіцкіх арганізацый у неакупаванай частцы Беларусі

Барацьба партыі за ленінскі план соцыялістычнага будаўніцтва. Барацьба з «левым» комунізмам і «правымі». 4-ая паўночна-заходняя абласная канферэнцыя РКП(б) (чэрвень 1918 г.). Камітэты беднаты. Кулацка-эсэраўскія паўстанні ў Беларусі. Арганізацыя Бундам контррэволюцыйных выступленняў у гарадах і яго падтрыманне кулацка-эсэраўскіх паўстанняў. Партыйныя арганізацыі на чале мас у барацьбе з контррэволюцыяй. Стварэнне Заходняй Комуны.

Рост партыйных арганізацый і партбудаўніцтва. 5-ая паўночна-заходняя абласная канферэнцыя РКП(б). Стварэнне комсамола Зах. вобласці.

### § 2. Большэвіцкія арганізацыі ў германскім падполлі

Нямецкая акупацыя. Нацыяналістычная і вялікадзяржаўная контррэволюцыя на службе нямецкіх акупантаў.

Пераход партыйных арганізацый на нелегальнае становішча. Абстаноўка работы ў падполлі і перабудова партыйнай работы ў новых умовах. Кіраўніцтва большэвікоў стачачнай барацьбой. Чыгуначная забастоўка. Партыйныя арганізацыі на чале паўстанцка-партызанскай і нацыянальна-вызваленчай барацьбы. Работа партыйных арганізацый у германскай арміі. Рост партыйных арганізацый і ўнутрыпартыйная работа. Раённыя і краявыя канферэнцыі. Стварэнне Краявога камітэта. Стварэнне ў падполлі компартыі Беларусі і Літвы. Барацьба з контррэволюцыйнымі дробна-буржуазнымі партыямі.

### § 3. Стварэнне БССР і КП(б)Б

Міжнародная і ўнутраная абстаноўка Совецкай Расіі. Лістападаўская рэволюцыя ў Германіі. Вызваленне Беларусі ад германскай акупацыі. Большэвікі ў барацьбе за совецкую ўладу ў Беларусі. 1-ы з'езд КСМ Зах. Комуны. Падрыхтоўка стварэння КП(б)Б і БССР у час нямецкай акупацыі. Барацьба партарганізацый на два фронты ў пытанні стварэння БССР і КП(б)Б і ажыццяўленне пад кіраўніцтвам ЦК РКП(б) і асабіста Леніна-Сталіна і Свердлова большэвіцкай лініі ў пытанні аб стварэнні КП(б)Б і БССР. 1-ы з'езд КП(б)Б. Стварэнне БССР. Нацыяналістычная пазіцыя групы Жылуновіча ў першым Рабоча-сялянскім урадзе. 1-ы ўсебеларускі з'езд советаў і прыняцце ім канстытуцыі БССР. Барацьба з фальсіфікацыяй у асвятленні гісторыі стварэння КП(б)Б і БССР.

## ГЛАВА VII

## КП(б)Б у перыяд грамадзянскай вайны

*(КП(б)Б у літбелаўскі перыяд)*

### § 1. Стварэнне Літбелаўскай Савецкай Рэспублікі і компартыі Літвы і Беларусі

Эканамічная палітыка партыі ў перыяд грамадзянскай вайны. Палітыка ваеннага комунізма ў Беларусі. Аб'яднанне БССР з Сов. Літвой. 1-ы аб'яднаны з'езд компартыі Літвы і Беларусі. II з'езд КП(б)Б. Стварэнне КПЛ і Б і выбары аб'яднанага ЦК. VIII з'езд партыі. Барацьба КПЛ і Б за рэалізацыю рашэнняў VIII з'езда партыі. 1-ы кангрэс Комінтэрна і ўдзел дэлегата КПЛ і Б на ім.

### § 2. Кіраўніцтва КПЛ і Б Савецкім будаўніцтвам

Развіццё КПЛ і Б. Кіраўніцтва КПЛ і Б совецкім будаўніцтвам Літ. Бел. Сов. Рэспублікі. Эканамічная палітыка КПЛ і Б. Палітыка ў зямельным пытанні. Барацьба супроць люксембургіянскіх памылак у арганізацыях КПЛ і Б па аграрнаму і нацыянальнаму пытаннях. Снежаньская канферэнцыя РКП(б) 1919 г. і яе рашэнне па нацпытанню.

### § 3. Партыя ў барацьбе супроць наступлення белапалякаў

Абстаноўка на фронтах грамадзянскай вайны ў 1919 г. Белагвардзейскія паўстанні ўнутры Сов. Расіі. Стрэкапытаўшчына ў Гомелі. Наступленне белапалякаў на Совецкую Беларусь. Барацьба з наступленнем белапалякаў і абарона Менска. КПЛ і Б—арганізатар барацьбы з белапалякамі. Партыйныя і профсаюзныя мабілізацыі. Рост і ўмацаванне комсамола і яго ўдзел у барацьбе з белапалякамі. Акупацыя белапалякамі значнай часткі Беларусі. Вынікі літбелаўскага перыяда.

## ГЛАВА VIII

## КП(б)Б у перыяд грамадзянскай вайны

*(КП(б)Б у барацьбе з белапольскай акупацыяй за канчатковае ўстанаўленне совецкай улады)*

### § 1. КП(б)Б у белапольскім падполлі

Белапольскія акупанты ў Беларусі. Тэрор белапольскіх акупантаў супроць рабочага класа і яго рэволюцыйных арганізацый, супроць працоўных сялян. Пераход партыйных арганізацый і комсамола на нелегальнае становішча. Разгортванне пад кіраўніцтвам большэвікоў партызанскага руху ў акупаванай белапалякамі Беларусі. Беларуская, яўрэйская і т. д. нацыяналістычная контррэволюцыя на службе белапольскіх акупантаў. Барацьба КПЛ і Б з польскім імперыялізмам, з нацыяналістычнай контррэволюцыяй, з контррэволюцыйнымі дробнабуржуазнымі партыямі (бел. с.-р., Бунд, ПЦ і інш.). Выкрыццё сапраўднай ролі БКО. Компартыя і комсамол Польшчы ў барацьбе супроць польскага імперыялізма і акупацыі.

### § 2. Вызваленне БССР ад белапольскіх акупантаў і канчатковае ўстанаўленне савецкай улады

Становішча совецкіх рэспублік пасля ліквідацыі дзенікіншчыны. IX з'езд партыі. Барацьба з антыпартыйнымі групоўкамі і скажэннямі лініі партыі (дэцысты, Троцкі, Рыкаў, Томскі). Совецкае і партыйнае будаўніцтва ў неакупаваных частках Беларусі. Трэці паход Антанты. Вайна з белай Польшчай і Врангелем. Пераход Чырвонай арміі ў агульнае контрнаступленне. Захват Менска 11 ліпеня Чырвонай арміяй. Вызваленне БССР. Выхад арганізацый КП(б)Б з падполля. Рыжскі мір. Разгром Врангеля. Ліквідацыя ЦК КПЛ і Б і стварэнне асобных партыйных цэнтраў компартыі Літвы і Беларусі. III з'езд КП(б)Б. Пераход да мірнага будаўніцтва ў БССР, ва ўмовах працягу «малой вайны» з белай Польшчай. Слуцкае кулацка-нацыяналістычнае паўстанне. Умацаванне совецкай улады ў Беларусі. Унутрыпартыйнае жыццё. Вынікі грамадзянскай вайны.

## ГЛАВА IX

## КП(б)Б у аднаўленчы перыяд

### § 1. КП(б)Б пры пераходзе к НЭП'у

Міжнароднае і ўнутранае становішча Совецкай Расіі напярэдадні пераходу к НЭПу. Дыскусія аб профсаюзах. Ход дыскусіі аб профсаюзах у КП(б)Б. IV з'езд КП(б)Б аб выніках дыскусіі аб профсаюзах у КП(б)Б. IV з'езд аб гаспадарчым будаўніцтве. X з'езд РКП(б). Рэзалюцыя X з'езда аб адзінстве партыі. Рашэнні X з'езда па нацпытанню. Пераход ад продразвёрсткі к продналогу. Пытанні партыйнага будаўніцтва ў КП(б)Б у новых умовах. Рэзультаты чысткі партыі ў арганізацыях КП(б)Б. V з'езд КП(б)Б аб шляхах рэалізацыі пастаноў X з'езда РКП ва ўмовах БССР. Заява «32-х» і яе нацыяналістычны характар. Спробы контррэволюцыйных нацдэмаў сарваць пачатак гаспадарчага і культурнага будаўніцтва ў БССР. Барацьба КП(б)Б супроць нацыяналістаў усіх масцей і крах нацдэмаўскіх контррэволюцыйных планаў. Ліквідацыя бандытызма ў Беларусі. Канчатковы разгром дробна-буржуазных партый.

### § 2. КП(б)Б у аднаўленчы перыяд

XI з'езд РКП(б) аб пераходзе к наступленню на аснове НЭП'а. VI з'езд КП(б)Б аб профсаюзах, аб партыйным будаўніцтве *і аб рабоце* комсамола. Стварэнне СССР. VII з'езд КП(б)Б. Нацпытанне на VII з'ездзе. XII з'езд РКП(б). Даклад т. Сталіна па нацпытанню. 4-ая партыйная нацнарада пры ЦК РКП(б). Гаспадарчыя затрудненні 1923 г. і барацьба з трацкісцкай апазіцыяй.

Смерць В. І. Леніна. Ленінскі прызыў у КП(б)Б. XIII з'езд РКП(б) і барацьба КП(б)Б за рэалізацыю яго рашэнняў. VIII з'езд КП(б)Б і пытанні, звязаныя з першым узбуйненнем БССР. Ліпеньскі пленум ЦК КП(б)Б 1924 г. аб нацпалітыцы. Барацьба партыі з трацкізмам у гэты перыяд. «Уроки Октября» Троцкага. Студзеньскі і майскі пленумы ЦК КП(б)Б (1925 г.) аб выніках правядзення нац. палітыкі ў БССР і далейшых задачах у гэтай галіне.

## ГЛАВА X

# КП(б)Б пры пераходзе да рэканструкцыйнага перыяда

### § 1. КП(б)Б у барацьбе за індустрыялізацыю

14-ая партканферэнцыя. Пытанне аб пабудове соцыялізма ў адной краіне. Барацьба партыі супроць «новай апазіцыі». XIV з'езд партыі—з'езд індустрыялізацыі СССР. VIII з'езд КП(б)Б і пытанне аб індустрыялізацыі БССР. IX з'езд аб барацьбе з «новай апазіцыяй». IX з'езд аб правядзенні нацыянальнай палітыкі профсаюзамі. Барацьба партыі супроць трацкісцка-зіноўеўскага апазіцыйнага блока. Барацьба КП(б)Б супроць апазіцыйнага блока. Ліпеньскі (1926 г.) аб'яднаны пленум ЦК і ЦКК КП(б)Б аб чарговых задачах культурнага будаўніцтва. Другое ўзбуйненне БССР (1926 г.). X з'езд КП(б)Б аб гаспадарчым будаўніцтве ў БССР і пытаннях партыйнага будаўніцтва. X з'езд аб далейшых шляхах ажыццяўлення ленінскай нацпалітыкі.

XI з'езд КП(б)Б аб рабоце ў вёсцы. Аб задачах партыйнага будаўніцтва. XV з'езд ВКП(б)—з'езд калектывізацыі. Разгром трацкісцкай апазіцыі. Барацьба КП(б)Б з двурушніцкай падпольнай работай трацкісцка-зіноўеўскай групы.

### § 2. Барацьба КП(б)Б з контррэволюцыйным нацдэмакратызмам

Класавая барацьба ў БССР пры пераходзе к рэканструкцыйнаму перыяду. Актывізацыя нацыяналістаў. Дзейнасць контррэволюцыйнага СВБ. Лістападаўшчына. Пратасканне нацдэмамі сваіх кадраў на розныя ўчасткі соц. будаўніцтва: Наркамзем (Прышчэпаў), Дзяржплан (Смоліч), Наркамасветы (Баліцкі), БАН (Ігнатоўскі), і інш. Адзіны фронт нацдэмаў, трацкістаў і вялікадзяржаўнікаў супроць дыктатуры пролетарыята і соц. будаўніцтва. Адзіны фронт нацдэмаў з нац. фашызмам у Зах. Беларусі. Ухілы па нацпытанню ў КП(б)Б. КП(б)Б у барацьбе з нацыяналізмам і нацапартунізмам. Класавыя карэнні і класавая сутнасць нацдэмакратызма і нацапартунізма.

## ГЛАВА XI

# КП(б)Б у рэканструкцыйны перыяд

### § 1. КП(б)Б у барацьбе за соцыялістычную рэканструкцыю народнай гаспадаркі

Партыя на шляхах да разгорнутага соцыялістычнага наступлення. Абвостранне класавай барацьбы ў краіне. Барацьба на хлебным фронце. Шкодніцтва. Апартуністычныя хістанні ў паасобных звеннях партыі. Правы ўхіл—галоўная небяспека. КП(б)Б у барацьбе з правым ухілам. Праваапартуністычныя скажэнні ў рабоце паасобных звенняў дзяржапарата. Змыканне правых апартуністаў у КП(б)Б з беларускімі контррэволюцыйнымі нацдэмамі.

### § 2. План першай пяцігодкі БССР

16-ая канферэнцыя ВКП(б) і зацверджанне плана першай пяцігодкі. Зацверджанне XII з'ездам КП(б)Б кантрольных лічбаў першай пяцігодкі БССР. XII з'езд КП(б)Б аб урэгуляванні росту партыі і чыстцы

КП(б)Б. Аб рабоце профсаюзаў БССР. Чыстка КП(б)Б і яе роля ва ўмацаванні радоў партыі. Верасненўскі пленум ЦК КП(б)Б (1929 г.) аб узмацненні барацьбы з правай ідэалогіяй і з праявай правага ўхілу на практыцы. Узмацненне ўвагі КП(б)Б да барацьбы з «лева»-апартуністычнымі элементамі ў партыі і ў барацьбе з прымірэнцтвам. Верасненўскі пленум аб кантрольных лічбах нар. гасп. БССР на 1929—30 гг., гаспадарчым будаўніцтве і партбудаўніцтве. Унутрывыхаваўчая работа партыі. Работа партыі ў масах. Формы і метады гэтай работы. Год вялікага пералому.

## ГЛАВА XII

## КП(б)Б у перыяд соцыялістычнага наступлення па ўсяму фронту

### § 1. КП(б)Б у барацьбе за ажыццяўленне рашэння XVI з'езда ВКП(б)

Палітычныя і гаспадарчыя поспехі соцыялістычнага будаўніцтва. Пераход партыі ад палітыкі абмежавання і выцяснення капіталістычных элементаў да палітыкі ліквідацыі кулацтва як класа на аснове суцэльнай калектывізацыі. Формы і метады работы партыі па калектывізацыі. Барацьба партыі з перагібамі ў калгасным будаўніцтве. Гістарычнае значэнне артыкулаў т. Сталіна—«Галавакружэнне ад поспехаў» і «Адказ т. т. калгаснікам». Ход калектывізацыі ў БССР і барацьба КП(б)Б з перагібамі. XVI з'езд партыі—з'езд разгорнутага наступлення соцыялізма па ўсяму фронту. Правы ўхіл—галоўная небяспека, кулацкая агентура ў партыі. XVI з'езд аб несумяшчальнасці поглядаў правай апазіцыі з прыналежнасцю да ВКП(б). XIII з'езд КП(б)Б аб ходзе выканання пяцігадовага плана развіцця прамысловасці ў БССР і аб задачах далейшага соцыялістычнага будаўніцтва. Абвастрэнне класавай барацьбы ў краіне ў сувязі з пераходам да разгорнутага соцыялістычнага наступлення па ўсяму фронту. Буржуазна-рэстаўратарская праграма бел. нац. дэмакратызма ў галіне развіцця с.-г. (прышчэпаўшчына). Выкрыццё і разгром партыяй контррэволюцыйнай прышчэпаўшчыны. Дасягненні БССР у галіне соцыялістычнай рэканструкцыі с.-г. XIII з'езд КП(б)Б аб памылках у калгасным руху ў БССР, іх выпраўленні і далейшых задачах калгаснага будаўніцтва. Разгром права-«лявацкага» блока Сырцова—Ламінадзе.

### § 2. Барацьба КП(б)Б за ленінскую нацыянальную палітыку

Перыяд соцыялістычнай рэканструкцыі ўсёй народнай гаспадаркі і паскарэнне тэмпаў ліквідацыі эканамічнай і культурнай адсталасці народаў СССР.

XVI з'езд ВКП(б) і XIII з'езд КП(б)Б аб задачах нацыянальнай палітыкі партыі ў перыяд соцыялістычнага наступлення па ўсяму фронту. Поспехі ленінскай нацыянальнай палітыкі ў БССР. Значэнне для КП(б)Б указанняў т. Сталіна на XVI з'ездзе аб ухілах ад ленінскай нацыянальнай палітыкі. Окцябрскі пленум ЦК КП(б)Б (1930 г.) аб выніках правядзення нацыянальнай палітыкі партыі і далейшых задачах. Абвостранне класавай барацьбы ў БССР, актывізацыя рускіх вялікадзяржаўнікаў, беларускіх, яўрэйскіх, польскіх і інш. нацыяналістаў і іх падрыўная работа. Выкрыццё і ліквідацыя контррэволюцыйнага «СВБ». Адзіны фронт нацдэмаў з контррэволюцыйным трацкізмам, вялікадзяржаўніцкай контррэволюцыяй, з польскім фашызмам, з беларускім, украінскім, яўрэйскім нацыянал-фашызмам.

КП(б)Б у барацьбе з нацапартунізмам у радах партыі. Абвастрэнне класавай барацьбы на ідэалагічным фронце. Ліст тав. Сталіна «Аб некаторых пытаннях гісторыі большэвізма». Разгорнутая прапрацоўка ліста т. Сталіна ў КП(б)Б. Ускрыццё і выкрыццё трацкісцкай кантрабанды і раду грубых памылак і скажэнняў трацкісцкага, нацдэмаўскага, бундаўскага і т. п. характару ў асвятленні пытанняў гісторыі ВКП(б) і КП(б)Б.

### § 3. КП(б)Б у барацьбе за паспяховае завяршэнне першай пяцігодкі

Шэсць умоў т. Сталіна і барацьба КП(б)Б за іх ажыццяўленне ў БССР. XIV з'езд КП(б)Б аб выніках соцыялістычнага будаўніцтва БССР, росту матар'яльнага і культурнага ўзроўню рабочых і калгасных мас і ліквідацыі эканамічнай і культурнай адсталасці БССР. Пытанні партбудаўніцтва на XIV з'ездзе КП(б)Б. 17-ая канферэнцыя ВКП(б) аб 2-ой пяцігодцы, пяцігодцы пабудовы бяскласавага соцыялістычнага грамадства. 17-ая канферэнцыя ВКП(б) аб зжыванні ранейшай эканамічнай і культурнай адсталасці нацрэспублік і абласцей. Чэрвеньскі і снежаньскі пленумы ЦК КП(б)Б (1932 г.). Шалёнае супраціўленне недабітых рэштак капіталізма і контррэволюцыйных элементаў соцыялістычнаму наступленню. Кулацкі сабатаж с.-г. загатовак у БССР. Пастанова ЦК ВКП(б) аб памылках, дапушчаных партыйнымі і совецкімі арганізацыямі БССР пры правядзенні загатовак і выпраўленне іх ЦК КП(б)Б. Злом кулацкага сабатажа, разгром партыяй контррэволюцыйных груп—паследышаў трацкісцкай і правай апазіцыі (група Руміна—Галкіна і група Смірнова—Эйсманта).

Мабілізацыя партыяй мас на выкананне задач першай пяцігодкі. Разгортванне соцспаборніцтва і ўдарніцтва. Канкрэтнасць партыйнага кіраўніцтва. Брыгада—асноўная ячэйка ўдарнага руху. Гераізм пролетарыята ў барацьбе за соцыялізм. Барацьба за новабудоўлі ў БССР. Поспехі соцыялістычнага будаўніцтва.

## ГЛАВА XIII

## КП(б)Б у перыяд соцыялістычнага наступлення па ўсяму фронту

(Працяг)

### § 1. КП(б)Б у барацьбе за ажыццяўленне задач другой пяцігодкі

Вынікі першай пяцігодкі—пяцігодкі пабудовы фундамента соцыялістычнай эканомікі. Студзеньскі пленум ЦК ВКП(б) (1933 г.), даклад т. Сталіна «Аб выніках пяцігодкі» і прамова «Аб рабоце ў вёсцы». Вынікі першай пяцігодкі. Задачы другой пяцігодкі ў БССР ва ўсіх галінах соцыялістычнага будаўніцтва. Ход выканання задач другой пяцігодкі ў БССР. Класавая барацьба ў СССР і БССР на рубяжы двух пяцігодак. Новая тактыка барацьбы класавага ворага «ціхаю сапай». Значэнне прамоў тав. Сталіна на студзеньскім пленуме ЦК ВКП(б) (1933 г.) і на з'ездзе калгаснікаў-ударнікаў для ўскрыцця і выкрыцця новых манеўраў класавага ворага і ў справе барацьбы за ўмацаванне дыктатуры пролетарыята ў БССР. Рашэнне ЦК ВКП(б) па пытанню аб хлебазагатоўках у БССР і па пытанню аб справе Сцепуро. Значэнне гэтых рашэнняў для разгортвання работы КП(б)Б ва ўсіх галінах соцыялістычнага будаўніцтва. Барацьба з гнілым

лібералізмам. Узмацненне і ўмацаванне рэволюцыйнай пільнасці. Барацьба супроць контррэволюцыйных нацдэмаўскіх, бундаўскіх, вялікадзяржаўніцкіх і т. п. вылазак. Барацьба супроць рэшткі контррэволюцыйнага трацкізма. Абстаноўка чысткі КП(б)Б ў 1933 г. Яе роля і значэнне. Вынікі чысткі КП(б)Б. Ускрыцце ў час чысткі шкодніцкай контррэволюцыйнай дзейнасці нацдэмаўскіх, бундаўскіх і інш. нацыяналістычных элементаў. Значэнне лютаўскага і сакавіковага пленумаў КП(б)Б. Выкрыццё ў БССР контррэволюцыйнай шпіёнска-шкодніцкай нацдэмаўскай арганізацыі. БНЦ (Рак-Міхайлоўскі, Дварчанін, Мятла і інш.). Беларускі нацыяналізм, як галоўная небяспека на даным этапе ва ўмовах БССР і КП(б)Б. Снежаньскі (1933 г.) пленум ЦК КП(б)Б па нацыянальнаму пытанню.

## § 2. XVII з'езд ВКП(б) і XV з'езд КП(б)Б

Гістарычнае значэнне XVII з'езда ВКП(б). XVII з'езд—трыумф ленінскай генеральнай лініі, выкрысталізаванай і адточанай у барацьбе з усімі разнавіднасцямі апартунізма, абгрунтаванай і абароненай у баях т. Сталіным. XVII з'езд—з'езд стальнога большэвіцкага адзінства адзінамыслячых, адзінадзеючых пролетарскіх рэволюцыянераў. Даклад т. Сталіна. Рашэнне XVII з'езда ВКП(б) і XV з'езда КП(б)Б.

Умацаванне міжнароднага становішча СССР. Дасягненні Савецкага саюза за два гады другой пяцігодкі. Адзінства партыі. Подлае забойства т. Кірава падонкамі трацкісцка-зіноўеўскай апазіцыі. Выкрыццё і разгром зіноўеўскай групы,—самай подлай і здрадніцкай, самай ганебнай з усіх фракцыйных груп, групы, якая з'яўлялася замаскаванаю формай белагвардзейскай арганізацыі. Яшчэ большае згуртаванне ўсёй партыі, рабочага класа і працоўных вакол ЦК і свайго правадыра—т. Сталіна.

З'езды советаў, пленум ЦК ВКП(б)—люты 1935 г. Змены ў канстытуцыі СССР як адлюстраванне найвялікшых перамог Совецкага саюза.

КП(б)Б на чале з т. Гікало ў барацьбе за ажыццяўленне рашэнняў з'ездаў партыі і ЦК ВКП(б) у галіне прамысловасці, сельскай гаспадаркі і культуры. Вынікі двух год другой пяцігодкі ў БССР.

Перабудова партыйных арганізацый у адпаведнасці з новымі велізарнейшымі задачамі. Майская прамова т. Сталіна. КП(б)Б у барацьбе за кадры. Пытанні беларусізацыі і задачы вырошчвання кадраў з мясцовых людзей. Значэнне вывучэння гісторыі партыі, асабліва совецкага перыяда барацьбы партыі з усімі апазіцыйнымі групоўкамі, барацьбы за пабудову бяскласавага грамадства.

Тaржаство ленінскай нацыянальнай палітыкі ў Беларусі. Узнагароджанне БССР і яе кіраўнікоў—тт. Гікало і Галадзеда—ордэнам Леніна, як выражэнне ліквідацыі былой адсталасці, ператварэння БССР у перадавую індустрыяльна-аграрную рэспубліку СССР.

# КАРОТКІ ПЛАН ПАДРУЧНІКА

## УСТУП

**КП(б)Б—неразрыўная частка адзінай маналітнай ВКП(б)**

## ГЛАВА I

**Узнікненне большэвіцкіх арганізацый у Беларусі і іх дзейнасць да рэвалюцыі 1905—07 г. г.**

§ 1. Рэвалюцыйны рух у Беларусі ў канцы XIX ст.
§ 2. Узнікненне большэвіцкіх арганізацый у Беларусі і іх барацьба з апартунізмам у рабочым руху.

## ГЛАВА II

**Большэвіцкія арганізацыі ў Беларусі ў рэвалюцыі 1905—07 г.г.**

## ГЛАВА III

**Большэвіцкія арганізацыі ў Беларусі паміж двума рэвалюцыямі**

§ 1. Гады рэакцыі.
§ 2. Гады ўздыму.
§ 3. Імперыялістычная вайна.

## ГЛАВА IV

**Большэвіцкія арганізацыі ў Беларусі ў перыяд заваявання дыктатуры пролетарыята**

(Люты—Окцябр).

§ 1. Большэвіцкія арганізацыі ад лютага да ліпеньскіх дзён 1917 г.
§ 2. Большэвіцкія арганізацыі ў Беларусі ў перыяд падрыхтоўкі ўзброенага паўстання.
§ 3. Окцябр у Беларусі.

## ГЛАВА V.

**Большэвіцкія арганізацыі ў Беларусі ў першы перыяд совецкай улады**

§ 1. Трыумфальнае шэсце совецкай улады.
§ 2. Барацьба з контррэволюцыяй.
§ 3. Рост і работа партыйных арганізацый у Беларусі.
§ 4. Барацьба супроць наступлення германскага імперыялізма.

## ГЛАВА VI

**КП(б)Б у перыяд грамадзянскай вайны**

§ 1. Работа большэвіцкіх арганізацый у неакупаванай частцы Беларусі.
§ 2. Большэвіцкія арганізацыі ў германскім падполлі.
§ 3. Стварэнне БССР і КП(б)Б.

## ГЛАВА VII

**КП(б)Б у перыяд грамадзянскай вайны** (працяг)

§ 1. Стварэнне Літбелаўскай Совецкай рэспублікі і КПЛіБ.
§ 2. Кіраўніцтва КПЛіБ совецкім будаўніцтвам.
§ 3. Партыя ў барацьбе супроць наступлення белапалякаў.

## ГЛАВА VIII

**КП(б)Б у перыяд грамадзянскай вайны** (працяг)

§ 1. КП(б)Б у белапольскім падполлі.
§ 2. Вызваленне БССР ад белапольскіх акупантаў і канчатковае ўстанаўленне совецкай улады.

## ГЛАВА IX

**КП(б)Б у аднаўленчы перыяд**

§ 1. КП(б)Б пры пераходзе к НЭП'у.
§ 2. КП(б)Б у аднаўленчы перыяд.

## ГЛАВА X

**КП(б)Б пры пераходзе к рэканструкцыйнаму перыяду.**

§ 1. КП(б)Б у барацьбе за індустрыялізацыю.
§ 2. Барацьба КП(б)Б з контррэволюцыйным нацдэмакратызмам.

## ГЛАВА XI

**КП(б)Б у рэканструкцыйны перыяд**

§ 1. КП(б)Б у барацьбе за соцыялістычную рэканструкцыю народнай гаспадаркі.
§ 2. План першай пяцігодкі БССР.

## ГЛАВА XII

**КП(б)Б у перыяд соцыялістычнага наступлення па ўсяму фронту**

§ 1. КП(б)Б у барацьбе за ажыццяўленне рашэнняў XVI з'езда ВКП(б).
§ 2. Барацьба КП(б)Б за ленінскую нацыянальную палітыку.
§ 3. КП(б)Б у барацьбе за паспяховае завяршэнне першай пяцігодкі.

## ГЛАВА XIII

**КП(б)Б у перыяд соцыялістычнага наступлення па ўсяму фронту** (працяг)

§ 1. КП(б)Б у барацьбе за ажыццяўленне задач другой пяцігодкі.
§ 2. XVII з'езд ВКП(б) і XV з'езд КП(б)Б.

С. Розін

# З гісторыі барацьбы КП(б)Б з трацкісцка-зіноўеўскай апазіцыяй

*1925—1927 г.г.*

**(паводле матар'ялаў Інстытута Гісторыі Партыі)**

Рабочы клас і працоўныя Совецкага саюза пад кіраўніцтвам комуністычнай партыі на чале з найвялікшым правадыром сусветнага пролетарыята і ўсяго працоўнага чалавецтва—тав. Сталіным—дабіліся велізарнейшых сусветна-гістарычнага значэння перамог у барацьбе за пабудову бяскласавага соцыялістычнага грамадства.

Класавы вораг і яго агентура, асуджаныя на немінучую пагібель, адчуваючы безнадзейнасць свайго становішча, хапаюцца за крайнія сродкі барацьбы супроць партыі і совецкай улады.

Зіноўеўская фракцыйная група—самая здрадніцкая і агідная з усіх фракцыйных груп у гісторыі нашай партыі, ашукваючы партыю на працягу раду гадоў, у канец абанкроціўшыся і пазбавіўшыся ўсякага падтрымання партыйных мас, зрабіўшы двурушніцтва сваёй асноўнай запаведдзю,—ператварылася ў белагвардзейскую групу, арганізаваўшую забойства аднаго з лепшых сыноў нашай партыі—С. М. Кірава.

Зладзейскае забойства тав. Кірава подлымі падонкамі контррэволюцыйнай зіноўеўскай групы з агромнай сілай пацвердзіла ўсю мудрасць неаднаразовых указанняў тав. Сталіна аб усямерным узмацненні рэволюцыйнай пільнасці і бязлітаснай барацьбы з «апартуністычным дабрадушшам, якое зыходзіць з памылковага меркавання аб тым, што па меры росту нашых сіл вораг становіцца нібы ўсё больш ручным і бяскрыўдным».

Партыя з усёй вострасцю паставіла пытанне аб усямерным узмацненні рэволюцыйнай пільнасці ўсіх членаў партыі, паставіла пытанне аб карэнным палепшанні ўсёй партыйнай работы, паставіла пытанне аб узмацненні работы па ідэйнаму ўзбраенню комуністаў, на падставе больш глыбокага вывучэння гісторыі барацьбы нашай партыі з усімі і ўсякімі антыпартыйнымі групоўкамі.

* * *

У 1925 г. пры пераходзе ад аднаўленчага да рэканструкцыйнага перыяда КП(б)Б, як неад'емная частка адзінай маналітнай ВКП(б), пад кіраўніцтвам ленінскага ЦК і яго правадыра тав. Сталіна з усёй

рашучасцю і непрымірымасцю абрушылася на плацформу так званай ленінградскай зіноўеўскай апазіцыі і потым разам з усёй партыяй нанесла руйнуючы ўдар па трацкісцка-зіноўеўскаму блоку 1926 і 27 гг.

На сваім IX з'ездзе (12-15 снежня 1925 г.), пярэдадні XIV усесаюзнага з'езда. КП(б)Б рэзка выступіла супроць так званай «ленінградскай апазіцыі». IX з'езд КП(б)Б далучыўся да пастановы Маскоўскай губернскай партканферэнцыі, у якой гаварылася аб тым, што ЦК партыі цвёрда праводзіць «правільную лінію партыі на аснове ясных і чоткіх прынцыпаў ленінізма», што ЦК «цвёрда кіруе ўсёй партыяй, даючы адпор як тым унутрыпартыйным плыням, якія недаацэньваюць небяспекі бягучага моманту, так і тым, якія выражаюць сабой ліквідатарскае бязвер'е ў сілы пролетарыята і ў магчымасць соцыялістычнага будаўніцтва ў СССР».

На ўсіх этапах барацьбы з трацкісцка-зіноўеўскай апазіцыяй КП(б)Б і яе ЦК цвёрда і непахісна стаяла на партыйных пазіцыях, праводзячы агромную работу па выкрыццю меншавіцкай сутнасці плацформы апазіцыі.

ЦК КП(б)Б на сваім студзеньскім (1926 г.) пленуме па дакладу сакратара ЦК т. Крыніцкага аб выніках IV з'езда ВКП(б) адзначыў «з асобным задавальненнем... тое адзінадушша і большэвіцкую згуртаванасць, якімі з'езд даў рашучы адпор новай апазіцыі, спрабаваўшай сваім нечаканым выступленнем у форме судакладу па справаздачы ЦК парушыць адзінства партыі і сказіць яе ленінскую лінію ў радзе асноўных пытанняў, вызначаючых шляхі далейшага развіцця соцыялістычнай гаспадаркі СССР». Пленум ЦК КП(б)Б выразіў «Непахісную рашучасць пад кіраўніцтвам ЦК ВКП(б) ператварыць у жыццё ленінскія па свайму зместу і форме рашэнні XIV з'езда, якія забяспечваюць далейшае ўмацаванне і развіццё пролетарскай рэволюцыі» (з рэзалюцыі пленума ЦК КП(б)Б, «Звязда» 7 студзеня 1926 г. № 5).

Аб'яднаны пленум ЦК КП(б)Б, які адбыўся 22-27 ліпеня 1926 года, рэзка асудзіў раскольніцкую фракцыйную падпольную дзейнасць па заданнях Зіноўева апазіцыянераў Лашэвіча, Грыг, Беленькага і інш. Пленум у сваёй пастанове зусім правільна сказаў, што «гэта фракцыйная група не знойдзе падтрымання ні ў адной арганізацыі КП(б)Б», што «гэта група акажацца кучкай заблытаўшыхся палітыканствуючых фракцыянераў, ізаляваных ад усёй партыі» (з рэзалюцыі пленума). Пленум безагаворачна адобрыў вывад Зіноўева за фракцыйную работу са складу Палітбюро ЦК ВКП(б).

Калі-ж апазіцыйны блок на чале з Зіноўевым, Каменевым, Троцкім зрабіў спробу навязаць партыі новую дыскусію і разам з тым пачаў ствараць свае нелегальныя кіруючыя органы, стаўшы на прамы шлях расколу партыі, Окцябрскі (1926 г.) пашыраны пленум ЦК КП(б)Б, сумесна з начальнікамі палітаддзелаў карпусоў і дывізій БВА, з цэнтральным партыйным актывам аднагалосна патрабаваў перасячы работу дэзарганізатараў, патрабаваў рашучых мер супроць Троцкага, Зіноўева, Каменева і іншых, якія «злосна парушалі волю партыі, здзекваліся над рашэннем яе з'езда і яе ЦК» (з рэзалюцыі пленума).

Пленум ЦК заклікаў усю КП(б)Б да непрымірымай барацьбы з раскольніцкімі спробамі апазіцыі, заклікаў да яшчэ большай згуртаванасці родаў партыі і ўзмацнення работы па соцыялістычнаму будаўніцтву.

«Напружаная будаўнічая работа і самакрытыка, ініцыятыва, большэвіцкая дысцыпліна, палкая барацьба супроць усякай спробы сказіць,

замазаць ленінскую лінію партыі—вось лозунг КП(б)Б у далейшай яе рабоце» (з пастановы пленума).

Лістападаўскі (1927 г.) аб'яднаны пленум ЦК і ЦКК КП(б)Б па дакладу т. Кнорына цалкам адобрыў меры, прынятыя супроць апазіцыі з боку ЦК ВКП(б), адобрыў вывад са складу ЦК Троцкага і Зіноўева і вынес пастанову, што «адстойванне ёю (апазіцыяй—**С. Р.**) сваіх ліквідатарскіх поглядаў несумяшчальна з прабываннем у радах большэвіцкай партыі».

XI з'езд КП(б)Б (22—29 лістапада 1927 г.), падводзячы вынікі барацьбы КП(б)Б за адзінства радоў і за ленінскую лінію партыі, канстатаваў, што «прынцыповая лінія і практычная работа Цэнтральнага Камітэта забяспечылі ідэйна ленінскае згуртаванне радоў КП(б)Б і прывялі да рашучага ідэйна-палітычнага разгрому трацкісцкай апазіцыі, якая атрымала таксама палітычнае асуджэнне ў шырокіх масах рабочага класа Беларусі» (з рэзалюцыі з'езда).

XI з'езд КП(б)Б вырашыў рад важнейшых пытанняў соцыялістычнага будаўніцтва. Рашэнні з'езда аб пяцігадовым плане развіцця народнай гаспадаркі СССР і БССР, аб рабоце ў вёсцы, аб нацыянальным культурным будаўніцтве вызначылі, наперакор карканню апазіцыі аб нашай пагібелі, найшырэйшую перспектыву далейшага бурнага росту совецкай соцыялістычнай гаспадаркі і соцыялістычнай культуры, перспектыву росквіту ва ўсіх галінах соцыялістычнага будаўніцтва БССР у вялікім Саюзе Совецкіх Соцыялістычных Рэспублік.

КП(б)Б і яе ЦК пад кіраўніцтвам ленінскага ЦК ВКП(б), пад геніяльным кіраўніцтвам тав. Сталіна цвёрда вялі пролетарыят і ўсіх працоўных Совецкай Беларусі па шляху, вызначанаму вялікімі настаўнікамі—Леніным і Сталіным—к соцыялізму.

Сакратар ЦК КП(б)Б тав. Кнорын у заключным слове пры закрыцці XI з'езда з усім правам мог заявіць:

«Наш з'езд прашоў пад знакам ленінскага адзінства і згуртаванасці нашых радоў. Ні па аднаму з пытанняў абвесткі дня на з'ездзе не было ніякіх прынцыповых разнагалоссяў. Мы аднадушна асудзілі праграму і выступленні апазіцыі, як антыкомуністычныя і шкодныя справе соцыялістычнага будаўніцтва і міжнароднай пролетарскай рэволюцыі. На з'ездзе ні адна рука не паднялася на абарону апазіцыі. З'езд вынес цвёрдую пэўную думку, што XV з'езд ВКП(б) павінен паставіць апазіцыю па-за радамі партыі, паказаць арганізатарам другой трацкісцкай партыі сваё месца... Наш з'езд прыняў рад галоўнейшых пастаноў у сувязі з абмеркаваннем пяцігадовага плана народнай гаспадаркі Беларусі. Мы выходзілі з таго, што ў нашай краіне мы будуем соцыялізм і нашымі ўнутранымі сіламі яго пабудуем. Ні ў каго з прысутных у гэтай зале не было і не магло быць у гэтым ніякіх сумненняў. Усю нашу практычную работу мы падпарадкуем гэтай галоўнейшай і рашаючай задачы» (XI з'езд КП(б)Б, стэнаграфічная справаздача, БДВ, Менск 1928 г.).

Наносячы сакрушальныя ўдары трацкісцка-зіноўеўскаму блоку, громячы разам з тым і ўсякія антыпартыйныя, контррэволюцыйныя, нацыяналістычныя элементы, КП(б)Б і яе ЦК арганізавалі мільёны працоўных БССР на выкананне адказнейшай, сусветна-гістарычнага значэння, задачы—пабудовы фундамента соцыялізма ў нашай краіне, умацоўваючы гэтым магутнасць вялікага Совецкага саюза—базу сусветнай пролетарскай рэволюцыі.

Партыя ўзняла магутную хвалю энтузіязма рабочых у барацьбе за індустрыялізацыю. Партыя надае шырокі размах новым комуністычным метадам работы—соцспаборніцтву, ударніцтву і інш.

У барацьбе супроць кулака партыя ў гэты перыяд дабілася яшчэ большага ўмацавання саюза пролетарыята з сярэднім сялянствам пры апоры на беднату.

Перад кожным комуністам была пастаўлена задача быць перадавіком на прадпрыемстве, адыгрываць на прадпрыемстве авангардную ролю, весці за сабой беспартыйных рабочых на перамаганне ўсіх труднасцей нашага росту. І колькі выдатных узораў гераічнай работы ўдарных, «сквазных ударных» брыгад комуністаў і ідучых за імі комсамольцаў і беспартыйных перадавых рабочых мы мелі тады, таксама як маем і зараз на нашых прадпрыемствах.

Партыя ў гэты-ж час правяла агромную работу па палепшанню работы совецкага і гаспадарчага апарата, уцягнуўшы ў гэту важнейшую справу найшырэйшыя слаі працоўных, разгарнуўшы большэвіцкую самакрытыку не гледзячы на асобы, узяўшы пад агонь бязлітаснай крытыкі ўсе нашы недахопы ў практычнай рабоце. Сотні і тысячы рабочых ад станкоў вылучаны былі пад кіраўніцтвам партарганізацый у совецкі і гаспадарчы апарат на адказную работу.

Велізарную ўвагу партыя звярнула на работу вясковых партыйных і совецкіх арганізацый. Праведзеныя ў 1927 г. перавыбары советаў прашлі ў вёсцы пад знакам ўмацавання сельсоветаў і стварэння шырокага бядняцка-серадняцкага актыва вакол іх. Партыя шырока разгарнула работу з вясковай беднатой, арганізаваўшы групы беднаты пры ўсіх сельсоветах, пры камітэтах сялянскага таварыства ўзаемадапамогі, пры сельскай кааперацыі. Усе гэтыя мерапрыёмствы партыі на вёсцы адыгралі агромнейшую ролю ў справе падрыхтоўкі калектывізацыі сельскай гаспадаркі, у справе ліквідацыі на аснове суцэльнай калектывізацыі апошняга капіталістычнага класа—кулацтва.

На фронце культурнай рэволюцыі КП(б)Б забяспечыла таксама рашаючыя перамогі, у выніку чаго БССР адною з першых совецкіх рэспублік увяла ўсеагульнае абавязковае навучанне, паклаўшы гэтым канец праклятаму царскаму наследдзю—адвечнай цемры і нягра-матнасці працоўных Беларусі. Хутка выраслі ў Беларусі сотні тэхнікумаў, ахапляючы дзесяткі тысяч дзяцей рабочых і бядняцка-серадняцкага сялянства. Тысячы рабочых і сялян пашлі ў ВНУ Беларусі.

Ва ўсіх галінах соцыялістычнага будаўніцтва КП(б)Б правяла агромную арганізуючую творчую работу.

* * *

У КП(б)Б, як і ва ўсёй партыі, троцкісцка-зіноўеўская апазіцыя прадстаўляла сабою мізэрную кучку. Ні адной фабрычна-заводскай і нават совецкай і вузаўскай ячэйкі апазіцыянерам не ўдалося павярнуць на свой антыпартыйны шлях барацьбы супроць ленінскіх прынцыпаў партыйнага будаўніцтва і супроць тэорыі Леніна аб магчымасці пабудовы соцыялізма ў адной краіне.

Толькі ў ячэйцы саматужнай шавецкай майстэрні бабруйскага працкалектыва абутнікаў апазіцыянерам удалося на кароткі час захапіць кіраўніцтва і атрымаць на адным сходзе нязначную большасць галасоў. Ячэйка гэта па характарыстыцы акружкома партыі заўсёды

была недысцыплінавана, заражана мяшчанскай дробнабуржуазнай і бундаўскай ідэалогіяй, з нізкім узроўнем палітычнага развіцця членаў партыі. Па соцыяльнаму паходжанню члены ячэйкі (як і беспартыйныя рабочыя майстэрні) у большасці былыя саматужнікі-рамеснікі. У ячэйцы была значная па сваёй удзельнай вазе група былых бундаўцаў, большасць якіх аказалася ў апазіцыі. Вось адзін-адзіны «трафей» апазіцыі ва ўсёй КП(б)Б.

Ва ўсіх партарганізацыях КП(б)Б апазіцыя атрымлівала нязменна рашучы адпор падаўляючай большасці пры кожнай сваёй вылазцы.

У лепшым для апазіцыянераў выпадку ім удавалася ў некаторых ячэйках схіліць на свой бок паасобных членаў партыі або стварыць свае групкі з 3—5 чалавек. Актыўна выступаючых і галасуючых супроць лініі партыі апазіцыя не сабрала ў КП(б)Б, як і ва ўсёй ВКП(б), і аднаго процанта.

* * *

У менскай партыйнай арганізацыі апазіцыянерам удалося пралезці ў некалькі ячэек: БДУ, Лесбела, завода «Большэвік», шавецкіх майстэрань, Хлебапрадукта, Белдзяржбуда, Працасветы, завода імя Молатава і некаторых іншых. У БДУ апазіцыянеры скалацілі групу ў 16 чалавек, тады як у ячэйцы было 456 членаў.

Але асабліва ажывілася апазіцыйная дзейнасць з прыездам у БДУ Гольмана, Югава і Рыўліна. Яны былі найбольш актыўнымі ў фракцыйнай рабоце і з'яўляліся галоўнымі «вараціламі» сярод менскіх апазіцыянераў. Праз іх падтрымлівалася сувязь з кіраўнікамі апазіцыі ў Маскве, праз іх менскія апазіцыянеры снабжаліся фракцыйнай літаратурай. Гольман неаднакроць ездзіў у Маскву за інструкцыямі аб вядзенні фракцыйнай работы. Гэта тройка не раз спрабавала рабіць фракцыйныя вылазкі на менскія прадпрыемствы, але ганебна кожны раз правальвалася, атрымліваючы сакрушальны адпор ад заводскіх ячэек. Гольмана выгналі з партыйнага сходу на заводзе «Большэвік», не даўшы яму слова для паклёпніцкай агітацыі, а Рыўліна ў ячэйцы шавецкай майстэрні комуністы закідалі шавецкімі калодкамі і таксама выгналі са сходу.

Некалькі раз трацкісты спрабавалі выступаць са сваёй антыпартыйнай агітацыяй на заводзе «Большэвік». Але большэвікі завода не хацелі слухаць паклёпаў на партыю і гналі ў шыю кожны раз гэтых зіноўеўскіх гастралёраў. Толькі маленькая група на чале з былым бундаўцам падтрымлівала на «Большэвіку» апазіцыю.

На дрэваапрацоўчым заводзе імя Молатава апазіцыйная група доўга не выяўляла сябе адкрыта і толькі пасля Окцябра 1927 г. нечакана для парткіраўніцтва завода тры члены партыйнай ячэйкі выступаюць і галасуюць за апазіцыю на агульным сходзе ячэйкі. Некалькімі днямі пазней за апазіцыю выступаюць і галасуюць яшчэ двое. Атрымаўшы рашучы адпор ад партыйнай ячэйкі, гэта група 18 лістапада заявіла аб сваім адыходзе ад апазіцыі.

Выпадкі позняга выкрыцця апартуністычнай работы на радзе заводаў сведчаць аб тым, што ў паасобных партыйных ячэйках не праяўлялася дастатковай партыйнай пільнасці ў барацьбе з антыпартыйнай дзейнасцю апазіцыі. Падобны выпадак «нечаканага» праяўлення апазіцыйных настрояў быў і ў парт'ячэйцы Комвуза Беларусі, калі пры галасаванні рэзалюцыі, ухваляючай выключэнне Троцкага, Зіноўева, Каменева і інш. з партыі, устрымаліся ад галасавання

12 студэнтаў комуністаў. У паасобных ячэйках Менска трацкісты-зіноўеўцы налічваліся адзінкамі або невялікімі групкамі ў 3—5 чал. як, напрыклад, у ячэйцы Працасветы.

Рабочыя-комуністы менскіх прадпрыемстваў рашуча патрабавалі ад апазіцыі спынення іх спроб унесці дэзарганізацыю ў рады партыі, патрабавалі спынення хлусні і паклёпаў на партыю з боку зіноўеўцаў.

«Трэба ўжыць больш рашучыя меры. Партыя зрабіла ўсё, каб апазіцыя адмовілася ад сваіх памылак. Зараз досыць, больш не трэба цярпець ад апазіцыі, мы патрабуем, каб партыя з апазіцыяй зараз скончыла»—гаварыў рабочы на сходзе парт'ячэйкі Электрастанцыі ў кастрычніку 1927 г. Другі таварыш гаварыў: «Зараз кожны член ячэйкі добра ведае, што ў партыі з Троцкім, Зіноўевым і іншымі апазіцыянерамі не асабістыя спрэчкі. Зараз апазіцыя даказала, што яна не хоча ісці з партыяй, а ідзе супроць партыі».

Спрэчкі на гэтым сходзе, які абгаварваў пытанне аб антыпартыйнай фракцыйнай рабоце апазіцыі, праходзілі ў выключна вострай форме. Рабочыя з абурэннем выступалі супроць апазіцыянераў. Бралі слова па 2 і па 3 разы, выступалі горача за адзінства партыі, за ленінізм супроць трацкізма.

Моцныя большэвіцкія пастановы, безагаворачна асуджаючыя апазіцыянераў, былі прыняты ўсімі ячэйкамі Менска. Вось, напрыклад, пастанова сходу парткалектыва Заходняй чыгункі:

«Сход лічыць, што апазіцыянерам, якія сталі на шлях стварэння падпольных, накіраваных супроць партыі друкарань, няма месца ў радах нашай партыі. Партыя не дазволіць апазіцыянерам сарваць дзелавое партыйнае абгаварэнне пытанняў, якія стаяць у парадку дня XV партз'езда, і падарваць сталёвае ленінскае адзінства».

Пятая менская акруговая партыйная канферэнцыя па пытанню аб апазіцыі вынесла рашэнне, у якім са здавальненнем адзначала «дружны большэвіцкі адпор, які дала менская акруговая арганізацыя вылазкам апазіцыі».

«Канферэнцыя», гаварылася ў пастанове, «лічыць, што сцверджанне апазіцыі аб перараджэнні ВКП(б), аб нацыянальнай абмежаванасці і нацыянальным рэфармісцкім ухіле нашай партыі—з'яўляецца паклёпам на партыю, здзекам над яе рашэннямі. Гэтыя сцверджанні фактычна набліжаюць правадыроў апазіцыі да соцыял-здраднікаў—Кауцкага, Отто-Бауэра і інш.—і цалкам пацвярджаюць правільнасць ацэнкі 15-ай канферэнцыяй ВКП(б) апазіцыі, як соцыял-дэмакратычнага ўхілу ў партыі».

* * *

У Віцебску з 4679 членаў і кандыдатаў партыі налічвалася ўсяго 15 актыўных апазіцыянераў, выступаўшых і галасаваўшых супроць партыі, і 34 чалавекі ўстрымаўшыхся. Фракцыйнай работай у Віцебску кіраваў наязжаўшы спецыяльна для гэтай мэты з Масквы актыўны трацкіст-зіноўевец.

Узмоцненую фракцыйную работу вялі трацкісты ў ячэйцы завода «Чырвоны металіст». Скарыстаўшы некаторую самасупакоенасць партыйнай ячэйкі і яе кіраўніцтва, трацкісты здолелі апрацаваць тут некалькі чалавек, якія пры выключэнні Троцкага і Зіноўева з партыі галасавалі супроць рэзалюцыі, ухваляўшай іх выключэнне. Але «трыумф» трацкістаў быў мімалётным. Пры абгаварэнні тэзісаў ЦК аб рабоце ў вёсцы і аб пяцігодцы, хістаўшыяся члены ячэйкі, сустрэўшы

рашучы адпор з боку ўсёй масы комуністаў, галасавалі за тэзісы ЦК партыі і ў хуткім часе заявілі аб сваім адмаўленні ад апазіцыйных поглядаў і асудзілі фракцыйную работу.

На фабрыцы «Профінтэрн» апрацоўцы апазіцыянераў падвяргалася таксама невялікая групка членаў партыйнай ячэйкі, якія аднак актыўна сябе не праяўлялі, устрымліваючыся пры галасаванні рэзалюцый за лінію партыі.

* * *

У Гомелі апазіцыянерам удалося скалаціць свой невялікі падпольны фракцыйны цэнтр, які ў хуткім часе быў выкрыты.

У Бабруйску прыезжым з Масквы студэнтам-апазіцыянерам удалося завербаваць на бок апазіцыі частку ячэйкі шавецкай майстэрні, аб якой упаміналася вышэй, і скалаціць невялічкую групку ў ячэйцы Бабршвея.

У Магілеве працавала невялікая група апазіцыянераў.

У астатніх гарадах і раёнах Беларусі кампактных арганізацый, колькі-небудзь значных апазіцыйных груп не было выяўлена. Былі паасобныя апазіцыянеры.

КП(б)Б і яе ЦК у непрымірымай барацьбе з трацкісцка-зіноўеўскім блокам яшчэ цясней згуртавалі вакол партыі шырокія пролетарскія масы. Рабочыя фабрык і заводаў Беларусі адказалі на паклёпніцкія выпады апазіцыі супроць партыі масавым уступленнем у рады партыі. У дні X гадавіны Окцябра было падана рабочымі заяў аб прыёме ў партыю: у Гомелі—596, у Барысаве—140, у Мазыры—111, у Полацку—80 і т. д.

Што-ж па свайму складу прадстаўлялі фракцыйныя групы?

Прывядзем толькі некаторыя лічбы і факты, якія гавораць самі за сябе. З 36 актыўных фракцыянераў, выключаных з КП(б)Б к часу XI з'езда партыі, адзінаццаць выхадцаў з іншых партый, восем з іх былыя бундаўцы. Главары фракцыянераў усе выхадцы з антыбольшэвіцкіх партый, у большасці выпадкаў з Бунда. Усе трое актывістаў-фракцыянераў Бабруйска—выхадцы з дробна-буржуазных контррэволюцыйных арганізацый (двое з Югенд-Бунда).

У гэтым яшчэ раз сказалася кроўнае ідэйнае сваяцтва бундаўскай, меншавіцкай ідэалогіі з палітычнай плацформай трацкісцка-зіноўеўскага блока.

Фракцыянеры ў сваёй шалёнай барацьбе супроць партыі блакаваліся з усімі і ўсякага роду контррэволюцыйнымі нацыяналістычнымі элементамі як з лагера вялікадзяржаўнікаў, так і з лагера мясцовых беларускіх нацыяналістаў. Напомнім хоць бы толькі адзін выпадак падтрымання трацкістам Югавым вялікадзяржаўніка Пічэты, які перакінуўся потым у лагер беларускіх контррэволюцыйных нацыянал-дэмакратаў.

У якіх элементаў фракцыянеры знаходзілі спачуванне, ярка сведчыць прыклад падтрымання трацкіста трыма служачымі Магілеўскага трэста мясцовай прамысловасці. Гэта тройка складалася з аднаго былога палкоўніка, аднаго былога штабс-капітана і аднаго былога паручыка царскай арміі.

* * *

У барацьбе супроць партыі апазіцыя цярпела адны паражэнні за другімі. І чым безнадзейней рабілася становішча апазіцыі, тым да больш вострых, подлых метадаў у сваёй антыпартыйнай барацьбе яна пераходзіла. Паклёп на партыю, дэмагогія, дэзарганізацыя пар-

тыйных радоў з мэтай расколу партыі, ашуканства, двурушніцтва, крывадушша, спекуляцыя на часовых труднасцях нашага соцыялістычнага росту, здрадніцтва і нарэшце прамы заклік да гвалтоўнай барацьбы супроць кіраўніцтва партыі—вось арсенал іх зброі.

Гэтыя людзі па гнусных контррэволюцыйных шпаргалках Троцкага і Зіноўева нашэптвалі адсталым рабочым, што партыя перараджаецца, што рабочыя ў партыю не ідуць, прарочылі пагібель пролетарскай рэволюцыі. Яны спрабавалі апарочыць такія важнейшыя мерапрыемствы партыі і совецкай улады, як скарачэнне рабочага дня да 7 гадзін. Яны спрабавалі сарваць мерапрыемствы партыі і ўрада па соцыялістычнай рацыяналізацыі вытворчасці. Выстаўлялі дэмагагічныя патрабаванні бязмернага павышэння заработнай платы і т. д. Яны паклёпнічалі на нашу слаўную Чырвоную армію і ўвесь рабочы клас і сялянства. Скрываючы ад партыі сваю фракцыйную работу, яны не хацелі даваць праўдзівых адказаў у партыйных кантрольных органах, стараліся апарочыць лепшых людзей партыі, якія вялі з імі непрымірымую барацьбу. Калі-ж партыя выкрывала іх, калі партыйныя масы з абурэннем адвяргалі іх паклёпы на партыю і яе кіраўніцтва, тады яны, выконваючы прамую дырэктыву Зіноўева, пераходзілі да двурушніцтва, падавалі ашуканскія, крывадушныя заявы аб прызнанні сваіх «памылак», як зладзеі таіліся ў партыі «да лепшых дзён», каб зноў пры першай-жа малейшай труднасці партыі ў справе соцыялістычнага будаўніцтва пайсці на яшчэ больш гнусны прыём барацьбы супроць партыі.

Двое апазіцыянераў у сваёй заяве аб спыненні апазіцыйна-фракцыйнай работы адкрыта прызналіся, што яны як апазіцыянеры лічылі, што «усе сродкі, усе метады барацьбы з ЦК рэволюцыйна-мэтазгодны» (Цэнтр. Партархіў, фонд ЦКК, справа № 54, стр. 155).

А другі «герой» апазіцыі ў заяве сваёй выбоўтваў сапраўдныя намеры апазіцыі не спыняцца ў барацьбе супроць партыі перад самымі гнуснымі метадамі: «пакідаючы за сабой права адстойваць свае погляды ўсімі мерамі і сродкамі» (Цэнтр. Партархіў, фонд ЦКК, справа № 56, стар. 69).

Так ішло скатванне зіноўеўцаў у лагер контррэволюцыі, падрыхтоўваўся пераход іх да зладзейскіх прыёмаў барацьбы—белабандыцкага тэрора супроць партыі і яе кіраўніцтва. Так ішла падрыхтоўка «кадраў» гнусных забойц з-за вугла лепшых людзей партыі і совецкай радзімы.

* * *

На працягу апошніх год КП(б)Б і яе ЦК ні на мінуту не аслаблялі барацьбы супроць рэштак разбітых фракцыйных груп і рознага роду антысовецкіх контррэволюцыйных арганізацый, спрабаваўшых зноў паднімаць галаву.

У 1932 годзе была выкрыта падпольная контррэволюцыйная арганізацыя Руцінскага толку ў Мазыры. Адначасова была раскрыта і ліквідавана трацкісцкая група сярод аспірантаў Беларускай Акадэміі Навук. У гэты-ж перыяд была выкрыта трацкісцкая кантрабанда двурушніка Рыўліна, які не раз фальшыва каяўся ў сваіх «памылках». Гэта кантрабанда выразілася ў працягванні трацкісцкай тэорыі пераўзбраення большэвізма, тэорыі рассячэння ленінізма на да і пасля окцябрскі.

КП(б)Б дала аднадушны сакрушальны адпор правым ўхілістам і права-лявацкім уродам. Дзякуючы непасрэднай дапамозе ЦК ВКП(б) і асабіста тав. Сталіна, КП(б)Б зламала ў 1932-33 гг. кулацкі сабатаж

на вёсцы і ачысціла свае рады ад права-апартуністычных кулацкіх прыспешнікаў, а таксама элементаў, праявіўшых гнілы лібералізм у адносінах класавага ворага.

Нарэшце КП(б)Б ускрыла і разграміла рад контррэволюцыйных нацыяналістычных арганізацый.

Зладзейскае забойства т. Кірава белабандыцкай шайкай зіноўеўскага ахвосця і прынятыя ў сувязі з гэтымі падзеямі мерапрыемствы партыі высока мабілізавалі пільнасць членаў партыі супроць ворагаў партыі і совецкай улады, аб чым сведчаць факты выяўлення і выкрыцця раду двурушнічаўшых былых актыўных членаў трацкісцка-зіноўеўскай групы, пралезшых нават у склад ЦК і ўрада (Галендо, Фліор).

У выніку мабілізацыі партыйнай пільнасці, партыйныя арганізацыі Беларусі яшчэ больш умацаваліся і цясней згуртаваліся вакол ленінска-сталінскага ЦК ВКП(б), ачысціўшыся ад раду замаскаваўшыхся контррэволюцыйных трацкісцкіх, нацыяналістычных і іншых антыпартыйных элементаў.

КП(б)Б адзіна і згуртавана, як ніколі.

Дзякуючы велізарнай дапамозе з боку партыі і ўрада Совецкага саюза, дзякуючы канкрэтнаму аперацыйнаму кіраўніцтву ленінска-сталінскага ЦК ВКП(б) і асабіста тав. Сталіна, КП(б)Б і яе большэвіцкае кіраўніцтва на чале з тав. Гікало забяспечыла рад рашаючых перамог рабочых і калгаснікаў Беларусі ў барацьбе за пабудову бясккласавага соцыялістычнага грамадства, вывела БССР у рады перадавых ордэнаносных совецкіх рэспублік, што яшчэ і яшчэ раз сведчыць аб таржастве беларускай совецкай нацыянальнай культуры, дасягнутым у выніку большэвіцкага правядзення ленінскай нацыянальнай палітыкі.

І адным з найбольш яркіх паказчыкаў уздыму совецкай нацыянальнай культуры Беларусі з'яўляецца той факт, што «іменна кадры большэвікоў з працоўных мясцовага карэннага насельніцтва з усёй большэвіцкай бязлітаснасцю білі і б'юць контррэволюцыйнае трацкісцка-зіноўеўскае ахвосце, правых апартуністаў і ўсякія іншыя антысовецкія і антыпартыйныя групоўкі, білі і б'юць контррэволюцыйны беларускі і вялікарускі шавінізм... І зараз асабліва ясна, што КП(б)Б магла справіцца з задачай разгрому ўсіх гэтых антысовецкіх і антыпартыйных груп і груповак толькі дзякуючы правільнаму ажыццяўленню мудрых, празарлівых указанняў вялікага Сталіна» *).

Лозунг т. Сталіна «кадры вырашаюць усё» з усёй вострасцю ставіць перад усёй КП(б)Б пытанні вылучэння, вырошчвання новых кадраў большэвікоў-ленінцаў, «якія не баяцца труднасцей, якія не хаваюцца ад труднасцей, а наадварот ідуць насустрач труднасцям для таго, каб перамагчы і ліквідаваць іх. Толькі ў барацьбе з труднасцямі куюцца сапраўдныя кадры» **(Сталін).** Лозунг т. Сталіна адлюстроўвае той новы перыяд, у які мы ўступілі, новую паласу развіцця будаўніцтва соцыялізма ў нашай краіне. Барацьба за кадры павінна быць у цэнтры ўвагі ўсёй нашай работы.

Апошні пленум ЦК КП(б)Б, адзначыўшы велізарнейшыя дасягненні ў справе соцыялістычнага гаспадарчага і культурнага будаўніцтва ў Совецкай Беларусі, у той-жа час з усёй сілаю падкрэсліў неабходнасць заўсёды памятаць указанні партыі, указанні тав. Ста-

---

*) **Гікало.** „У барацьбе за соцыялізм", час. „Большевик" № 4. 1935 г.

ліна аб небяспецы апартуністычнага дабрадушша і самасупакоенасці ў радах партыі. Пленум даў ясную і цвёрдую дырэктыву ўсім арганізацыям КП(б)Б няўстанна павышаць рэвалюцыйную пільнасць членаў партыі. Пленум патрабаваў ад усёй КП(б)Б настойлівай большэвіцкай работы па ажыццяўленню рашэнняў XVII з'езда ВКП(б) аб уздыме арганізацыйна-партыйнай работы да ўзроўню палітычнага кіраўніцтва. Пленум даў рад практычных канкрэтных указанняў аб далейшым палепшанні і ўсямерным узмацненні партыйна-арганізацыйнай, палітычна-масавай і ідэйна-выхаваўчай работы ў КП(б)Б. Пленум ЦК КП(б)Б надаў выключнае значэнне пытанню вывучэння гісторыі партыі і прама адзначыў, што сур'ёзнае палепшанне работы па марксісцка-ленінскаму выхаванню членаў партыі, асабліва па вывучэнню гісторыі партыі, з'яўляецца неабходнейшай умовай для ўздыму ўсёй партыйнай работы, для павышэння рэвалюцыйнай пільнасці і боездольнасці членаў партыі, для ліквідацыі элементаў самасупакоенасці і дабрадушша ў паасобных звеннях партарганізацый.

Не можа быць ні аднаго члена КП(б)Б, які-б не ведаў гісторыі нашай партыі, гісторыі барацьбы партыі за соцыялістычную рэволюцыю, за дыктатуру пролетарыята, за яе ўмацаванне, за пабудову бясклясавага соцыялістычнага грамадства, супроць усякага роду антыпартыйных груповак, супроць контррэволюцыйнага трацкізма, правага апартунізма, буржуазнага нацыяналізма, супроць апартуністаў усіх масцей.

Глыбока вывучаць гісторыю нашай слаўнай большэвіцкай партыі, вывучаць па першакрыніцах, па творах Леніна і Сталіна, па матар'ялах з'ездаў і канферэнцый партыі, сканцэнтраваўшы асноўную ўвагу на вывучэнні барацьбы партыі супроць усіх і ўсякіх антыпартыйных груповак, асабліва ў пасляокцябрскі перыяд—вось задача, якая стаіць перад кожным членам партыі, задача, без вырашэння якой не можа быць цалкам забяспечана рэволюцыйная пільнасць членаў партыі.

---

В Задзернюк

# Арганізаваць вывучэнне гісторыі партыі—баявая задача ўсіх партарганізацый

Соцыялізм перамог у нашай краіне цвёрда, беспаваротна. З Расіі нэпаўскай СССР стаў краінай соцыялістычнай.

У сваёй гістарычнай прамове на выпуску акадэмікаў Чырвонай арміі тав. Сталін, падводзячы вынікі нашых перамог, сказаў:

> «Мы маем ужо магутную і першакласную прамысловасць, магутную і механізаваную сельскую гаспадарку, транспарт, які разгортваецца і ідзе ў гару, арганізаваную і дасканала аснашчоную Чырвоную армію».

Партыя дабілася гэтых перамог пад кіраўніцтвам свайго вялікага палкаводца, найвялікшага правадыра сусветнага пролетарыята, мудрага стратэга, геніяльнага зодчага бяскласавага соцыялістычнага грамадства—тав. Сталіна. Тав. Сталін безупынна ўзбройваў партыю ленінскім вучэннем, арганізоўваючы і мабілізуючы яе на выкананне ленінскіх заветаў, на барацьбу з усімі ворагамі партыі і рабочага класа.

Класавы вораг разгромлен, але жывы яшчэ яго недабітыя рэшткі, якія з ростам нашых поспехаў узмацняюць супраціўленне справе соцыялізма; яшчэ не спыніўся канчаткова працэс нараджэння новых капіталістычных элементаў. Мы яшчэ не перамаглі ўсіх перажыткаў капіталізма ў эканоміцы і тым больш у свядомасці людзей, а існуючае капіталістычнае акружэнне стараецца ажыўляць і падтрымліваць гэтыя перажыткі ў СССР. «Вось чаму нельга гаварыць, што барацьба скончана і няма больш неабходнасці ў палітыцы наступлення соцыялізма». **(Сталін).**

Класавы вораг прадаўжае і будзе прадаўжаць сваю падрыўную работу, ён адчайна супраціўляецца, карыстаючыся разнастайнымі метадамі і складанейшымі махінацыямі для маскіроўкі і прыкрыцця сваіх варожых дзеянняў.

У гэтых умовах для боездольнасці члена большэвіцкай партыі неабходна, як ніколі, велізарнейшая рэволюцыйная пільнасць—уменне распазнаваць своечасова ворага, уменне выкрыць яго контррэволюцыйную работу.

Астаткі недабітага класавага ворага імкнуцца пранікнуць са сваім варожым уплывам і ў асяроддзе моладзі, у нашы ВНУ і ВТНУ, скарыстоўваючы пры гэтым тое, што моладзь не заўсёды ў належнай меры ўзброена вопытам барацьбы з класавым ворагам. Для таго, каб забяспечыць рэволюцыйную большэвіцкую загартаванасць усіх

членаў партыі і комсамольцаў, неабходна забяспечыць вывучэнне гісторыі партыі, асабліва яе пасляокцябрскага перыяда, бо «няма лепшага вопыту, няма лепшага сродку выхавання нашай моладзі ў духу марксізма-ленінізма, чым гісторыя нашай партыі» **(Кагановіч).**

Каб паспяхова вырашыць задачы другой пяцігодкі, каб не быць бездапаможнымі ў барацьбе супроць антыленінскіх элементаў, супроць двурушнікаў, якія яшчэ засталіся нявыкрытымі, члены партыі павінны ведаць гісторыю барацьбы партыі з усімі і ўсякімі антыпартыйнымі групамі, павінны вучыцца распазнаваць і выкрываць ворага на вопыце барацьбы Леніна і Сталіна з усякімі ўхіламі і фракцыямі. Асколкі разбітых апазіцыйных груповак, выраднкі і здраднікі, парваўшыя з ленінізмам, у сваёй ненавісці супроць партыі даходзяць, як паказвае шлях праклятай і самай ганебнай правакатарскай трацкісцка-зіноўеўскай групы, арганізаваўшай зладзейскае забойства т. Кірава, да белагвардзейшчыны становяцца на шлях фашысцкага тэрору супроць правадыроў нашай партыі.

Рэволюцыйная пільнасць—«якасць, якая асабліва неабходна цяпер большэвікам» **(Сталін)**—патрабуе паўсядзённага павышэння ідэйнай ўзброенасці комуніста, безупыннай барацьбы за ўсваенне вучэння Маркса—Энгельса—Леніна—Сталіна, ключом да якога з'яўляецца вывучэнне гісторыі партыі.

Асаблівае значэнне ў справе павышэння ідэйнай узброенасці і рэволюцыйнай пільнасці комуністаў набывае вывучэнне пасляокцябрскага перыяда гісторыі партыі.

Вядома, што Ленін у 1921 годзе, параўноўваючы гісторыю нашай партыі з 4-х гадовым курсам вышэйшых навук, лічыў перыяд з 1917 па 1921 г. 3-м курсам. Ён гаварыў: «Цяпер мы трымаем пераходны экзамен з трэцяга на чацверты курс; а потым нам трэба добра прайсці ўвесь чацверты курс: тады мы будзем, сапраўды, непераможны». Пасля 1921 г. партыя добра прашла ўжо чацверты курс, атрымала перамогу ў апошнім і рашаючым баі з капіталізмам унутры краіны, заваявала сусветна-гістарычныя перамогі, даказаўшы на вопыце нашай краіны правільнасць ленінска-сталінскай тэорыі аб магчымасці перамогі соцыялізма ў адной краіне.

Для таго, каб дабіць рэшткі разгромленага класавага ворага, трэба ведаць новыя формы і ўмовы класавай барацьбы, з якімі партыя сустрэлася ў совецкі перыяд. За гэты перыяд партыя разграміла многа апартуністычных груповак, «левых» комуністаў, трацкістаў, трацкісцка-зіноўеўскую групу, правых, праваляваццкіх уродаў і інш.

Пленум ЦК КП(б)Б пастанавіў:

> «Трэба паставіць на належную вышыню выкладанне гісторыі партыі сярод членаў партыі і ў першую чаргу сярод партыйнага актыва, вывучэнне ўсіх і ўсялякіх антыпартыйных груповак у гісторыі нашай партыі, іх прыёмаў барацьбы з лініяй партыі, іх тактыкі і тым больш вывучэнне тактыкі і прыёмаў барацьбы нашай партыі з антыпартыйнымі групоўкамі, тактыкі і прыёмаў, даўшых магчымасць перамагчы, разбіць на-галаву гэтыя групоўкі.Трэба, каб члены партыі былі знаёмы не толькі з тым, як партыя змагалася і перамагала кадэтаў, эсэраў, меншавікоў, анархістаў, але і з тым, як партыя змагалася і перамагала трацкістаў, «дэмакратычных цэнтралістаў», правых ухілістаў, права-

лявацкіх уродаў і зіноўеўцаў, гэтай бяспрыкладнай у гісторыі нашай партыі групы, якая зрабіла двурушніцтва сваёй запаведдзю і скацілася ў балота контррэвалюцыйнага тэрарызма».

Барацьба за рэалізацыю рашэнняў красавіковага пленума ЦК КП(б)Б—баявая задача ўсіх партарганізацый.

* * *

У пастаноўцы прапаганды ленінізма да гэтага часу не было належным чынам забяспечана вывучэнне гісторыі партыі, асабліва вывучэнне пасляокцябрскага перыяда, які мае рашаючае значэнне ў жыцці і рабоце партыі. Абгаварэнне падзей, звязаных са зладзейскім забойствам тав. Кірава, з асаблівай сілай ускрыла буйныя недахопы ў пастаноўцы ўсёй прапагандысцкай работы і адыграла агромную ролю ў справе разгортвання і ўздыму на больш высокую ступень прапагандысцкай работы і асабліва вывучэння гісторыі партыі.

Значна вырас колькасны ахоп членаў і кандыдатаў партыі сеццю партасветы і гурткамі па гісторыі партыі. Так, у 66 раёнах БССР у сакавіку 1935 года было ахоплена партвучобай 93% комуністаў, у студзені мінулага года ахоп вучобай комуністаў у 55 раёнах складаў толькі 68%.

Гурткамі па гісторыі партыі ў сакавіку 1935 г. па 66 раёнах было ахоплена 35 % комуністаў. Праверка работы раду гурткоў па гісторыі партыі паказала, што сёлета ў іх рабоце ёсць некаторыя палепшанні.

Значным палепшаннем у рабоце сеці партасветы з'яўляецца прыцягненне да непасрэднай прапагандысцкай работы (кіраўніцтва семінарамі прапагандыстаў, гурткамі па гісторыі партыі і інш.) раённага партыйнага актыва. Так, па 48 раёнах БССР у 1935 годзе прыцягнута да прапагандысцкай работы новых 365 чал., што складае 27% ад колькасці прапагандыстаў гэтых раёнаў к пачатку навучальнага года.

Зараз прапагандыстамі ў гэтых раёнах працуюць 28 сакратароў і нам. сакратара РК партыі, 60 інструктароў райкомаў, 14 начпалітаддзелаў, 23 помдырэктароў МТС па палітчасці і 36 сакратароў парткомаў.

У 1935 годзе ва ўсіх раёнах было арганізавана многа гурткоў па гісторыі партыі, а таксама пераключаны на вывучэнне гісторыі партыі рад пачатковых школ ленінізма. Акрамя таго, у навучальныя планы кандыдацкіх школ уведзены дадатковыя заняткі па пасляокцябрскаму перыяду гісторыі партыі, а таксама арганізован рад лекцый і дакладаў па гісторыі партыі для слухачоў партыйных школ.

Аднак, гэтыя некаторыя зрухі ў пастаноўцы прапаганды яшчэ зусім недастатковы. У рабоце партыйнай асветы ёсць яшчэ многа сур'ёзных недахопаў.

Асноўны недахоп у тым, што заняткі ва многіх партшколах і гуртках вядуцца суха, фармальна, адарвана ад баявых бягучых пытанняў партыйнага жыцця і жыццёвых запросаў комуністаў.

У некатарых гуртках спрабуюць прайсці гэты важнейшы перыяд гісторыі партыі—пасляокцябрскі перыяд—фарсаваным тэмпам, «галопам». Такая гонка немінуча прывядзе да папярова-фармальнага пра-

ходжання праграмы. Няма чаго і гаварыць аб тым, што гэта з'яўляецца шкаднейшаю справай і па сутнасці горшым паўтарэннем у завуаляванай форме памылак мінулых год.

Заняткі ў гуртках гісторыі партыі часта носяць характар фармальнай перадачы фактаў, без ускрыцця іх унутранай сувязі, без увязкі пытанняў гісторыі з бягучай палітыкай партыі, без сувязі з сёнешнім днём, з перспектывамі нашай рэвалюцыі. Такі падход да вывучэння гісторыі партыі немінуча параджае моманты зуброжкі, завучвання без разумення сутнасці справы.

Вось напрыклад, т. Мурах, кіраўнік пачатковай школы ленінізма (завод імя Молатава, Менск), прапрацаваўшы тэму «Аграрна-сялянскае пытанне», не мог у час гутаркі з прапагандыстам вытлумачыць, чаму ліквідацыя кулацтва як класа адбывалася на базе суцэльнай калектывізацыі.

Калі яму паставілі пытанне аб тым, ці могуць у СССР нараджацца хоць і ў нязначнай колькасці новыя капіталістычныя элементы, ён адказаў «не ведаю», а на пытанне, ці чытаў ён аб гэтым у перадавіцы «Праўды», адказаў: «не памятаю». Такі вынік абстрактнай, адарванай ад сёнешняга дня прапрацоўкі важнейшай тэмы аб аграрна-сялянскім пытанні.

У комсамольскім гуртку па гісторыі партыі (завод імя Варашылава—Менск) прапрацоўвалася тэма «Партыя ў гады рэакцыі». У падручніку каротка гаварылася, што ў гэты перыяд агромную работу ў якасці прафесіянальнага рэвалюцыянера вёў Я. М. Свердлоў. Прапагандысту трэба было паказаць, якую агромную ролю ў гісторыі партыі і совецкай улады, асабліва ў першы перыяд арганізацыі пролетарскай дзяржавы, адыграў тав. Свердлоў, будучы адным з лепшых правадыроў-арганізатараў, кіраўнікоў рэвалюцыйнага руху, «які згарэў на рабоце па будаўніцтву партыі і дзяржавы» **(Сталін).**

Ленін гаварыў аб тым, што «тав. Свердлову давялося ў ходзе нашай рэвалюцыі, у яе перамогах, выразіць паўней і больш цэльна, чым каму-б там ні было другому, самыя галоўныя і самыя істотныя рысы пролетарскай рэволюцыі».

На прыкладзе тав. Свердлова трэба было паказаць комсамольцам узор адданасці рэвалюцыянера сваёй справе, узор сапраўднага большэвіка, да якога павінен імкнуцца кожны комуніст і комсамолец. Аднак, прапагандыст тав. Шулякоўскі нічога гэтага не зрабіў. У рэзультаце слухачы яго гуртка нічога не ведаюць аб ролі тав. Свердлова.

Прыводзім гутарку на гэту тэму з комсамолкаю з 1926 года—тав. Шэйн:

— Хто такі тав. Свердлоў?

— Па-мойму, тут не ўказваецца, кім ён быў, але ён большэвік.

— Якая яго роля ў партыі да Окцябра?

— Не памятаю.

— Што вы ведаеце пра Свердлова пасля рэволюцыі?

— Не ведаю.

Вось усе «веды» гэтай комсамолкі пра тав. Свердлова.

Праверка работы раду гурткоў ускрыла наяўнасць элементаў фармалізма, «шкалярства», аказёньвання ў прапагандысцкай рабоце. У найбольш яркай форме выявіліся яны ў партарганізацыях ВНУ, дзе ў прапагандысцкую работу нярэдка цалкам пераносяць метады вучэбнай работы.

У мінулым годзе многія ВНУ не мелі самастойнай сеці партасветы для комуністаў і комсамольцаў, а карысталіся адзінай агульнастудэнцкай.

На занятках партыйных школ ўсё яшчэ часта практыкуецца простая, сухая «чытка» падручніка, або доўгія выказванні самога прапагандыста. Абодва гэтыя «метады»—уродлівыя блізняцы—адсоўваюць на задні план гуртковыя метады і гутаркі, пры якіх самі слухачы праяўляюць максімальную актыўнасць.

Мясцамі сустракаюцца нават такія з'явы, калі прапагандыст практыкуе ў адносінах членаў партыі сістэму «адзнак» за паспяховасць. Напрыклад, у партшколе соўгаса «Палыковічы» (Магілёўскі раён) прапагандыст тав. Згібнёў пасля кожных заняткаў вёў улік з адзнакамі. За прапрацоўку матар'ялаў па гісторыі партыі некаторыя слухачы атрымалі адзнаку «добра».

Некаторыя прапагандысты (напрыклад, т. Сталяроў—кіраўнік кандыдацкай школы ў соўгасе «Старыца», Капыльскага раёна) не толькі не прапрацавалі, але нават нічога не чулі, што сказана ў рашэннях пленума Ленінградскага гаркома аб метадах прапагандысцкай работы.

Многія прапагандысты вельмі мала скарыстоўваюць для заняткаў работы Леніна—Сталіна, рашэнні партыйных з'ездаў, канферэнцый і пленумаў, а яшчэ менш клапоцяцца аб тым, каб прывучыць слухача чытаць і вывучаць работы Леніна—Сталіна, тым часам як гэта адна з сур'ёзнейшых задач прапагандыста. У кожным гуртку ёсць слухачы, якія могуць чытаць Леніна—Сталіна, многія комуністы маюць хатнія бібліятэчкі. Трэба толькі прапагандыстам як след узяцца за гэту справу.

Сур'ёзнейшым недахопам з'яўляецца недастатковая пільнасць пры падборы прапагандыстаў. Толькі гэтым можна вытлумачыць, што па 48 раёнах БССР—32 прапагандысты выключаны з партыі і 27 адхілены ад прапагандысцкай работы за скажэнне і нявытрыманасць у выкладанні. Быў рад выпадкаў, калі ў якасці «прапагандыстаў» падвізаліся ў гуртках па гісторыі партыі трацкісцка-зіноўеўскія элементы, як, напрыклад, былы актыўны зіноўевец Руды (Менск) і інш. У Рагачове «прапагандыст» кандыдацкай школы Пташкоўскі сцвярджаў, што «сялянства ёсць рэакцыйная сіла, бо сяляне, апранутыя ў паліцэйскія і салдацкія шынелі, расстрэльвалі рабочых».

Нярэдка прапагандыстамі працавалі зусім непадрыхтаваныя таварышы. Замест большэвіцкага выхавання яны ўносілі блытаніну ў галаву слухача. Прапагандыст па гісторыі партыі Ласінскі (Дубровенскі раён) даваў такія тлумачэнні слухачам: на пытанне, хто высунуў лозунг «узбагачайцеся», адказаў: «Гэты лозунг высунут партыяй».

Нярэдка прапагандыстамі партыйных школ працуюць кандыдаты партыі і комсамольцы. Паводле даных на 15 мая 35 г. аб складзе прапагандыстаў па 48 раёнах, у 25-ці прапагандыстамі партыйных школ працуюць 49 кандыдатаў партыі і 19 комсамольцаў, у тым ліку: кіруюць гурткамі па гісторыі партыі 9 кандыдатаў і 4 комсамольцы, пачатковымі школамі ленінізма—10 кандыдатаў і 2 комсамольцы і кандыдацкімі школамі—25 кандыдатаў партыі і 10 комсамольцаў і т. д. У Гомелі прапагандыстамі партыйных школ працуюць 2 кандыдаты партыі і 5 комсамольцаў, у Шклоўскім раёне—4 кандыдаты і 4 комсамольцы, ва Ушацкім—3 кандыдаты і 3 комсамольцы, у Капыльскім—2 кандыдаты і 3 комсамольцы і т. д.

У паасобных выпадках выхаваннем комуністаў займаюцца нават беспартыйныя. Напрыклад, у гуртку адміністрацыйна-тэхнічнага персанала на фабрыцы «Окцябр» (Менск) выкладае гісторыю партыі беспартыйны прафесар, які ўжо другі год вядзе ў Менску гурткі па гісторыі партыі. У Халопеніцкім раёне кандыдацкай школай кіруе беспартыйны настаўнік тав. Чэпель.

Лозунг тав. Сталіна—«кадры вырашаюць усё»—з'яўляецца кіруючым і на ўчастку партыйнай прапаганды. Тым часам работа з прапагандысцкімі кадрамі пастаўлена ўсё яшчэ слаба. У Бешанковіцкім, Клічаўскім, Капыльскім і радзе іншых раёнаў прапагандысты прадастаўлены самі сабе, бо семінары прапагандыстаў зусім не працуюць, а ў частцы раёнаў працуюць нездавальняюча.

Склад прапагандысцкіх кадраў даволі слабы. З 2030 прапагандыстаў (па 60 раёнах БССР) 993 чал.—маладыя члены партыі, з партстажам 1928—1932 гг. 478 чал. скончылі толькі кароткатэрміновыя прапагандысцкія курсы, а 405 чал. нічога не скончылі; 1082 чал працуюць прапагандыстамі толькі 1—2 гады. З 405 кіраўнікоў гурткоў па гісторыі партыі 38% (157 чал.)—маладыя члены партыі з 1928-1932 гг., 25 % не маюць ніякай асветы.

Ёсць многа выпадкаў, калі з-за слабой тэарэтычнай падрыхтоўкі прапагандысты знімаюцца з работы. У гэтым годзе па 48 раёнах знята 60 чалавек.

Нарэшце трэба адзначыць агромную цякучасць прапагандысцкага складу. Так, па 48 раёнах па розных прычынах выбыла 397 чал. або 30% першапачатковага складу прапагандыстаў. У некаторых гуртках (гурток гісторыі партыі на заводзе імя Кірава ў Менску) за адзін год змянілася па 4—6 прапагандыстаў. Барацьба за высокую якасць прапаганды, барацьба са «шкалярствам» і фармалізмам у палітычна-выхаваўчай рабоце патрабуе, каб прапагандыст адчуваў адказнасць за сваю работу і з выключнай увагай і клапатлівасцю адносіўся да кожнага слухача, гутарыў з ім, ведаў яго запросы, яго бытавыя ўмовы і т. д. Многія прапагандысты працуюць іменна так, што дае дасканалыя рэзультаты.

Тав. Брук, кіраўнік кандыдацкай школы (фабрыка «Профінтэрн»—Віцебск), старанна рыхтуецца да заняткаў, чытае не толькі падручнік, але і работы Леніна, Сталіна, рэгулярна наведвае семінар прапагандыстаў. Калі слухач яе школы, комуніст Веліканаў, пачаў дрэнна вучыцца, пасіўна адносіцца да заняткаў, яна пашла да яго на кватэру і пагутарыла аб гэтым з ім і яго жонкай. Гэта зрабіла настолькі моцны ўплыў на т. Веліканава, што ён стаў адным з лепшых слухачоў школы.

Рад прапагандыстаў ведае сваіх слухачоў толькі па прозвішчу. Ва ўсім астатнім (як слухач працуе на вытворчасці, якія нясе і як выконвае партыйныя нагрузкі, ці мае хатнюю бібліятэчку і т. д.) слухач застаецца для прапагандыста «фігурай сакрэтнай».

З такімі фармальнымі, казённымі адносінамі прапагандыста да сваіх абавязкаў—прышоў, правёў заняткі, а якасць работы, ідэйны рост кожнага слухача мяне не датычыць,—трэба рашуча пакончыць. Кожны прапагандыст павінен усвядоміць усю сваю адказнасць за гэты ганаровы ўчастак работы, які даручае яму партыя.

* * *

Сець партыйных школ і гурткоў уступіла зараз у адказны перыяд работы. У гуртках па гісторыі партыі разгарнулася вывучэнне пасляокцябрскага перыяда, пачынае разгортвацца работа па падрыхтоўцы і перападрыхтоўцы прапагандысцкіх кадраў. Неабходна забяспечыць паглыбленую прапрацоўку матар'ялу, не дапускаць гонкі і папяровафармальнага праходжання курсу. Трэба рашуча ўдарыць па «летнеканікулярных» настроях, па спробах закончыць работу гурткоў на летні перыяд.

Некаторыя таварышы думаюць, што вывучэнне пасляокцябрскага перыяда—задача настолькі лёгкая, што яе можна вырашыць на працягу аднаго месяца. Гэта шкаднейшыя антыпартыйныя настроі. Іншыя спрабуюць нават падвесці пад гэту апартуністычную ўстаноўку «тэарэтычную» базу. Так, тав. Гайсёнак,—кіраўнік гуртка па гісторыі партыі ў мястэчку Ула, Бешанковіцкага раёна, так думае закончыць сёлета праграму па гісторыі партыі: «Прайду самыя трудныя тэмы да лютаўскай рэволюцыі, а астатнія тэмы дадуцца значна лягчэй, і іх можна будзе прапрацаваць за паўтара месяца».

Хіба гэта не яркі паказчык неразумення прапагандыстам сутнасці справы? У менскім Пед'інстытуце падобныя «гора-тэарэтыкі» разважалі, што гісторыя партыі ёсць «сума эканамічных і палітычных мерапрыемстваў», а паколькі экономпалітыку ўжо вывучалі, то можна ўвесь совецкі перыяд прапрацаваць за 10 дзён, тым больш, што комуністы-студэнты з'яўляюцца сучаснікамі XVI і XVII з'ездаў партыі.

Па такіх разважаннях трэба рашуча ўдарыць, як і па спробах расцягнуць без патрэбы на доўгі тэрмін прапрацоўку тэм, намечаных праграмай.

Адною з умоў, якая ў бягучым навучальным годзе павінна забяспечыць вывучэнне пасляокцябрскага перыяда гісторыі партыі, з'яўляецца календарны план заняткаў школы. Такі план павінна скласці кожная партарганізацыя, каб не пусціць гэтую справу на самацёк. Культпроп ЦК КП(б)Б своечасова даў адпаведныя ўказанні. Аднак большасць гурткоў усё яшчэ не маюць календарных планаў і працуюць «без руля і без вятрыл».

Гурткі, якія закончылі праграму, павінны ў летні перыяд перайсці да больш паглыбленага вывучэння паасобных этапаў пасляокцябрскага перыяда гісторыі партыі, а таксама да вывучэння паасобных твораў Леніна—Сталіна.

Пры вывучэнні пасляокцябрскага перыяда, які мае рашаючае значэнне ў жыцці і рабоце нашай партыі, неабходна асабліва забяспечыць высокую якасць прапаганды.

Райкомы партыі павінны забяспечыць канкрэтнае кіраўніцтва работай кожнага гуртка, папярэдзіўшы якія-б там ні было скажэнні ў прапагандзе.

Таксама неабходна ўзмацніць барацьбу за беларусізацыю марксіцка-ленінскай асветы. Як паказвае праверка, некаторыя прапагандысты не зразумелі ўсёй важнасці рашэння ЦК КП(б)Б аб беларусізацыі марксісцка-ленінскай асветы.

Адной з важнейшых задач, якія стаяць перад партарганізацыямі, павінна быць падрыхтоўка і перападрыхтоўка прапагандысцкіх кадраў. Ад гэтага будзе залежаць поспех далейшай партыйнай вучобы.

Нам патрэбна будзе дадаткова агромная колькасць прапагандыстаў. У 914 кандыдацкіх школах (па 66 раёнах) вучыцца цяпер 8887 членаў і кандыдатаў партыі. Адсюль відаць, з якой напружанасцю павінны працаваць партарганізацыі ў галіне падрыхтоўкі і перападрыхтоўкі прапагандысцкіх кадраў. Тым часам рад раёнаў і прадпрыемстваў абыякава адносяцца да гэтай справы, вельмі неахвотна накіроўваюць таварышоў на прапагандысцкія курсы, няўважліва адбіраюць сярод іх сапраўды прыгодных для прапагандысцкай работы, мяркуючы часта, што калі з камандыраванага і «не выйдзе» прапагандыста, то ўсё-ж такі ён «падвучыцца», забываючы, што пры такім падыходзе да справы прапагандысцкія курсы трацяць сваё мэтавае прызначэнне.

Часам у раёнах ствараюцца 5—10-дзённыя курсы. Зусім ясна, што за такі тэрмін нельга ні падрыхтаваць, ні перападрыхтаваць прапагандыста. Для гэтага неабходна мінімум 1—2 месяцы. Паколькі некаторыя прапагандысты з партыйнага актыва па роду сваёй асноўнай работы не могуць быць адарваны на 1—2 месячныя курсы, для іх трэба стварыць **прапагандысцкія гурткі.** Гэта форма падрыхтоўкі прапагандыстаў павінна быць шырока выкарыстана партарганізацыямі.

ЦК ВКП(б) у сваім апошнім рашэнні рэзка асудзіў «сезоннасць» у прапагандысцкай рабоце:

> «Ліквідацыя «сезоннасці» прапагандысцкай работы павінна пацягнуць за сабой і ліквідацыю сезоннасці ў падрыхтоўцы і перападрыхтоўцы прапагандыстаў і арганізацыю сістэматычнай падрыхтоўкі прапагандыстаў на працягу ўсяго года».

Курсы прапагандыстаў павінны працаваць па праграмах і навучальных планах аддзела партыйнай прапаганды і агітацыі ЦК ВКП(б). Курсам і гурткам па падрыхтоўцы і перападрыхтоўцы прапагандыстаў трэба аддаць максімум увагі.

Неабходна ўдзяліць значна большую ўвагу пытанню падрыхтоўкі прапагандыстаў з больш старых комуністаў. Партарганізацыі павінны ўважлівей падыйсці да падрыхтоўкі культурных **рабочых** прапагандыстаў, а не выязджаць увесь час толькі на «прыходзячых» прапагандыстах са студэнтаў, навуковых работнікаў і т. д. Такія прапагандысты вельмі цякучы, дрэнна ведаюць сваіх слухачоў, часта зрываюць заняткі партшкол.

Завод імя Кірава (Менск) не мае ніводнага рабочага прапагандыста і нікога не хоча пасылаць на летнія прапагандысцкія курсы. А ў гэты-ж час фабрыка «КІМ» (Менск), дзе партарганізацыя амаль у тры разы меншая, вырасціла сваіх рабочых прапагандыстаў, якія кіруюць усімі гурткамі фабрыкі. Адсюль ясна відаць уся бесклапотнасць партарганізацыі завода імя Кірава ў гэтай важнейшай справе.

Прапагандыстаў трэба клапатліва вырошчваць, следуючы ўказанню правадыра партыі тав. Сталіна:

> «Лозунг «кадры вырашаюць усё» патрабуе, каб нашы кіраўнікі праяўлялі самыя клапатлівыя адносіны да нашых работнікаў, да «малых» і «вялікіх», у якой-бы галіне яны ні працавалі, вырошчвалі іх клапатліва, дапамагалі ім, калі яны маюць патрэбу ў падтрыманні, заахвочвалі іх, калі яны паказваюць першыя поспехі, вылучалі іх уперад і т. д.»

Наша партыя заўсёды аддавала вялікую ўвагу пытанням партыйна-выхаваўчай работы. За апошні час гэта ўвага яшчэ больш узмацнілася.

Пастанова ЦК ВКП(б) аб рэарганізацыі культпропа ЦК ВКП(б) і стварэнні 5 аддзелаў, у тым ліку самастойнага аддзела партыйнай прапаганды і агітацыі, пастанова ЦК ВКП(б) «Аб прапагандысцкай рабоце ў бліжэйшы час» мабілізуе партыйныя арганізацыі на далейшае рашучае ўзмацненне партыйна-выхаваўчай работы.

Барацьба за далейшае пераможнае будаўніцтва соцыялістычнага грамадства патрабуе нястомнага ўзбраення комуністаў ведамі гісторыі партыі, бо

> «Той, хто не ведае гісторыі партыі, не ведае гісторыі барацьбы з ухіламі, не ведае, як наша партыя выкоўвала ў барацьбе свае перамогі, не заўсёды можа правільна арыентавацца ў сёнешніх задачах партыі і правільна іх вырашаць» **(«Праўда»).**

---

А. Зюзькоў

# Падняць выкладанне гісторыі большэвізма на належную вышыню

**„Узняць пытанні гісторыі большэвізма на належную вышыню, паставіць справу вывучэння гісторыі нашай партыі на навуковыя, большэвіцкія рэйкі і завастрыць увагу супроць трацкісцкіх і ўсякіх іншых фальсіфікатараў гісторыі нашай партыі, сістэматычна зрываючы з іх маскі" (Сталін).**

Ва ўмовах небывалага вытворчага і культурнага ўздыму Совецкі саюз уступіў у трэці год другой пяцігодкі. Соцыялістычная прамысловасць нашай радзімы ідзе гіганцкімі крокамі ўперад, падымаючыся да вышынь самай перадавой у свеце тэхнікі, нябачанага росквіту дасягае соцыялістычная культура.

Совецкі саюз такіх нябачаных поспехаў здолеў дасягнуць толькі дзякуючы таму, што на чале нашай барацьбы і будаўніцтва стаіць выхаваная Леніным і Сталіным адзіная большэвіцкая партыя, стаяць людзі «асобага складу». Аб нашай партыі, аб комуністах, тав. Сталін у сваёй траурнай прамове, прысвечанай памяці Леніна, на II усесаюзным з'ездзе советаў 26 студзеня 1924 года гаварыў:

> «Мы, комуністы, людзі асобага складу. Мы скроены з асобага матар'ялу. Мы—тыя, якія складаем армію вялікага пралетарскага стратэга, армію тав. Леніна. Няма нічога вышэй, як гонар належаць да гэтай арміі. Няма нічога вышэй, як званне члена партыі, заснавальнікам і кіраўніком якой з'яўляецца тав. Ленін. Не ўсякаму дана быць членам такой партыі. Не ўсякаму дана вытрымаць няўзгоды і буры, звязаныя з членствам у такой партыі. Сыны рабочага класа, сыны галечы і барацьбы, сыны неймавернай нужды і гераічных намаганняў—вось хто, перш за ўсё, павінны быць членамі такой партыі. Вось чаму партыя ленінцаў, партыя комуністаў называецца разам з тым партыяй рабочага класа».

Наша партыя на ўсім працягу сваёй гісторыі высоўвала і ствала бясстрашных барацьбітоў ва ўмовах цёмнай царскай рэакцыі, бясстрашных барацьбітоў на фронтах грамадзянскай вайны, лепшых будаўнікоў нашага соцыялістычнага грамадства. Гэтых барацьбітоў наша партыя выхавала ў барацьбе з усякімі адхіленнямі ад лініі партыі, у барацьбе з апартунізмам справа і «злева», у барацьбе супроць усіх ворагаў рабочага класа. Пачаўшы з невялікай, але моцна згуртаванай групы, сільнай вучэннем Маркса—Энгельса—Леніна—Сталіна,

сільнай геніяльнасцю сваіх правадыроў—Леніна і Сталіна, сільнай сувяззю з масамі, наша партыя вырасла ў самую папулярную сярод працоўных мас усяго свету, у самую любімую пролетарыямі ўсіх краін партыю.

Пачаўшы работу ў перыяд глыбокага падполля, правёўшы на чале мас тры рэволюцыі ў Расіі, наша партыя стала на чале першай у свеце соцыялістычнай дзяржавы, выкаваўшы і адабраўшы кадр моцных большэвікоў—сваіх кіраўнікоў. Гэты шлях, нябачаны ў гісторыі па свайму багаццю, партыя змагла прайсці згуртаванай і моцнай дзякуючы таму, што на чале яе стаялі такія правадыры як Ленін і Сталін, стаяў кадр тых большэвікоў, якія дзесяцігоддзямі ў барацьбе з усякім апартунізмам адбіраліся партыяй для свайго вярхоўнага штаба. У барацьбе супроць народнікаў і эканамістаў, супроць меншавікоў, трацкістаў, супроць ліквідатараў і адзавістаў, супроць нацыяналістаў усіх масцей загартоўвалася наша партыя і адбіраліся яе лепшыя кадры.

На ўсім працягу гісторыі нашай партыі мы выкідалі са сваіх радоў усіх тых, хто не мог «вытрымаць няўзгоды і буры, звязаныя з членствам у такой партыі» **(Сталін),** хто не мог насіць гэта пачэснае званне авангарда пролетарыята, хто скатваўся к апартунізму.

У перыяд паміж лютым і кастрычнікам 1917 года Ленін патрабаваў выключэння з партыі штрэйкбрэхераў і дэзертыраў Каменева і Зіноўева.

Мяснікоў і яго група, трацкісты, зіноўеўскія вырадкі, правыя перараджэнцы, права-лявацкія ўроды, нацыяналісты і інш.—вось тыя, хто былі выкінуты з нашай партыі, ад каго наша партыя ачысцілася. І за гэты-ж перыяд часу наша партыя старанна адбірала тых, хто ўсю сваю дзейнасць накіраваў на ажыццяўленне справы пролетарыята, справы Маркса-Энгельса-Леніна-Сталіна. Гэты кадр адабраных партыяй людзей на чале з яе правадыром і настаўнікам тав. Сталіным і забяспечыў стальное, большэвіцкае адзінства нашай партыі вакол ленінскага Цэнтральнага Камітэта.

Наша краіна дасягнула небывалых поспехаў. Разгромлен апошні капіталістычны клас—кулацтва. Але гісторыя апошніх год цалкам пацвярджае словы тав. Сталіна, што супраціўленне класавага ворага будзе ўзмацняцца па меры росту нашай магутнасці. Чым бліжэй вораг к сваёй пагібелі, тым шалёней яго супраціўленне. Вось чаму тав. Сталін гаварыў, што «рэволюцыйная пільнасць з'яўляецца той самай якасцю, якая асабліва неабходна цяпер большэвікам».

Вораг прымяняе ўсякія метады для таго, каб змагацца супроць нашай партыі і совецкай дзяржавы. Двурушніцтва зрабілася сцягам тых, хто скаціўся ў балота белагвардзейшчыны, скаціўся к арганізацыі, прымяніўшай тэрарыстычныя акты супроць лепшых прадстаўнікоў і кіраўнікоў нашай партыі. Элементы фальшы, элементы двурушніцтва ўжо не раз прымяняліся тымі і іншымі фальсіфікатарамі ці апартуністычнымі групамі і ў мінулым. Як, напрыклад, назваць факт перагавораў Зіноўева за плячмі Леніна з цэнтрыстамі з польскай соцыял-дэмакратыі ў лістападзе 1909 года, перагаворы, накіраваныя супроць большэвікоў, супроць Леніна, як не двурушніцтвам? Хіба можна назваць інакш, чым двурушніцтвам, прымірэнчую палітыку Зіноўева разам са Шляпнікавым у перыяд імперыялістычнай вайны супроць Леніна ў адносінах да групы Бухарына і Радэка?

Такім-жа двурушніцтвам і здрадніцтвам адзначаны і іншыя вы-

ступленні Зіноўева і Каменева супроць нашай партыі і ў перыяд Окцябра і пасля Окцябра. Поўным двурушніцтвам і поўным абманам членаў ленінградскай арганізацыі былі паводзіны зіноўеўска-каменеўскай групы на раённых і 22-й губернскай канферэнцыі ленінградскай партыйнай арганізацыі перад XIV з'ездам нашай партыі. Тады свае фракцыйныя выступленні Каменеў і Зіноўеў прыкрывалі абвінавачваннем кіраўніцтва партыі... у трацкізме!

І гэта было ў той час, калі Зіноўеў і Каменеў ужо ішлі на блок з Троцкім, калі яны рабілі ўжо не адну спробу блакіравацца з Троцкім у барацьбе супроць партыі. Як-жа можна назваць усе гэтыя паводзіны Каменева і Зіноўева, як не подлым двурушніцтвам?

Веданне ўсіх гэтых фактаў, веданне таго, як партыя выкрывала сваіх ворагаў, веданне багацейшай гісторыі нашай партыі дае магчымасць узброіцца супроць усіх і ўсялякіх адхіленняў ад лініі партыі, супроць усякага апартуніста. Гісторыя нашай партыі дае не толькі натхненне на самаадданую работу і на геройства ва ўмовах соцыялістычнага будаўніцтва, гісторыя нашай партыі дае і багацейшы вопыт барацьбы большэвікоў супроць усялякіх метадаў, якія прымяняліся апазіцыйнымі групамі. Вось чаму лепшым узбраеннем супроць ворага з'яўляецца веданне гісторыі нашай партыі.

Гэта тым больш неабходна, што ў нас растуць новыя кадры нашай моладзі, якія ўступілі ў актыўнае палітычнае жыццё ўжо ў апошні перыяд дзейнасці нашай партыі, ужо ў перыяд грандыёзнейшых перамог соцыялістычнага будаўніцтва. Цяпер, як ніколі, паўстае пытанне рэалізацыі гістарычнага ўказання тав. Сталіна аб тым, што «кадры вырашаюць усё». Выхаванне гэтых кадраў, моцная палітычная загартаванасць можа быць намі дасягнута шляхам засваення гісторыі нашай партыі.

Нам неабходна ведаць тую найбольш яркую і багатую старонку з гісторыі чалавецтва, якою з'яўляюцца апошнія дзесяцігоддзі рэволюцыйнага руху ў Расіі, якою з'яўляецца гісторыя нашай партыі.

Вось чаму тав. Кагановіч гаварыў:

> «Няма лепшага вопыту, няма лепшай зброі выхавання нашай моладзі ў духу марксізма-ленінізма, чым гісторыя нашай партыі».

Гісторыя нашай партыі мае велізарнейшае міжнароднае значэнне. Вопыт совецкай дзяржавы, вопыт соцыялістычнага будаўніцтва, прарабляецца ў сусветнай гісторыі ўпершыню.

Таму зусім невыпадкова тая агромная ўвага, якую ўдзялялі і ўдзяляюць правадыры партыі Ленін і Сталін і ўся наша партыя пытанню вывучэння гісторыі большэвізма.

Красавіковы пленум ЦК КП(б)Б у рэзалюцыі «Аб задачах партыйна-арганізацыйнай і палітычна-выхаваўчай работы ў КП(б)Б» запісаў:

> «Для таго, каб узняць усю партыйную работу на больш высокі ўзровень, павысіць рэволюцыйную пільнасць і боездольнасць усіх членаў партыі, ліквідаваць элементы самасупакоенасці і дабрадушша ў паасобных звеннях партыйных арганізацый,—пярвічныя партыйныя арганізацыі, гаркомы і райкомы КП(б)Б павінны забяспечыць **сур'ёзнае палепшанне работы па марксісцка-ленінскаму выхаванню членаў партыі, у асаблівасці па вывучэнню гісторыі партыі».**

Але трэба сказаць, што і ў гэтую галіну вораг імкнецца пралезці, працягнуць свае кадры.

У БССР за апошнія гады, пасля гістарычнага ліста тав. Сталіна ў часопіс «Пролетарская революция» «Аб некаторых пытаннях гісторыі большэвізма», а асабліва за апошнія месяцы, КП(б)Б не мала выкрыла двурушнікаў-трацкістаў, якія, пралезшы ў кадры выкладчыкаў гісторыі нашай партыі, імкнуліся гэту гісторыю фальсіфікаваць. Партыя выкрыла і выгнала двурушніка-трацкіста Югава, які здолеў прабрацца ў Інстытут гісторыі партыі. Партыя выкрыла трацкіста Рыўліна, які, прабраўшыся ў Акадэмію Навук, прыстроіўся загадчыкам аддзела падрыхтоўкі кадраў, і ў апошнія месяцы партыя выкрыла рад трацкістаў у радах гісторыкаў партыі.

Даволі прывесці такі факт, як наяўнасць сярод выкладчыцкага калектыва гісторыкаў партыі такога ярага трацкіста, двурушніка, нядаўна выкрытага партыяй, як Руды, каб паказаць, што яшчэ не знішчана засмечанасць нашых кадраў гісторыкаў партыі.

Гаворачы аб кадрах выкладчыкаў гісторыі партыі, неабходна заўважыць, што часам выкладаць гісторыю партыі пасылаліся людзі, якія не спраўляліся з работай у іншых галінах, або яшчэ горш,—былі зняты з работы. Найлепшы прыклад: у Оршанскім гарадскім рабфаку выкладае гісторыю партыі т. Підарэнка. Тав. Підарэнка, яшчэ будучы студэнтам ВПІ, меў партыйнае спагнанне, а ў 1933 г. быў зняты з работы загадчыка оршанскай райАНА за страту класавай пільнасці, нерэагаванне на класава-варожыя вылазкі ў школах і т. д. і атрымаў вымову. Пасля гэтага Підарэнка быў накіраван у рабфак выкладчыкам гісторыі партыі!

Праўда, гэтыя асобы з'яўляюцца выключэннем сярод выхаванага партыяй цэлага раду моцных і большэвіцкі-вытрыманых выкладчыкаў гісторыі нашай партыі.

Тав. Гікало у сваім артыкуле «Большэвікі Беларусі ў барацьбе за соцыялізм» пісаў:

> «Выходзячы з указання тав. Сталіна аб «спосабах вырошчвання і ўмацавання марксісцкіх кадраў з мясцовых людзей, кадраў, якія могуць служыць самым важным і, у канчатковым выніку, рашаючым аплотам Совецкай улады на акраінах і ў нацрэспубліках», КП(б)Б стварыла моцны касцяк найлепшых большэвікоў беларусаў, яўрэяў, палякаў і інш. Гэтыя большэвікі выхаваліся і загартаваліся ў барацьбе з контррэволюцыйнымі нацыяналістамі, трацкістамі, бундаўцамі, а таксама з элементамі, праяўляючымі гнілы лібералізм у адносінах да невыконваючых дзяржаўныя абавязацельствы».

Гэтыя словы тав. Гікало цалкам адносяцца і да нашых прапагандысцкіх кадраў, у прыватнасці да гісторыкаў партыі. Сотні найлепшых, працуючых над сабою прапагандыстаў партыйнай сеці і нашых навучальных устаноў выхаваны партыяй. Клапатліва вырошчваць гэтыя кадры, узнімаць вышэй іх тэарэтычны ўзровень—задача ўсіх партыйных арганізацый.

Тут вельмі дарэчы будзе напомніць, што вырошчванне гэтых прапагандыстаў патрабуе і ўважлівых адносін да тых або іншых зрываў, памылак, якія дапускаюць прапагандысты. Неабходна адрозніваць сістэму, лінію тых ці іншых двурушнікаў ад выпадковых памылак або зрываў нашых прапагандыстаў.

Разам з тым і рост нашых кадраў патрабуе бязлітаснай барацьбы, выкрыцця двурушнікаў, пралезшых у рады прапагандыстаў. Прыведзеныя вышэй факты гавораць аб тым, што яшчэ і яшчэ раз трэба паглядзець, каму даверана гэта велізарнейшай важнасці справа—справа ідэалагічнай большэвіцкай загартоўкі нашай моладзі.

У сувязі з гэтым неабходна ўзняць пытанне і аб падрыхтоўцы новых кадраў гісторыкаў нашай партыі. Увядзенне выкладання гісторыі нашай партыі ва ВНУ, ВТНУ і сярэдніх навучальных установах, агромная работа па паглыбленню вывучэння гісторыі нашай партыі ў сеці партыйнай асветы патрабуюць вялікай колькасці добра падрыхтаваных і большэвіцкі загартаваных выкладчыкаў.

Галоўнейшым недахопам выкладання гісторыі нашай партыі, асабліва ў сеці партыйнай асветы, з'яўляецца тое, што ў нас амаль кожны год курс гісторыі нашай партыі вывучаецца ў лепшым выпадку да Окцябрскай рэволюцыі, пасляокцябрскі перыяд заставаўся з года ў год недасягаемым перыядам.

Праведзеная культпропам ЦК КП(б)Б праверка раду партыйных арганізацый (Лагойскай, Заслаўскай, Смалявіцкай, Осіповіцкай, Бялыніцкай і інш.) паказвае, што нават гурткі раённага партактыва ў сакавіку і пачатку красавіка сядзелі на тэмах рэволюцыі 1905 года. А ў наступным годзе, як правіла, вывучэнне гісторыі партыі зноў пачалося з народнікаў, зноў праходзілі барацьбу нашай партыі з меншавікамі, эканамістамі, пакідаючы нявывучаным багацейшы вопыт гісторыі партыі ў пасляокцябрскі перыяд. Вядома, вывучэнне даокцябрскага перыяда гісторыі з'яўляецца вельмі важнаю часткай вывучэння ўсёй гісторыі нашай партыі, але ўсё-ж гэта толькі частка, а мы павінны ведаць **усю** гісторыю партыі.

Ленін звярачаў агромную ўвагу на вывучэнне гісторыі барацьбы нашай партыі ў перыяд дыктатуры пролетарыята. Якое агромнейшае значэнне прыдаваў Владзімір Ільіч вывучэнню совецкага перыяда гісторыі нашай партыі, відаць з яго вядомага параўнання ўсяго пройдзенага шляху комуністычнай партыі з «чатырохгадовым курсам вышэйшых навук». Ленін указваў:

> «Калі лічыць па курсах, то першы курс быў з 70-х гадоў мінулага стагоддзя да 1903 года, першапачатковы ўступны перыяд ад народавольніцтва, соцыял-дэмакратыі і 2-га Інтэрнацыянала да большэвізма. Гэта—першы курс.
>
> Другі курс—з 1903 года па 1917 год, тут сур'ёзная падрыхтоўка да рэволюцыі і першы вопыт рэволюцыі 1905 года.
>
> Трэці курс—з 1917 года па 1921 год, **тут чатыры гады, якія па свайму зместу больш, чым першыя 40 год» *)** (падкрэслена намі—А. З.).

Так, чатыры гады—з 1917 па 1921 г.—Ленін ацэньваў, як «па свайму зместу большыя», чым папярэднія 40 год барацьбы рускага пролетарыята і яго партыі. Але гады велізарнейшых перамог соцыялізма, гады, калі партыя практычна прарабіла вопыт пабудовы соцыялізма ў адной краіне, маюць яшчэ больш важнае значэнне. У гэтыя гады партыя разбіла ўсіх тых, хто выступаў супроць вучэння Леніна—Сталіна аб магчымасці пабудовы соцыялізма ў нашай краіне. У гэтыя гады партыя дабілася велізарнейшых перамог. Гісторыя гэтых год—

*) Ленін, т. XXVI, стар. 409.

гэта агромны вопыт барацьбы партыі супроць фракцый і груповак, супроць самай подлай з усіх апазіцый—трацкісцка-зіноўеўскай апазіцыі.

Гісторыя гэтых год—гэта грандыёзнейшы вопыт мабілізацыі мас на абарону сваёй слаўнай радзімы, на гераізм соцыялістычнага будаўніцтва, гэта вопыт выхавання новых кадраў, вопыт перараробкі людзей. Вось чаму вывучэнне гісторыі партыі гэтага перыяда з'яўляецца важнейшай часткай вывучэння ўсёй гісторыі нашай партыі. Вось чаму з усёй вострасцю павінна быць зараз пастаўлена задача вывучэння гісторыі ВКП(б) совецкага перыяда.

Пастанова пленума Ленінградскага гаркома ад 29/III—1935 года з усёй большэвіцкай рэзкасцю гаворыць:

> «У пастаноўцы прапаганды ленінізма не было належным чынам забяспечана вывучэнне гісторыі партыі, якое з'яўляецца ключом да ўсваення вучэння Маркса—Энгельса—Леніна—Сталіна, і **асабліва вывучэнне пасляокцябрскага перыяда дзейнасці нашай партыі, які мае рашаючае значэнне ў жыцці і рабоце партыі. Тым самым аказаўся пакінутым без вывучэння важнейшы перыяд барацьбы партыі, што не магло не прывесці да аслаблення ідэйнай узброенасці членаў партыйнай арганізацыі,** не магло не затрудніць выкрыццё ворагаў партыі» (падкрэслена намі—А. З.).

Але вывучэнне і таго невялікага адрэзку курса гісторыі партыі, якога дасягалі ў кожным гуртку к вясне, усё-ж было звязана з вельмі павярховым, а вельмі часта скажоным выкладаннем гісторыі нашай партыі. Тут пытанне нельга, безумоўна, адрываць ад якасці і падрыхтаванасці саміх выкладчыкаў. Неабходна, каб на курс гісторыі партыі і ў школах і ў гуртках ставіліся праверанныя большэвікі, выганяючы ворагаў партыі з гэтай адказнейшай работы.

Але мы не мала мелі і маем усемагчымага спрашчэнства і скажэнняў і дзякуючы таму, што прапагандысты і выкладчыкі вельмі мала самі падрыхтаваны для вядзення гэтай дысцыпліны.

Узяць хоць-бы выкладанне гісторыі партыі ў оршанскім гарадскім рабфаку, прымацаваным да Горацкага сельскагаспадарчага інстытута. Там выкладае ўпомнены вышэй тав. Підарэнка. Паводле водзываў камісіі, якая даследвала заняткі тав. Підарэнка, апошні ў час сваіх заняткаў дапускаў «цэлы рад недакладных фармулёвак». У лекцыі няма большэвіцкай завостранасці, партыйнай насычанасці, пераважае голая схематыка ў выкладанні. У плане лекцый «Окцябрская рэвалюцыя і тактыка рускіх комуністаў» адсутнічаюць галоўныя асноўныя пытанні гісторыі партыі гэтага перыяда. У плане зусім не гаварылася аб непрымірымай барацьбе партыі на два фронты вакол пытанняў магчымасці перамогі соцыялістычнай рэвалюцыі ў адной краіне. Ні слова не было сказана аб узброеным паўстанні і што гэта ўзброенае паўстанне ішло пад кіраўніцтвам адной большэвіцкай партыі за ўстанаўленне дыктатуры пролетарыята. Адсюль зусім зразумела, што студэнты пры праверцы паказалі вельмі слабыя веды пройдзеных тэм па гісторыі партыі. Так, напрыклад, на пытанне «якою была лютаўская рэволюцыя па свайму соцыяльнаму характару», паследваў адказ—«пролетарская». Тав. Підарэнка паправіў адказваючага студэнта,

што гэта была буржуазна-дэмакратычная рэволюцыя, і пытае далей: «Чаму па свайму характару лютаўская рэволюцыя была буржуазна-дэмакратычнай». Студэнт Раманоўскі адказвае: «Гэта была буржуазна-дэмакратычная рэволюцыя, бо інтарэсы рабочых схадзіліся з інтарэсамі буржуазіі па пытаннях захвату ўлады». Тав. Підарэнка не паправіў студэнта, не растлумачыў яму ўсю няправільнасць яго адказу. Той-жа Раманоўскі перманентную рэволюцыю разумее як «паслядоўную».

Не лепш справа і ў некаторых менскіх навучальных установах. Узяць Зубаўрачэбны тэхнікум, дзе выкладае гісторыю партыі т. Фердэр—комсамолец. Сам ён працуе у Наркамаховы здароўя ў сектары кадраў. Фердэр скончыў Слуцкі педтэхнікум, быў на курсах выкладчыкаў агульнай гісторыі Наркамасветы. Да выкладання гісторыі партыі т. Фердэр зусім не падрыхтаваны. «Лекцыі тав. Фердэр прадстаўляюць агульныя развражанні аб рабочым, сялянскім, нацыянальна-вызваленчым руху, нават без асвятлення фактычнага матар'ялу... Лекцыя не толькі не дала адказаў на высунутыя з пачатку пытанні, але ў ёй шкодна талкаваўся цэлы рад пытанняў». У лекцыі Фердэра аб рэволюцыі 1905 года сапраўды цяжка разабрацца, не кажучы ўжо пра тое, што ў лекцыі барацьба Леніна (большэвікоў) супроць меншавікоў і трацкістаў зводзіцца да пытання аб **«разыходжаннях»** паміж Леніным і Троцкім. Замест паказу сапраўднай барацьбы большэвікоў супроць меншавікоў і трацкістаў, выкрыцця большэвікамі апартунізма адных і другіх, замест паказаў барацьбы за масы, за разгортванне рэволюцыйных баёў, прыпадносяцца, з аднаго боку, «думка Леніна» па таму ці іншаму пытанню, з другога боку,—«думка меншавікоў і Троцкага». Але і гэта прыпадносіцца настолькі схематычна, што наўрад ці застаецца ў студэнтаў упэўненасць, што адзіна правільнай і сапраўды магчымай лініяй рэволюцыі была лінія большэвікоў.

Важнейшыя пытанні гісторыі партыі ў перыяд рэволюцыі 1905 года ў лекцыі або выпадаюць, або т. Фердэр абмяжоўваецца некалькімі фразамі. Так, напрыклад, аб ленінскім плане перарастання буржуазна-дэмакратычнай рэволюцыі ў соцыялістычную, т. Фердэрам сказана літаральна толькі наступнае: «Аб перарастанні адной рэволюцыі ў другую быў распрацаваны Леніным план перарастання». Гэта было сказана ў канцы лекцыі між іншым, і на гэтым лекцыя была закончана.

Зразумела, што і тут студэнты праявілі поўнае няведанне гісторыі партыі. Напрыклад, на пытанне—«калі ўзнік петраградскі «Саюз барацьбы за вызваленне рабочага класа», ніхто са студэнтаў адказаць не змог, а на пытанне, «хто-ж кіраваў Петраградскім саюзам барацьбы», паследваў адказ: «Кіравалі Петраградскім саюзам барацьбы—Кускова, Пракаповіч і Аксельрод». На пытанне, якія плыні соцыял-дэмакратыі былі прадстаўлены на II з'ездзе партыі, паследваў адказ: «Былі эсэры, буржуазія, большэвікі, соцыял-дэмакраты і меншавікі».

Усё гэта прымушае востра паставіць пытанне аб якасці выкладання гісторыі партыі. Сродкам выхавання нашай моладзі гісторыя партыі можа стаць толькі тады, калі выкладаць яе будуць партыйна-вытрыманыя і правераныя прапагандысты, самі дастаткова добра падрыхтаваныя для таго, каб выкладаць гісторыю большэвізма.

Даволі вялікі размах у БССР, як і ва ўсім Совецкім саюзе, набывае ў нас справа завочнага навучання, прычым асноўнай дысцыплінай, выкладаемай нашай сеццю завочнага навучання, з'яўляецца гісторыя

партыі. Беларускі інстытут масавага завочнага навучання партактыва (БІМЗО) ахапіў сваёй сеццю завочнага комвуза і С. П Ш. звыш 700 членаў партыі, вывучаючых гісторыю партыі. Гэта толькі па сеці БІМЗО, акрамя іншых устаноў завочнага навучання.

Пры дастатковай увазе, асабліва мясцовых партыйных арганізацый, завочнае навучанне павінна стаць важнейшым рычагом прапаганды гісторыі партыі. Гэта найбольш гібкая сістэма можа прымяняцца ў самых глухіх, далёкіх кутках краіны, пры ўсякіх умовах. Не выпадкова Ленінградскаму ІМЗО абласком даручыў абслугоўваць партарганізацыю чыгункі, дзе раскіданасць і частыя раз'езды членаў партыі зрываюць стацыянарную вучобу. Не выпадкова таксама Ленінградскае ІМЗО абслугоўвае далёкія куткі Карэліі, куды месяцамі не можа пранікнуць добры дакладчык, але найлепш пранікаюць высокакваліфікаваныя лекцыі па радыё.

Вось чаму гэта справа патрабуе яшчэ большай увагі ў нас, у БССР. БІМЗО не можа пакуль што пахваліцца высокай кваліфікацыяй ні выкладчыкаў, якія праводзяць канферэнцыі завочнікаў на месцы, ні нават рэцэнзентаў. БІМЗО мае кадр адданых сваёй справе гісторыкаў партыі, але ім неабходна яшчэ вялікая работа па павышэнню сваёй кваліфікацыі, каб не адстаць ад узросшых запатрабаванняў завочнікаў. Аднак і гэтых кадраў недастаткова, каб планамерна і глыбока ахапіць усіх жадаючых завочна вывучаць курс гісторыі партыі. Павышэнне кваліфікацыі гісторыкаў партыі, павелічэнне іх колькасці кваліфікаванымі таварышамі, большы кантроль мясцовых партыйных арганізацый над завочнікам—вось што неабходна для таго, каб завочнае вывучэнне гісторыі партыі паставіць на належную вышыню.

Тав. Постышэў у сваёй прамове на пленуме Кіеўскага гаркома КП(б)У 26 лютага востра паставіў пытанне аб украінізацыі ўсёй партасветы і, у прыватнасці, выкладання гісторыі партыі.

Гэта-ж падкрэсліў і сакратар ЦК КП(б)Б т. Валковіч на красавіковым пленуме ЦК КП(б)Б па пытанню беларусізацыі. Тав. Валковіч востра паставіў пытанне аб беларусізацыі марксісцка-ленінскай асветы.

Задача партыйных арганізацый БССР—звярнуць сур'ёзную ўвагу на беларусізацыю выкладання гісторыі партыі. Гэта мае велізарнае значэнне ў справе выхавання партыйных кадраў з мясцовага насельніцтва БССР.

У нас ва ўмовах нацыянальнай рэспублікі агромнае значэнне для выхавання новых большэвіцкіх кадраў мае вывучэнне, побач з агульным курсам гісторыі большэвізма, таксама і гісторыі компартыі Беларусі. Але мы яшчэ да гэтага часу не маем напісанай гісторыі КП(б)Б.

Але тым адказней задача Інстытута гісторыі партыі, якому ЦК КП(б)Б даручыў справу напісання падручніка па гісторыі КП(б)Б. Падручнік па гісторыі КП(б)Б павінен азнаёміць членаў нашай партыі і беспартыйны актыў з гераічным мінулым барацьбы большэвіцкіх арганізацый Беларусі за ленінскую лінію ва ўсіх пытаннях рэвалюцыі, барацьбы КП(б)Б за выкананне плана соцыялістычнага будаўніцтва. Усе апазіцыйныя групоўкі, усе фракцыі ў совецкі перыяд гісторыі нашай партыі выступалі супроць правільнага вырашэння ленінскай партыяй на чале з т. Сталіным нацыянальнага пытання. Усе гэтыя групоўкі абвінавачвалі нашу партыю ў нацыяналізме, але, абвінавачваючы яе, стаялі самі на пазіцыях буржуазных нацыяналістаў.

Правільная бальшэвіцкая ленінска-сталінская лінія, якую праводзіць КП(б)Б, барацьба супроць усякіх груповак, супроць буржуазнага нацыяналізма прывяла БССР да грандыёзных перамог, нямыслімых ва ўмовах капіталістычнага грамадства. На чале гэтай барацьбы стаяла КП(б)Б, у гэтай барацьбе загартоўваліся кадры комуністаў з мясцовага насельніцтва беларусаў, яўрэяў, палякаў.

Гісторыя барацьбы КП(б)Б на ўсім працягу яе існавання дапаможа і ў сучасны момант, побач з агульнай гісторыяй бальшэвізма, выхоўваць і загартоўваць новыя кадры барацьбітоў за справу пралетарыята, новых будаўнікоў соцыялістычнага грамадства. Вось чаму, ЦК нашай партыі, даручаючы Інстытуту гісторыі партыі напісанне падручніка па гісторыі КП(б)Б, падкрэсліў агромную важнасць хутчэйшага завяршэння гэтай работы. Работнікі Інстытута гісторыі партыі павінны ў тэрмін выканаць гэта важнейшае заданне нашага Цэнтральнага Камітэта.

---

**А. Кірэеў**

Нам. сакратара РК КП(б)Б—Смалявічы

# Узняць ідэйна-палітычны ўзровень члена партыі

Прапрацоўка рашэнняў Ленінградскага гаркома і ЦК КП(б)Б праходзіла пры вялікай актыўнасці комуністаў; ускрываліся недахопы ў рабоце партарганізацыі, намячаліся канкрэтныя шляхі перабудовы работы як пярвічных арганізацый, так і бюро райкома.

Зараз ужо для кожнага ясна значнае палепшанне работы пярвічных партарганізацый, комуністаў-адзіночак і раённага камітэта партыі.

Яшчэ не так даўно сувязь з комуністамі, асабліва з адзіночкамі, наладжана была дрэнна. Паасобныя таварышы адчувалі сябе адарванымі ад партыйнага жыцця, не працавалі над павышэннем свайго ідэйна-палітычнага ўзроўню, бо не мелі належнай дапамогі ад РК. Стражук (брыгадзір калгаса «Авангард»), Шляпаў (старшыня калгаса «Чырвоны араты»), Фурсевіч (старшыня Пліскага сельпо), Пратасевіч (старшыня калгаса «Чырвоная зара»), Казлоўскі (старшыня калгаса імя Урыцкага) не адчувалі адказнасці за партыйную вучобу, партзаняткі наведвалі нерэгулярна, не выпісвалі і не чыталі газет. Іх лічылі няздольнымі павысіць свой палітычны ўзровень.

Партсходы склікаліся без грунтоўнай падрыхтоўкі, наспех. Комуністы даведваліся аб сходзе часта за поўгадзіны да пачатку. На партсходах у большасці разглядаліся пытанні, звязаныя з выкананнем гаспадарча-палітычных кампаній і зусім мала ўвагі ўдзялялася пытанням партжыцця і партработы.

Азнаямленне з работай жодзінскай пярвічнай партарганізацыі паказала, што тут на працягу пяці месяцаў (да сакавіка 1935 года) на сходах не абмяркоўвалася ні аднаго пытання аб рабоце членаў і кандыдатаў партыі над сабою. Таксама не палічылі патрэбным прымацаваць да слаба падрыхтаваных палітычна граматных таварышоў. Такое-ж становішча ў слабодскай пярвічнай арганізацыі, верхменскай і інш.

Раённы камітэт партыі пасля рашэння Ленінградскага гаркома асабліва ўважліва працаваў над пытаннем перабудовы работы партыйных арганізацый і ў сувязі з гэтым—работы па партасвеце. У раёне створана дадаткова 12 гурткоў па вывучэнню гісторыі партыі. Пераўкамплектаваны партыйныя школы ў залежнасці ад узроўню палітычнай граматнасці членаў і кандыдатаў партыі на аснове вывучэння кожнага.

Бюро РК на паседжанні зацвердзіла размеркаванне комуністаў па партшколах і гуртках па вывучэнню гісторыі партыі. Рад таварышоў, якія не наведвалі заняткаў, не працавалі над сабой, пераведзены ў

ніжэйшы тып школ. Лапцёнак, Пятроўскі, Андрыянаў, Касценка пераведзены з партшколы па вывучэнню ленінізма ў кандыдацкую. З ніжэйшага тыпу партшколы пераведзены ў вышэйшы тт. Астапковіч, Канашонак, Пратасевіч, Сурба і інш.

Да рэарганізацыі сеці партасветы склад прапагандыстаў не адпавядаў поўнасцю свайму прызначэнню. Прапагандыст жодзінскай пярвічнай партарганізацыі Лабаноўскі—выкладчык гісторыі ў НСШ—палітычна малаграматны, да заняткаў рыхтаваўся няўважліва, даваў слухачам незразумелыя і блытаныя тлумачэнні. На пытанне «У якім годзе і на якім з'ездзе партыя РСДРП(б) перайменавана ў РКП(б)» адказаў: «Зразумела, на XIV партыйным з'ездзе».

Прапагандыст кляніцкай пярвічнай арганізацыі Казлоўскі (старшыня сельсовета) зусім палітычна няграматны і не стараўся павысіць свой палітычны ўзровень. За чатыры месяцы не правёў ні аднаго занятку ў партшколе.

У пярвічнай партарганізацыі МТС за паўгоддзе змянілася 4 прапагандысты. У сувязі з гэтым бюро РК аслабаніла рад прапагандыстаў як нядольных праводзіць ускладзеную на іх работу і замяніла іх адказнымі работнікамі райпартактыва. Заменена і падабрана новых 12 прапагандыстаў. Зараз прапагандыстамі працуюць палітычна граматныя члены партыі, адказныя работнікі: нам. старшыні райвыканкома тав. Сінякоў, райваенком т. Запроўскі, райпракурор т. Бохан, загадчык райфа т. Эльперын, старшыня райспажыўсаюза т. Богуш і інш.

Бюро РК распрацавала календарны план заняткаў, вызначыўшы пэўныя дні для партыйнай асветы. Партыйныя школы і гурткі па вывучэнню гісторыі партыі поўнасцю забяспечаны падручнікамі, распрацавана праграма для заняткаў у партшколах. Прапагандысты карыстаюцца сістэматычнай кансультацыяй пры партгабінеце, а таксама наведваюць гурток па вывучэнню гісторыі партыі, якім кіруе Мельцэр.

Праведзеныя райкомам мерапрыемствы спрыялі карэннаму палепшанню работы партасветы. Знішчаны зрывы заняткаў, значна ўзрос процант наведвання і паспяховасці, слухачы даволі актыўна і ўважліва рыхтуюцца да заняткаў. Пратасевіч, Сурба, Астапковіч і іншыя таварышы, якія раней не вучыліся, зараз прыходзяць на заняткі падрыхтаванымі.

У павышэнні палітычнага і культурнага ўзроўню комуністаў адчуваецца зрух, яны прывучыліся да сістэматычнай чыткі газет і мастацкай літаратуры. Член партыі Шаршульскі (Жодзінская ветка)—вытворчы стаж 42 гады—прачытаў «Дрыгву» Я. Коласа, «Паднятую цаліну» Шолахава, цяпер чытае «Я люблю» Аўдзеенко. Яго прыкладу следуюць члены партыі і беспартыйныя рабочыя веткі. Член партыі Асташковіч гаворыць: «Раней я зусім не чытаў мастацкай літаратуры, а з пачатку гэтага года прачытаў ужо пяць твораў. Я цяпер цвёрда ўпэўнен, што буду сістэматычна чытаць мастацкую і палітычную літаратуру». Рад членаў і кандыдатаў партыі ўкамплектавалі дома бібліятэчкі з партыйна-масавай, мастацкай і сельскагаспадарчай літаратурай.

Пастановы Ленінградскага гаркома і ЦК КП(б)Б паклалі пачатак барацьбе за павышэнне палітычнага і культурнага ўзроўню як членаў партыі, так і беспартыйных. За апошнія тры месяцы 70 калгасаў раёна папоўнілі свае бібліятэчкі новымі кнігамі (кожны на суму ад 500 да 200 руб.). Укамплектавалі бібліятэкі торфзаводы: імя Гея,

«Чырвоны сцяг» і Жодзінская ветка. «Пытанні ленінізма» Сталіна чытаюцца не толькі моладдзю, але старымі рабочымі і калгаснікамі.

Значна павялічылася падпіска на газеты. У студзені выпісвалася 1050 экз. «Звязды», а зараз 1152 экз., падпіска на газету «Рабочий» вырасла за гэты час з 380 экз. у студзені да 463 экз., на «Калгаснік Беларусі»—з 820 да 929 экз., на «Крестьянскую газету»—з 300 экз. да 342 экз., тыраж раённай газеты «Шлях калектывізацыі» падняўся з 3200 экз. да 4000 экз.

Па пастанове бюро райкома партыі з 25 мая па 5 чэрвеня праводзяцца курсы комуністаў-адзіночак па павышэнню ідэйна-палітычнага ўзроўню. Па прыкладу членаў і кандыдатаў партыі павышаюць сваю палітычную граматнасць беспартыйныя рабочыя і калгаснікі. Рабочы торфзавода «Чырвоны сцяг» Міхаленка ў мінулым годзе быў малаграматным, уступіўшы ў спачуваючыя, сур'ёзна ўзяўся за вучобу, добра засвоіў статут і праграму партыі, выпісвае і чытае газеты, акуратна наведвае заняткі партшколы.

Уважліва працуе над сабою спачуваючы Чарняўскі (старшыня калгаса імя Кірава). Сам ён гаворыць, што вельмі многа атрымаў за кароткі час, бо партарганізацыя штодзенна дапамагае як у павышэнні палітычнай граматнасці, так і ў вытворчых пытаннях

Спачуваючы Курэйчык (старшыня калгаса «Святлана») да ўступлення ў спачуваючыя быў зусім няграматным, зараз ліквідаваў няграматнасць, чытае газеты і наведвае партыйныя заняткі.

Пярвічныя арганізацыі Жодзінскай веткі, торфзавода «Чырвоны сцяг» і імя Гея планава праводзяць работу па выхаванню спачуваючых.

Раённы камітэт партыі два разы склікаў спачуваючых у раён для заняткаў. Гэты метад апраўдвае сябе ў тых адносінах, што спачуваючы бліжэй звязваецца з РК, атрымлівае ўказанні і дапамогу ў сваёй рабоце.

Арганізацыя і правядзенне партыйных сходаў непараўнальны з тым, што было два месяцы назад. Партыйныя сходы цяпер заўсёды ўважліва падрыхтоўваюцца, для дапамогі пярвічным арганізацыям выязджаюць інструктары РК. Праводзяцца сходы 9 і 29 чысла кожнага месяца. Парадак дня падрыхтоўваецца прыкладна за 5 дзён да сходу і даводзіцца да ведама ўсіх комуністаў. Пастановы выпрацоўваюцца непасрэдна на сходах на аснове разгорнутых спрэчак. Праверка выканання пастаноў праводзіцца сістэматычна праз інструктароў РК, а таксама паасобных работнікаў райпартактыва сакратаром і нам. сакратара РК. Інструктары райкома сістэматычна наведваюць месца работы комуніста, знаёмяцца з кватэрнымі ўмовамі, дапамагаюць распрацаваць незразумелыя пытанні і тэмы з гісторыі партыі, працаваць над газетай, кнігай. Бюро РК сістэматычна выклікае на паседжанні няўважлівых да партыйнай вучобы. Персанальныя выклікі на бюро вельмі дапамагаюць у разгортванні партвучобы.

Вывучэнне кожнага паасобнага комуніста дало магчымасць раённаму камітэту партыі вылучыць з радавых комуністаў рэзерв у 11 чалавек, з якімі тры разы ў месяц праводзяцца партыйныя заняткі пры партгабінеце.

Уважлівае вывучэнне людзей, своечасовая дапамога ў рабоце спрыялі таму, што пасеўная кампанія ў раёне закончана сёлета на чатыры дні раней чым летась, веснавая сяўба пачалася сёлета на 10 дзён пазней. За час пасеўнай кампаніі райком партыі не вынес ні аднаго пар-

тыйнага спагнання членам і кандыдатам партыі. Замест адміністравання шырока праводзілася масавая выхаваўчая работа.

План гадоўлі маладняка па раёну ў агульным выканан на 108 %. Калгасы, якія ў мінулым годзе адставалі, вышлі ў рады перадавых па веснавой сяўбе. Калгас «Чырвоны Окцябр» (старшыня Шакура), калгас «Гудок» (старшыня Казімірчык), калгас імя Варашылава (старшыня Красуцкі), калгас «Чырвоны сцяг» (старшыня Ліпневіч), калгас «Чырвоны ўдарнік» (старшыня Казлоўскі), калгас «Перамога» (старшыня Позняк), калгас «Полымя» (старшыня Мурашка) і рад іншых паказалі большэвіцкія ўзоры не толькі ў правядзенні веснавой пасеўнай, але і ў выкананні чарговых гаспадарча-палітычных кампаній.

Партыйная арганізацыя раёна мае безумоўныя поспехі ў перабудове работы, але разам з тым і істотныя недахопы, якія неабходна ў самы кароткі тэрмін выправіць. Пярвічная партарганізацыя торфарцелі «XVII з'езд» уважліва не рыхтуецца да партыйных сходаў і лічыць магчымым працаваць па-старому. Пярвічная партарганізацыя Слабодскага сельсовета замест дапамогі комуністу-адзіночцы Андрыянаву абвясціла вымову, на што нават не мае права. Пярвічная партарганізацыя Жодзінскай веткі выключыла з партыі т. Куцько за тое, што адмовіўся пайсці працаваць загадчыкам коннага абоза. Райком зацікавіўся гэтым пытаннем, і аказалася, што т. Куцько на працягу года чатыры разы перакідаўся партыйнай арганізацыяй з адной работы на другую. Райком адмяніў пастанову пярвічнай партарганізацыі, і зараз гэты таварыш нядрэнна працуе загадчыкам конабоза.

На торфзаводзе «Чырвоны сцяг» задумалі падмяніць штодзённую і ўпартую барацьбу з класава-варожымі элементамі кампанейшчынай і шуміхай. На партыйным сходзе дырэктару торфзавода тав. Хаскіну прапанавалі на працягу двух тыдняў поўнасцю ачысціць завод ад класава-варожых і чуждых элементаў.

Вывучэнне людзей, чулыя адносіны да іх, сістэматычная дапамога ў рабоце забяспечылі раённай партыйнай арганізацыі поспехі ў правядзенні гаспадарча-палітычных кампаній. Але гэта ні ў якім разе не павінна нас супакоіць. Неабходна яшчэ больш дапамагчы кожнаму комуністу і спачуваючаму, сістэматычна выхоўваць кадры, здольныя перамагаць любыя труднасці, як таму вучыць нас любімы правадыр тав. Сталін.

---

**Х. Кроненберг**

Загадчык аддзела культпропа
Віцебскага ГК КП(б)Б

# Аб вывучэнні гісторыі партыі

Сістэматычнае і глыбокае вывучэнне гісторыі большэвізма з'яўляецца асноўным сродкам ідэйнага ўзбраення комуністаў, павышэння іх большэвіцкай пільнасці і непрымірымай барацьбы з класавым ворагам за пабудову бяскласавага соцыялістычнага грамадства.

Баявыя ўказанні нашага любімага правадыра тав. Сталіна, рашэнні ЦК ВКП(б) аб стварэнні аддзелаў кіруючых парткадраў, пастановы пленума Ленінградскага гаркома партыі і рашэнні красавіковага пленума ЦК КП(б)Б з усёй большэвіцкай сілай падкрэсліваюць задачы партыйна-арганізацыйнай і палітычна-выхаваўчай работы. Гэтыя сталінскія ўказанні і рашэнні пленумаў маюць выключна важнае значэнне для ўсяго жыцця партыі і краіны пролетарскай дыктатуры і забяспечваюць высокую якасць работы на ўсіх участках соцыялістычнага будаўніцтва.

Тав. Сталін—геніяльны прадаўжальнік вялікай справы Маркса—Леніна—заўсёды вучыць нас таму, што большэвіцкае ідэйнае ўзбраенне кожнага партыйца, ідэйная палітыка-выхаваўчая і арганізацыйна-партыйная работа кожнай партарганізацыі была і з'яўляецца пярвейшай і важнейшай справай усёй партыі і кожнага комуніста, кожнага партыйнага работніка паасобку.

У сваім гістарычным дакладзе на XVII партыйным з'ездзе тав. Сталін даў разгорнутую праграму большэвіцкай дзейнасці, вызначыў галоўныя задачы нашай партыі ў галіне ідэйна-палітычнай работы:

«Нашы задачы ў галіне ідэйна-палітычнай работы:

1) Падняць тэарэтычны ўзровень партыі на належную вышыню;
2) Узмацніць ідэалагічную работу ва ўсіх звеннях партыі;
3) Весці нястомную прапаганду ленінізма ў радах партыі;
4) Выхоўваць партарганізацыі і акружаючы іх беспартыйны актыў у духу ленінскага інтэрнацыяналізма;
5) Не замазваць, а крытыкаваць смела адхіленні некаторых таварышоў ад марксізма-ленінізма;
6) Сістэматычна выкрываць ідэалогію і рэшткі ідэалогіі варожых ленінізму плыней».

Уся партыя ўзялася за баявое большэвіцкае выкананне гэтых сталінскіх указанняў, прынятых XVII партыйным з'ездам, як закон для нашай партыі.

Рашэннем Ленінградскага пленума ГК і красавіковага пленума

ЦК КП(б)Б адзначана, што гэтыя сталінскія ўказанні яшчэ далёка не выкананы, асабліва ў справе ідэйна-палітычнай узброенасці комуністаў. У пастаноўцы прапаганды ленінізма не было належным чынам забяспечана вывучэнне гісторыі партыі наогул, а тым больш—пасляокцябрскага перыяда, які мае рашаючае значэнне ў жыцці і рабоце партыі. Гэта не магло не прывесці да аслаблення ідэйнай узброенасці членаў партыйнай арганізацыі, не магло не затрудніць выкрыцця ворагаў партыі.

Глыбокае і ўсебаковае вывучэнне гісторыі партыі ўзбройвае ленінска-сталінскай тэорыяй, дае магчымасць разабрацца ў бягучай палітыцы нашай партыі, вучыць па-большэвіцку выкрываць класавага ворага, якой-бы маскаю ён ні прыкрываўся.

Гісторыя нашай большэвіцкай партыі, як гаворыць Ленін, «па багаццю вопыту не мае сабе роўнай у свеце». Наша партыя з гонарам адстаяла ў напружанай барацьбе са шматлікімі ворагамі рабочага класа вялікі сцяг рэволюцыйнага вучэння Маркса—Леніна—Сталіна і пранесла яго незаплямленым праз дзесяцігоддзі самай жорсткай класавай барацьбы. Іменна ў гэтай барацьбе выкоўвалася жалезная дысцыпліна і адзінства радоў партыі, мацнела воля к перамозе, адточвалася і загартоўвалася большэвіцкая класавая пільнасць, рэволюцыйнасць і непрымірымасць супроць усіх ворагаў партыі і рабочага класа, супроць усіх відаў апартунізма.

Як-жа віцебская партыйная арганізацыя перабудавалася для глыбокага вывучэння гісторыі партыі?

З года ў год гурткі па гісторыі партыі, вячэрнія соўпартшколы на прадпрыемствах ніколі не канчалі праграмы. Па-першае, навучальны год пачынаўся ў кастрычніку-лістападзе, па-другое,—увесь час вывучэння гісторыі партыі аддавалі на перыяд адраджэння і афармлення большэвізма, партыя ў гады рэволюцыі пятага года. На гэтым і канчаліся заняткі. К таму-ж у сеці партыйнай асветы вельмі мала карысталіся вывучэннем гісторыі партыі па першакрыніцах, такім чынам выхаванне комуністаў было вельмі нізкае.

Пасля рашэння пленума Ленінградскага гаркома і красавіковага пленума ЦК КП(б)Б, мы перагледзелі ўсю работу партшкол.

Асноўная частка партшкол і гурткоў па вывучэнню гісторыі партыі к таму часу ўжо заканчвала па праграме перадокцябрскі перыяд і прыступала да вывучэння пасляокцябрскага перыяда. Частка школ значна адставала. У сувязі з указаннямі пленума аб вывучэнні гісторыі партыі ўсе партшколы і гурткі былі пераведзены на вывучэнне пасляокцябрскага перыяда па першакрыніцах—творах Леніна—Сталіна. Такім чынам перабудавана была работа і пропсемінара.

Непасрэдным вывучэннем гісторыі партыі ахоплена па гораду і раёну каля 1500 чалавек, астатнія комуністы вучацца ў кандыдацкіх школах і зараз таксама пераходзяць да прапрацоўкі дадатковых тэм к падручніку па пытаннях гісторыі партыі. Кожная тэма перад заняткамі партшколы ці гуртка папярэдне прапрацоўваецца з прапагандыстамі на пропсемінарах.

Наколькі ўзнялася зацікаўленасць комуністаў у вывучэнні гісторыі партыі пасляокцябрскага перыяда па творах Леніна—Сталіна, можна меркаваць па водзывах прапагандыстаў і слухачоў. Прапагандыст базавай вячэрняй соўпартшколы т. Хайкін гаворыць: «Перабудова партвучобы, згодна апошнім рашэнням нашай партыі, дапамагае нам лепш вывучыць гісторыю партыі, асабліва совецкага перыяда.

Большасць слухачоў звычайна вывучалі гісторыю партыі да 1905 года, а ў лепшым выпадку—да 1917. Зараз зусім іншае. Узяць, напрыклад, тэму «Бальшэвізм у перыяд грамадзянскай вайны і ваеннага камунізма». Многа часу мы аддалі прапрацоўцы і абгаварэнню ролі тав. Сталіна ў грамадзянскай вайне, гэта дапамагло слухачам яшчэ больш уявіць усю веліч правадыра нашай партыі, як найвялікшага палкаводца пролетарскай рэволюцыі. Слухач Дусевіч (член партыі з 1930 г.) заявіў: «Да гэтага часу я не ведаў апартунізма «левых» у перыяд Брэста, зараз я ведаю нават соцыяльныя карэнні «левых», ведаю, што за аб'яўленне вайны германскаму імперыялізму стаялі тады «левыя» трацкісты, меншавікі, эсэры і буржуазія. Але партыя Леніна—Сталіна змагалася і перамагла хістанні «левых».

Прапрацоўку гэтай тэмы па артыкулах Леніна «О революционной фразе», «Странное и чудовищное», «О левом ребячестве и мелкобуржуазности», слухачы вельмі добра зразумелі і пераканаліся ў тым, што ідэалогія «левых»—гэта «ідэалогія дробнага ашалелага буржуа».

Слухач т. Даўганскі (пераведзены ў кандыдаты па чыстцы партыі) гаворыць: «Ленін—Сталін у барацьбе з трацкізмам у перыяд профсаюзнай дыскусіі лічылі, што профсаюзная дыскусія 1920—1921 гг. адлюстроўвала не столькі разнагалоссі па пытаннях работы профсаюзаў, колькі гаварыла аб самым механізме, самай аснове дыктатуры пролетарыята, аб узаемаадносінах рабочага класа і сялянства ў новых умовах». Па гэтай тэме былі прапрацаваны артыкулы Леніна—«Яшчэ раз аб профсаюзах і аб бягучым моманце», «Крызіс партыі», «Нашы разнагалоссі», Сталіна—«Аб апазіцыі». Гэтыя матар'ялы выклікалі выключную зацікаўленасць слухачоў. Тав. Даўганскі ўзмоцнена рыхтуецца да пераводу ў члены партыі.

Трэба адзначыць, што некаторыя прапагандысты недаацанілі важнасці вывучэння класікаў марксізма-ленінізма пры прапрацоўцы гісторыі партыі, моў «цяжка і недаступна будзе зразумець слухачам» і т. д. Няма чаго даказваць, што такія гора-прапагандысты ў корані недаацэньваюць агромнае значэнне першакрыніц Леніна—Сталіна для глыбокага вывучэння гісторыі партыі. Работніца Белутыля т. Лебедзева (член партыі з 1932 г.) прышла ў партшколу, вельмі слаба разбіраючыся не толькі ў гісторыі партыі, але нават у элементарных пытаннях палітграматы. Зараз яна значна ўзрасла. З поваду прачытанага—«Пытанні ленінізма» Сталіна, «Палітыка партыі на вёсцы», з матар'ялаў «Да вынікаў 17 партканферэнцыі» яна гаворыць, што ўсё добра засвоіла і многае з таго, чаго раней не ведала, цяпер стала зразумелым.

Пры вывучэнні совецкага перыяда перад слухачамі ярка праходзіць рад этапаў у гісторыі нашай партыі, становіцца ясна, чаму ўзмацнялася супраціўленне класавых ворагаў пролетарыята і іх агентуры і чаму «паварот небяспечны для тых, хто нямоцна сядзіць у партыйнай цялежцы» (**Сталін**).

Тэарэтычныя канферэнцыі, па вывучэнню гісторыі партыі, праведзеныя ў базавай соўпартшколе і буйных прадпрыемствах горада, паказалі вялікую зацікаўленасць слухачоў. Аб гэтым гаворыць іх актыўнасць. У базавай СПШ з 2-х груп выказалася 35 чалавек. Адчуваецца, што за час вучобы людзі палітычна выраслі, хоць большасць слухачоў базавай школы ўпершыню вывучаюць гісторыю партыі.

Рад слухачоў правільна адказалі на пастаўленыя ім вузлавыя пы-

танні. Член партыі т. Кавалёў (трамвай) правільна расказаў аб трацкісцка-зіноўеўскім блоку, які адлюстроўваў нездаволенасць і супраціўленне класава-варожых элементаў рэжыму пролетарскай дыктатуры.

Член партыі т. Чэчык гаворыць: «Да гэтага часу я чуў, але не разумеў сутнасці контррэволюцыйнай тэорыі Троцкага «аб перманентнай рэволюцыі». Цяпер я добра разбіраюся ў тым, што «перманентная рэволюцыя» азначае не толькі недаацэнку рэволюцыйнай сілы сялянства, але і здольнасці пролетарыята весці за сабою сялянства ў рэволюцыю. Але-ж у нашай краіне перамог соцыялізм. Саюз рабочага класа і працоўнага сялянства мацнеў на ўсіх этапах рэволюцыі пад кіраўніцтвам партыі і нашага правадыра тав. Сталіна. Цяпер мне таксама зусім ясна, чаму трацкізм стаў перадавым атрадам контррэволюцыйнай буржуазіі».

Члены партыі тт. Пасылкін, Левін, Рубінштэйн (Швейпромсаюз) вучацца дрэнна, нерэгулярна наведваюць базавую СПШ, першакрыніцы амаль не чытаюць, блытана адказваюць на пытанні.

Для кіраўніцтва новаарганізаванымі гурткамі рашэннем бюро гаркома прыцягнуты таварышы з кіруючага горпартактыва і іншыя кіруючыя работнікі, якія маюць дастатковую падрыхтоўку. Сакратар гаркома т. Жураўлёў будзе кансультаваць у доме партактыва прапагандыстаў і слухачоў па пытаннях гісторыі партыі і партбудаўніцтва. Зараз у нас пры доме партактыва рэгулярна тры разы ў месяц па 6 гадзін у дзень працуе шэсць гурткоў, дзе займаюцца дырэктары, сакратары парткомаў, парторгі паасобных прадпрыемстваў, старшыні фабкомаў і іншыя работнікі з горпартактыва.

Не гледзячы на станоўчыя прыклады ў пастаноўцы вывучэння гісторыі партыі («Профінтэрн», «Сцяг індустрыялізацыі», «Акулярная» і інш.), у радзе партшкол яшчэ ёсць рэшткі «шкалярства», нікому непатрэбнай «зуброжкі», няма належнага кантролю за работай школ і якасцю выкладання (Шчоткамбінат, Лесазавод № 13, Воднікі, «КІМ», «Дзвіна»), паасобныя сакратары парткомаў вельмі мала клапоцяцца аб палепшанні ўмоў работы школ і забяспечанні большэвіцкай якасці ў вывучэнні гісторыі нашай партыі.

Гарком партыі моцна змагаецца з гэтымі недахопамі. Бюро заслухоўвае інфармацыі цэхпарторгаў, прапагандыстаў, спачуваючых аб іх рабоце. Гарком партыі прымае рад мер для палепшання работы па выхаванню і павышэнню авангарднай ролі комуніста.

**Г. Шмідт**

**Заг. партгабінета фанернага завода імя Кірава**

# За ўсваенне асноў марксізма-ленінізма

Рашэнне XVII партыйнага з'езда запісана новым пунктам у статуце нашай большэвіцкай партыі:

«Безустанна працаваць над павышэннем сваёй ідэйнай узброенасці, над усваеннем асноў марксізма-ленінізма, важнейшых палітычных і арганізацыйных рашэнняў партыі і раз'ясняць іх беспартыйным масам».

Партвучоба—адзін з асноўных відаў выхавання комуніста—была ў нас самым адсталым участкам. Члены і кандытаты партыі адсоўвалі яе на задні план і вышуквалі ўсякія прычыны, абы толькі не ісці на заняткі.

Парткамітэт займаўся партвучобай толькі спачатку арганізацыі і ўкамплектавання партшкол, а ў далейшым справа ішла самацёкам. Магчыма, што прычынай гэтага была частая змена на заводзе сакратароў парткомаў. За адзін толькі 1934 год змянілася трое сакратароў. Нельга прыпомніць выпадку, каб зрыўшчыкі партвучобы прыцягваліся да партыйнай адказнасці. Напрыклад, на парткоме не раз стаяла пытанне аб рабоце ЗРК, старшыня якога Рафцін мае спагнанне, пераведзен з членаў у кандыдаты партыі, сістэматычна зрывае партвучобу. Аднак, справаздачы самога Рафціна не заслухоўвалі.

Трэба доўга пашукаць, каб знайсці комуніста, скончыўшага хоцьбы соўпартшколу. Тым часам у партарганізацыі ёсць партыйцы з 5—7-гадовым стажам. Але многія з іх топчуцца на адным месцы.

Камісія па чыстцы ў свой час указала на слабасць ідэйна-палітычнай узброенасці нашай партарганізацыі. У кандыдаты было тады пераведзена 4 чал., у спачуваючыя—7 чал.

Пасля рашэнняў XVII партз'езда адчуваецца значны пералом. Упершыню пераведзены ў комвуз 14 чал. скончыўшых соўпартшколу, з кандыдацкай у соўпартшколу перашло 11 чал., кандыдацкаю школай ахоплена 32 чал. Соцспаборніцтва паміж комуністамі высунула ў рады выдатнікаў партвучобы такіх таварышоў, як Еліф, Малкін, Ляшкевіч, Балотнікаў, і інш. Гэтыя таварышы, на падставе ўказанняў XVII партз'езда аб усваенні асноў марксізма-ленінізма, палітычных і арганізацыйных рашэнняў партыі, абавязаліся перадаць свае веды беспартыйным масам. Яны-ж з'яўляюцца лепшымі паліт'інфарматарамі ў цэху сярод рабочых.

Арганізаваны на нашым заводзе партгабінет дапаможа яшчэ лепшаму выхаванню комуністаў, забяспечыць іх літаратурай. За апошні час праведзена праверка комуністаў на даму. Выяўлена, што 35 таварышоў набылі ў свае бібліятэчкі: гісторыю партыі ў 2-х частках, «Пытанні ленінізма», па 2—3 томы Леніна, матар'ялы XVII партз'езда і VII з'езда советаў, статут і праграму партыі і інш. літаратуру.

Адзін з галоўных недахопаў нашай работы—недастатковае засваенне пройдзеных тэм, слабая работа слухачоў па-за школай. Прычыны—адсутнасць патрэбнай колькасці дапаможнікаў («Палітграматы» Інгулава—4 экз. на 32 слухачоў). Бабруйскае аддзяленне ДВБ і ОГИЗ недастатковa забяспечваюць падручнікамі, хоць-бы па гісторыі партыі—Кнорына і інш.

Цяпер праз партгабінет мы здолеем лепш наладзіць справу падрыхтоўкі і выхавання комуністаў, арганізуючы кансультацыі і лекцыі на палітычныя тэмы.

Комуністы фанернага завода імя Кірава, узбройваючыся вучэннем Маркса—Энгельса—Леніна—Сталіна, шырока разгарнуўшы тэхвучобу, соцспаборніцтва і ўдарніцтва, вывелі сёлета свой завод у рады перадавых фанерных заводаў Беларусі ў выкананні промфінплана па ўсіх паказчыках.

Рост свядомасці рабочага класа патрабуе ад партарганізацыі завода безупыннай работы над павышэннем ідэйна-палітычнага ўзроўню комуністаў, як авангарда працоўных мас.

**П. Хадасевіч**

Сакратар Менгархома,
заг. аддзелам партхадраў

# Партыйны сход—школа большэвізма

Партыя не раз падкрэслівала выключна важнае палітычнае значэнне партыйных сходаў у справе большэвіцкага выхавання членаў і кандыдатаў партыі.

«Член партыі навучаецца і павінен навучацца на партыйных сходах большэвізму не менш, калі не больш, чым у партыйнай школе».

«Большэвік—не школьнік, ён выхоўваецца палітычна, яго школьная вучоба павінна спалучацца з палітыкай і практыкай штодзеннай барацьбы. Яго трэба ідэйна ўзбройваць і ў школе і на партсходзе» **(Кагановіч).**

Каб добра падрыхтаваць і правесці партыйны сход, трэба загадзя прадумаць і падабраць абвестку дня, якая цікавіць членаў і кандыдатаў партыі, садзейнічае іх ідэйнаму росту і большэвіцкай загартаванасці. Цэхавы партарганізатар, сакратар парткома павінен папярэдне пагутарыць з комуністамі і з унесеных імі пытанняў выбраць найбольш важныя для абгаварэння на партсходзе.

Гэта, безумоўна, не значыць, што сакратар парткома і цэхавы партарганізатар павінны карыстацца выключна такімі метадамі падбору абвесткі дня. На партсходах трэба ставіць пытанні, якія выцякаюць з дырэктыў вышэйстаячых партыйных органаў, з кіруючых матар'ялаў партыйнага друку, прыстасоўна да ўмоў сваёй партыйнай арганізацыі.

Абвестку дня партыйнага сходу сакратар парткома, цэхпарторг абавязан не пазней як за 4—5 дзён абвясціць кожнаму комуністу, канкрэтна ўказаўшы, як падрыхтавацца да сходу, дапамагчы падабраць неабходныя матар'ялы і літаратуру, даць пэўныя партыйныя даручэнні, улічваючы палітычнае развіццё і запатрабаванні кожнага данага таварыша. Трэба дабівацца пры гэтым, каб кожны комуніст добра зразумеў змест абвесткі дня і сваю ролю ў падрыхтоўцы. Да партыйнага сходу павінна рыхтавацца ўся партыйная арганізацыя.

Трэба стварыць і культурныя ўмовы для правядзення партыйнага сходу. Можна падабраць добрую абвестку дня, правесці вялікую падрыхтоўчую работу, але не забяспечыць пры гэтым культурна абсталяванага памяшкання (чыстата, крэслы, вешалка, буфет, апал, асвятленне). Ясна, што пры такіх умовах трудна будзе праводзіць сход і атрымаць патрэбныя палітычныя вынікі. На жаль, такія факты яшчэ вельмі часты. Партыйныя сходы праводзяцца адразу пасля

работы ў брудным, неацепленым памяшканні, няма дзе раздзецца і сесці, а сход бывае зацягваецца надоўга.

Большасць партыйных арганізацый, трэба сказаць, дабіліся значнага палепшання ў гэтай справе.

У парадку абмену падзелімся вопытам правядзення закрытых партыйных сходаў за апошні час.

Для прапрацоўкі рашэнняў пленума Ленінградскага гаркома ВКП(б) і красавіковага пленума ЦК КП(б)Б мы правялі закрытыя партыйныя сходы ва ўсіх пярвічных партарганізацыях.

Аддзел парткадраў склікаў інструкцыйную нараду сакратароў парткомаў і вылучыў групу кіруючага партыйнага актыва для дапамогі партыйным арганізацыям у падрыхтоўцы і правядзенні партдня.

Мы ўзялі ўстаноўку на тое, каб прапрацаваць рашэнні пленума з кожным членам і кандыдатам партыі. Найперш яны былі прапрацаваны ва ўсіх цэхавых і групавых партарганізацыях. Пасля гэтага, члены парткома і партарганізатары прапрацоўвалі з кожным камуністам, разбіўшы іх па групах у 5—7 чал. адпаведна з палітычным узроўнем кожнага.

У пярвічных партарганізацыях брыгады партыйцаў праводзілі праверку ўнутрыпартыйнай работы, арганізавалі збор канкрэтных прапаноў для яе перабудовы, выпусцілі спецыяльныя нумары насценных газет і шматтыражкі. Усё гэта забяспечыла ў большасці партарганізацый выключную актыўнасць, глыбокае і дзелавое абгаварэнне стану ўнутрыпартыйнай работы і прыманне канкрэтных прапаноў ва ўмовах кожнай нізавой партыйнай арганізацыі.

На заводзе «Большэвік» у спрэчках запісалася 60 чалавек, выступіла 37, з якіх 8 раней не выступалі на агульназаводскіх партыйных сходах. Цікавы вопыт быў праведзен пры прыняцці рэзалюцыі. Да гэтага часу практыкаваўся метад галасавання загадзя падрыхтаванай парткомам рэзалюцыі, якая звычайна прымалася без усякага абгаварэння. А на даным сходзе прэзідыум запісваў усе канкрэтныя прапановы выступаўшых у спрэчках і ў заключэнні галасаваў кожную паасобку. Такім чынам былі прыняты канкрэтныя прапановы, бо пры абгаварэнні пунктаў рэзалюцыі, кожны член партыі адчуваў адказнасць за свае прапановы, бачыў, што да іх уважліва прыслухоўваюцца.

На фабрыцы «КІМ» было сабрана 54 прапановы, на падставе якіх partком склаў праект пастановы партыйнага сходу.

У парадку падрыхтоўкі да партдня партком правёў спецыяльную нараду слухачоў партыйнай сеці па пытанню аб метадах выкладання і засваяемасці. На цэхавых партсходах і парткоме паасобныя члены і кандыдаты партыі інфармавалі аб тым, як яны рыхтуюцца да партдня.

На партсходзе праяўлена была выключная дзелавая актыўнасць— з 46 камуністаў выказалася 23. У спрэчках закраналіся ўнутрыпартыйныя пытанні, а гаспадарчыя абгаварваліся з пункту погляду пастаноўкі партмасавай работы.

Да партыйнага сходу партком абследваў работу камуністаў над павышэннем свайго палітычнага ўзроўню, на падставе чаго дапамагае ім камплектаваць свае бібліятэчкі (у першую чаргу—статут і праграма партыі, «Пытанні ленінізма» Сталіна, кнігі па гісторыі партыі і некаторыя навінкі з мастацкай літаратуры). Такое-ж рашэнне прынята парткомам фабрыкі «Окцябр» і некаторымі іншымі партарганізацыя-

мі. Гэта мерапрыемства заслугоўвае асаблівай увагі ўсіх партыйных арганізацый.

Некаторыя пярвічныя партарганізацыі ўсё яшчэ не зразумелі палітычнага значэння апошніх рашэнняў партыі аб унутрыпартыйнай рабоце, фармальна аднесліся да падрыхтоўкі і правядзення партдня.

Вось як ацэньвае праведзены партдзень сакратар парткома Наркомунгаса тав. Лунец: «Не гледзячы на тое, што мы правялі папярэднюю работу з актывам, усё-ж сход паказаў, што патрэбных вынікаў мы не атрымалі. Актыўнасць на гэтым партсходзе была ніжэй, чым на папярэдніх (выказалася 7 чалавек). З прычыны выключна дрэннай падрыхтоўкі на самым партсходзе выступіла 7 «штатных» прамоўцаў, радавыя комуністы не былі падрыхтаваны. Замест канкрэтных прапаноў партсход даручыў прэзідыуму на аснове спрэчак скласці рэзалюцыю. Такім чынам, на самым сходзе ніякіх рашэнняў не было прынята. У дадатак, як потым выяснілася, на сходзе пратаколу не вялі, і парткому прышлося наспех скласці агульную рэзалюцыю».

У партарганізацыі ЦВК партыйны сход правялі без усякай падрыхтоўкі, запрасіўшы комсамольцаў, курсантаў, якія не знаходзіліся на партыйным уліку.

На сходзе заняліся агульнымі размовамі, а рэзалюцыю даручылі скласці парткому. Некалькі членаў парткома склалі агульную дэкларацыйную рэзалюцыю і, не зацвердзіўшы, выдалі яе за дакумент агульнага партыйнага сходу. У сувязі з гэтым сакратарыят гаркома прымушан быў прызнаць падрыхтоўку і правядзенне партыйных сходаў у партарганізацыях Наркомунгаса і ЦВК нездавальняючымі і прапанаваў гэтым партарганізацыям прапрацаваць пытанні перабудовы партыйна-арганізацыйнай і палітычна-выхаваўчай работы ў другі раз.

Большасць партыйных арганізацый прынялі ў асноўным канкрэтныя пастановы на партсходах, але ўсё-ж не адмовіліся цалкам ад агульна-дэкларацыйных пунктаў.

Партарганізацыя фабрыкі імя Кагановіча прыняла такія прапановы:

«Сход адзначае выключную адказнасць кожнага комуніста за выкананне рашэнняў вышэйстаячых партыйных органаў, партсходаў і партгруп».

«Усім парторгам палепшыць пастаноўку работы са спачуваючымі, работы прымацаваных комуністаў да спачуваючых і т. д.»

«Парткому, парторгам шчыльна заняцца работай комсамольскай арганізацыі».

У партарганізацыі завода «Ланцугі Галля»:

«Парткому выявіць (?) прычыны дрэннай падрыхтоўкі паасобных таварышоў і да нежадаючых павысіць свой ідэйна-палітычны ўзровень прыняць суровыя меры».

«Лічыць, што на заводзе амаль няма членаў партыі, працуючых у цэхах, прасіць гарком аб умацаванні членамі партыі непасрэдна для работы ў цэху»,

У партарганізацыі Электрастанцыі:

«Галоўным у рабоце партгруп лічыць: арганізацыю і наладжванне выхаваўчай работы з кожным комуністам, уцягненне ўсіх членаў і кандыдатаў партыі ў актыўную работу і т. д.» (замест таго, каб запісаць як, калі і што трэба зрабіць).

«Як у парткоме, так і ў партгрупах мець дакладны ўлік нагрузкі комуністаў».

«Комуністаў, якія не спраўляюцца з работай, як правіла, ставіць на нізавую работу, дапамагаючы ім засвоіць даную работу».

У партарганізацыі завода імя Кірава:

«Асноўны ўпор у рабоце парторгаў і парткома павінен быць зроблен на дыферэнцыяваную работу з кожным комуністам, і ў аснову плана работы парткома і парторгаў павінна быць пакладзена карэннае палепшанне справы вырошчвання і размеркавання партыйных кадраў».

Станоўчы вопыт у правядзенні партыйных дзён мае фабрыка «Окцябр».

Партарганізацыя 11 мая правяла ў цэхах партыйны дзень па розных унутрыпартыйных пытаннях.

У цэхавай партгрупе тав. Грыншпана парторг брыгады тав. Цукерман падрыхтавала даклад на тэму: «Як комуністы ў цэху працуюць са спачуваючымі», а другі парторг т. Шульман—«Як комуністы цэха чытаюць газеты і мастацкую літаратуру».

У цэхавай партгрупе т. Гольдберга парторг брыгады т. Фрыдберг зрабіў даклад аб тым, «Як комуністы цэха працуюць з беспартыйным актывам», а парторг брыгады т. Лось—«Як комуністы цэха працуюць над павышэннем свайго палітычнага ўзроўню».

У цэхавай партарганізацыі т. Каплан парторг брыгады т. Штэрн далажыў аб тым, «Як комуністы авалодваюць тэхнікай».

У партыйнай групе т. Бадзяліка парторг брыгады т. Альперовіч—«Як комуністы выхоўваюць комсамольцаў у цэху».

У падрыхтоўцы гэтага партыйнага дня прыняла ўдзел уся партыйная арганізацыя. Падрыхтоўка пачалася 25 красавіка. Былі абследваны кватэры, партыйныя школы, бібліятэкі, якімі карыстаюцца комуністы. У партыйнай групе тав. Грыншпана была арганізавана па групах калектыўная чытка мастацкай літаратуры: «Разгром» Фадзеева, «Неделя» Лебедзінскага і «Запіскі старога большэвіка».

За 4 дні да сходу партком склікае нараду ўсіх парторгаў брыгад і цэхаў, каб праверыць, як яны падрыхтаваліся.

Гэты партдзень прашоў вельмі актыўна. На 3-х цэхпартгрупах з 95 чалавек выказаліся 47. На гэтых сходах былі даны канкрэтныя ўказанні кожнаму комуністу.

Парторг Зеленко ў сваёй справаздачы адзначыла, што ўсе 9 комуністаў яе брыгады ахоплены партыйнай вучобай, але яшчэ недастаткова працуюць над павышэннем свайго палітычнага ўзроўню. Слаба рыхтуюцца да заняткаў і не чытаюць мастацкай літаратуры Глезер, Дворкіна, Астроўская. Газеты выпісваюць усе комуністы, кіно наведваюць таксама ўсе за выключэннем т. Глезера, які не быў у кіно з 1934 года. Тав. Зеленко, як парторг брыгады, знаёмілася з бытавымі ўмовамі комуністаў, пабывала ва ўсіх на кватэрах.

Парторг брыгады Кутман у сваёй справаздачы адзначае, што з 7 спачуваючых яе брыгады да кожнага прымацаваны комуніст. У кожнага спачуваючага яна была дома для азнаямлення з бытавымі ўмовамі. Бывае ў школах, правярае, як спачуваючыя засвойваюць заданні, чытаюць газеты, літаратуру. 3 спачуваючых вучацца ў палітшколе. 4—у агульнаадукацыйнай. Паспяховасць здавальняючая. Тав. Кутман працуе зараз над кадравымі рабочымі Бейненсон, Сахаравай, Эльтэрман і інш. для ўцягнення іх у групу спачуваючых.

У партыйнай групе т. Каплана комуністы слаба рэалізуюць пастанову пленума ЦК КП(б)Б аб павышэнні ідэйна-палітычнага ўзроўню

Аншэлевіч дрэнна рыхтуецца да партыйнай вучобы, не чытае мастацкай літаратуры, у тэатрах бывае вельмі рэдка. Ермакова не чытае *мастацкай* літаратуры, не працуе над сабой. Меламед працуе над сабой, да заняткаў рыхтуецца, за апошні час прачытаў «Человек меняет кожу». «Большой конвеер» і інш. Часта наведвае кіно і тэатр. Кацовіч, пасля сваёй індывідуальнай справаздачы пачала акуратна наведваць партыйную вучобу, працуе над сабой, у брыгадзе адчуваецца яе авангардная роля. Палойка не вучыцца, не гледзячы на тое, што скончыла вячэрні комвуз, не дапамагае іншым комуністам у іх паліт-культурным росце, мастацкай літаратуры таксама не чытае.

На паседжанні парткома падведзены былі вынікі партдня. Для дапамогі ў вучобе закуплены і раздаены бібліятэчкі 60 комуністам. Да слабейшых таварышоў прымацаваны палітычна падрыхтаваныя. Пры партгабінеце арганізован семінар для бяседчыкаў і кансультацыя для слухачоў палітшкол. Два разы ў месяц праводзіцца калектыўны паход у кіно і тэатр.

* * *

Інструктары аддзела парткадраў гаркома старанна вывучаюць усе матар'ялы і пратаколы партыйных сходаў, жывы матар'ял (паліт'інфармацыі) упаўнаважаных гаркома і пазаштатных інструктароў, што дае магчымасць своечасова рэагаваць на недахопы. Гэты матар'ял таксама выкарыстоўваецца на занятках семінара, сакратароў парткомаў, цэхавых парторгаў, на нарадах работнікаў партыйнага апарата. Такім чынам забяспечваецца пераняценне вопыту партыйных сходаў усёй менскай партарганізацыі, значэнне партыйнага дня ўзнімаецца на ўзровень задач, пастаўленых апошнімі важнейшымі рашэннямі аб партыйна-арганізацыйнай і палітычна-выхаваўчай рабоце.

Н. Скорабагацько

Інструктар аддзела кіруючых
парторганаў ЦК КП(б)Б

# Арганізацыйна-партыйную работу з комуністамі-адзіночкамі—на вышэйшую ступень

VII пленум ЦК КП(б)Б падкрэсліў выключную важнасць партыйна-арганізацыйнай і палітычна-выхаваўчай работы з комуністамі-адзіночкамі:

> «Пленум ЦК асабліва падкрэслівае важнасць палепшання і неадкладнага разгортвання работы з комуністамі-адзіночкамі, у сувязі з тым, што пытанне аб арганізацыйна-партыйнай і палітычнай рабоце ў сельскіх партарганізацыях ёсць у асноўным пытанне аб рабоце з комуністамі-адзіночкамі».

Комуністы-адзіночкі ў КП(б)Б складаюць 35%, а ў паасобных партарганізацыях (Бялыніцкі, Гарадоцкі, Бягомельскі і інш. раёны)—50% і больш. У 15 абследваных раёнах БССР налічваецца 4 604 члены і кандыдаты партыі, у тым ліку 1734 комуніста знаходзяцца ў адной толькі магілеўскай партыйнай арганізацыі. 3413 комуністаў аб'яднаны ў пярвічных партыйных арганізацыях, а астатнія 1191 з'яўляюцца комуністамі-адзіночкамі.

Удзельная вага комуністаў-адзіночак ў 14 раёнах за выключэннем магілеўскай партарганізацыі, складае 32,6%.

Па партыйнаму стажу комуністы-адзіночкі на 40% з'яўляюцца кандыдатамі партыі, астатнія-ж—члены партыі з 1931—32 гг. Большасць комуністаў-адзіночак—старшыні калгасаў і сельсоветаў. Так, па 9 праверaных раёнах з 786 комуністаў-адзіночак 415 працуюць старшынямі калгасаў, 118 старшынямі сельсоветаў, 66 радавымі калгаснікамі і астатнія 187 чалавек брыгадзірамі, заг. фермамі, сакратарамі сельсоветаў і на іншых работах у калгасах і соўгасах.

Не гледзячы на тое, што ва ўсёй партыйнай арганізацыі пераважаюць комуністы-адзіночкі, якія ў дадатак з'яўляюцца маладымі членамі партыі або кандыдатамі, работа з імі пастаўлена нездавальняюча.

РК і інструктары вялікае месца адводзілі гаспадарчай рабоце, таму яны больш ведаюць комуніста-адзіночку, як старшыню калгаса, старшыню сельсовета, брыгадзіра, загадчыка фермай, але мала, а часам і зусім не ведаюць яго як комуніста, яго ідэйна-палітычны рост, авангардную і арганізуючую ролю, палітычныя запатрабаванні і настроі.

На бюро РК, куставых сходах рэдка ставіліся індывідуальныя справаздачы комуністаў-адзіночак па асобных відах партыйна-масавай работы. Недастатковая ўвага ўдзялялася вучобе комуніста-адзі-

ночкі. Не цікавіліся тым, ці чытае ён газеты, палітычныя часопісы, літаратуру і як наогул працуе над павышэннем свайго ўзроўню. Клімавіцкі, Дзержынскі, Магілеўскі, Парыцкі, Дрысенскі райкомы склікалі кароткатэрміновыя 3—5-дзенныя курсы для часткі комуністаўадзіночак. Пасля гэтага работа з імі зноў замірала.

З 82 комуністаў-адзіночак Дзержынскай партарганізацыі чалавек 15 на працягу 2—3 месяцаў не бачылі інструктара РК тав. Кацнельсона. Старшыня калгаса «Працаўнік» т. Жукоўскі не толькі не бачыў, але і не ведаў прозвішча свайго інструктара. За ўвесь мінулы год і 3 месяцы гэтага года да яго адзін раз заехалі сакратар РК т. Дамброўскі і старшыня РВК т. Вансоўскі, што для калгаса было вялікай падзеяй.

Комуністы-адзіночкі—т. Шымановіч (старшыня калгаса імя Фрунзе), т. Касцюк (старшыня калгаса «Профінтэрн»), т. Вайцэхоўскі (старшыня калгаса імя Пакроўскага), т. Янчур (загадчык МТС калгаса імя Мархлеўскага) і рад іншых таварышоў не бачылі ў сябе работнікаў райкома партыі, не ведалі прозвішча інструктара. Аб сувязі райкома з комуністамі-адзіночкамі Дзержынскага раёна вельмі правільна адзначыў у сваім выступленні старшыня калгаса імя Чарвякова тав. Тіхановіч: «Калі пасылаюць на работу, то наабяцаюць, што будуць прыязджаць, дапамагаць і т. д., а як толькі чалавек паехаў, то пра яго забываюць, пакуль не наробіць якіх-небудзь памылак. Вось тут і пачынаецца «жывая сувязь». Аб тым-жа, каб дапамагчы комуністу-адзіночцы, не дапусціць яго да таго ці іншага ўчынку, у нас гэтага не пытай».

Палітычны ўзровень комуністаў-адзіночак Дзержынскага раёна выключна нізкі. Тт. Вайцэхоўскі, Жукоўскі, Касцюк, Шымановіч, Ананьеў, Галухіна і рад іншых не чыталі газет месяцы па 3—4, а то і больш, не ведаюць статута і праграмы партыі. Член партыі з 1927 года тав. Вайцэхоўскі няграматны, умее толькі механічна ставіць літару «В» і рад кручкоў.

Крыху лепш пастаўлена справа ў Клімавіцкім раёне. Інструктар райкома праз кожныя 10 дзён наведвае комуніста-адзіночку і практычна дапамагае яму працаваць. Аднак і тут гаспадарчая работа адцясняе арганізацыйна-партыйную і палітычна-выхаваўчую, таму ідэйна-палітычны рост комуніста-адзіночкі ідзе павольна. Комуністыадзіночкі, якія лічыліся палітычна граматнымі, на самай справе не могуць адказаць на элементарныя палітычныя пытанні. Старшыня калгаса «Чырвоны меліяратар» т. Губернатараў не ў курсе апошніх падзей міжнароднага і ўнутранага становішча СССР, не ведае, хто рабіў справаздачны даклад ураду на VII з'ездзе советаў, якія змены прыняты з'ездам у канстытуцыі, не ведае нават, хто такі тав. Молатаў, Кагановіч, Орджанікідзе.

Сур'ёзнейшым недахопам работы Клімавіцкага РК з'яўляецца яшчэ і тое, што ні райком, ні інструктар не ўдзяляюць дастатковай увагі рабоце комуніста-адзіночкі ў масах, не вучаць яго самастойна арганізоўваць і праводзіць агульныя сходы калгаснікаў, актыва, брыгадзіраў, канюхоў, жанчын. Не толькі ў Клімавічах, але і ў радзе іншых раёнаў інструктары, бываючы ў калгасе, у сельсовеце, дзе працуе комуніст-адзіночка, самі арганізоўваюць і кіруюць сходамі, адцясняючы ад гэтай работы комуніста, чым тармозяць рост і змазваюць яго авангардную, арганізуючую ролю.

У Дубровенскім раёне за ўвесь 1934 год бюро райкома не заслухала ні адной індывідуальнай справаздачы комуніста аб яго рабоце

і вучобе і толькі 12 красавіка, абгаварваючы работу РК з комуністамі-адзіночкамі, бюро прызнала яе зусім нездавальняючай. Да апошняга часу інструктары выкарыстоўваліся ў якасці ўпаўнаважаных райкома і райвыканкома ў сельскіх советах, дзе яны знаходзіліся па 10—15 дзён, будучы зусім адарванымі ад комуніста-адзіночкі.

Дрэнна пастаўлена работа з комуністамі-адзіночкамі і ў Смалявіцкім раёне. Ім не даюць ніякіх даручэнняў па партыйна-масавай і палітычна-выхаваўчай рабоце, не выклікаюць на нарады ў раён. Комуніст-адзіночка, старшыня калгаса «Чырвоная зорка», гаворыць: «Сёлета мяне не наведаў ні адзін з работнікаў райкома партыі. Пабыў раз выяздны прэзідыум Жодзінскага сельсовета, на якім прысутнічаў заг. райАНА т. Абраменка. Аднак не толькі не даў мне практычнай парады, але нават не пацікавіўся, як я жыву». Самі інструктары на нарадзе заявілі: «Наведваючы комуніста-адзіночку ў калгасе, мы больш увагі ўдзялялі гаспадарчай рабоце. Што-ж датычыць партыйнай работы, то, прызнацца, мы і самі не ведаем, у чым яна практычна павінна выражацца».

Інструктар Уваравіцкага райкома т. Маслянікоўскі працуе ў РК з 1934 года. У яго зоне 23 комуністы-адзіночкі, але ва ўвесь час сваёй работы ён паспеў наведаць толькі 10 чалавек.

Пры такой сувязі і кіраўніцтве комуністамі-адзіночкамі паасобныя няўстойлівыя таварышы падпадаюць пад уплыў класава-чуждых элементаў, прытупляюць класава-рэволюцыйную пільнасць, п'янствуюць. Толькі за тры месяцы 1935 года рашэннем бюро Уваравіцкага райкома КП(б)Б выключана з партыі 10 комуністаў-адзіночак, з якіх 4 за п'янку, астатнія 6 чалавек за страту класавай пільнасці, парушэнне партдысцыпліны і іншыя ўчынкі. Дрэнна трымаюць сябе некаторыя комуністы-адзіночкі ў бытавых адносінах. Тімашэнка, напрыклад, часта збівае сваю жонку на вачах усіх калгаснікаў.

Член партыі з 1928 г. т. Пятроў (Гарадоцкі раён) працуе старшынёю калгаса два з паловай гады і за гэты час быў толькі на 4 партсходах, не наведвае партыйнай школы, над сабой не працуе, аднак райком даручыў яму кіраваць палітшколай калгаснага актыва:

Аб тым, наколькі дрэнна звязаны і недастаткова працуюць з комуністамі-адзіночкамі многія РК, гавораць такія факты:

Тав. Булыгін—старшыня калгаса «Кашалёва»—8 месяцаў не плаціў членскіх партыйных узносаў, Якубовіч—8 мес., Казырскі—6 мес. і Быкаў—5 месяцаў. Але ні райком ні інструктар аб гэтым нічога не ведалі.

У кандыдата партыі з 1932 года т. Чыган (старшыня калгаса «Чырвоны ўдарнік») паўтара года таму назад палітаддзел МТС адабраў кандыдацкую картку за адмаўленне ад работы. Аб гэтым РК таксама да апошняга часу не ведаў. Пераведзены з членаў у кандыдаты камісіяй па чыстцы за палітычную няграматнасць старшыня Луначарскага сельсовета т. Капялюшнікаў, у сваёй асабістай бібліятэчцы меў контррэволюцыйную літаратуру.

У Бягомельскай партарганізацыі лічаць, што ўсе комуністы-адзіночкі ахоплены партыйнай вучобай, фактычна-ж рад партыйных школ (Мсціжская, Глінская, Ветуніцкая) не працуюць. Раманенка, Ігнатовіч, Навіцкі, Потас, Дземідовіч і іншыя комуністы-адзіночкі за асенне-зімовы перыяд былі 1—2 разы на занятках. Кіраўнікі партыйных школ да заняткаў не рыхтуюцца, слабы па свайму палітычнаму ўзроўню, але райком не ўдзяляе дастатковай увагі праверцы іх ведаў.

Куставыя сходы комуністаў-адзіночак адбываюцца на тэрыторыі аднаго сельсовета, пры чым без усякай падрыхтоўкі. Прэзідыум, як правіла, не выбіраецца, ніякіх пратаколаў не вядзецца, сходам кіруе сам інструктар. Куставы партсход ператвараецца ўрэшце ў звычайную гутарку.

Большасць комуністаў-адзіночак Тэрахаўскай партыйнай арганізацыі не маюць каля сябе беспартыйнага калгаснага актыва, не праводзяць палітмасавай работы сярод калгаснікаў і такім чынам ім часам вельмі трудна правесці тое ці іншае мерапрыемства. Так, напрыклад, старшыня калгаса «Чырвоны рост», кандыдат партыі тав. Алампіева паставіла на агульным сходзе калгаснікаў пытанне аб разгортванні социялістычнага спаборніцтва, каб забяспечыць паспяховае выкананне вясенне-пасеўнай кампаніі 1935 года. Калгаснікі гэту прапанову не толькі не падтрымалі, а наадварот—палічылі яе «шкоднай», бо нібы пры соцыялістычным спаборніцтве можна заганяць коней і наогул нічога добрага соцспаборніцтва не дае.

З 1734 членаў партыі, якія ёсць у Магілеўскім раёне, 207—комуністаў-адзіночак (11,9%). Магілеўскі райком меў больш магчымасцей, чым які-небудзь іншы сельскі раён, лепш арганізаваць работу з комуністамі-адзіночкамі, але не выкарыстаў іх.

Было некалькі выпадкаў, калі на бюро РК слухалі комуністаў-адзіночак, але слухалі ўжо тады, калі іх трэба было або знімаць з работы, або выключаць з партыі.

11 сакавіка г. г. на бюро слухалі даклад старшыні калгаса «Параможца» т. Волкава, члена КП(б)Б з 1926 года, па пытанню аб выкананні мясапаставак. Паколькі Волкаў заявіў на бюро, што ён забяспечыць здачу мяса да 20-III, то ў рашэнні бюро запісалі: «прыняць да ведама заяву Волкава». Роўна праз 20 дзён, г. зн. 1 красавіка, на бюро ў другі раз ставіцца даклад т. Волкава, даклад комуніста-адзіночкі гэтага-ж калгаса т. Соркіна і судаклад інструктара РК т. Зелічэнко аб падрыхтоўцы калгаса да веснавой сяўбы. На гэты раз бюро прымае рашэнне аб выключэнні Волкава з радоў партыі за сістэматычную п'янку, зрыў падрыхтоўкі калгаса да веснавой сяўбы, дапушчэнне абязлічкі ва ўсіх галінах гаспадаркі, а т. Соркіну абвяшчаецца вымова за нерэагаванне на бясчынствы Волкава. Гэты прыклад гаворыць аб слабым кіраўніцтве і сувязі з комуністамі-адзіночкамі, няведанні адзіночак.

Не гледзячы на тое, што ў горадзе ёсць моцны партыйны актыў, РК не скарыстоўваў яго для індывідуальнага прымацавання да вясковых комуністаў-адзіночак. З-за дрэннага кіраўніцтва і адсутнасці дапамогі паасобныя комуністы-адзіночкі зусім адрываюцца ад партыйнага жыцця, становяцца пасіўнымі. Напрыклад тав. Залатароў ніколі не бывае на партсходах, не чытае газет, не прысутнічаў пры абгаварэнні падзей, звязаных са зладзейскім забойствам тав. Кірава.

У сувязі з апошнімі рашэннямі Ленінградскага гаркома і красавіковага пленума ЦК КП(б)Б аб арганізацыйна-партыйнай і палітычна-выхаваўчай рабоце ў раёнах заўважваецца некаторае палепшанне як усёй партработы, так і работы з комуністамі-адзіночкамі. У красавіку амаль ва ўсіх раёнах праведзены кустовыя партыйныя сходы комуністаў-адзіночак, крыху палепшылася і сама падрыхтоўка да гэтых сходаў. Арганізаваны дадаткова дзесяткі партыйных школ па вывучэнню гісторыі партыі спецыяльна для комуністаў-адзіночак. Кіруюць школамі лепшыя прапагандысты з раённага партыйнага актыва. Многія бюро райкомаў у планах сваёй работы вызначылі індывідуальныя

справаздачы комуністаў-адзіночак. Так, Парыцкі РК у другім квартале намеціў індывідуальныя даклады 8 комуністаў-адзіночак і 8 парторгаў. З 53 пытанняў, уключаных у план работы райкома, 33—выключна аб партрабоце.

Непараўнальна палепшыў партыйную вучобу комуністаў-адзіночак Клімавіцкі райком партыі. У красавіку дадаткова арганізаваны 17 партыйных школ па вывучэнню гісторыі партыі. Вучобай ахоплены ўсе комуністы-адзіночкі. Школы арганізаваны па кустах пры сельсоветах, куды на цэлы дзень прыязджае комуніст-адзіночка з калгаса. Усе слухачы забяспечаны падручнікам Кнорына па гісторыі партыі. Для кіраўніцтва школамі вылучаны лепшыя праверяныя палітычна граматныя прапагандысты з раённага партыйнага актыва: Шнейдэр (заг. партгабінета), Куляшоў (прапагандыст РК), Каган (рэдактар раённай газеты «Комуна»), Шульман (нам. дырэктара МТС па палітчастцы), Рагінскі (нам. дырэктара МТС, скончыў ленінградскі комвуз), Пататурка і Карасёў (інструктары РК) і інш.

Кіраўнік гуртка па гісторыі партыі т. Каган, каб лепш уцягнуць слухачоў у самастойную работу, даручае 2—3 з іх падрыхтаваць паасобныя пытанні да чарговай тэмы і зрабіць даклад. Гэты метад значна павысіў якасць вучобы.

Прапагандыст райкома т. Куляшоў даў кожнаму слухачу месячны план работы над сабою дома. У гэтых персанальных заданнях прадугледжана чытка газет, часопісаў, мастацкай і палітычнай літаратуры, якою т. Куляшоў забяспечыў сам кожнага комуніста.

Добры вопыт падрыхтоўкі і правядзення адзінага партдня з комуністамі-адзіночкамі мае Дрысенскі райком партыі, які, акрамя дакладчыкаў на куставых сходах, вылучыў групу таварышоў з раённага партактыва і прымацаваў іх да паасобных комуністаў-адзіночак, каб загадзя прапрацаваць з імі рашэнні пленума Ленінградскага гаркома і падрыхтаваць да выступлення.

Тав. Сучкоў—адзін з удзельнікаў падрыхтоўкі да гэтага партдня—піша: «З'явіўся я а 7 гадзіне ўвечары да старшыні калгаса «Ленінскі шлях» кандыдата партыі т. Панічова. Сядзіць з сям'ёй, вячэрае. Пасля вячэры пытаецца: «Па якой справе з'явіўся? Па мабілізацыі сродкаў, ці па лесавывазках?» Я расказаў яму ў чым справа. Ён проста здзівіўся. Было каля 2 гадзін ночы, калі мы закончылі прапрацоўку рашэння пленума Ленінградскага гаркома. Дасыта нагаварыўшыся і па іншых палітычных пытаннях, Панічоў перад сном заявіў: «А тым часам за 4 гады прабывання ў партыі са мною ніхто не гутарыў і ўжо больш года, як на партсходах я не бываў».

Гэты станоўчы вопыт прымацавання да комуністаў-адзіночак таварышоў з партыйнага раённага актыва трэба выкарыстаць усім РК як пры падрыхтоўцы да партсходаў, так і ў штодзённай рабоце з комуністамі-адзіночкамі (чытка газет, часопісаў, мастацкай літаратуры, палітгутаркі). Асабліва добрыя вынікі дае гэта форма работы, калі да палітычна слаба развітых комуністаў-адзіночак прымацоўваецца моцны, палітычна граматны таварыш, які побач з інструктарам райкома павінен несці адказнасць перад бюро за павышэнне ідэйна-палітычнага ўзроўню комуніста-адзіночкі, за яго авангардную і арганізуючую ролю на тым участку, дзе ён працуе.

Пачатая перабудова партыйнай работы—толькі першы крок. Далейшая задача раённых камітэтаў партыі—усямерна паляпшаць кіраўніцтва комуністамі-адзіночкамі.

Інструктар РК, які больш чым хто-небудзь іншы звязан з комуністам-адзіночкай і адказвае за гэты ўчастак, павінен першым перабудаваць сваю работу і праводзіць яе па зацверджанаму бюро РК месячнаму плану.

Інструктар павінен не толькі бываць у кожнага з комуністаў сваёй зоны, але і ведаць яго палітычны ўзровень, палітычныя запатрабаванні, ведаць яго на рабоце, ведаць яго быт, ведаць, як ён выхоўвае сям'ю, дзяцей.

Інструктар павінен практычна дапамагаць комуністу-адзіночцы арганізаваць вакол сябе беспартыйны актыў і работу з ім, скласці план і правяраць яго выкананне. Асобую ўвагу трэба ўдзяляць палітычна слаба развітым комуністам-адзіночкам.

Райкомы КП(б)Б выключна вялікае месца павінны адвесці рабоце з комуністамі-адзіночкамі. Часцей заслухоўваць на бюро іх індывідуальныя справаздачы па асобных відах партыйнай работы з папярэднім яе абследваннем і судакладам інструктара. Не менш двух раз у месяц праводзіць куставыя закрытыя партсходы комуністаў-адзіночак, шырока практыкаваць скліканне пры РК галінных нарад комуністаў-адзіночак (канюхі, заг. МТФ, СТФ) па асобных пытаннях. Папулярызаваць у друку добрыя ўзоры работы комуністаў-адзіночак.

Сакратар РК павінен праводзіць нарады інструктароў РК для абмену вопытам работы. Замацаваць зоны за інструктарамі і не перакідаць іх з адной зоны ў другую.

Работа з комуністамі-адзіночкамі павінна быць пастаўлена ўзорна.

---

**Е. Серабракоў**

Інструктар Віцебскага ГК КП(б)Б

# Некаторы вопыт работы з комуністамі-адзіночкамі вёскі

**„Інструктар абавязан весці асабістую работу па выхаванню кожнага комуніста-адзіночкі паасобку (растлумачэнне комуністу-адзіночцы рашэнняў партыі і ўрада, кіраўніцтва комуністам у чытанні газет і літаратуры, дапамога і інструктаж комуніста ў яго рабоце з актывам, правядзенні палітгутарак і т. д.“ *)**

Віцебскі гарком КП(б)Б кіраўніцтва работай комуністаў-адзіночак вёскі праводзіць праз двух інструктароў па сельскай гаспадарцы, на якіх ускладзена адказнасць за гэту работу. Кожны з інструктароў прымацован тэрытарыяльна (сельсоветы зоны МТС і не абслугоўваемыя МТС) і праводзяць работу з 40—50 комуністамі-адзіночкамі.

У калгасах не зоны МТС 25 комуністаў з 42 працуюць старшынямі калгасаў, большасць астатніх—намеснікамі старшынь, брыгадзірамі.

Асноўны метад работы—жывая сувязь і канкрэтнае кіраўніцтва. Раз у месяц склікаюцца агульнараённы сход для абагульнення вопыту і абгаварэння далейшых задач практычнай работы комуністаў-адзіночак і адзін раз у месяц—куставы сход па пытаннях выхаваўчай работы.

Сходы комуністаў-адзіночак, як непасрэдная работа інструктароў з імі, праводзяцца планава. Кожны інструктар мае месячны план выездаў, дзе прадугледжан інструктаж комуніста-адзіночкі, азнаямленне з яго работай у калгасе, у масах і над сабою. План склікання сходаў комуністаў-адзіночак складаецца на два месяцы. У маі адбыліся такія сходы: 16-га—раённы сход аб выніках веснавой сяўбы і задачах комуністаў-адзіночак ў падрыхтоўцы да ўборкі ўраджаю, 26, 27, 28 і 29—куставыя сходы па чатырох сельсоветах; на кожным сходзе пастаўлены былі самасправаздачы двух комуністаў аб іх рабоце ў калгасах, сярод калгаснікаў і над сабою, а таксама—судаклады інструктароў, абследваўшых гэту работу; 30-га—раённы сход комуністаў-адзіночак для прапрацоўкі рашэнняў ЦК аб развіцці жывёлагадоўлі на 1935 год.

Сходы комуністаў-адзіночак падрыхтоўваюць інструктары, якія за 5—6 дзён праз тэхнічны апарат ГК абвяшчаюць аб дні, месцы і часе сходу, характары пытанняў, папярэдне гутараць з паасобнымі комуністамі і правяраюць іх работу ў разрэзе пытанняў абвесткі дня.

*) З рашэнняў красавіковага пленума ЦК КП(б)Б

Такі метад, па-першае, забяспечвае поўную яўку комуністаў, іх падрыхтаванасць і актыўнасць на сходзе і, па-другое, дае магчымасць інструктарам перадаваць вопыт работы і мабілізаваць комуністаў на барацьбу з недахопамі.

У рабоце з комуністамі-адзіночкамі, як і ва ўсёй партыйнай рабоце, неабходна своечасова ставіць перад комуністамі наспелыя пытанні партработы, якія выцякаюць з чарговых партыйных рашэнняў. Ужо 16 мая перад комуністамі-адзіночкамі вёскі пастаўлена было пытанне аб падрыхтоўцы да ўборкі ўраджаю і выкананні лозунга т. Сталіна аб кадрах. Са сходу таварышы раз'ехаліся ў калгасы падрыхтаванымі. Яны ведалі, як і якую партыйную і палітычную работу праводзіць для выхавання і росту кадраў, для падрыхтоўкі свайго калгаса да ўборкі ўраджаю, добра ўсвядомілі, чаму кожнаму комуністу-адзіночцы трэба працаваць над сабой, павышаць свае агратэхнічныя веды.

На гэтым сходзе кожны комуніст-адзіночка добра ўсвядоміў, што поспех яго работы будзе залежаць ад таго, наколькі правільна ён вырашыць задачу выхавання, росту і скалачвання калгаснага актыва вакол партыі, уцягнення ў яе рады лепшых людзей калгаса, што толькі апіраючыся на такі актыў, ён па-большэвіцку справіцца са сваёй практычнай работай.

Падбор дакладчыка і падрыхтоўка к дакладу мае агромнае значэнне для разгортвання актыўнасці на сходах. У практыцы віцебскай арганізацыі дакладчыкамі на сходах комуністаў-адзіночак прыцягваюцца, як правіла, інструктары, якія маюць найбольшую магчымасць абагуліць вопыт работы комуністаў-адзіночак і завастрыць іх увагу на вузлавых пытаннях.

Жывая сувязь з комуністамі-адзіночкамі, іх выхаванне і вывучэнне, павышэнне авангарднай ролі, дапамога на месцы, паказ на жывым прыкладзе, як трэба арганізаваць партыйную работу—вось асноўныя задачы інструктара.

Планаванне знішчыла стыхійнасць у рабоце з комуністамі-адзіночкамі. Кожны інструктар працуе з імі не менш 15 дзён у месяц. Інструктары загадзя азнаямляюцца з практычнай работай кожнага комуніста, вывучаюць склад калгаснікаў, палітычную работу ў калгасе, праглядаюць насценгазеты і толькі пасля гэтага пачынаюць жывую гутарку і інструктаж комуніста-адзіночкі.

Такі метад работы даў многае.

Комуніст-адзіночка тав. Салтанаў у пачатку вясны быў абраны старшынёй калгаса «Новае жыццё», Рудніцкага сельсовета. Гэты калгас ужо некалькі год падрад не выходзіў з прарываў. З большэвіцкай настойлівасцю т. Салтанаў узяўся за работу, але ніяк не мог разабрацца ў тым, што робіцца ў калгасе. Азнаямленне інструктара са становішчам калгаса, а потым жывая гутарка з т. Салтанавым далі яму магчымасць разабрацца ў недахопах работы калгаса і ўясніць свае задачы ў справе яго аздараўлення. У выніку калгас вышаў з прарыву ў веснавой сяўбе. Пасля жывой гутаркі з інструктарам т. Салтанаў стаў рэгулярна чытаць газеты, сістэматычна наведваць партсходы і партвучобу, арганізаваў вакол сябе беспартыйных актывістаў і зрабіў іх прыкладнымі калгаснікамі.

Комуніст-адзіночка старшыня калгаса т. Яскін пасля жывой з ім гутаркі змяніў свой настрой, што «сеяць яшчэ сыра», пачаў рэгулярна выпісваць і чытаць газеты, праводзіць чытку сярод калгасні-

каў, мабілізуючы іх на большэвіцкае высокаякаснае правядзенне сяўбы.

Комуніст-адзіночка старшыня калгаса «Серп і молат» т. Краузе пасля гутаркі з ім перастаў выпіваць і забяспечыў аздараўленне стада рагатай жывёлы.

Рад комуністаў-адзіночак пасля жывой гутаркі з імі акуратна плоцяць членскія ўзносы, пачалі работу па падрыхтоўцы лепшых людзей калгаса ў спачуваючыя.

Вельмі важна забяспечыць сістэматычную праверку выканання комуністамі-адзіночкамі як партыйных рашэнняў, так паасобных даручэнняў інструктароў. Вопыт такой работы паказаў, што ў комуністаў-адзіночак павысілася адказнасць за гэту справу і ўмацавалася партыйная дысцыпліна.

Комуністу ў калгасе, каб стаць буйнай палітычнай сілай, патрэбна вучыцца і вучыцца ўпарта. Тэарэтычнай вучобе комуністаў-адзіночак гарком партыі ўдзяляў вялікую ўвагу. З года ў год яны займаліся ў гуртках, але вучоба не ішла далей этапа развіцця і барацьбы партыі да 1917 г. Улічваючы гэта, гарком партыі вось ужо каля двух месяцаў як арганізаваў шырокую сецьпартыйных гурткоў, дзе комуністы-адзіночкі вывучаюць гісторыю партыі пасляокцябрскага перыяда. Гэтай вучобай ахоплены ўсе комуністы-адзіночкі вёскі.

Урокі веснавой сяўбы па Віцебскаму раёну паказалі, што паасобныя комуністы-адзіночкі празявалі работу класавага ворага, які імкнуўся сарваць ураджайнасць, дапусцілі выпадкі дрэннай апрацоўкі зямлі, не ўявілі сабе ў дастатковай меры ўсёй сутнасці новага калгаснага статута ў справе далейшага арганізацыйна-гаспадарчага ўмацавання калгасаў і росту заможнасці і культурнасці калгасных мас.

Задача інструктароў—выправіць гэтыя памылкі і ў сваёй далейшай рабоце сістэматычна павышаць рэволюцыйную пільнасць кожнага комуніста-адзіночкі.

---

**Левіт**
Інструктар Магілеўскага райкома КП(б)Б

# Як мы працуем з комуністамі-адзіночкамі

Да XVII з'езда партыі ў цэлы рад партыйных арганізацый Магілева ўваходзілі комуністы розных устаноў, часам і абсалютна не звязаных паміж сабою. К прыкладу можна ўзяць ячэйку працасветы, куды ўваходзілі комуністы настаўнікі, работнікі тэатра, музея, архіва, дзіцячых садоў і інш., або ячэйку медработнікаў, куды ўваходзілі комуністы ўрачы, работнікі чырвонага крыжа, медтэхнікума, ясляў, профсаюза і інш.

Ясна, што пры такой пабудове арганізацыі не магло быць як след пастаўлена кіраўніцтва кожным комуністам паасобку, клопаты аб павышэнні яго палітычнага ўзроўню.

У рэзультаце перабудовы быў арганізаван цэлы рад новых пярвічных партарганізацый пры ўстановах, дзе было не менш трох членаў партыі.

Праўда, спачатку была дапушчана памылка. Пры райаддзеле аховы здароўя і райАНА створаны былі партыйныя арганізацыі, куды ўваходзілі, акрамя асноўных работнікаў, паасобныя комуністы-адзіночкі, якія працавалі ў падведамственых установах (дыспансер, школа). Перабудова не была даведзена да канца.

Бюро ЦК КП(б)Б указала нам на гэта, комуністы-адзіночкі былі вылучаны асобна і кіраўніцтва імі ўскладзена на інструктара райкома.

Усяго такіх адзіночак-комуністаў аказалася 15 чал. Як-жа цяпер пастаўлена работа з імі, ці палепшылася работа кожнага комуніста сярод беспартыйных, як ажыццяўляецца вядучая роля комуніста, як комуністы працуюць над сабой? Гэтыя пытанні патрабуюць адказу тым больш, што пасля XVII з'езда партыі прашоў даволі значны час.

Возьмем асноўныя формы партыйнай работы.

Партдзень. Спачатку сходы комуністаў-адзіночак праводзіліся не сістэматычна, ад выпадку да выпадку, пытанні распрацоўваліся, так сказаць, у парадку нарады, добра не падрыхтоўваліся, рашэнні прымаліся на скорую руку. У апошні час партдзень комуністаў-адзіночак праводзіцца больш рэгулярна і падрыхтавана. Устаноўлены пэўныя дні партсходаў комуністаў-адзіночак. Яны ведаюць, што 10, 20 і 28 кожнага месяца абавязаны прыходзіць на партсход.

Большасць комуністаў-адзіночак—работнікі медыцыны. Першым пастаўлена было на сходзе комуністаў-адзіночак пытанне аб рэалізацыі рашэнняў ЦК ВКП(б) і СНК, бюро ЦК КП(б)Б і з'езда советаў

аб ахове здароўя. Усім комуністам медустаноў даручана было распрацаваць гэтыя матар'ялы сярод медыцынскіх работнікаў, якія ўзялі цэлы рад абавязацельстваў па палепшанню медабслугоўвання працоўных. Рэзультаты ўжо ёсць.

На наступным сходзе гаварылі аб планах работы комуністаў-адзіночак. Загадзя было даручана кожнаму таварышу скласці план работы на два месяцы. У гэты план павінны былі ўвайсці пытанні масавай работы комуніста-адзіночкі сярод беспартыйных, а таксама работы над сабой.

Інструктар райкома дапамог скласці такі план комуністцы т. Гердзі. Гэты план, як прыкладны, абгаварваўся на сходзе комуністаў-адзіночак. Прапанавана было кожнаму мець свой план работы і на чарговым сходзе інфармаваць аб выкананні.

Што ўваходзіць у план работы комуніста-адзіночкі?

У план уключаны, прыкладна, такія пункты: арганізаваць галосную чытку газет сярод беспартыйных работнікаў; арганізаваць палітгурток; прапрацаваць з беспартыйнымі артыкул у «Правде» аб выхаванні моладзі; праверыць праз профсаюз выкананне ўзятых соцабавязацельстваў і стан тэхнічнай вучобы; прачытаць «Лісты да таварышоў»—Леніна, «Паднятую цаліну»—Шолахава і паглядзець у тэатры «Платон Крэчэт».

Пры выкананні гэтага плана ўлічваюцца асаблівасці работы кожнага комуніста-адзіночкі.

На чарговым партыйным сходзе распрацавалі прамову тав. Сталіна, пасля чаго даручана было распрацаваць яе ў кожным калектыве і прыняць рад канкрэтных мер па ажыццяўленню ўказанняў тав. Сталіна аб кадрах.

На апошнім сходзе заслухалі даклад т. Махліна аб яго рабоце і ўзаемаадносінах з комуністамі, падначаленымі яму па другой лініі. Далі яму цэлы рад указанняў.

У працэсе работы выявілася, што некаторыя таварышы не наведваюць партвучобы (Меерсон, Горн, Махлін і інш.), пасля катэгарычнай прапановы яны палепшылі наведванне.

Недахоп маёй работы ў тым, што я яшчэ мала бываю на месцы работы комуніста-адзіночкі. У апошні час быў у тав. Яноўскага, які працуе дырэктарам школы на акраіне горада. Школа не з перадавых. Мы думаем заслухаць яго на бюро РК. Таксама будзем слухаць даклад т. Штэйман, якая паказвае лепшыя ўзоры работы.

Наша чарговая задача—часцей бываць на месцы работы і нават дома ў комуніста, каб сапраўды ўлічыць усе запатрабаванні і ўмовы работы кожнага таварыша. Да гэтай справы прыцягнем і пазаштатных інструктароў райкома КП(б)Б.

М. Екельчык

# Як партарганізацыя Медыцынскага Інстытута перабудоўвае партмасавую работу

Красавіковы пленум ЦК КП(б)Б у сваім рашэнні даў разгорнутую праграму палепшання партыйна-арганізацыйнай і палітычна-выхаваўчай работы.

Павышэнне партыйна-палітычнага і культурнага ўзроўню кожнага комуніста, уцягненне комуністаў у актыўную партыйную работу, павышэнне ролі комуністаў як палітычных кіраўнікоў і арганізатараў беспартыйных мас—вось асноўная задача парткома і пярвічнай партарганізацыі.

Партарганізацыя Мед'інстытута налічвае 131 чал., з іх 29 кандыдатаў. Партыйны стаж большасці таварышоў з 1928 г. па 1932 г. Комсамольская арганізацыя налічвае 450 ч. Зразумела, што партмасавая работа ў такой партарганізацыі можа і павінна быць пастаўлена на адпаведную вышыню.

Партком за апошні час пачаў сур'ёзна займацца пытаннямі ідэйна-выхаваўчай работы сярод комуністаў.

Абмеркаванне ўрокаў, звязаных са зладзейскім забойствам тав. Кірава подлымі падонкамі зіноўеўскай контррэволюцыйнай групы і разгорнутая партыйна-выхаваўчая работа значна ўзнялі рэволюцыйную большэвіцкую пільнасць у партарганізацыі. Гэта дало магчымасць партыйнай арганізацыі правесці значную работу па ачыстцы ад чуждых і класава-варожых элементаў Інстытута—гэтага важнейшага ўчастка падрыхтоўкі кадраў для аховы здароўя працоўных.

На працягу доўгага часу ў Інстытуце займаліся сыны буйных гандляроў, лішэнцаў, якія пралезлі па фальшывых дакументах і да апошняга часу не былі выкрыты. Больш 22 чалавек чуждых класава-варожых элементаў выкрыта партыйнай арганізацыяй Мед'інстытута.

Пленум ЦК зусім выразна адзначыў, што для таго, каб павысіць рэволюцыйную пільнасць і боездольнасць усіх членаў партыі, падняць усю партыйную работу на больш высокі ўзровень, ліквідаваць элементы самасупакоенасці і дабрадушша, пярвічная партарганізацыя павінна забяспечыць сур'ёзнае палепшанне марксісцка-ленінскага выхавання комуністаў, вывучэння імі гісторыі партыі, асабліва пасляокцябрскага перыяда, які мае рашаючае значэнне ў будаўніцтве социялізма.

Партарганізацыя Мед'інстытута арганізавала 4 партыйныя і 3 комсамольскія школы, але партком недастаткова займаўся якасцю і ідэйным зместам іх работы. Большасць гурткоў у мінулым годзе закончылі тэмай «1905 год». Трэба адзначыць, што партыйны камі-

тэт правільна паставіў пытанне аб неабходнасці вывучэння пасляокцябрскага перыяда гісторыі партыі і адпаведна з гэтым перабудаваў план работы партасветы; ужо прапрацованы тэмы Люты—Окцябр, перыяд Брэста і ў паасобных школах—барацьба партыі з трацкізмам у гады ваеннага комунізма.

Аднак у гэтай галіне ёсць і недахопы. Студэнты V курса, як гэта паказала абследванне школы, якою кіруе т. Топаз, амаль усе займаюцца выключна па падручніку Яраслаўскага, не чытаюць і не прапрацоўваюць класікаў марксізма-ленінізма, на заняткі прыходзяць непадрыхтаванымі. Адсюль—адсутнасць глыбокай і сур'ёзнай прапрацоўкі тэм. Не дзіва, што паасобныя партыйцы дрэнна ведаюць пасляокцябрскі перыяд, дрэнна ведаюць барацьбу, якую правяла партыя з ворагамі ўнутры рабочага класа, з антыпартыйнымі групоўкамі ў перыяд першай пяцігодкі, іх прыёмы і метады барацьбы і як партыя іх перамагла.

11 мая, загадзя праверыўшы работу гэтай школы, партком заслухаў інфармацыі прапагандыста т. Топаза, парторга т. Файнберг і слухачоў тт. Мацкевіч і Плевінскай.

Праверка паказала, што пры выкладанні гістарычныя факты прапрацоўваліся фармальна, тэарэтычныя пытанні не ўвязваліся з бягучай палітыкай партыі. Тав. Топаз не ведае сваіх слухачоў і не мог адказаць, хто з іх больш адстае, каму патрэбна дапамога. У гутарцы са слухачамі выяснілася іх зусім слабая падрыхтаванасць. На запытанне аб сутнасці красавіковых тэзісаў, аб іх асноўных пунктах, слухачы не маглі даць адказу. На запытанне аб апазіцыі Каменева ў красавіку 1917 года з 12 чалавек прысутных ні адзін па сутнасці не адказаў. Толькі тав. Борц адзначыў, што Каменеў быў супроць пераходу да пролетарскай рэволюцыі, але не ўказаў канкрэтна, у чым-жа заключаліся пярэчанні Каменева супроць ленінскіх тэзісаў. На пытанне, чаму знялі лозунг «улада советам», ніхто з прысутных не адказаў.

Падобных прыкладаў можна было-б прывесці многа. Усе яны пацвярджаюць, што школа не займалася глыбокім вывучэннем гісторыі партыі, бо т. Топаз выкладаў суха, лекцыйна, метадычна няправільна. Абстаноўка таксама не спрыяла заняткам. Слухачы сядзелі ў шапках, паліто, курылі на занятках.

Партгабінет Мед'інстытута не аказвае слухачам і прапагандыстам метадычнай дапамогі, не арганізуе сістэматычных кансультацый па раду важнейшых пытанняў партыйнага і гаспадарчага жыцця краіны. Кіраўнік партгабінета т. Шапіра не звязан з масамі студэнтаў, з прапагандыстамі, не ведае іх запросаў, не гледзячы на магчымасці, не забяспечвае творамі класікаў марксізма-ленінізма. Асноўная работа партыйнага габінета павінна заключацца ў сістэматычнай арганізацыі семінараў і кансультацый, падборы адпаведнай палітычнай і мастацкай літаратуры, памятаючы, што большэвіцкі абавязак кожнага комуніста—вывучаць гісторыю партыі, асабліва пасляокцябрскі перыяд, каб ведаць тактыку і прыёмы яе барацьбы з антыпартыйнымі групоўкамі, тактыку і прыёмы, якія далі магчымасць перамагчы і разбіць на-голаву гэтыя групоўкі.

Ідэйнае ўзбраенне комуністаў павінна заняць цэнтральнае месца ва ўсёй партыйнай рабоце. Комуніст-вузавец павінен ведаць, што якую-б работу ён ні выконваў, без сістэматычнага ідэйна-палітычнага і культурнага росту, без сур'ёзнага вывучэння асноў марксізма-

ленінізма, ён будзе адставаць ад вялікіх патрабаванняў социялістычнай эпохі.

Партком увёў цяпер, як правіла, справаздачы партарганізатараў, прапагандыстаў, слухачоў і нават паасобных комуністаў аб іх вучобе. Цяпер і сакратар парткома т. Бурнштэйн часта наведвае заняткі. Але гэтага мала. Трэба не толькі наведваць гурткі і школы, але добра знаёміцца з іх штодзеннаю работай, ведаць, як прапагандыст вядзе заняткі, як засвойваецца матар'ял, сістэматычна збіраць прапагандыстаў для інфармацыі і інструктажа па пытаннях бягучай палітыкі партыі, партыйнага і вучэбнага жыцця інстытута.

Асаблівае месца ў рабоце партарганізацыі ВНУ павінна займаць сапраўды большэвіцкая барацьба за ідэйнае ўзбраенне і авангардную ролю комуністаў у вучобе. Нажаль, многія слухачы-партыйцы не паказалі яшчэ сябе ў гэтай справе, акадэмічная паспяховасць комуністаў ніжэй чым беспартыйных студэнтаў. Палова ўсіх беспартыйных студэнтаў (49%) вучацца на вельмі добра і добра, тым часам як комуністаў з такою ацэнкай паспяховасці не больш 38%.

У гістарычнай прамове на выпуску акадэмікаў Чырвонай арміі тав. Сталін указаў:

> «З усіх каштоўных капіталаў, якія ёсць у свеце, самым каштоўным і самым рашаючым капіталам з'яўляюцца людзі, кадры. Трэба зразумець, што пры нашых цяперашніх умовах «кадры вырашаюць усё». Будуць у нас добрыя і шматлікія кадры ў прамысловасці, у сельскай гаспадарцы, на транспарце, у арміі,—наша краіна будзе непераможна».

З усёй сілай тав. Сталін падкрэсліў значэнне клопату аб людзях, аб будаўніках соцыялізма, аб кадрах. Хіба выпадкова пастаўлена было пытанне аб кадрах для аховы здароўя працоўных—аб урачах? Яно пастаўлена ў выніку агромных клопатаў партыі і вялікага Сталіна аб кадрах для фронта аховы здароўя.

Партарганізацыя Мед'інстытута пры прапрацоўцы прамовы тав. Сталіна правільна паставіла пытанне аб вырошчванні новых совецкіх кваліфікаваных урачоў, аб дапамозе адстаючым комуністам.

Характэрны паказчыкі акадэмпаспяховасці студэнтаў-комуністаў I курса на 15 мая г.г.: з агульнай колькасці 36 чал. на вельмі добра вучацца 1 (2,8%), на добра 16 (44,4%) і на здавальняюча 11 (30,6%).

На курсавым партсходзе адзначана авангардная роля ў вучобе тт. Вашкевіча (рэдактар шматтыражкі), Кацнельсона і інш., якія на справе рэалізуюць указанне т. Сталіна аб барацьбе за кадры, авалодаўшыя тэхнікай. Да адстаючых у вучобе тт. Акімава, Волка, Анцылеўскага, Багадзяж сход рашыў прымацаваць групу комуністаў для дапамогі, лічачы гэту работу асноўнай нагрузкай, арганізаваць рад дадатковых консультацый і лекцый і забяспечыць неабходнай літаратурай.

Дабіваючыся павышэння якасці выкладання марксізма-ленінізма, партком уцягнуў выкладчыкаў у арганізаваны для іх семінар, якім кіруе дырэктар Мед'інстытута праф. Манахаў. Першыя два заняткі семінара паказалі вялікую зацікаўленасць, аб чым сведчыць прысутнасць на занятках ад 50 да 60 чалавек. Гэта работа прыблізіла выкладчыкаў да партыйнай арганізацыі і забяспечыла павышэнне іх адказнасці за падрыхтоўку поўнацэнных высококваліфікаваных медыцынскіх кадраў.

Задача парткома і ўсёй партарганізацыі Мед'інстытута—дабіцца, каб студэнты комуністы сталі вядучаю сілай у вучэбнай справе. Гэтага можна дабіцца, калі ўважліва падыйсці да адстаючых таварышоў: ставіць іх справаздачы на парткоме і партсходах, арганізаваць сталую дапамогу.

Выключнае значэнне ў сістэме большэвіцкага выхавання маюць партыйныя сходы, якія на аснове разгорнутай большэвіцкай самакрытыкі і ўнутрыпартыйнай дэмакратыі павінны стаць баявою школай партыйнага жыцця, узнімаючы ідэйную і палітычную ўзброенасць комуністаў.

У рашэнні Ленінградскага гаркома партыі адзначана:

> «Пленум падкрэслівае выключнае значэнне партыйных сходаў у справе большэвіцкага выхавання членаў партыі і прапануе ўсім партыйным арганізацыям пакласці ў аснову іх работы пытанне арганізацыйна-партыйнай і ідэйна-выхаваўчай работы, забяспечыўшы, на аснове разгорнутай самакрытыкі дакладнае і ўсебаковае абмеркаванне пастаўленых пытанняў».

Раней у Мед'інстытуце слаба рыхтаваліся да партдня, але за апошні час гэту справу наладзілі не дрэнна. Асабліва добра прашлі партсходы, прысвечаныя прапрацоўцы рашэнняў Ленінградскага гаркома і рабоце комсамола. Падрыхтоўка да першага сходу праведзена была пабрыгадна з усімі комуністамі, што дало магчымасць улічыць для пастановы сходу ўсе іх прапановы і забяспечыць актыўнасць «маўчальнікаў» (Кулік, Круцько, Ралавец і Унгер).

Складанне прапаноў да партсходу аб рабоце комсамола перадана было ў камісію, якая працавала звыш 5 дзён, але аб выніках яе работы комуністы нічога не ведалі. Урэшце на партсходзе, які адбыўся 7 мая, прынята была пастанова, у якой адзначаўся рад буйнейшых недахопаў у рабоце комсамола, але не дана было разгорнутага канкрэтнага плана далейшай дзейнасці комсамола.

Нам патрэбны дзелавыя, практычныя, канкрэтныя пастановы, складзеныя на аснове папярэдняга дасканалага вывучэння пытання. Да праверкі і складання пастаноў трэба прыцягваць членаў парткома і іншых актыўных комуністаў, якія блізка стаяць да гэтай справы. Партком і партсход у сваіх пастановах павінны ўказаць не толькі, што патрэбна зрабіць, але і як зрабіць.

Заслугоўвае ўвагі работа парткома па пытаннях прыёму ў спачуваючыя. У групу спачуваючых падрыхтавана і прынята 18 найбольш актыўных таварышоў: навуковыя работнікі, дацэнт Голуб, асістэнты Энцін, Каровікаў, актывісты-студэнты Лысак, Герынг і іншыя.

Выносячы пастанову аб прыёме, партком адначасова арганізоўвае для спачуваючых гурткі па вывучэнню статута і гісторыі партыі. Улічваючы палітычны і культурны ўзровень спачуваючых, прымацоўваў да іх членаў партыі, даваў адпаведныя нагрузкі як па лініі партыйнай, так і профсаюзнай. Першыя заняткі на тэму «Гістарычнае падрыхтаванне большэвізма і барацьба Леніна за партыю новага тыпу» паказалі вялікую зацікаўленасць спачуваючых: Герынг, Голуб, Энцін і іншыя таварышы актыўна ўдзельнічалі ў прапрацоўцы гэтай тэмы.

Задача партарганізацыі Мед'інстытута—заняцца сістэматычным выхаваннем спачуваючых, правяраць, як выконваюць яны свае заданні і статут партыі, каб можна было адабраць сярод іх сапраўды падрыхтаваных, дастойных да ўступлення ў партыю.

Безадказныя, несур'ёзныя адносіны да партыйнай гаспадаркі выяўлены былі парткомам, калі ён сур'ёзна ўзяўся за гэту справу. Напрыклад: Бельская і Іванова самавольна выправілі ў партбілеце імя і год нараджэння, Слабодчыкаў цэлы год трымаў у сябе партыйную ўліковую картку, Арцішэўскі, пераведзены камісіяй па чыстцы ў спачуваючыя, паўтара гады трымаў у сябе партбілет.

Вялікі партыйны актыў Мед'інстытута, 6 курсавых і 53 групавых парторга яўна недастаткова прыцягваліся да прапрацоўкі і падрыхтоўкі пытанняў, якія абмяркоўваліся на парткоме і партсходах. Наогул трэба сказаць, што сталай работы з актывам па павышэнню яго ідэйнага і палітычнага ўзроўню ўсё яшчэ не наладжана.

Заслугоўвае ўвагі работа парткома з комуністамі, пераведзенымі камісіяй па чыстцы з членаў партыі ў кандыдаты. Партком заслухаў справаздачы тт. Цырлінскага, Курзенка, Іванова, з якіх выясцілася, што тав. Цырлінскі, не маючы дапамогі ад курсавой партарганізацыі, не падрыхтован для перадачы ў члены партыі. Партком прымацаваў да яго т. Хоціна, і зараз т. Цырлінскі ўзняў свой палітычны ўзровень.

Такім чынам, асноўную ўвагу партком павінен накіраваць на работу з кожным паасобным комуністам.

Партарганізацыя Інстытута павінна неадкладна і сур'ёзна заняцца справай беларусізацыі, памятаючы ўказанні пленума ЦК КП(б)Б:

> «Асабліва важнае значэнне набывае пытанне беларусізацыі марксісцка-ленінскага выхавання, большэвіцкага правядзення беларусізацыі, выкладання на беларускай мове, вылучэння беларускіх кадраў, павелічэння беларусізаваных школ і гурткоў у сеці партыйнай асветы, а таксама ўкаранення ў партыйную асвету гісторыі, эканомікі і культуры Беларусі».

Пленум ЦК КП(б)Б патрабуе ад усіх партарганізацый сур'ёзнай практычнай работы ў галіне сапраўднага большэвіцкага правядзення беларусізацыі марксісцка-ленінскага выхавання.

Партком і ўся партарганізацыя, рэалізуючы рашэнні пленума ЦК КП(б)Б, павінны дабіцца канкрэтнага палепшання ўсёй партыйна-выхаваўчай работы ў Інстытуце.

**В. Бальзоўскі**

**Сакратар парткома будаўніцтва гідролізнага завода—гор. Бабруйск**

# Партработа ў цэнтры ўвагі

Былы чыноўніцка-абывательскі горад Бабруйск, дзе ў «добры стары час» было каля дзесятка дробных саматужных прадпрыемстваў, за гады савецкай улады, дзякуючы перамозе ленінскай нацыянальнай палітыкі, паступова пакрываючыся сеццю соцыялістычных фабрык і заводаў, ператварыўся ў адзін з буйных пролетарскіх цэнтраў БССР.

Побач з лесакамбінатам імя Х-годдзя Окцябрскай рэволюцыі, фанерным заводам імя Кірава, з пачатку 1935 г. расце за горадам на пустыры новы гігант—гідролізны завод. Яго чырвоныя карпусы і рабочы пасёлак з дзесяткамі новых двухпавярховых дамоў—такія рэальныя рэчы, аб якіх яшчэ год таму назад Бабруйск і марыць не мог.

Зразумела, што будаўніцтва гідролізнага завода—вялікі фактар у далейшым гаспадарча-культурным развіцці горада Бабруйска.

Будаўніцтва гідролізнага завода—буйнае дасягненне не толькі для Бабруйска. Гэта вялікі ўклад у прамысловасць БССР, паколькі гідролізны завод будуецца ў БССР упершыню.

І зусім правільна зрабіў Бабруйскі райком КП(б)Б, высунуўшы на сходзе гарадскога актыва партыйнай арганізацыі лозунг «Будаваць Бабруйскі гідролізны завод так, як маскоўскія большэвікі будавалі метрапалітэн».

Гэты лозунг сакратара РК КП(б)Б тав. Чарнышова быў падхоплен усёй партарганізацыяй і ў першую чаргу партарганізацыяй будаўніцтва гідроліза.

У парадку рэалізацыі гэтага лозунга над будаўніцтвам узяла шэфства бабруйская комсамольская арганізацыя, якая вылучыла на ўзмацненне будаўніцтва 60 чалавек лепшых комсамольцаў-ударнікаў з іншых прадпрыемстваў горада. Комсамольцы на будаўніцтве працуюць па-ўдарнаму. Комсамольская брыгада тт. Малыгіна і Гардзіевіч зававалі сталае месца на чырвоных дошках. Брыгада Малыгіна выканала план на 123 проц., брыгада Гардзіевіча—на 139 проц. (красавік). Комсамольскія брыгады карыстаюцца вялікім аўтарытэтам на будаўніцтве, па іх прыкладу пачалі працаваць і брыгады беспартыйных. Комсамольцы з'яўляюцца застрэльшчыкамі ў арганізацыі нізавога друку і прымаюць актыўны ўдзел у грамадскім жыцці будаўніцтва завода.

Па плану завод павінен быць пабудован і асвоен к пуску к 1 студзеня 1936 г. Партарганізацыя будаўніцтва выкінула лозунг—пабудаваць і асвоіць завод к 1 снежня 1935 г.

На ажыццяўленне гэтай задачы мабілізаваны ўся партыйная і камсамольская арганізацыі, увесь актыў беспартыйных рабочых.

У аснову сваёй работы партарганізацыя будаўніцтва завода палажыла рашэнні пленума Ленінградскага гаркома ВКП(б) і красавіковага пленума ЦК КП(б)Б аб разгортванні партыйна-арганізацыйнай і палітычна-выхаваўчай работы.

Гэтыя рашэнні, даўшы выключна ясную і чоткую праграму партыйнай работы, былі распрацаваны з усімі комуністамі па групах і на закрытым партсходзе, дзе зацверджан план работы парткома і перагледжаны партнагрузкі.

Партарганізацыя будаўніцтва гідролізнага завода па свайму колькаснаму складу вельмі нязначная (22 члены і 6 кандыдатаў партыі). З агульнай колькасці комуністаў 5 чалавек вылучана ў якасці паліт'інфарматараў-бяседчыкаў. Яны сістэматычна, па заданню парткома, праводзяць палітгутаркі сярод беспартыйных рабочых, 8 таварышоў прымацаваны да аб'ектаў, цэхаў і брыгад і выконваюць заданні парткома па розных відах партмасавай работы.

Трое кандыдатаў партыі вызвалены ад усякіх партнагрузак з прычыны нізкага палітузроўню (двое з іх—Хаўкін і Падокшын—пераведзены ў кандыдаты пры чыстцы). Перад імі пастаўлена задача—паспяхова працаваць над сабою; для дапамогі ў рабоце прымацавалі да іх больш моцных таварышоў.

Астатнія комуністы, акрамя трыкутніка, атрымалі сталыя партнагрузкі.

Добрыя прыклады ў выкананні партнагрузак падаюць тт. Жук, Мароз, Копелеў, Званковіч, Самашук. Яны карыстаюцца вялікім аўтарытэтам сярод беспартыйных рабочых. Паасобныя таварышы, як Шульман, Зарэчны, Новікава, недаацанілі ўсёй важнасці партыйнай работы і несур'ёзна адносяцца да партнагрузак, звязваючы іх з асноўнай работай па службе. Прымацаваны да комсамола Шульман ніякай работы там не правёў. Зарэчны не арганізаваў работы АСО, прымацаваная да інтэрната Новікава не праводзіць гутарак.

Адно з найбольш вузкіх месц у партрабоце на будаўніцтве—гэта марксісцка-ленінскае выхаванне комуністаў. З 28 комуністаў да 15 красавіка было ахоплена партвучобай толькі 12 чалавек, якія наведвалі гарадскую партшколу. Астатнія 16 чалавек зусім не займаліся.

У красавіку партком арганізаваў на будаўніцтве дзве групы па вывучэнню гісторыі партыі. Першая група ахапіла кандыдатаў і менш падрыхтаваных членаў партыі (9 чал.), а другая—групу кіруючых работнікаў. Аднак, яшчэ не ўсе таварышы зразумелі, што выкананне адказнай задачы, якая стаіць перад нашай партарганізацыяй, немагчыма без уздыму на высокі ідэйна-прынцыповы ўзровень партыйнай асветы, а тым самым узмацнення партыйнай пільнасці членаў нашай партыі. Большэвіцкая пільнасць ва ўмовах будаўніцтва гідролізнага завода набывае надзвычайнае значэнне, бо ў нас працуе да 800 сезоннікаў, большасць якіх—людзі яшчэ неправераныя. Таму партарганізацыя ў цэлым і кожны комуніст паасобку павінны павысіць партыйную адказнасць, узняць класавую пільнасць, большэвіцкую насторожанасць.

Толькі неразуменнем гэтай ісціны тлумачацца частыя зрывы партзаняткаў у групе кіруючых работнікаў, якія імкнуцца апраўдацца «аб'ектыўнымі» прычынамі: не было часу, камандыроўкі і т. д.

Гістарычная прамова тав. Сталіна з яго лозунгам «кадры выра-

шаюць усё» патрабуе, каб партыйнае кіраўніцтва добра ведала кожнага члена партыі з усімі яго патрэбамі, востра хвалюючымі пытаннямі, дапамагла ў разгортванні практычнай работы, у выкананні партыйных нагрузак і т. д. Пакуль мы не выканаем гэтыя прасцейшыя мерапрыемствы, не можа быць і гутаркі аб добрай пастаноўцы партыйна-арганізацыйнай і выхаваўчай работы.

Партыйны камітэт будаўніцтва заслухаў індывідуальныя справаздачы паасобных комуністаў. Тав. Падокшын у сувязі з дрэннымі сямейнымі і бытавымі ўмовамі паддаўся было упадніцкім настроям, перастаў наведваць партсходы і пакрыху адарваўся ад партжыцця. Яму адрамантавалі кватэру, дапамаглі адзець дзяцей і прымацавалі для дапамогі ў рабоце над сабой больш моцнага т. Копелева.

Пры вывучэнні партыйцаў мы ўстанавілі, што т. Хаўкін не прымае актыўнага ўдзелу ў партрабоце не таму, што не хоча працаваць, а таму, што хворы на сухоты. Тав. Хаўкіну прадастаўлена месца на курорт.

Устаноўлена, што тт. Вінакур і Чаропка зусім не працуюць над сабой і нават не чытаюць газет. Партком забяспечыў іх газетамі, неабходнай палітычнай і мастацкай літаратурай, стварыў спрыяючыя ўмовы для работы над сабой і будзе правяраць гэтых таварышоў.

Партком выявіў, што не ўсе комуністы акуратна плацяць членскія ўзносы. У спісах кандыдатаў партыі лічыўся Доўнар, які не толькі ўвесь час не плаціў членскіх узносаў, але не мае ні кандыдацкай, ні ўліковай карткі, бо трапіў у спісы выпадкова і прысутнічаў на закрытых партсходах.

Буйны недахоп нашай партмасавай работы—адсутнасць групы спачуваючых. На будаўніцтве працуюць сезоннікі, да афармлення якіх у групе спачуваючых трэба падыходзіць вельмі асцярожна. Цяпер мы штодзённа атрымліваем ад сельсоветаў характарыстыкі социяльнага становішча і паходжання паасобных рабочых-сезоннікаў, вывучаем атрыманыя праз паліт'інфарматараў-бяседчыкаў весткі аб палітычна-маральным стане рабочых. Такім чынам партком ужо пачынае ажыццяўляць пастаўленую перад ім задачу аб арганізацыі груп спачуваючых.

Партсходы, як правіла закрытыя, праходзяць у нас планава, тры разы ў месяц: 7, 17 і 27.

Кожны комуніст за 5 дзён атрымлівае абвестку, у якой указана, дзе і калі адбудзецца партсход, якія пытанні будуць разглядацца. Па найбольш прынцыповых пытаннях разам з абвесткаю рассылаецца неабходны мінімум пытанняў (выразкі з газет), або ўказваецца, што чытаць і дзе знайсці патрэбны матар'ял.

Так падрыхтоўваўся партсход па распрацоўцы матар'ялу аб партыйна-арганізацыйнай і палітвыхаваўчай рабоце.

На працягу месяца, з 10 красавіка, на закрытых партсходах распрацаваны наступныя пытанні:

аб мерапрыемствах па ўзмацненню партыйна-арганізацыйнай і партмасавай работы; аб падрыхтоўцы да святкавання 1 Мая і індывідуальныя справаздачы комуністаў; аб рэагаванні на заметкі ў газеце; аб стане і рабоце бібліятэкі; аб правядзенні падпіскі на пазыку 3-ці год 2-й пяцігодкі, артыкул т. Яраслаўскага «Чаго патрабуе партыя ад комуніста ў асабістым быце і грамадскай рабоце»; справаздачы паліт'інфарматараў-бяседчыкаў; рашэнне бюро райкома партыі па дакладу партгрупы будаўніцтва аб палітмасавай рабоце сярод рабочых.

Значна ўзнялася партыйная дысцыпліна і актыўнасць партыйцаў. На сход з'яўляюцца акуратна ўсе, за выключэннем камандыраваных. «Маўчальнікаў» у нас цяпер мала. Выказваюцца на сходзе тыя, хто раней зусім не выступаў.

Наладжана работа друку. Рэгулярна, раз у дэкаду, выходзіць агульна-заводская насценгазета і 6 брыгадных пяцідзёнак. Скалочан газетны актыў. 11 мая (дзень друку) адбылася нарада рабкораўскага актыва. Дагаварыліся з рэдакцыяй раённай газеты «Комуніст» аб арганізацыі семінара рабкораў на будаўніцтве. Значна павысілася падпіска на газеты (ад 395 экз. у красавіку да 724 экз. у маі). Арганізавана вячэрняя агульна-адукацыйная школа па інтэрнатах. Інтэрнаты радыёфікаваны.

У рэзультаце прыметна ўзнялася актыўнасць рабочых, павысілася працоўная дысцыпліна, што забяспечыла перавыкананне будаўнічай праграмы. План за першы квартал выканан па прамысловаму будаўніцтву на 105,7% і за красавік—на 144,8%; па комунальнаму—на 135,6 % і за красавік—на 149,8 %.

Падпіска на пазыку 3-га года 2-ой пяцігодкі рэалізавана на 129 тысяч рублёў (116 %).

Партком намеціў правесці сустрэчу комуністаў будаўніцтва гідролізнага завода з комуністамі фанернага завода імя Кірава. Зараз праводзіцца вялікая работа па падрыхтоўцы гэтай сустрэчы, якая павінна забяспечыць абмен вопытам і намеціць далейшыя мерапрыемствы па ўзмацненню партмасавай работы.

Пастаўленая перад партарганізацыяй задача датэрміновага заканчэння будаўніцтва і пуску гідролізнага завода к 1 снежня 1935 г. пры сталай дапамозе і ўвазе мясцовых партыйных і совецкіх арганізацый будзе выканана.

---

**З. Салавей**

Сакратар парткома гомельскага дрэўкамбіната імя Гікало

# На шляху перабудовы

У рашэннях ЦК ВКП(б) аб гомельскай партыйнай арганізацыі ўказана на недастатковую ідэйную яе згуртаванасць, слабасць унутрыпартыйнай работы, замену сапраўднай перабудовы знадворна-паказною шуміхай, вынясеннем агульна-дэкларацыйных рэзалюцый і рашэнняў.

Гэтыя ўказанні цалкам адносяцца і да партыйнай арганізацыі аднаго з буйнейшых прадпрыемстваў, дзецішча першай пяцігодкі— Гомельскага дрэваапрацоўчага камбіната імя Гікало.

У выніку яўна нездавальняючай пастаноўкі партыйна-масавай работы, работы па ідэйнаму згуртаванню ўсёй арганізацыі доўгі час праводзіла контррэволюцыйную работу трацкісцкае ахвосце. Гэтыя контррэволюцыйныя элементы ў 1925-26 гг. распаўсюджвалі трацкісцкую літаратуру ў лесацэху «Колпраца», вялі контррэволюцыйную агітацыю. На словах яны раззброіліся—на справе прадаўжалі двурушнічаць, не пакідаючы сваёй агіднай справы. Партыйная арганізацыя аднеслася па-абывательску да гэтага, дапусціла мяшчанскае дабрадушша, класавую палітычную слепату, не здолела ўскрыць двурушніцкую контррэволюцыйную работу.

Дрэнна вывучаўся твар кожнага комуніста, партыйна-масавая работа не звязана была з выкананнем гаспадарчых задач. У партыйнай рабоце пераважалі гаспадарчыя пытанні. Партыйны камітэт фактычна ператварыўся ў гаспадарчы орган кіраўніцтва, адсунуўшы на задні план сапраўды партыйную работу.

Усё гэта, бясспрэчна, сказалася і на выкананні промфінплана. План 1933 года выканан толькі на 67,1 проц., за 1934 год недадана дзяржаве прадукцыі на суму 75.000 р.

Рашэнні Ленінградскага гаркома і красавіковага пленума ЦК КП(б)Б пакладзены цяпер у аснову перабудовы ўсіх звенняў партыйнай работы на камбінаце.

Праўда, прарobленае партарганізацыяй з'яўляецца толькі пачаткам сур'ёзнай і вялікай работы, якая ўрэшце павінна зрабіць камбінат, які носіць імя ордэнаносца, непахіснага кіраўніка большэвікоў Беларусі—Нікалая Фёдаравіча Гікало, перадавым прадпрыемствам ордэнаноснай рэспублікі.

На шляхах нашай перабудовы, на крупіцах вопыту партыйнай работы я і спынюся.

* *
*

Партдзень—школа ідэйна-палітычнага выхавання комуніста. Мы паставілі перад сабой задачу—дабіцца, каб кожны комуніст акуратна наведваў партыйныя сходы, дзе-б рос, загартоўваўся, усведамляючы свае задачы ў ажыццяўленні авангарднай ролі на любым участку работы.

Выбар абвесткі дня сходу мае вялікае значэнне. Абвесткі дня абгаварваюцца ў пярвічных партыйных арганізацыях, потым зацвярджаюцца партыйным камітэтам і нарэшце, за 5—10 дзён да сходу, спускаюцца ў цэхавыя арганізацыі, дзе даводзяцца да ведама ўсіх членаў партыі.

За 5 дзён да сходу вывешваюцца вялікія аб'явы. Для падрыхтоўкі кожнага пункту абвесткі дня загадзя вылучаюцца людзі. Рэзалюцыя, як правіла, канчаткова прымаецца на агульным сходзе, улічваючы ўказанні комуністаў, выступіўшых у спрэчках. Спрэчкі займаюць многа часу. Выступаюць усе жадаючыя без абмежавання. Заводская шматтыражка ўдзяляе вялікую ўвагу падрыхтоўцы партыйных сходаў, асвятляе пытанні партсходу, змяшчае выказванні комуністаў, кандыдатаў.

Партком распрацоўвае план падрыхтоўкі і правядзення партыйнага сходу. Гэты план абмяркоўваецца потым на інструкцыйнай нарадзе парторгаў, у цэхах вылучаюцца брыгады па падрыхтоўцы к партдню, якія таксама інструктуюцца. У рэзультаце такой падрыхтоўкі рэзка ўзнялася актыўнасць комуністаў. Раней пасіўныя таварышы, як Радчанка, Портар Х., Бас Х., выступаюць зараз на сходах зусім дзельна.

Партком сістэматычна правярае, як выконваюцца прынятыя пастановы, аб чым дакладвае на чарговых сходах. Усе гэтыя мерапрыемствы выклікалі зацікаўленасць комуністаў у тым, каб як найлепш правесці партыйны сход. Бываюць часам выпадкі зрыву цэхавых партыйных сходаў. Так, 26 красавіка сарваўся сход арганізацыі мэблевай фабрыкі з-за няяўкі комуністаў Цветкова, Куцака і Кавалеўскага. На заўтра-ж партыйная арганізацыя разабрала гэты факт і прыняла адпаведнае рашэнне.

* *
*

Страта класавай рэволюцыйнай пільнасці, што прывяло да контррэволюцыйнай дзейнасці трацкісцкіх элементаў на камбінаце, была рэзультатам слабой увагі партыйнай арганізацыі марксісцка-ленінскаму выхаванню. Паасобныя комуністы і кандыдаты партыі, як Бабкоў, Кацуба, Фрыдляндэр, не разбіраюцца ў самых элементарных пытаннях палітыкі. Гэты буйнейшы прабел мы зараз ліквідуем.

На камбінаце рэгулярна працуе сець партыйнай вучобы: два курсы вячэрняга комвуза, аднагадовая школа, кандыдацкая школа, гурток гісторыі партыі пры партыйнай арганізацыі пажарнай каманды, гурток на прыгараднай гаспадарцы і школа для спачуваючых.

Партыйнай сеццю ахоплена 77,7 проц. комуністаў і кандыдатаў партыі. Астатнія займаюцца завочна і ў розных гуртках пры доме партактыва. Камерцыйны дырэктар т. Дворкін, начальнік мэблевай фабрыкі—член партыі з 1918 года, т. Цветкоў і загадчык планавага аддзела т. Шварц раней не вучыліся. Зараз ім даюцца заданні, якія потым прымае прапагандыст парткома.

З некалькімі таварышамі, якія не могуць займацца з-за хваробы

і слабога здароўя, прапагандыст праводзіць індывідуальныя гутаркі па бягучай палітыцы, раіць для чытання мастацкую літаратуру.

Якасць партыйнай вучобы і паспяховасць—сярэдняя. Адстаючым аказваецца ўсямерная дапамога (Табухаў, Гордзіна і інш.). Кожны адстаючы не менш аднаго разу ў пяцідзёнку абавязан па 2 гадзіны займацца ў партгабінеце. Тт. Барысенка, Папкоў, якія раней займаліся дрэнна, пасля індывідуальнай справаздачы на парткоме, забяспечання літаратурай, аслабанення ад лішніх нагрузак нядрэнна паспяваюць у вучобе.

Сярод слухачоў наглядаецца ўзросшы інтарэс к таму, каб карыстацца пры вывучэнні гісторыі партыі першакрыніцамі—творамі Леніна-Сталіна.

Нядрэнна працуе аднагадовая партыйная школа. Прапагандыст т. Водзін выкладае жыва, у залежнасці ад тэмы і настрою слухачоў мяняе метад, удала выкарыстоўвае мастацкую літаратуру. Так, да тэмы «Вайна 1914 г.» зачытаў урыўкі з твору Анры Барбюса «Агонь», Тіханава «Вайна», да тэмы «Лютаўская рэволюцыя» выкарыстаў успаміны слухачоў.

Адзін з недахопаў, які не мала тармозіць вучобу,—гэта недастатковая колькасць і разнароднасць падручнікаў па гісторыі партыі.

Наведванне школ за апошнія тры месяцы складае 83 проц., пропускі тлумачацца галоўным чынам зменнай работай.

* * *

Асобую ўвагу партком ўдзяліў масавай рабоце сярод беспартыйных рабочых і работніц. Для сталай і планавай палітычнай агітацыі сярод рабочых створан інстытут палітбяседчыкаў з 17 чалавек. Партком займаецца з імі па пытаннях бягучай палітыкі. Баязнь паасобных членаў партыі, што палітбяседчыкі сябе не апраўдаюць, абвергнута жыццём. Палітбяседчыкі ўжо нядрэнна вядуць работу. Партком паклапаціўся аслабаніць іх ад лішніх нагрузак з тым, каб яны маглі больш працаваць над сабою.

К палітдню, прысвечанаму пытанням міжнароднага становішча, падана каля 300 пытанняў, якія сведчаць аб росце палітычнай свядомасці рабочых.

За апошнія тры месяцы па ўсіх пакоях інтэрната праведзена чытка газет і мастацкай літаратуры (Аўдзеенко «Я люблю», кніга «Белморстрой», «Паднятая цаліна»—Шолахава). Комуністамі і комсамольцамі прапрацаваны даклады і рашэнні XI усебеларускага і VII усесаюзнага з'езда советаў.

Для праверкі работы комуністаў, прымацаваных да пакояў інтэрната, партком заслухаў іх індывідуальныя справаздачы.

Створан рэзерв з 7 чалавек парторгаў, з якімі вядзецца сістэматычная работа. Для старых парторгаў створан 3-месячны семінар, які працуе па пэўнай праграме. Удзяляецца значна больш увагі дробным цэхам, дзе налічваецца 2—3—4 комуністы.

Лепш асвятляецца партыйнае жыццё ў шматтыражцы камбіната. Патрэбен толькі больш шырокі размах і тэматыка.

Пытанням работы друку ўдзяляецца многа ўвагі. Спецыяльна праведзен партдзень, да якога рыхтаваліся 14 дзён. Вынікі партдня заслуханы на парткоме. Работа друку значна ажывілася. Заводская шматтыражка вельмі дапамагла партыйнай арганізацыі ў выкрыцці і выкарчоўванні трацкісцкіх элементаў на прадпрыемстве. Галоўны

ўпор зроблен на партыйную групу. Праверан увесь склад групарторгаў і наладжана сістэматычная работа з імі.

Члены парткома часта бываюць на кватэрах комуністаў. Многім аказана дапамога дрывамі. Парторг лесацэха т. Водзін пабываў амаль ва ўсіх комуністаў на-даму.

У выніку лепшай пастаноўкі партыйна-масавай работы сярод ударнікаў камбіната наглядаецца цяга ў групы спачуваючых, дзе налічваецца ўжо 24 чалавекі. Тт. Шварцман, Шэйнкман, Асмалоўская, Малафееў ужо палітычна падрыхтаваны да ўступлення ў кандыдаты партыі.

Пытанні аб рабоце комсамола толькі за апошнія два месяцы стаялі два разы на парткоме. Перад гэтым праведзена была глыбокая праверка работы нізавых комсамольскіх арганізацый. Зараз працуюць дзве комсамольскія школы: адна па вывучэнню гісторыі партыі, другая па палітграмаце. Сярод моладзі праведзены чатыры гутаркі аб грамадзянскай вайне. Арганізавана выстаўка паліткатаржан, якую прагледзелі 800 чалавек моладзі. Праведзена 10 гутарак сярод моладзі з прапрацоўкай выступлення Аўдзеенкі на VII з'ездзе советаў. Перадавіца «Праўды» «Выхаванне моладзі—цэнтральная задача комсамола» прапрацавана сярод комсамола і беспартыйнай моладзі, пасля чаго пачалі працаваць фізкультурныя гурткі, два літаратурныя, устаноўлены валейбольныя пляцоўкі, праводзіцца шахматна-шашачны турнір моладзі і інш.

Комсамольская арганізацыя пачала лепш працаваць, але няма яшчэ сталай планавасці. У газеце мала асвятляюцца дасягненні і недахопы работы комсамола.

* * *

Некаторае палепшанне ў пастаноўцы партыйнай работы на аснове рашэнняў ЦК ВКП(б), Ленінградскага гаркома і красавіковага пленума ЦК КП(б)Б дало нам магчымасць вывесці камбінат з ганебнага прарыву. План І квартала 1935 года выканан датэрмінова 25 сакавіка, красавіковы план выканалі 26-га.

Рэалізацыя пазыкі «3 год 2-й пяцігодкі» за 9 гадзін, пры 100-процантным ахопе рабочых на месячны аклад, сведчыць аб правільнай пастаноўцы палітычнага выхавання беспартыйных.

Самае небяспечнае, калі мы супакоімся на дасягнутых поспехах. Наша задача—замацаваць першыя крокі перабудовы партыйнай работы і ўпэўнена рухацца ўперад пад кіраўніцтвам ЦК КП(б)Б.

---

**Я. Гінзбург**

Інструктар аддзела парткадраў
Гомельскага ГК КП(б)Б

# Аб рабоце партарганізацыі механічнага цэха завода „Пралетарый“ імя Кірава

Партарганізацыя завода «Пралетарый» імя Кірава адна з лепшых арганізацый Гомеля. Не адзін дзесятак чалавек дала яна на кіруючую партыйную, гаспадарчую і прафесіянальную работу.

Абгаварыўшы рашэнні Ленінградскага гаркома і пленума ЦК КП(б)Б, партарганізацыя завода пачала перабудову партработы непасрэдна з цэхавых арганізацый і груп, у адпаведнасці з рашэннямі XVII з'езда ВКП(б).

Вопыт вывучэння работы аднаго з буйнейшых цэхаў—механічнага, дзе сканцэнтравана трэцяя частка ўсёй партыйнай арганізацыі завода, лішні раз паказаў нам, што павышэнне ідэйна-палітычнага ўзроўню комуністаў—першая і галоўнейшая задача. У гэтай справе партарганізацыя механічнага цэха дабілася сёлета адпаведных вынікаў: палепшылася наведванне і павялічыўся ахват школамі членаў і кандыдатаў партыі, многія з іх моцна ўзяліся за аўладанне вучэннем Маркса—Леніна—Сталіна. Тав. Турэцкі добра займаецца ў школе і рэгулярна чытае газеты, мастацкую літаратуру, наведвае кіно, тэатр, служыць узорам комуніста. Тав. Пастухоў сістэматычна чытае «Праўду» і іншыя газеты, набыў сабе творы Леніна. Тав. Гамбург нядрэнна займаецца ў вячэрнім Комвузе.

Праверка работы комуністаў над павышэннем свайго тэарэтычнага ўзроўню стала ў цэнтры ўвагі і партыйнай арганізацыі цэха і парткома ў цэлым. Аднак у гэтай справе яшчэ вельмі многа недахопаў. Не зусім добра ўкамплектаваны школы. Тав. Гантман, пераведзены пры чыстцы ў кандыдаты, займаўся паводле сваёй прафесіі ў школе майстраў, дзе не змог узняць свой палітычны ўзровень і перайсці зноў у члены партыі.

Зусім на нізкім узроўні работа школ партасветы; ёсць рад непаспяваючых таварышоў. Напрыклад, Лукомскі, Сяргеенка і парторгі груп Соркін, Ліўшыц, Малец нічога не ведаюць аб усходнім пакце, Сяргеенка не адказаў на пытанне, якую пасаду займае т. Калінін.

Не ўсе комуністы чытаюць газеты і мастацкую літаратуру, зусім мала наведваюць кіно, тэатр. Тт. Лейкін, Кузнецоў, Малец, Мартэн зусім не наведваюць школы.

Наведванне комуністаў на-даму паказала, што некаторыя таварышы кепска арганізуюць свой быт. Тав. Лукомскі атрымлівае звыш 300 руб. у месяц, а дома няма ні прымуса, ні самавара, грошы вы-

даткоўвае нерацыянальна. Партыйная група рашыла дапамагчы т. Лукомскаму лепш арганізаваць сваё жыццё.

Тав. Гармель жыве ў доме свайго бацькі—рэлігійнага старыка, у якога на дзверах пакою вісяць рэлігійныя атрыбуты. Цікава адзначыць, што т. Гармель з'яўляецца кіраўніком ячэйкі бязбожнікаў на заводзе.

У партарганізацыі механічнага цэха бываюць выпадкі, калі комуністы выпадаюць з поля зроку парторга цэха і ўсёй партарганізацыі. Узяць хоць-бы такі факт: кандыдат партыі стары кадравы рабочы т. Рэхнік 11 мес. не плаціў членскіх узносаў, аб чым не ведаў ні парторг Карытаў, ні партком, бо не лічылі патрэбным час ад часу заглядаць у ведамасці.

Некалькі слоў аб авангарднай ролі комуністаў на вытворчасці. Вазьму для прыкладу партгрупу брыгады па зборцы насосаў (парторг т. Эстрын). Партгрупа паставіла сваёй мэтай, каб усе комуністы здалі тэхнічны экзамен на «выдатна». Вакол гэтага пытання была праведзена вялікая работа, і ў выніку не толькі ўсе комуністы, а амаль уся брыгада здала на выдатна. Невыпадкова яна атрымала назву сталінскай брыгады. Зараз брыгада паставіла мэтай працаваць на выдатна. Партыйная група брыгады па зборцы насосаў зразумела сваю авангардную ролю на вытворчасці і не дрэнна з ёю спраўляецца.

У партгрупе токараў (парторг т. Соркін) комуністы здалі тэхэкзамен апошнімі. Сярод іх няма ні аднаго выдатніка, як і ва ўсёй брыгадзе. Якасць прадукцыі нізкая.

Дрэнна яшчэ пастаўлена работа па падрыхтоўцы кадраў, прасоўванню людзей на вышэйшую работу. Члены партыі Гамбург, Гармест, Сухаверын, Эстрын, Кажамякін, Жыткевіч і інш. па 8—10 год працуюць на заводзе і не атрымалі ніякай кваліфікацыі. За гэты час былі прыняты на работу розныя людзі, часта і выхадцы з класава-чуждага асяроддзя, якія скарысталі завод для сваіх асабістых інтарэсаў і, атрымаўшы добрую кваліфікацыю, пакінулі завод.

Нядрэнны склад спачуваючых у механічным цэху. Усяго прынята 8 рабочых: Гуральнікаў—слесар, рабочы, стаж 18 год; Блюмкін—рабочы стаж 15 год; Жолудава—8 год, Гетгофт—тэхнік.

Усе яны—лепшыя прыкладныя рабочыя, прымаюць актыўны ўдзел у грамадскай рабоце, нядрэнна займаюцца ў школах. Партгрупа цэха слаба працуе з беспартыйным актывам. Спачуваючых у механічным цэху можа быць значна больш, бо актыўных, адданых партыі кадравых рабочых у цэху многа, трэба толькі над імі працаваць.

12 мая партгрупа механічнага цэха адчытвалася на агульна-заводскім партыйным сходзе. Па справаздачы выказалася 13 чалавек. Гэты партыйны дзень рыхтавалі 15 таварышоў за 20 дзён да сходу. Брыгады дапамаглі цэхавай партарганізацыі лепш арганізаваць партработу ў цэху. Партгрупе прыдзецца яшчэ не мала працаваць над тым, каб партыйную работу і арганізатарскую ролю кожнага комуніста механічнага цэху ўзняць на ўзровень задач, пастаўленых сучасным перыядам.

«Мне здаецца, што я стаў горш працаваць, чым у мінулым годзе. Я-ж лічыў партработу механічнага цэха прама ідэальна, «без сучка і задорынкі»—заяўляе сакратар парткома тав. Брондзін пасля вывучэння работы цэха.

Не, тав. Брондзін, працуеш ты не горш, а лепш, але патрабаванні да нас, партыйных работнікаў, неймаверна ўзраслі. Гэтага ні на мінуту нельга забываць.

Н. Нізаўцаў

# Да вынікаў веснавой сяўбы, догляд за пасевамі і ўборачнай кампаніяй

Веснавая сяўба 1935 года ў БССР усіх яравых культур поўнасцю закончана. На 1 чэрвеня, паводле зводкі Наркамзема БССР, усяго выканана плана сяўбы 2.630.542 га, у тым ліку зернавых 100,4 проц., у сектарыяльным разрэзе выкананне плана сяўбы на 30/V выразілася:

| Соўгасы | Калгасы | Аднаасобнікі |
|---|---|---|
| 205 623 = 102,3 % | 1 881 404 = 109,1 % | 543 612 = 76 % |

Як відаць з прыведзеных лічбаў, аднаасобны сектар выканаў план сяўбы толькі на 76 проц., але частку гэтага недавыканання трэба, перш за ўсё, тлумачыць недакладнасцю ўліку, бо ў сувязі з вялікім ростам калектывізацыі значная частка пасеваў, запланаваная па аднаасобнаму сектару, павінна па канчатковаму ўліку перайсці ў калгасны сектар, а астатняе прыпадае на пасеў позніх яравых—грэчкі, проса, якія займаюць вялікую ўдзельную вагу ў аднаасобным сектары. У цэлым па ўсіх сектарах мае месца не толькі выкананне планавага задання па пасеву, але і перавыкананне.

У абсалютных лічбах пасеў у 1935 годзе ровен 2.661.754 га
„ „ 1934 „ „ 2.605.800 га

Характэрнай асаблівасцю сёлетняй пасеўнай кампаніі з'явілася правядзенне сяўбы ў больш сціслыя тэрміны ў параўнанні з усімі папярэднімі гадамі.

| | 1935 г. | 1934 г. | 1933 г. | 1932 г. |
|---|---|---|---|---|
| Пачатак сяўбы . | 10—15 крас. | 2—10 | 10—15 | 25—30 |
| Скапчэнне сяўбы . | 25 мая | 25 мая | 15 чэрвеня | 30 чэрвеня |

З прыведзеных даных відаць, што ў 1935 годзе сяўба пачалася пазней, прыкладна на 10 дзён, скончылася-ж у такія-ж тэрміны, як і ў 1934 годзе.

Яшчэ больш характэрныя паказчыкі атрымаем, калі прасочым ход сяўбы па пяціднёўках, у параўнанні з ходам сяўбы 1934 года:

| Тэрмін сяўбы | Агульн. сяўба | | У т. л. зернав. | | Лён | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| | 1934 г. | 1935 г. | 1934 г. | 1935 г. | 1934 г. | 1935 г. |
| 10—15 красавіка . . . . | 4,8 | 4,0 | 7,6 | 6,4 | 3,6 | 3,4 |
| 20 " . . . . | 16,2 | 13,9 | 27,4 | 19,7 | 11,1 | 20,1 |
| 25 " . . . . | 28,4 | 33,9 | 45,5 | 44,5 | 24,2 | 56,0 |
| 30 " . . . . | 45,4 | 52,7 | 64,8 | 65,1 | 55,4 | 82,9 |
| 5 мая . . . . . . . . | 59,0 | 65,8 | 77,3 | 77,3 | 74,0 | 92,0 |
| 10 " . . . . . . . . | 73,6 | 79,4 | 87,6 | 85,2 | 87,1 | 98,6 |
| 15 " . . . . . . . . | 85,9 | 88,6 | 97,1 | 89,5 | 94,0 | 100,6 |
| 20 " . . . . . . . . | 95,3 | 94,3 | 105,5 | 92,7 | 97,2 | 101,5 |
| 25 " . . . . . . . . | 101,0 | 97,9 | 99,5 | 102,0 | 109,9 | 94,7 |
| 30 " . . . . . . . . | — | 99,6 | — | 100,4 | — | 102,2 |

Прыведзеныя лічбы поўнасцю пацвярджаюць, што з прычыны недастаткова спрыяючых метэаралагічных умоў 1935 г. разгортванне масавай сяўбы пачалося з 20—25 красавіка. Калі да 20 красавіка было адставанне ў тэмпах у параўнанні з 1934 годам, то з 20 красавіка, як відаць з прыведзеных лічбаў, мы маем больш шпаркі, дружны, усё нарастаючы ход сяўбы. Адставанне ў пасеве пасля 10 мая, у асаблівасці па зернавых, тлумачыцца затрымкаю сяўбы позніх культур—грэчкі, проса, канапель, пасеў якіх быў сплanован пасля 20 мая, што з'яўляецца правільным і мэтазгодным мерапрыемствам. Пасеў гэтых культур у раннія тэрміны ў 1933 і 1934 гг. рэзка адбіўся на паніжэнні ўраджаю і ў радзе выпадкаў вёў да пагібелі пасеву, асабліва грэчкі. Асабліва трэба адзначаць паспяховы ход сяўбы ў бягучым годзе лёну. Як відаць з прыведзеных лічбаў, сяўба лёну пачалася дзён на 15 пазней 1934 года, але дружнае разгортванне сяўбы ўсімі раёнамі гарантавала выкананне ўсяго пасеву амаль на 4 пяціднеўкі. Пачаткам масавай сяўбы трэба лічыць 15—20 красавіка і яе сканчэнне—5—10 мая, тым часам як у 1934 г. сяўба лёну цягнулася да 25/V, і план быў выканан.

Калі прасачыць ход сяўбы па асобных раёнах БССР, то ў адрозненне ад мінулых год мы па тэмпах сяўбы маем больш роўнамерны ход. Адстаўшыя ў 33—34 гг. раёны (Гарадоцкі, Клімавіцкі, Талачынскі, Ушацкі, Лепельскі, Нараўлянскі і інш., за выключэннем Чырвонапольскага, Мсціслаўскага і Плешчаніцкага) у бягучым годзе здолелі паказаць значна лепшыя ўзоры ў рабоце, як па тэмпах сяўбы, так і па якасці.

Праведзенае абследванне калгасаў адстаючых раёнаў з усёй відавочнасцю ўскрывае прычыны адставання іх.

Кіраўніцтва адстаючых раёнаў—Краснапольскага, Плешчаніцкага, Мсціслаўскага—не здолела мабілізаваць калгасы на барацьбу за раннія тэрміны сяўбы, не здолела арганізаваць штодзеннае аперацыйнае кіраўніцтва сяўбой і давесці яго да кожнага паасобнага калгаса як у перыяд падрыхтоўкі да сяўбы, так і ў час сяўбы. У выніку значная частка калгасаў да сяўбы прышла непадрыхтаванай.

Па Мсціслаўскаму раёну з абследваных 12 калгасаў ні ў адным не аказалася сена і аўса. У большасці абследваных калгасаў канцэнтраваныя кармы амаль не засыпаліся.

У Краснапольскім раёне яшчэ 20—25 красавіка не было канчаткова ўрэгулявана пытанне забяспечання раду калгасаў насеннем. У апраўданне высоўваліся розныя тэорыі: «марозабоязнь», непадрыхтаванасць глебы з-за вільготнасці і інш. Негрунтоўнасць усіх гэтых довадаў не патрабуе каментарыяў. Раннія тэрміны сяўбы ў спалучэнні з добрай яе якасцю не толькі неабходны, але і абавязковы для ўсіх ранніх яравых як зернавых, так і тэхнічных культур.

У бягучым годзе ў цэлым па БССР сяўба праведзена значна лепш, чым летась.

Так, паводле паведамленняў МГК ураджайнасці, у цэнтральнай зоне (Менск, Бабруйск, Слуцк) засеяна па зябліву 86,6 проц. усіх ранніх яравых. У паўднёвай групе раёнаў (Гомель, Мазыр)—53,2 проц. пры 38 проц. у 1934 годзе. Якасць насеннага матар'ялу таксама вышэй за 1934 год. Некандыцыяванага насення была нязначная колькасць: аўса—2,9 проц., ячменю—7,4 проц., пшаніцы—10 проц., лёну—0,9%, г. зн., што амаль усё насенне было вышэй устаноўленай кандыцыі. У бягучым годзе насенне лепш ачышчана, лепш зараблялася пры пасеве, вывезена большая колькасць угнаення.

Усе гэтыя больш высокія паказчыкі сяўбы ёсць вынікі аперацыйнага кіраўніцтва ЦК КП(б)Б, партыйных і савецкіх арганізацый, далейшага росту і арганізацыйна-гаспадарчага ўмацавання калгасаў, узросшай палітычнай свядомасці шырокіх калгасных мас. БССР у веснавую сяўбу ўступіла пры 76 проц. калектывізацыі, а гэта значыць, што звыш 80 проц. усяго плана сяўбы ў бягучым годзе засявалася соцыялістычным сектарам—калгасамі, соўгасамі. Рашэнне 2 з'езда калгаснікаў-ударнікаў, прыняцце сталінскага статута сельскагаспадарчай арцелі і атрыманне БССР высокай узнагароды—ордэна Леніна—мабілізавалі працоўных БССР на далейшую барацьбу за працоўную дысцыпліну, за высокую якасць работы на падставе соцспаборніцтва і ўдарніцтва, за атрыманне высокага ўраджаю. Паводле папярэдняй ацэнкі, сёлета ёсць усе падставы чакаць больш высокага ўраджаю ў параўнанні з 1934 годам.

Аднак, было-б няправільным не адзначыць і раду адмоўных момантаў, якія ўплывалі на якасць сяўбы. Перш за ўсё, гэта—невыкананне плана радковай сяўбы. План у 250 тыс. га выканан не больш як на 35—40 проц., хоць у 1934 годзе радковым спосабам засеяна не больш 20—25 тыс. га, г. зн.—у некалькі разоў менш.

Барацьба МТС за радковую сяўбу поўнасцю адлюстроўвае барацьбу раёна ў цэлым. МТС—арганізатары культурнай апрацоўкі нашых соцыялістычных палёў—павінны быць перадавымі ў барацьбе за радковую сяўбу, як важнейшы фактар павышэння ўраджаю.

У сапраўднасці-ж рад МТС яўна ігнаруюць радковую сяўбу. Да такіх МТС адносяцца:

| Назва МТС | План | Выкананне | Процант выканання |
|---|---|---|---|
| Гарадоцкая . . . . . | 400 га | 15 га | 3,8 |
| Дубровенская . . . . . | 600 „ | 67 „ | 11,2 |
| Мсціслаўская . . . . . | 500 „ | 25 „ | 5,0 |
| Чашніцкая . . . . . . | 250 „ | 17 „ | 6,8 |
| Шклоўская . . . . . . | 400 „ | 8 „ | 2,0 |
| Петрыкаўская . . . . . | 545 „ | 25 „ | 4,5 |
| Оршанская . . . . . . | 500 „ | 82 „ | 16,4 |
| Віцебская . . . . . . . | 500 „ | 94 „ | 18,8 |
| Сіроцінская . . . . . . | 350 „ | 36 „ | 10,3 |

Такое выкананне плана радковай сяўбы не можа быць інакш кваліфікавана, як злачыннае ігнараванне барацьбы за ўраджай. Калі мы ад кожнага калгаса патрабуем добрай якасці сяўбы, то ад МТС мы павінны не толькі патрабаваць высокай якасці работы, але аказання калгасам сваёй зоны дапамогі ў барацьбе за высокі ўраджай. Кожны раён, калгас і МТС павінны вывучыць прычыны невыканання радковай сяўбы і зрабіць адпаведныя вывады, бо адставанне БССР у радковай сяўбе ў далейшым нецярпіма.

Другі недахоп у сёлетняй веснавой сяўбе—усё яшчэ нязжытае ў паасобных раёнах і калгасах очкаўцірацельства. Гэтае ашуканства выражаецца ў тым, што зводкі сяўбы падаюцца авансам на бліжэйшыя дні, або пяцідзёнкі і вельмі часта не выконваюцца ў намечаны тэрмін. Факты ашуканства, хоць-бы пад выглядам прыпіскі аднаго дня наперад, мелі месца ў радзе калгасаў.

Так, па Старобінскаму раёну, пасля праверкі раду калгасаў і сельсоветаў устаноўлена:

Калгасам «Чырвоны Окцябр» (старшыня т. Олехно), Чепелеўскага сельсовета, звесткі аб ходзе сяўбы, прадстаўленыя ў сельсовет, былі пераўвялічаны к 20/IV на 50,1 га, к 25/IV на 122,1 га.

Калгасам «Чырвоны пуцілавец», гэтага-ж сельсовета (старшыня т. Краўцоў), пераўвялічаны даныя фактычнага пасеву к 20/IV на 23,26 га, к 25/IV—на 99,3 га.

Калгас імя Варашылава, гэтага-ж сельсовета (старшыня т. Бабко), пераўвялічыў звесткі к 20/IV на 62,3 га, к 25/IV—на 57,7 га.

Сам-жа Чэпелеўскі сельсовет (старшыня сельсовета т. Кернажыцкая) да гэтых пераўвялічаных звестак у сваю чаргу дадала неіснуючы пасеў к 20/IV па сельсовету на 229,78 га, к 25/IV—на 499 га.

Сістэматычнае пераўвелічэнне зводак па 7 калгасах і 4 сельсоветах Старобінскага раёна, як устаноўлена абследваннем, складае на 20/IV усяго 909,13 га і на 25/IV—1482,5 га.

Аналагічныя факты очкаўцірацельства адзначаны ў радзе сельсоветаў і калгасаў Барысаўскага і Слуцкага раёнаў.

ідучы на ашуканства, старшыні калгаса і сельсовета паказваюць прыклад усім, пачынаючы ад брыгадзіра і канчаючы радавым калгаснікам, безадказных адносін да справы.

Мы перавыхоўваем мільёны людзей, ствараем з учарайшых аднаасобнікаў адданых партыі і совецкай уладзе сумленных новых будаўнікоў соцыялістычнага грамадства, і ўсякая малейшая праява безадказных адносін кіраўніка к даручанай справе прыводзіць да няправільнага, небольшэвіцкага выхавання кадраў.

У пагоні за тэмпамі некаторыя сельсоветы забылі дырэктыву ЦК КП(б)Б аб тым, што барацьба за якасць з'яўляецца цэнтральным пытаннем веснавой сяўбы. Яркім таму прыкладам служыць наступны факт:

Калгас «Юны творца», Пагілеўскага сельсовета, Оршанскага раёна, скончыў сяўбу па якасці на «выдатна» (што ўстаноўлена МГК ураджайнасці) у нармальны тэрмін 6 мая, хоць і прыходзілася сеяць нярэдка ў нізінах. Сельсовет узнагародзіў гэты калгас... рагожным сцягам за адставанне ў сяўбе.

Прыведзены факт гаворыць аб бюракратычным падыходзе некаторых сельсоветаў да ацэнкі паказчыкаў, не ўлічваючы канкрэтных асаблівасцей і ўмоў работы таго ці іншага калгаса. Незаслужанае ахайванне кіраўнікоў калгаса не дапамагае іх выхаванню, не спрыяе і не мабілізуе на выпраўленне памылак і недахопаў. З такою практыкай трэба рашуча пакончыць і на справе рэалізаваць указанне тав. Сталіна аб чулым і ўважлівым падыходзе да кожнага работніка, дапамагаючы, калі ён адчувае патрэбу ў падтрыманні, заахвочваючы, калі ў яго ёсць поспехі.

* * *

Барацьба за высокі ўраджай ні ў якім разе не абмяжоўваецца сяўбою. Добрая якасць сяўбы—толькі прадпасылка высокага ўраджаю. Не менш важным і рашаючым з'яўляецца перыяд пасявання і ўборкі ўраджаю.

> «Замацаванне поспехаў веснавой сяўбы патрабуе неаслабнай барацьбы партыйных і совецкіх арганізацый, калгасаў і соўгасаў за збор высокага ўраджаю шляхам своечасовай праполкі пасеву для ліквідацыі пустазелля, знішчэння сельскагаспадарчых шкоднікаў і арганізацыі ўборкі без страт і ў найкарацейшыя тэрміны» (з пастановы чэрвеньскага пленума ЦК ВКП(б)—1935г.).

Як ужо гаварылася вышэй, дзякуючы добра праведзенай сяўбе, мы маем усе падставы атрымаць ураджай вышэй леташняга. На сёння, паводле даных МГК ураджайнасці, а таксама ацэнкі саміх раёнаў, віды на ўраджай наступныя:

| | Азімыя | %% | Яравыя | %% |
|---|---|---|---|---|
| Выдатны . . . . . . . | 72 910 | 6.2 | 17[illegible]257 | 16.1 |
| Добры . . . . . . . . . | 261 202 | 22,2 | 510 485 | 45 7 |
| Сярэдні . . . . . . . . | 512 802 | 43,7 | 349 732 | 31,3 |
| Ніжэй сярэдні . . . . . | 202 220 | 17,3 | 70 000 | 6,3 |

З прыведзенай табліцы пяпярэдняй ацэнкі ўраджаю відаць, што мы сёлета можам чакаць добры ўраджай, асабліва яравых.

Спрыяючыя метэаралагічныя ўмовы, дастатковая колькасць ападкаў па ўсёй БССР у апошнюю дэкаду мая і першую чэрвеня значна паляпшаюць стан яравых пасеваў і часткова азімых.

Рашаючым фактарам палепшання пасеваў за перыяд іх пасявання, побач са спрыяючымі метэаралагічнымі ўмовамі, з'яўляецца догляд: дасканалая прапалка палёў, своечасовае акучванне бульбы. Зацверджаны СНК БССР план прапалкі азімай і яравой пшаніцы, ячменю, аўса, гародніх культур, лёну, проса, бульбы і іншых тэхнічных культур павінен быць цалкам выканан.

Асабліва вялікая ўвага павінна быць звернута на прапалку лёну. Ліпеньскі пленум ЦК ВКП(б) даў дырэктыву правесці абавязкова двухкратную, а на асоба адстаючых участках і трохкратную прапалку лёну, пры чым прапалка павінна быць закончана за 10—16 дзён да пачатку цвіцення.

Калі ў мінулым годзе з-за нізкага проданта калектывізацыі ў радзе раёнаў прапалка была звязана з труднасцямі яе арганізацыі, асабліва ў аднаасобным сектары, то сёлета малюнак іншы. Да 80 проц. усіх пасеваў знаходзіцца ў соцыялістычным сектары, працаздольных у калгасах звыш 1232921 чал. Такім чынам нагрузка на 1 чалавека—не звыш 2 га прапалкі. Пры чым, як паказала ўжо сяўба, сёлета непараўнальна лепшая дысцыпліна і арганізацыя працы. Як бачым, у нас ёсць усе ўмовы для таго, каб добра дагледзець пасевы і ўнікнуць леташніх памылак, калі ў пагоні за вялікім процантам выпрацоўкі часта з пустазеллем выпалвалі культурныя расліны (у калгасе «Пераможца», Менскага раёна, вырывалася да 15 проц. аўса, у соўгасе «Стрэлічава», Хойніцкага раёна, на полі № 5—да 28 проц. аўса і т. п.), або вырывалі больш прыметнае пустазелле—сурэпку, дзікую рэдзьку, пакідаючы нявыпалатымі не менш, а часта больш шкодныя расліны. У выніку яны заглушалі пасевы і не давалі ім поўнасцю развіцца.

Цэнтральнае месца ў прапалачных работах павінна заняць правільная арганізацыя працы, асабліва ўстанаўленне нормы выпрацоўкі, выходзячы з засмечанасці таго ці іншага ўчастка. Для гэтага неабходна ўважліва даследваць участкі прапалкі і давесці нормы дыферэнцыявана да кожнага звяна. Тым часам праўленні раду калгасаў даюць адну норму на цэлую брыгаду, не разбітую на звенні, што абязлічвае работу. Вялікую ўвагу трэба звярнуць на праверку якасці праробленай работы. Тут шырокае поле дзейнасці мае інспектар па якасці.

Прапалка па БССР разгортваецца зусім недастаткова.

Паводле зводкі НКЗ, на 10 чэрвеня прапалата: азімых і яравых зернавых 380.564 га (23,4%), лёну 112.469 га (46,3%), гародніх культур 3.148 га (14,9%).

Чэрвеньскі пленум ЦК ВКП(б) завастрыў увагу партыйных арганізацый вакол тэндэнцыі некаторых раёнаў недаацэньваць значэнне прапалкі:

> «Абавязаць усе партыйныя арганізацыі як раённыя, так і абласныя даваць рашучы адпор шкодным настроям сярод часткі работнікаў, якія выражаюцца ў тым, што пасля добра праведзеных прадпасеўных работ пустазелле стала быццам не небяспечна і закончыць у найкарацейшы тэрмін прапалку ўсіх зернавых культур аж да поўнага знішчэння пустазелля ў пасевах».

Ва ўмовах БССР пры агромнай засмечанасці пасеваў праполка мае рашаючае значэнне ў павышэнні ўраджайнасці.

Наступным этапам у барацьбе за высокі ўраджай з'яўляецца правільная і добра наладжаная ўборка, захаванне і барацьба са стратамі ўраджаю. Тут патрэбна асаблівая большэвіцкая пільнасць і чоткасць аперацыйнага кіраўніцтва. Чэрвеньскі пленум ЦК ВКП(б) паставіў перад усімі партыйнымі арганізацыямі задачу—убраць ураджай у максімальна сціслыя тэрміны, поўнасцю захаваць яго і не дапускаць страт. Для БССР устаноўлены канчатковыя тэрміны ўборкі ранніх коласавых (жыта, пшаніца, авёс, ячмень)—17—20 дзён.

Церабленне лёну правесці на працягу 7—10 дзён у перыяд ранняй жоўтай спеласці, церабленне-ж селекцыйнага лёну, зменагадоўчых пасеваў—за 5—7 дзён.

БССР мае ўсе ўмовы для таго, каб правесці ўборку раней устаноўленых канчатковых тэрмінаў. Паводле даных НКЗ, адзін толькі калгасны сектар насычан наступнымі ўборачнымі машынамі:

| | | |
|---|---|---|
| Жняярак конных | 12 920 | шт. |
| Снопавязалак конных з 6 ф. захватам | 675 | " |
| Снопавязалак трактарных з 10 ф. захватам | 250 | " |
| Трактарных ільнацерабілак | 425 | " |
| Ільнацерабілак „Комсамолка" | 1 30) | " |

Лічачы нагрузку за сезон на конную снопавязалку і жняярку 80 га, на трактарную снопавязалку—140 га, мы зможам убраць механізаваным спосабам 62 проц. яравых, 82 проц. азімых і да 13,6% лёну. Такім чынам цягавай сілай мы забяспечаны поўнасцю, не будзе таксама недахопу ў рабочай сіле.

Усё залежыць ад арганізацыі і аперацыйнага кіраўніцтва раёнаў, МТС і соўгасаў, ад правільнай расстаноўкі сіл, максімальнага выкарыстання механізмаў, правільнай арганізацыі працы. Неабходна загадзя забяспечыць рамонт усіх машын ва ўстаноўленыя тэрміны, падрыхтаваць кваліфікаваныя кадры для догляду за імі, праверыць гатоўнасць людзей і машын да ўборачнай кампаніі. Трэба рэалізаваць рашэнні ЦК і Соўнаркома аб аплаце камбайнераў і працуючых на малатарнях з тым, каб правільная арганізацыя аплаты стымулявала павышэнне прадукцыйнасці працы.

Выходзячы з агульных задач уборачнай кампаніі, кожны раён, соўгас, калгас павінен намеціць аперацыйны план яе правядзення. Добрую якасць уборкі вырашае барацьба са стратамі ўраджаю.

Чэрвеньскі пленум ЦК КП(б)Б у барацьбе за захаванне ўраджаю паставіў канкрэтныя задачы перад кожнай партыйнай арганізацыяй і кожным комуністам, калгасам і соўгасам:

«У мэтах поўнага захавання ўраджаю і недапушчэння страт: а) правесці вязку ў снапах усяго скошанага хлеба і яго капнаванне;

б) пачаць малацьбу хлябоў з трэцяга-пятага дня ад пачатку касавіцы і забяспечыць безупынную работу малатарань, закончыўшы пабудову крытых навесаў на выпадак дажджу не пазней, як за пяць дзён да пачатку ўборкі;

в) пачаць скірдаванне хлябоў не пазней, як праз 8—10 дзён пасля пачатку касавіцы з тым, каб увесь хлеб быў поўнасцю заскірдован;

г) праводзіць суцэльнае зграбанне каласоў коннымі граблямі

на ўбраным полі, а следам за вязкай і вывазкай хлеба ў скірды рабіць абавязковае падграбанне каласоў ручнымі граблямі;

д) устанавіць такі парадак, па якому поле лічыцца ўбраным толькі пасля прыёмкі яго ад брыгадзіра старшынёй калгаса, а ў соўгасах—кіраўніком аддзялення калгаса».

Гэтыя большэвіцкія ўказанні павінны быць канкрэтна распрацаваны і даведзены да кожнай брыгады, участка і калгасніка, поўнасцю ўлічваючы памылкі і недахопы леташняй уборкі.

У мінулым годзе, не гледзячы на выключна спрыяючае надвор'е ў час уборкі, страты па БССР, паводле скромных падлікаў, выражаліся ў сярэднім: пакінута жытніх каласоў у полі 32,4 кгр. і зярна пры абмалоце саломы, у полаве і азадках—20,3 кгр., а разам—52,7 кгр. на гектар; пакінута аўсяных каласоў у полі 35,2 кгр. зярна ў саломе, полаве і азадках—26,3 кгр., а разам 61 кгр. на га. Гэтыя лічбы прыведзены на аснове вывучэння кантрольных калгасаў і ні ў якім разе не пераўвялічаны, а на самай справе часта значна большыя.

Так, паводле даных магілеўскай МГК ураджайнасці, рад калгасаў панёс страты ад адных толькі пакінутых у полі каласоў:

| Назва калгаса | Раён | Культура | Вага страты зярна на га (у *кг*) |
|---|---|---|---|
| „1 Мая" | Клімавіцкі | ячмень | 80 |
| „Варашылава" | Касцюковіцкі | жыта | 76 |
| „Колас" | Крычаўскі | „ | 117 |
| „Ударнік" | „ | „ | 200 |

Аналагічныя прыклады злачынных адносін да захавання ўраджаю можна прывесці па значнай частцы раёнаў БССР.

Асноўнымі відамі страт (выключаючы выпадкі яўнага раскрадвання ўраджаю) з'яўляюцца:

1. пры касавіцы: а) дрэнная работа жнеярак, снопавязалак, ігнараванне зернаўлавіцеляў (у мінулым годзе скарыстана было не больш 40 проц., ды і тыя ў значнай частцы неахайна), адсюль—сыпанне зярна; б) пакіданне скошанага хлеба ў волках, што асабліва практыкавалася соўгасамі і немінуча вяло да вялікіх страт зярна, в) пакіданне каласоў на полі пасля ўборкі.

2. пры малацьбе: неахайная перавозка і нядобраякасная малацьба хлеба. Вялікая адказнасць за абмалот ускладаецца на МТС, якая паміма своечасовай праверкі малатарні, павінна паклапаціцца аб падрыхтоўцы для яе кадраў. У гэтым—галоўнае. За нядобраякасны абмалот МТС нясе поўную адказнасць.

3. Безадказныя адносіны да ўраджаю. У час ўборкі, як правіла, ідзе бескантрольна кармленне жывёлы, не запісваюцца азадкі і адыходы, у якіх многа зярна. Наколькі вялік расход аўса, відаць хоцьбы з такой заявы калгасаў «К. Лібкнехта» і «Чырвоны баец», Бабруйскага раёна: «Аўса мы расходвалі не менш, як па цэнтнеру з гектара, на кармленне коней. Па кнігах не прыходвалі і ў расход не спісвалі, бо коні-ж нашы і авёс наш».

Усім гэтым фактам растранжырвання ўраджаю, разгільдзяйства і нядбайнасці ў рабоце павінна быць абвешчана рашучая барацьба.

Усякая страта ўраджаю ёсць раскрадванне нашай соцыялістычнай уласнасці. Чакаемы добры ўраджай павінен быць убран без страт.

Побач з правядзеннем уборкі ў максімальна сціслыя тэрміны і без страт, мы павінны яшчэ забяспечыць і захаванне ўраджаю ад усякага раскрадвання, псавання сельгаспадарчымі шкоднікамі, а таксама поўнасцю выканаць ва ўстаноўленыя тэрміны планы паставак зярна, лёну і іншых сельскагаспадарчых прадуктаў.

Чэрвеньскі пленум ЦК ВКП(б) даў разгорнутую праграму барацьбы за захаванне і рэалізацыю ўраджаю. Выходзячы з гэтых рашэнняў пленума, партыйныя і совецкія арганізацыі, МТС, соўгасы і калгасы павінны вызначыць і распрацаваць канкрэтныя аперацыйныя планы захавання і рэалізацыі ўраджаю. Падрыхтоўка ўсіх мерапрыемстваў у гэтым напрамку павінна ісці адначасова з падрыхтоўкай да ўборачнай кампаніі.

Ва ўмовах БССР трэба звярнуць асаблівую ўвагу на прывядзенне ў гатоўнасць наяўных складаў, а таксама на пабудову патрэбнай колькасці новых. Пленум абавязвае падрыхтаваць усе склады не пазней як за 10 дзён да пачатку ўборкі. У нашым распараджэнні вельмі кароткі час. Тым не менш, калі не лічыць дзяржаўнай складскай гаспадаркі Заготзярно, у нас амаль яшчэ не пачата работа па падрыхтоўцы складаў, зернахавальняў у калгасах і соўгасах. У сувязі з вялікім ростам калектывізацыі, складская гаспадарка ў калгасах набывае выключна вялікае значэнне. Нельга забываць, што акрамя пабудовы фарсіраваным тэмпам новых складаў, трэба выявіць і падрыхтаваць усе памяшканні, прыгодныя пад дадатковыя склады і зернахавальні.

Неабходна зараз-жа праверыць, як калгасы разгарнулі гэту работу, вылучыць для іх магчымыя фонды лясных і іншых відаў будматар'ялаў.

Асабліва важна ў нашых умовах правесці ачыстку і дэзінфекцыю ўсёй складскай гаспадаркі. Вялікая заражанасць у мінулым годзе складаў і складскага інвентара кляшчом з'яўляецца сур'ёзнай пагрозай і ў бягучым годзе. Пленум ЦК ВКП(б) асобна прапанаваў усім партыйным арганізацыям, побач з прывядзеннем у гатоўнасць зернахавальняў, зрабіць у іх добрую дэзінфекцыю, а таксама «правесці суцэльную дэзінфекцыю сельскагаспадарчага ўборачнага інвентара (зернаачышчальныя машыны, павозкі, малатарні) і не дапускаць абмалоту хлябоў на старых токах, без папярэдняга іх выпальвання».

У гэтай галіне амаль нічога яшчэ не зрабілі не толькі калгасы і соўгасы, але нават і дзяржаўныя склады. Органы Асоавіяхіма, пад кіраўніцтвам якіх праходзіць гэта важнейшая работа, павінны забяспечыць яе выкананне ва ўстаноўленыя рашэннямі пленума ЦК ВКП(б) тэрміны, а раённыя партыйныя арганізацыі—узяць яе пад неаслабны кантроль.

Важнейшая справа ў нашых умовах—захаваць ураджай, наладзіць правільны ўлік і справаздачнасць. У мінулым годзе было маса выпадкаў нядбайных адносін да ўліку ўраджаю. У сваім рашэнні пленум ЦК ВКП(б) асабліва падкрэсліў усю важнасць аховы ўраджаю і яго ўліку. ЦК ВКП(б) патрабуе ад усіх партыйных і совецкіх арганізацый, дырэктароў МТС, дырэктароў соўгасаў і праўленняў калгасаў найстражэйшай аховы ўраджаю ад раскрадвання і пажараў, для чаго:

а) адказнасць за захаванасць хлеба ўскласці ў кожнай брыгадзе на яе брыгадзіра;

б) устанавіць абавязковае ўзважванне хлеба непасрэдна ля малатарань і пры прыёмцы хлеба ў свірны;

в) устанавіць у соўгасах і калгасах строгі ўлік атрыманага ўраджаю».

Выкананне пастановы ЦК ВКП(б) патрабуе, каб кожны раён і МТС безадкладна праверылі, як пастаўлены ўлік і справаздачнасць у калгасах, адначасова з гэтым праверылі кадры рахункаводаў, кладаўшчыкоў і поўнасцю падрыхтавалі к моманту ўборачнай нехапаючыя кадры. Барацьба за ўраджай далёка не вычэрпваецца тымі мерапрыемствамі, пра якія мы гаварылі. Задача кожнай партыйнай арганізацыі—змагацца за рэалізацыю ўсіх указанняў, якія даў чэрвеньскі пленум ЦК ВКП(б). Красавіковы пленум ЦК КП(б)Б паставіў перад усімі партарганізацыямі задачу—дабіцца ў бягучым годзе ўраджаю «не ніжэй 11 цнт. з га зернавых культур, 3 цнт. ільнавалакна і 120 цнт. бульбы». Паспяховае правядзенне веснавой сяўбы як па тэмпах, так і па якасці з'яўляецца паказчыкам таго, што на першым этапе барацьбы за ўраджай партарганізацыя БССР атрымала перамогу.

Задача сёнешняга дня, на падставе дасягнутых поспехаў у веснавой сяўбе і большэвіцкай мабілізацыі вакол рашэнняў пленума ЦК працоўных мас,—забяспечыць рэалізацыю гэтых рашэнняў, дабіцца добрага ўраджаю і датэрмінова выканаць абавязацельствы перад пралетарскай дзяржавай.

---

# КНІЖНАЯ ПАЛІЦА

**ЛЕНИН И СТАЛИН.** Избранные произведения. Под ред. В. Адоратского, А. Стецкого, А. Косарева, В. Сорина и А. Иванова. Москва. Партиздат, 1935. С. 784.

Аднатомнік выбраных твораў Леніна і Сталіна разлічан на шырокія масы рабочай і калгаснай моладзі.

Зборнік пачынаецца артыкуламі т. Сталіна аб Леніне, у якіх высвятляецца роля Ільіча, як правадыра партыі і Комінтэрна і даецца азначэнне ленінізма, як марксізма эпохі імперыялізма і пролетарскіх рэволюцый. Прамова Леніна пры адкрыцці помніка Марксу і артыкул «Три источника и три составные части марксизма» даюць бліскучую характарыстыку асноў рэволюцыйнага вучэння Маркса. Далей ідуць выбраныя творы Леніна, распалажаныя па асноўных этапах гісторыі партыі (падрыхтоўка рэволюцыі 1905 г.; рэволюцыя 1905 г.; эпоха рэакцыі і новага ўздыму; імперыялістычная вайна; ад Лютага да Окцябра; Окцябрская рэволюцыя; грамадзянская вайна і ваенны комунізм; новая эканамічная палітыка).

Далей змешчаны гістарычныя работы т. Сталіна —«Октябрьская революция и тактика русских коммунистов»; вытрымкі з дакладаў на XIV, XV і XVI з'ездах ВКП(б) і даклад на XVII з'ездзе ВКП(б), «О правой опасности в ВКП(б)», «О задачах хозяйственников», «Новая обстановка—новые задачи хозяйственного строительства», «О работе в деревне», «Речь на 1-м с'езде колхозников-ударников» і інш.

Артыкулы Леніна і Сталіна, змешчаныя ў зборніку, даюць яркі малюнак таго, як вырастала магутная большэвіцкая партыя, як у бязлітаснай барацьбе з ворагамі рабочага класа выкоўвалася жалезная дысцыпліна, рэволюцыйная пільнасць і непарушнае адзінства яе радоў. Асабліва яркае ўяўленне дае зборнік аб барацьбе супроць меншавізма і яго трацкісцкай разнавіднасці, супроць здрадніцтва зіноўеўска-каменеўскай групы, якая скацілася ў лагер белагвардзейшчыны.

Аднатомнік выбраных твораў Леніна і Сталіна з'явіцца настольнаю кнігай кожнага комсамольца, кожнага рабочага і калгасніка па вывучэнню класікаў марксізма-ленінізма.

**И. СТАЛИН. О правом уклоне в ВКП(б).** Из речи на пленуме ЦК ВКП(б) в апреле 1929 г. Москва. Партиздат. 1935. Ц. 50 к.

У гістарычнай прамове т. Сталіна на пленуме ЦК ВКП(б) (красавік 1929 г.) падвергнуты аналізу карэнныя разнагалоссі, якія падзялялі нашу партыю з правымі ўхілістамі ў галіне тэорыі, унутранай палітыкі па лініі Комінтэрна. Крок за крокам разбіраючы антыленінскія ўстаноўкі правай апазіцыі, т. Сталін ускрывае сістэму апартуні-

стычных поглядаў групы Бухарына (тэорыя ўрастання кулака ў соцыялізм, адмаўленне дыферэнцыяцыі сярод сялянства, пытанні калгаснага будаўніцтва, пытанні класавай барацьбы, поўанархісцкія памылкі па пытанню аб дзяржаве і т. д.).

Паказаўшы, што правыя ўхілісты спрабуюць дэмабілізаваць партыю, разлажыць рабочы клас, прыстасаваць нашу палітыку да густаў «совецкай» буржуазіі,—тав. Сталін падкрэслівае, што без пераадалення правага ўхілу і прымірэнцтва да яго нельга перамагчы труднасці, якія стаяць перад партыяй, і дабіцца рашаючых поспехаў у справе соцыялістычнага будаўніцтва.

**О задачах партийно-организационной и политически-воспитательной работы.** Минск, Партиздат ЦК КП(б)Б. С. 51, Ц. 50.

У зборніку змешчаны артыкулы і пастановы па актуальнейшых пытаннях партыйнага будаўніцтва. У пачатку змешчана прамова т. Кагановіча на нарадзе загадчыкаў аддзелаў кіруючых парторганаў 3 верасня 1934 г. «Аб унутрыпартыйнай рабоце і аддзелах кіруючых партыйных органаў».

Далей ідуць перадавыя артыкулы «Правды,»—«Заботливо выращивать партийные кадры» (26/III 1935 г.), «Решительно улучшить партийную работу» (29/III г.г.), «Большевистский размах партийной работе» (31-III), «Против недооценки работы с сочувствующими» (27/III г.г.). Змешчана таксама пастанова ЦК ВКП(б) «О создании в горкомах ВКП(б) отделов парткадров»; пастанова пленума Ленгаркома ВКП(б) «О задачах партийно-организационной и политически-воспитательной работы»; пастанова бюро ЦК КП(б)Б «Аб арганізацыі аддзелаў парткадраў пры менскім і гомельскім ГК КП(б)Б» і тэлеграма сакратара ЦК КП(б)Б тав. Гікало ўсім горрайкампартам.

Зборнік павінен стаць настольнаю кнігай кожнага партыйнага работніка, бо ў ім шырока асветлены пытанні ўздыму арганізацыйна-партыйнай і ідэйна-палітычнай работы да ўзроўню палітычнага кіраўніцтва, што з'яўляецца цэнтральнаю задачай усіх партарганізацый

**Мопр—школа интернационального воспитания.** Под ред. Стасовой, Шевелевой, Герцбаха. 1935. С. 419. Ц. 3 р.

Кніга з'яўляецца дапаможнікам па вывучэнню ролі, задач і зместу работы міжнароднай арганізацыі дапамогі барацьбітам рэволюцыі.

У кнізе распрацаваны наступныя праблемы: міжнароднае становішча, рост рэволюцыйнага руху і белы тэрор; роля Мопра, як арганізацыі міжнароднай пролетарскай салідарнасці і сродку правядзення адзінага фронту працоўных; асноўныя этапы развіцця Мопра; удзел Мопра ў соцыялістычным будаўніцтве; Мопр за межамі; інтэрнацыянальная сувязь і міжнародныя кампаніі; работа ў прамысловасці, на транспарце і ў соцыялістычным сектары вёскі; палітычная эміграцыя ды інш.

Багатыя фактычныя даныя аб белым тэроры і росце рэволюцыйнага руху за мяжой, аб дзейнасці ўсесаюзнай і загранічных секцый Мопра, аб велізарнай дапамозе Мопра палітзняволеным робяць кнігу надзвычай каштоўнай. Яна змяшчае таксама падрабязны інструкцыйны матэр'ял для дакладчыкаў, прапагандыстаў, практычных работнікаў мопраўскіх арганізацый.

**С. ТУЛЬСКІ і ФЁДАРАЎ. Манчжурыя—плацдарм для нападу на СССР.** Перакл. з рускай мовы. Менск, выд. БВА. 1935. С. 76. Ц. 1 р. 25 к.

У брашуры папулярна ізложана геаграфічнае, эканамічнае і палітычнае становішча Манчжурыі, паказана, як японскі імперыялізм падрыхтоўвае гэтую краіну ў якасці плацдарма для нападу на СССР.

У першым раздзеле, гаворачы аб значэнні акупацыі Манчжурыі, аўтары паказваюць, што барацьба імперыялістаў за Манчжурыю з'яўляецца толькі часткай барацьбы за перадзел Кітая і непадзельнае панаванне на Ціхім акіяне. Другі раздзел змяшчае агульныя весткі аб Манчжурыі.

У кнізе падрабязна расказана аб арганізацыі і абучэнні японскімі афіцэрамі манчжурскай арміі, яе складзе, баявой падрыхтоўцы, стварэнні ваенна-прамысловай базы ў Манчжоў-Го і т. д. Аўтары прыводзяць шматлікія даныя аб выкарыстанні японцамі рускіх белагвардзейцаў і хунхузаў у падрыхтоўцы вайны супроць СССР.

# ПАСТАНОВЫ ЦК ВКП(б) і ЦК КП(б)Б

## Аб уборцы і загатоўках сельскагаспадарчых прадуктаў

*Рэзалюцыя Пленума ЦК ВКП(б) па дакладах т. т. Чэрнова, Калмановіча і Клейнера, прынятая 7 чэрвеня 1935 года.*

Рэзультаты веснавых сельскагаспадарчых работ 1935 года з асаблівай яркасцю пацвярджаюць поспехі калгаснага ладу. Скарочаныя тэрміны і лепшая ў параўнанні з усімі мінулымі гадамі якасць сяўбы ў калгасах і соўгасах стварылі ўсе магчымасці атрымаць добры ўраджай.

Замацаванне поспехаў веснавой сяўбы патрабуе неаслабнай барацьбы партыйных і совецкіх арганізацый, калгасаў і соўгасаў за збор высокага ўраджаю шляхам своечасовай прапалкі пасеваў для ліквідацыі пустазелля, знішчэння сельскагаспадарчых шкоднікаў і арганізацыі ўборкі без страт і ў найкарацейшыя тэрміны.

Для забяспечання ўзорнай уборкі ўраджаю бягучага года створаны ўсе неабходныя ўмовы. Калгасы і соўгасы к уборачнай кампаніі атрымліваюць дадаткова к таму, што яны мелі ва ўборачную кампанію мінулага года, 21 тыс. камбайнаў, 99 тыс. трактароў, у тым ліку 17 тыс. магутных сталінцаў, 30 тыс. аўтамабіляў і на 335 млн. рублёў астатніх сельскагаспадарчых машын. Створаны спрыяльныя ўмовы для замацавання кадраў трактарыстаў, машыністаў на малатарнях і камбайнераў у МТС і соўгасах і для павышэння іх зацікаўленасці ў лепшай рабоце па ўборцы.

Аднак, усе гэтыя ўмовы яшчэ не гарантуюць поўнага поспеху ўборачнай кампаніі. Поспех уборкі вырашыць сістэматычнае і штодзеннае кіраўніцтва партыйных арганізацый уборкай, уцягненне ўсёй масы калгаснікаў і рабочых соўгасаў у актыўную работу па ўборцы і скарыстанне поўнасцю ўсіх машын і асабліва камбайнаў.

Яшчэ больш сур'ёзнае значэнне маюць забяспечанне захаванасці ўбранага ўраджаю, ахова яго ад раскрадвання, чэснае выкананне ў тэрмін планаў загатовак і забяспечанне насенных фондаў добрай якасці, рашучая барацьба з разбазарваннем і раскрадваннем убранага хлеба, які прадстаўляе грамадскую соцыялістычную ўласнасць, ліквідацыя перажыткаў кулацка-рвацкіх настрояў, накіраваных на падрыў загатовак і аслабленне іх тэмпаў, мабілізацыя калгасных мас і соўгасных рабочых на гэтай справе—такавы сродкі, якія забяспечваюць выкананне планаў загатовак і стварэнне насенных фондаў.

Пленум ЦК ВКП(б)—п а с т а н а ў л я е:

### I

### Аб доглядзе пасеваў і ўборцы ўраджаю

#### А. Зернавыя культуры і сланечнік

1. Абавязаць усе партыйныя арганізацыі як раённыя, так і абласныя даваць рашучы адпор шкодным настроям сярод часткі работнікаў, якія выражаюцца ў тым, што пасля добра праведзеных прадпа-

сеўных работ пустазелле стала быццам не небяспечна і закончыць у найкарацейшы тэрмін праполку ўсіх зернавых культур аж да поўнага знішчэння пустазелля ў пасевах.

Правесці да пачатку ўборкі хлябоў двухразовую, а ў выпадку новага з'яўлення пустазелля і шматразовую міжрадковую апрацоўку сланечніку і кукурузы.

2. Закончыць поўнасцю рамонт і падрыхтоўку ўсіх уборачных машын па Крымскай АССР, Украінскай ССР, Паўночна-Каўказскаму, Азова-Чорнаморскаму і Сталінградскаму краях—к 15 чэрвеня; па Куйбышэўскаму краю, Орэнбургскай абласці, Варонежскай абласці і Курскай абласці, Саратаўскаму краю, Казакскай АССР—к 25 чэрвеня; па астатніх абласцях, краях і рэспубліках—к 10 ліпеня 1935 года.

Прапанаваць Наркамцяжпрому СССР на працягу ліпеня і першай паловы жніўня здаць Наркамзему СССР, Наркамсоўгасаў і Наркамхарчпрому, а апошнім адправіць на месцы для забяспечання беспера-бойнай работы запасныя часткі да ўборачных машын у размерах устаноўленай на другое паўгоддзе г. г. праграмы.

3. Прапанаваць Наркамзему СССР, Наркамсоўгасаў СССР, Наркамхарчпрому і ўсім партыйным арганізацыям закончыць будаўніцтва і прыстасаванне новых зернахавальнікаў, а таксама навесаў, рамонт і ачыстку ад сельскагаспадарчых шкоднікаў старых зернахавальнікаў як у соўгасах, так і ў калгасах, не пазней чым за 10 дзён да пачатку ўборкі хлябоў.

Паміма ачысткі складаў ад с.-г. шкоднікаў правесці суцэльную дэзінфекцыю сельскагаспадарчага ўборачнага інвентара (зернаачышчальныя машыны, павозкі, малатарні) і не дапускаць абмалоту хлябоў на старых токах без папярэдняга іх выпальвання.

4. Устанавіць, як гранічныя, наступныя тэрміны касавіцы ранніх каласавых культур (жыта, пшаніца, авёс, ячмень):

а) Крым, Одэская, Днепрапетроўская і Данецкая абласці, Азова-Чорнаморскі і Паўночна-Каўказскі краі, Малдавія, Узбекская, Туркменская рэспублікі і ЗСФСР—13—15 дзён;

б) астатнія абласці УССР (Кіеўская, Вінніцкая, Чэрнігаўская, Харкаўская), Саратаўскі, Сталінградскі, Куйбышэўскі краі, Орэнбургская, Варонежская абласці—15—17 дзён;

в) астатнія рэспублікі, краі і абласці СССР—17—20 дзён.

5. Прапанаваць дырэктарам соўгасаў і МТС:

а) вывезці ў поле ўсе камбайны не пазней чым за 5 дзён да пачатку ўборкі і праверыць гатоўнасць іх да работы;

б) арганізаваць палявыя станы з тым, каб з моманту вываду камбайнаў у поле камбайнеры, іх памочнікі і трактарысты знаходзіліся ў станах;

в) разбіць у соўгасах палі на індывідуальныя загонкі для кожнага камбайна з разліку ўборкі камбайнамі ў 20 дзён і правесці да пачатку работы камбайнаў пракосы і абкосы вуглоў;

г) адабраць і адвесці ў калгасах плошчы пад уборку камбайнамі з разліку ўборкі камбайнамі ў 20 дзён і скласці не пазней, чым за 5 дзён да пачатку ўборкі маршруты і заданні для кожнага камбайна на ўвесь уборачны перыяд з улікам скарыстання кожнага камбайна па групах суседніх калгасаў, не дапускаючы вялікіх халастых прабегаў, і замацаваць за кожным камбайнам коней і бестаркі для бесперабойнага прыёму зярна з камбайна.

6. У мэтах поўнага захавання ўраджаю і недапушчэння страт:

а) правесці вязку ў снапы ўсяго скошанага хлеба і яго капнаванне;

б) пачаць малацьбу хлябоў з 3—5 дня ад пачатку касавіцы і забяспечыць безупынную работу малатарань, закончыўшы пабудову крытых навесаў на выпадак дажджу не пазней, чым за 5 дзён да пачатку ўборкі;

в) пачаць скірдаванне хлябоў не пазней чым праз 8—10 дзён пасля пачатку касавіцы з тым, каб увесь хлеб быў поўнасцю заскірдован;

г) праводзіць суцэльнае зграбанне каласоў коннымі граблямі на ўбраным полі, а ўслед за вязкай і вывазкай хлеба ў скірды рабіць абавязковае падграбанне каласоў ручнымі граблямі;

д) устанавіць такі парадак, па якому поле лічыцца ўбраным толькі пасля прыёмкі яго ад брыгадзіра старшынёю калгаса, а ў соўгасах—кіраўнікам аддзялення соўгаса.

7. У мэтах вызвалення рабочай сілы к пачатку ўборкі зернавых і забяспечання грубымі і сакавітымі кармамі жывёлагадоўлі закончыць у бягучым годзе ўборку і стагаванне сена да пачатку масавай уборкі хлябоў і не пазней, чым у месячны тэрмін пасля пачатку сенакашэння.

Адначасова з правядзеннем сенаўборкі правесці да пачатку ўборкі сіласаванне пустазелля, дзікарастучых траў і ранніх сілосных пасеваў у размерах не менш 50 проц. гадавога плана.

8. ЦК ВКП(б) патрабуе ад усіх партыйных і совецкіх арганізацый, дырэктароў МТС, дырэктароў соўгасаў і праўленняў калгасаў найстражэйшай аховы ўраджаю ад раскрадвання і пажараў, для чаго:

а) адказнасць за захаванасць хлеба ўскласці ў кожнай брыгадзе на яе брыгадзіра;

б) устанавіць абавязковае ўзважванне хлеба непасрэдна пры малатарнях і пры прыёмцы хлеба ў свірны;

в) устанавіць у соўгасах і калгасах строгі ўлік атрыманага ўраджаю.

## Б. Бавоўна

9. У паліўных раёнах закончыць другую апрацоўку бавоўны к 25 чэрвеня, трэцюю—к 15 ліпеня і чацвертую—к 10 жніўня.

У новых баваўняных раёнах правесці другую летнюю апрацоўку (праполку і культывацыю) к 15 чэрвеня, трэцюю к 1 ліпеня і чацвертую к 15 ліпеня 1935 года.

Забяспечыць, як правіла, стварэнне звенняў у брыгадах і замацаванне за імі ўчасткаў бавоўны на ўвесь перыяд паліваў, апрацоўкі і ўборкі бавоўны.

10. Лічыць зусім недапушчальным, што завезеныя ў баваўняныя раёны трактары «Універсал-І» на апрацоўцы бавоўны скарыстоўваюцца менш чым напалову, асабліва ў рэспубліках Сярэдняй Азіі і ў Казакстане.

Прапанаваць дырэктарам МТС у баваўняных раёнах усе наяўныя прапашныя трактары і культыватары пусціць на апрацоўку бавоўны, а органам камісій партыйнага і совецкага кантроля на месцах прасачыць за выкананнем данай пастановы.

11. Прапанаваць партыйным і совецкім органам у паліўных баваўняных раёнах:

а) умацаваць кіраўніцтва ірыгацыйных сістэм, забяспечыць спраўнае становішча і бесперабойную работу іх, устанавіць найстражэйшую водную дысцыпліну і рашуча змагацца з парушэннямі ўстаноўленых

планаў водакарыстання, паўсямесна ўвесці кругласутачны паліў, значна палепшыць тэхніку паліваў і сурова караць за раскрадванне і разбазарванне вады;

б) ускласці на аграперсанал кіраўніцтва палівамі на калгасных і соўгасных палях і адказнасць за тэрміны і якасць паліваў.

в) забяспечыць падбор палівальшчыкаў з лепшых калгаснікаў, устанавіць налічэнне працадзён для іх за выпрацоўку дзённай нормы ў два працадні, адначасова прымяняючы прэміі за высокую якасць паліваў і эканомнае скарыстанне вады, у выглядзе надбавак да 20 проц. к выпрацаваным на палівах працадням;

г) давесці месячную зарплату мірабаў у паліўных бавоўняных раёнах да 140 рублёў, павышаючы яе да 200 рублёў для больш вопытных і акуратных мірабаў. Устанавіць для мірабаў выдачу прэміі ў размеры двухмесячнага акладу ў тых выпадках, калі па групе абслугоўваемых імі калгасаў выканан поўнасцю план здачы бавоўны дзяржаве.

12. Звярнуць увагу дырэктароў бавоўняных соўгасаў на асабліва адказную задачу, якая ўскладзена на іх у гэтым годзе—даць дзяржаве 67 тыс. тон бавоўны, замест зданых 38 тыс. тон у мінулым годзе, і абавязаць іх забяспечыць у тэрмін летнія палівы, апрацоўку і ўборку бавоўны.

13. Не дапускаць псавання і пагібелі пасеваў бавоўны ад саранчы і іншых шкоднікаў.

14. Для забяспечання загатоўкі пасеўнага насення для 1936 года прапанаваць Наркамзему СССР і Наркамлегпрому СССР правесці ў 1935 годзе дасканалую апрабацыю бавоўнянага насення ў калгасах і соўгасах на плошчах, якія забяспечваюць загатоўку неабходнага насенфонда для 1936 года, прыцягваючы да апрабацыі бавоўнянага насення шырокія масы вопытнікаў-калгаснікаў.

Прапанаваць Наркамзему СССР і Наркамлегпрому СССР не дапусціць змешвання насеннага матар'ялу пры зборы, загатоўцы, ачыстцы, захоўванні і транспартаванні і псавання пасеўнага насення ад няправільнага захоўвання.

15. Прапанаваць Наркамзему СССР своечасова падрыхтаваць усю сістэму мерапрыемстваў па арганізацыі ўборкі бавоўны з тым, каб пытанні арганізацыі працы, нормы і расцэнкі, пытанні аплаты працы і разлікі з калгаснікамі, скарыстанне ўсіх матар'яльных вы[illegible] і прамая зацікаўленасць калгаснікаў у справе найлепшай арганізацыі ўборкі бавоўны і павышэння якасці бавоўны былі-б пастаўлены ў цэнтры арганізацыі ўборкі бавоўны.

16. Побач з ручным зборам бавоўны скарыстаць усе наяўныя механізмы з тым, каб фарсіраваць апошні збор бавоўны.

## В. Буракі

17. Адставанне з прарыўкай буракоў, якое наглядаецца ў большасці буракасеючых раёнаў, недавыкарыстанне прапашных трактароў на апрацоўцы, а месцамі наяўнасць прамога супраціўлення іх скарыстанню—аслабляюць поспехі сяўбы і ставяць пад пагрозу атрыманне высокага ўраджаю цукровых буракоў.

Зварачаючы ўвагу на гэта партыйных і совецкіх арганізацый у буракасеючых раёнах, пленум ЦК ВКП(б) пастанаўляе:

а) закончыць прарыўку буракоў не менш двух дадатковых глыбокіх матыкаванняў міжраддзяў да пачатку ўборкі зернавых, забя-

спечыўшы правядзенне трэцяга глыбокага матыкавання і праполку ў перыяд уборкі зернавых;

б) поўнасцю скарыстаць на апрацоўцы бурачных плантацый наяўныя праполачныя машыны, вылучыўшы для гэтай мэты пастаянны склад калгаснікаў, трактары і жывую цягу, без адрыву іх на іншыя работы на ўвесь перыяд апрацоўкі буракоў;

в) забяспечыць выпрацоўку на адзін трактар «Універсал-2» у сцэпе з двума культыватарамі на першым, другім і трэцім глыбокіх рыхленнях не менш як па 85 га на кожным міжрадным рыхленні ў тэрміны, устаноўленыя для кожнага рыхлення.

Матыкі, якія застаюцца пасля ўкамплектавання трактароў «Універсал-2», скарыстаць на коннай цязе, забяспечыўшы выпрацоўку на першым, другім і трэцім глыбокіх рыхленнях не менш, як па 35 га на адну матыку на кожным міжрадным глыбокім рыхленні ў тэрміны, устаноўленыя для кожнага рыхлення.

18. Сканцэнтраваць увагу на барацьбе са шкоднікамі цукровых буракоў і, у першую чаргу, з лугавым матыльком і азімай соўкай, забяспечыўшы ва ўсіх калгасах і соўгасах неабходную колькасць вусняловак, брэдняў і карытцаў, усклаўшы поўную адказнасць за барацьбу са шкоднікамі на дырэктароў соўгасаў і МТС, а ў калгасах—на старшынь калгасаў, брыгадзіраў і звеннявых.

19. Прапанаваць Наркамзему СССР, Наркамхарчпрому СССР, абкомам і крайкомам буракасеючых раёнаў:

а) узяць пад асаблівы нагляд выкананне рашэння СНК СССР аб арганізацыі дарожных атрадаў МТС і дарожных брыгад буракасеючых калгасаў, устанавіўшы па кожнаму раёну, а ў раёне—па кожнай МТС і па кожнаму калгасу канкрэтныя заданні па будаўніцтву і рамонту дарог на перыяд чэрвень-верасень 1935 года.

б) забяспечыць скарыстанне на капанні ўсіх завазімых трактароў «Універсал-2», для чаго абавязаць Наркамцяжпром здаць к 15 верасня г. г. Наркамзему СССР дадаткова к устаноўленаму плану 3 тыс. штук трохрадных бурака-пад'ёмнікаў;

в) з пачатку ўборкі буракоў паставіць на вывазку буракоў неабходную колькасць коней і замацаваць увесь аўтатранспарт у буракасоўгасах і МТС на вывазцы буракоў, не дапускаючы яго скарыстання на іншых работах акрамя як для падвозкі гаручага;

г) звярнуць увагу дырэктароў і начальнікаў палітаддзелаў соўгасаў на іх асобую адказнасць за ўборку бурачнага насення.

## Г. Лён

20. Прапанаваць Наркамзему СССР і ўсім партыйным і совецкім арганізацыям ільнаводчых раёнаў уважліва правесці на ўсіх пасевах двухразовую праполку, а на асабліва засмечаных участках—і трохразовую праполку ільна з тым, каб дабіцца поўнага знішчэння пустазелля і закончыць апошнюю праполку не пазней як за 10—15 дзён да пачатку цвіцення.

21. Забяспечыць у бягучым годзе церабленне ільна ў калгасах і соўгасах на працягу 7—10 дзён у перыяд ранняй жоўтай спеласці ільна. Церабленне селекцыйнага ільна насенаводчых пасеваў правесці ў тэрмін не больш 5—7 дзён у перыяд жоўтай спеласці ільна.

22. Закончыць рамонт усіх ільнацерабільных машын як шырока-

захватных, так і ільнацерабілак «Комсамолка», не пазней 1 ліпеня 1935 года.

23. Уважліва праверыць падрыхтаванасць вадзіцеляў ільнацерабільных машын і трактарыстаў, не дапускаючы для работы на машынах асоб некваліфікаваных.

24. Забяспечыць выпрацоўку на кожную шыроказахватную ільнацерабілку не менш 50 га ў сезон.

25. Устанавіць налічэнне працадзён калгаснікам на трапанні ільна па кіло-нумарах.

26. Правесці ўвесь рассціл (мочыва) ільна ў раннія тэрміны не пазней чым праз 7—10 дзён пасля цераблення; выбраць лепшыя месцы для рассцілу і арганізаваць пільны нагляд за лежкай (мочкай) ільна з тым, каб атрымаць трасту сапраўды высокай якасці.

27. Закончыць будаўніцтва мяльнатрапальных пунктаў і ільняных сушылак, рамонт існуючых пунктаў, сушылак, ёвень, асецей, выраб і рамонт ільнаапрацоўчых машын і інвентара не пазней 1 жніўня г. г.

### Д. Табак і махорка

28. Прапанаваць Наркамзему СССР, Наркамхарчпрому СССР, партыйным і совецкім арганізацыям:

а) забяспечыць высокую якасць апрацоўкі табачна-махорачных культур, правёўшы не менш 2—3 праполак;

б) закончыць уборку махоркі не пазней 1 верасня па ўсіх раёнах, за выключэннем Омскай абласці, Заходне-Сібірскага, Краснаярскага, Усходне-Сібірскага краёў, дзе закончыць не пазней 15 верасня, і ўборку жоўтых табакоў не пазней 15 верасня;

Забараніць перакідку табачных брыгад і звенняў у калгасах на іншыя работы;

в) закончыць рамонт і новае будаўніцтва табачных і махорачных сушылак і сараяў не пазней 1 жніўня г. г.

г) правесці ўборку табаку па меры паспявання паасобных ярусаў; арганізаваць сартаванне лісцяў у адпаведнасці з патрабаваннямі стандарта, пачынаючы з моманту нізкі на працягу ўсяго перыяда сушкі і апрацоўкі табакоў.

## II

## Аб загатоўках сельскагаспадарчых прадуктаў

### А. Па зернавых прадуктах і сланечніку

1. Прапанаваць партыйным і совецкім арганізацыям, дырэктарам МТС і соўгасаў, старшыням калгасаў:

а) арганізаваць здачу зярна і сланечніку дзяржаве непасрэдна з-пад малатарань і камбайнаў з захаваннем устаноўленых кандыцый;

б) забяспечыць дакладнае захаванне тэрмінаў пастаўкі зярна і сланечніку, устаноўленых пастановаю СНК СССР і ЦК ВКП(б) ад 3 сакавіка 1935 года;

в) закончыць здачу поўнасцю зярна і сланечніку па звароту ссуд у тэрміны, устаноўленыя для паставак зярна і сланечніку;

г) забяспечыць здачу зярна і сланечніку калгасамі па натураплаце работ МТС у месячны тэрмін пасля пачатку ўборкі па ўсіх работах, праведзеных да пачатку ўборкі, і не пазней 15 дзён пасля тэрмінаў,

устаноўленых па пастаўках, за ўсе работы па ўборцы і малацьбе, праведзеныя на гэта чысло;

д) закончыць выкананне планаў хлебаздачы соўгасамі ў наступныя тэрміны:

не пазней 1 кастрычніка па Узбекістану, Туркменіі, Таджыкістану, Закаўказзю, Сталінградскаму краю, Крымскай, Украінскай ССР, Паўднёвай і Алма-Ацінскай абласцях Казакстана;

не пазней 15 кастрычніка па Паўночна-Каўказскаму і Азова-Чорнаморскаму краях;

не пазней 1 лістапада—па ўсіх астатніх абласцях, краях і рэспубліках;

е) забяспечыць ачыстку зярна і сланечніку ад смецця непасрэдна на токах калгасаў і соўгасаў, прасушку вільготнага і сырога зярна з тым, каб на загатоўчыя пункты калгасы, соўгасы і аднаасобныя гаспадаркі здавалі толькі добраякаснае зярно.

2. Устанавіць, як цвёрдае правіла, прыёмку калгасамі здачу МТС праведзеных работ па актах і забяспечыць праз кожныя 5 дзён выпіску машынатрактарнай станцыяй рахункаў калгасам за праведзеныя работы ў адпаведнасці з актамі прыёмкі і здачы.

3. Пацвердзіць на 1935 г. устаноўлены пастановаю СНК СССР ад 1 ліпеня 1934 года парадак, па якому аднясенне калгасаў да той ці іншай групы па ўраджайнасці робіцца раённымі камісіямі з зацвярджаннем міжраённай дзяржаўнай камісіі па ўраджайнасці.

Устанавіць, што аднясенне калгасаў да той ці іншай групы па ўраджайнасці робіцца па становішчу ўраджайнасці ўсіх зернавых культур, акрамя кукурузы, з тым, каб аплата праведзеных МТС работ у калгасах па кукурузе натурай праводзілася асобна ў адпаведнасці з ураджайнасцю гэтай культуры.

Прапанаваць дзяржаўным міжраённым камісіям па ўраджайнасці закончыць аднясенне калгасаў да той ці іншай групы па ўраджайнасці для вызначэння размераў натураплаты па зернавых культурах: па паўднёвых раёнах—к 15 жніўня, а па ўсіх астатніх краях, абласцях і рэспубліках—к 5 верасня; па сланечніку—к 15 верасня 1935 года.

4. Адлічэнне зярна на ўнутрыкалгасныя патрэбы (для выдачы авансаў калгаснікам, для корму жывёлы і інш.) ад колькасці намалочанага зярна захаваць у размерах, устаноўленых у 1934 годзе, г. зн. 10 проц. ад колькасці фактычна намалочанага зярна з павышэннем да 15 проц. для перадавых, добра працуючых калгасаў.

5. Прапанаваць партыйным і савецкім арганізацыям узяць пад непасрэдны нагляд справу палепшання абслугоўвання калгаснікаў памолам зярна, у тым ліку сартовага памолу, і забяспечыць выкананне планаў гарцавага збору, для чаго закончыць рамонт усіх сельскагаспадарчых млыноў да 1 жніўня 1935 года, арганізаваць здачу млынамі гарцавага збору на загатоўчыя пункты без якіх-небудзь затрыманняў.

6. Дазволіць калгасам і соўгасам для стварэння насенных фондаў пакідаць з пачатку малацьбы ў працэсе хлебаздачы лепшае зярно ў размеры 30 проц. ад колькасці намалочанага зярна пры ўмове акуратнага выканання імі сваіх абавязацельстваў па здачы зярна і сланечніку ва ўстаноўленыя тэрміны.

7. Спыніць калгасны і індывідуальны сялянскі гандаль хлебам і сланечнікам, а таксама закупку зярна і сланечніку спажыўкаапераацыяй і Заготзярно па рэспубліках Сярэдняй Азіі і Закаўказзя, Паўночна-Каўказскаму, Азова-Чорнаморскаму і Сталінградскаму краях, Курскай вобласці, Крымскай АССР, Украінскай ССР, Паўднёвай і Алма-

Ацінскай абласцях Казакстана з 1 ліпеня 1935 года, а па астатніх абласцях, краях і рэспубліках (за выключэннем ДУК і ўсходняй часткі Ўсходне-Сібірскага краю) з 15 ліпеня 1935 года. Пацвердзіць, што калгасы і індывідуальна-сялянскі гандаль хлебам і сланечнікамі будзе дазволен толькі пасля выканання краем, абласцю ці рэспублікай у цэлым устаноўленага плана паставак зярна і сланечніку, звароту ссуд і здачы натураплаты работ МТС, а таксама засыпкі калгасамі поўнасцю насенных і мінімальных фуражных фондаў.

Устанавіць, што прадажа зярна кааперацыі і Заготзярно будзе дазваляцца кожнаму калгасу паасобку пасля выканання ім устаноўленага плана паставак зярна і звароту ссуд, а таксама пасля здачы імі зярна і сланечніку ў парадку натураплаты работ МТС у адпаведнасці з уручанымі МТС рахункамі.

8. Забараніць усім без выключэння партыйным і совецкім, у тым ліку загатоўчым, арганізацыям устанаўляць для калгасаў і аднаасобных гаспадарак сустрэчныя планы па зернапастаўках паміма ўручаных ім абавязацельстваў, прыцягваючы да крымінальнай адказнасці асоб, вінаватых у дачы сустрэчных планаў.

### Б. Па бавоўне

9. Прапанаваць партыйным і совецкім арганізацыям бавоўняных раёнаў арганізаваць здачу кожным соўгасам, кожным калгасам і аднаасобнай гаспадаркай бавоўны неадкладна пасля пачатку раскрыцця каробачак.

10. Прапанаваць партыйным і совецкім арганізацыям Одэскай і Днепрапятроўскай абласцей УССР, Крымскай АССР, Азова-Чорнаморскага, Паўночна-Каўказскага і Сталінградскага краёў забяспечыць выкананне планаў загатовак бавоўны нароўні з выкананнем планаў загатовак зернавых культур.

11. Партыйным і совецкім арганізацыям бавоўняных раёнаў, дырэктарам соўгасаў і МТС і старшыням калгасаў:

а) забяспечыць неадкладную здачу ўсёй сабранай на працягу дня бавоўны на загатоўчыя пункты без якіх-небудзь затрыманняў;

б) арганізаваць улік загатовак бавоўны ад кожнага паасобку калгаса і аднаасобнай гаспадаркі для выдачы прэмій-надбавак за перавыкананне планаў здачы бавоўны па кантрактацыі.

12. Наркамлегпрому арганізаваць штодзенную барацьбу на загатоўчых пунктах і бавоўнаачышчальных заводах са стратамі, раскраданнямі і псаваннем бавоўны, а таксама з нядбайнай прыёмкай і захоўваннем бавоўны, змяшаннем сартоў, прыцягваючы да найстражэйшай адказнасці ўсіх вінаватых у псаванні, раскрадванні і змяшэнні сартоў бавоўны. Абавязаць Наркамлегпром прыняць усе меры супрацьпажарнай аховы на загатоўчых пунктах і бавоўнаачышчальных заводах.

13. Пашырыць устаноўленыя пастановай ЦК ВКП(б) і СНК СССР ад 3 сакавіка прэміі-надбаўкі за перавыкананне планаў здачы бавоўны па кантрактацыі таксама і на бавоўняныя соўгасы, якія перавыконваюць устаноўленыя для іх цвёрдыя планы здачы бавоўны дзяржаве.

### В. Па бураках

14. Прапанаваць партыйным і совецкім арганізацыям, органам Наркамзема і Наркамхарчпрома ўстанавіць пяцідзенныя заданні па вывазцы буракоў для кожнага раёна, МТС, калгаса і соўгаса з такім

разлікам, каб забяспечыць кожны завод к пачатку пуску не менш чым 10-дзённым запасам цукровых буракоў.

Устанавіць пачатак капання буракоў не пазней 5 верасня ў раёнах заводаў з раннім пачаткам вытворчасці і разгарнуць масавае капанне буракоў па ўсіх раёнах з 10—15 верасня. Возку буракоў пачаць ва ўсіх раёнах неадкладна пасля пачатку капання з тым, каб капанне і возку буракоў закончыць у наступныя гранічныя тэрміны:

| Рэспублікі, краі і вобласці | Тэрмін сканчэння капання | Тэрмін сканчэння вывазкі |
|---|---|---|
| 1. Украіна, акрамя Чэрнігаўскай вобласці, Азова-Чорнаморскі край, Казакстан, Кіргізія, ЗСФСР . . . . . . . . . . . . | 1/XI | 10/XI |
| 2. Варонежская, Курская, Чэрнігаўская вобласці, Саратаўскі, Куйбышэўскі краі, Д К, Маскоўская і Заходняя вобласці . . . . | 20/X | 1/XI |
| 3. Заходняя Сібір . . . . . . . . . . . . | 1/X | 15/X |

15. Прапанаваць Наркамхарчпрому СССР забяспечыць пуск не пазней 10 верасня не менш 35 цукровых заводаў, і не пазней 1 кастрычніка ўсіх астатніх заводаў.

16. Прапанаваць партыйным і совецкім арганізацыям буракасеючых раёнаў, дырэктарам МТС, буракасоўгасаў і цукровых заводаў, старшыням калгасаў арганізаваць барацьбу са стратамі, раскрадваннямі, псаваннем і дрэнным захоўваннем буракоў, дабіўшыся своечасовай вывазкі і здачы ўсяго ўраджаю буракоў без страт ва ўстаноўленыя тэрміны.

### Г. Па ільну і пяньцы

17. Прапанаваць партыйным і совецкім арганізацыям ільняных і канапляводчых раёнаў, органам Наркамзема і Камітэтам па Загатоўках устанавіць для кожнага калгаса і сельсовета па аднаасобных гаспадарках 5-дзённыя заданні здачы прадукцыі ільна і пянькі на загатоўчыя пункты і трасты—на заводы пярвічнай апрацоўкі.

18. Лічыць планам загатовак ільна і пянькі, а таксама ільнянага і канаплянага насення як па колькасці, так і па сорту, для кожнага пасобку калгаса і аднаасобнай гаспадаркі заключаныя з ім кантрактацыйныя дагаворы.

19. Прапанаваць Камітэту па Загатоўках забяспечыць правільнасць вызначэння сортнасці і якасці ільна і пянькі як на загатоўчых пунктах, так і на заводах пярвічнай апрацоўкі, і правядзенне са здатчыкамі разлікаў у дакладнай адпаведнасці з сапраўднай якасцю зданага імі сырца.

20. Партыйным і совецкім арганізацыям ільняных раёнаў забяспечыць засыпку насенных фондаў ільна і канапель ураджаю 1935 года не пазней 10—15 дзён пасля сканчэння цераблення ільна з тым, каб кожны калгас і кожная аднаасобная гаспадарка поўнасцю забяспечылі сябе ўласным добраякасным насеннем ільна і канапель.

21. Прапанаваць Наркамлегпрому забяспечыць палепшанне работы заводаў па пярвічнай апрацоўцы і ў першую чаргу павышэнне выхаду доўгага валакна.

### Д. Па бульбе

22. Прапанаваць партыйным і савецкім арганізацыям:

а) зацвердзіць па кожнаму калгасу і сельсовету планы капання і падвозкі бульбы на спіртовыя і крухмала-патачныя заводы і загатоўчыя пункты;

б) забяспечыць выкананне планаў здачы бульбы кожным паасобку калгасам, калгаснікам і аднаасобнай гаспадаркай і сканчэнне поўнасцю загатовак, перавозак і складанне на зімняе захаванне бульбы па краю, абласці і рэспубліцы да наступлення халадоў.

23. Прапанаваць партыйным і савецкім арганізацыям:

а) забяспечыць поўнае выкананне заключаных МТС з калгасамі дагавароў па абслугоўванню бульбяных пасеваў;

б) у выпадку, калі МТС абслугоўвае нязначную частку бульбяных пасеваў калгасаў, устанавіць для гэтых калгасаў норму здачы бульбы па пастаўках, як для калгасаў, не абслугоўваемых МТС.

24. Дазволіць калгасам і калгаснікам, якія акуратна выконваюць устаноўленыя для іх абавязацельствы па здачы бульбы дзяржаве, прадажу маючыхся ў іх лішкаў бульбы дзяржаўным і кааперацыйным загатоўшчыкам па канвенцыйных цэнах.

### Е. Па табаку і махорцы

25. Прапанаваць партыйным і савецкім арганізацыям забяспечыць безумоўнае выкананне плана загатоўкі табаку і махоркі, у асаблівасці павелічэнне загатовак высокіх сартоў табаку.

Устанавіць гранічныя тэрміны загатоўкі:

а) жоўтых табакоў—15 лютага па ўсіх раёнах СССР, акрамя Абхазіі, а па Абхазіі—15 сакавіка 1936 года;

б) па махорцы—1 снежня 1935 года, за выключэннем Заходне-Сібірскага, Усходне-Сібірскага, Краснаярскага краёў, Чэлябінскай і Омскай абласцей, у якіх загатоўкі махоркі павінны быць закончаны не пазней 1 студзеня.

26. Прапанаваць Наркамхарчпрому забяспечыць своечасовую ачыстку і рамонт складаў, забараніўшы заняцце табачных і махорачных складаў пад іншыя культуры.

* * *

27. Устанавіць, што заключаныя загатоўчымі арганізацыямі кантрактацыйныя дагаворы з калгасамі і аднаасобнымі гаспадаркамі па кантрактацыі бавоўны, буракоў, ільна, канапель, табаку, клешчавіны і махоркі маюць сілу закона, абавязковага к дакладнаму і безумоўнаму выкананню як калгасамі і аднаасобнымі гаспадаркамі, так і загатоўчымі арганізацыямі, і ніякія парушэнні абавязацельстваў па дагавору ні з боку калгасаў і аднаасобных гаспадарак, ні з боку загатоўчых арганізацый не павінны быць дапушчаны ні пад якім выглядам.

### Ж. Па арганізацыі вывазкі зярна і інш. сельскагаспадарчых прадуктаў

28. Забяспечыць з самага пачатку ўборкі выдзяленне ў кожным калгасе для падвозкі зярна і іншых сельскагаспадарчых прадуктаў неабходнай колькасці цягавай сілы і падвод, у першую чаргу бястарак, у адпаведнасці з планам здачы.

29. Скарыстаць аўтатранспарт МТС і соўгасаў поўнасцю для вывазу зярна і іншых сельскагаспадарчых прадуктаў на загатоўчыя пункты, закончыўшы рамонт аўтатранспарта к 1 ліпеня па ўсіх абласцях, краях і рэспубліках, акрамя Чэлябінскай, Свердлоўскай, Омскай абласцей, Заходне-Сібірскага, Усходне-Сібірскага, Краснаярскага, Далёка-Ўсходняга краёў і паўночных абласцей Казакстана, якім закончыць рамонт машын к 1 жніўня.

30. Устанавіць пільную ахову зярна і іншых сельскагаспадарчых прадуктаў пры перавозках у дарозе і сурова караць вінаватых у раскрадванні зярна і іншых сельскагаспадарчых прадуктаў пры перавозках.

31. Прапанаваць раённым, краявым і абласным выканкомам советаў закончыць да пачатку загатовак рамонт дарог, мастоў і пад'ездаў к загатоўчым пунктам.

32. Прапанаваць НКШЗ, Наркамводу і Камітэту Загатовак падрыхтаваць к 1 ліпеня план перавозак хлеба па чыгунках і воднаму транспарту на ліпень, жнівень, верасень і кастрычнік, не дапускаючы пры гэтым меўшых месца ў мінулым годзе сустрэчных перавозак і скарачаючы дальнасць прабегу.

33. НКШЗ і Наркамводу арганізаваць бесперабойную перавозку хлеба, забяспечыўшы сканчэнне ва ўстаноўленыя тэрміны рамонту і ачыстку вагонаў і барж для хлебных перавозак.

34. Камітэту Загатовак і Наркамхарчпрому скараціць прастоі пад пагрузкай і выгрузкай, падрыхтаваўшы і ачысціўшы склады для захоўвання зярна, буракоў, бульбы і гародніны.

35. Прапанаваць партыйным і советскім арганізацыям праверыць на месцы ход падрыхтоўкі да перавозкі хлеба і буракоў і аказаць усямерную дапамогу чыгункам і воднаму транспарту ў падрыхтоўцы і арганізацыі бесперабойных хлебных перавозак і перавозак буракоў.

### З. Па тэхнічнай базе і кадрах загатоўчых пунктаў

36. Прапанаваць Камітэту па Загатоўках і яго ўпаўнаважаным на месцах, а таксама Наркамлегпрому, Наркамхарчпрому і Наркамунутрганддлю:

а) ліквідаваць усё яшчэ маючыяся на загатоўчых пунктах вялікія страты зярна, сланечніку, бавоўны, ільна, буракоў, бульбы і інш. культур як пры прыёмцы, так і пры захаванні і адгрузцы;

б) арганізаваць пільную ахову загатоўленых дзяржаваю сельскагаспадарчых прадуктаў (зярно, бульба, бавоўна і інш.) на загатоўчых пунктах;

в) закончыць будаўніцтва новых складаў, рамонт старых складскіх памяшканняў, абсталяванне загатоўчых пунктаў вагавым і лабараторным інвентаром, дэзінфекцыю і ачыстку складаў ад свірнавых шкоднікаў і смецця, падрыхтоўку тары і брэзентаў не пазней 1 ліпеня па Украіне, Закаўказзю, Крыме, Узбекістане, Таджыкістане, Туркменіі, Паўночна-Каўказскаму, Азова-Чорнаморскаму, Сталінградскаму краях; к 1 жніўня—па ўсіх астатніх краях, абласцях і рэспубліках;

г) скончыць будаўніцтва сушылак не пазней 15 жніўня.

37. Прапанаваць мясцовым партыйным і совецкім арганізацыям аказваць штодзенную дапамогу работнікам загатоўчага апарата і ўпаўнаважаным Камітэта па Загатоўках у выкананні ўскладзеных на іх партыяй і ўрадам важнейшых абавязкаў.

* * *

Пленум ЦК ВКП(б) перасцерагае партыйныя і совецкія арганізацыі ад недаацэнкі труднасцей надыходзячай уборачнай і загатоўчай кампаніі і захаплення дасягнутымі ў веснавой пасеўнай кампаніі поспехамі і папярэджвае ўсе партыйныя і совецкія арганізацыі, Наркамзем СССР, Наркамсоўгасаў і Камітэт па Загатоўках, што іх работа будзе ацэньвацца па рэзультатах уборачных работ і выкананню планаў загатовак сельскагаспадарчых прадуктаў.

Пленум ЦК ВКП(б) напамінае, што планы загатовак будуць выкананы поўнасцю і ў тэрмін толькі ў тым выпадку, **калі** будзе забяспечана належная ахова ўбранага хлеба ад разбазарвання і раскрадвання, **калі** будуць мабілізаваны калгасныя масы і соўгасныя рабочыя на барацьбу з кулацка-рвацкімі настроямі, накіраванымі на падрыў справы загатовак, **калі** будзе выгнан з практыкі загатовак так званы самацёк, **калі** загатоўкі будуць **арганізаваны** па-сапраўднаму, па-большэвіцку.

# Аб службовым апараце Сакратарыята ЦВК СССР і таварышу А. Енукідзе

*Рэзалюцыя пленума ЦК ВКП(б) па дакладу тав. Ежова, прынятая 7 чэрвеня 1935 г.*

**АБ СЛУЖБОВЫМ АПАРАЦЕ САКРАТАРЫЯТА ЦВК СССР І ТАВАРЫШУ А. ЕНУКІДЗЕ**

Рэзалюцыя пленума ЦК ВКП(б) па дакладу тав. **ЕЖОВА,** прынятая 7 чэрвеня 1935 г.

1. Адобрыць мерапрыемствы кантрольных органаў па праверцы і палепшанню службовага апарата Сакратарыята ЦВК Саюза ССР.

2. За палітычнае і бытавое разлажэнне бышага сакратара ЦВК Саюза ССР тав. А. Енукідзе вывесці яго са складу ЦК ВКП(б) і выключыць з радоў ВКП(б).

# Аб уліку пасеўных плошчаў у 1935 годзе

## Пастанова Совета Народных Камісараў БССР і Цэнтральнага Камітэта КП(б)Б

Далейшы рост калектывізацыі, прыняцце новага сталінскага калгаснага статута, які з'яўляецца фактарам далейшага ўпарадквання першапачатковага ўліку ў калгасах, а таксама неабходнасць паскарэння выдачы дзяржаўных актаў на карыстанне зямлёй калгасам навечна і пастаўленыя партыяй і ўрадам задачы планамернага пераходу на пастаянныя севазвароты патрабуюць палепшання пастаноўкі ўліку пасеўных плошчаў. Выходзячы з гэтага, Совет Народных Камісараў БССР і ЦК КП(б)Б лічаць неабходным пасля сканчэння веснавой сяўбы 1935 года правесці поўны ўлік усіх пасеваў як па соўгасах і калгасна-сялянскаму сектару, так і па дзяржаўных і кааперацыйных арганізацыях і размеркаванне іх па соцсектарах і катэгорыях гаспадарак.

У сувязі з гэтым **Совет Народных Камісараў БССР і ЦК КП(б)Б пастанаўляюць:**

1. Абавязаць кіраўніцтва народна-гаспадарчага ўліку БССР і яго раённую і ўчастковую інспектуру на месцах у адпаведнасці з праграмай ЦУНХУ Дзяржплана СССР, на падставе заключнай справаздачы сельсовета па пасеўных плошчах індывідуальнага карыстання і пасевах дзяржкааперацыйных устаноў і арганізацый, таксама калгасаў, соўгасаў, каапгасаў і ОРС'аў устанавіць дакладны размер пасеўнай плошчы яравых пасеву 1935 года і плошчы азімых пасеву восені 1934 года ў разрэзе сельсаветаў па катэгорыях гаспадарак, згодна оргплану і інструкцыі ЦУНХУ Дзяржплана СССР.

2. Абавязаць Наркамзем, Упоўнаркамсоўгасаў, Белкаапсаюз, Упоўнаркамлес, а таксама іншыя наркаматы, ведамствы і арганізацыі даць падпарадкваным ім гаспадаркам, якія маюць пасеўныя плошчы, указанне аб прадстаўленні па ўстаноўленай форме не пазней пяці дзён пасля сканчэння пасеўнай кампаніі яравых органам народна-гаспадарчага ўліку на месцах заключнай справаздачы аб пасеўных плошчах азімых і яравых.

3. Ускласці адказнасць за прадстаўленне ва ўстаноўлены тэрмін заключнай справаздачы, аб пасеўных плошчах:

а) па гаспадарках аднаасобнікаў, прысядзібных пасевах калгаснікаў, рабочых і служачых, а таксама пасеўных плошчаў дзяржкааперацыйных устаноў і арганізацый на сельсоветы праз упаўнаважаных сельсоветаў адпаведным участковым інспектарам наргасуліку;

б) па аграмаджаных пасевах калгасаў—на старшынь калгасаў—адпаведным участковым інспектарам наргасуліку;

в) па соўгасах, каапгасах і ОРС'ах—на дырэктароў гэтых гаспадарак—непасрэдна адпаведным раённым інспектарам наргасуліку.

4. У мэтах грамадскай праверкі правільнасці даных аб пасеўных плошчах аднаасобнага карыстання абавязаць РВК і сельсоветы абгаварыць заключныя справаздачы па гэтых гаспадарках на прэзідыумах сельсоветаў і шырокіх сходах працоўных аднаасобнікаў і калгаснікаў.

5. Папярэдзіць дырэктароў соўгасаў, каапгасаў, ОРС'аў, леспрамгасаў, старшынь калгасаў, кіраўнікоў дзяржаўных, кааперацыйных устаноў і арганізацый, маючых пасеўныя плошчы, а таксама старшынь сельсоветаў, што яны нясуць персанальную адказнасць за своечасовае прадстаўленне і правільнасць даных аб пасеўных плошчах іх гаспадарак.

6. Даручыць органам народна-гаспадарчага ўліку і міжраённым камісіям па ўраджайнасці ў тых выпадках, калі праверкай асобных аб'ектаў (калгасаў, устаноў, арганізацый, зямельных таварыстваў, сельсоветаў у цэлым) будзе выяўлена заблытанасць справаздачных даных, а таксама ў тых выпадках, калі заблытанасць становішча землекарыстання або ўліку не дае магчымасці правільна вызначыць размеры пасеўных плошчаў адпаведных аб'ектаў,—патрабаваць ад райвыканкомаў правядзення выбарачных інструментальных абмераў. Указаныя абмеры павінны быць забяспечаны райвыканкомамі неабходным інструментарыем, кадрамі і належным арганізацыйна-палітычным кіраўніцтвам, з аднясеннем выдаткаў па абмеру пасеваў калгасна-сялянскага сектара на райвыканкомы, а па пасевах соўгасаў і ўстаноў—на кошт апошніх.

7. Абавязаць Наркамзем: а) поўнасцю забяспечыць бланкамі заключнай справаздачнасці: калгасы—формай № 4 (калгаснай справаздачнасці), сельсоветы для калгаснікаў—формай № 17-а (сельсовецкага ўліку) і па гаспадарках устаноў і арганізацый, рабочых і служачых сельскіх мясцовасцей і іншага насельніцтва, неабкладаемага сельскагаспадарчым падаткам, і аднаасобнікаў—формай № 17-б (сельсовецкага ўліку); б) забяспечыць у кожным калгасе работу кантрольна-ўліковых камісій па прыёмцы работы з абавязковым складаннем актаў пасля сканчэння сяўбы калгаса па форме № 28 нізавога ўліку калгасаў.

8. Устанавіць, што асобы, не прадставіўшыя ва ўстаноўлены тэрмін заключных справаздач, а таксама прадставіўшыя няправільныя даныя аб размерах фактычна засеянай плошчы яравых 1935 года, плошчы азімых пасеву восені 1934 года (за вылікам пацярпеўшай ад стыхійных бядот, згодна актам Дзяржстраха) і плошчы шматгадовых траў пасеву мінулых гадоў, прыцягваюцца да крымінальнай адказнасці.

Старшыня СНК БССР ГАЛАДЗЕД.

Сакратар ЦК КП(б)Б ГІКАЛО.

Уп. Галоўлітбел № 3308
Тыраж 10.342
482.800 друк. зн. (9 арк.)
Здана ў набор 10/VI—35 г.
Падпісана да друку 23/VI—35 г.



Друкарня ім. Сталіна. Менск, Энгельса, 2. Зак. № 610

# УМОВЫ ПРЫЁМА Ў АСПІРАНТУРУ ІНСТЫТУТА ГІСТОРЫІ ПАРТЫІ пры ЦК КП(б)Б

1. Інстытут Гісторыі Партыі пры ЦК КП(б)Б абвяшчае прыём аспірантуры, якая ставіць сваёй задачай падрыхтоўку высокакваліфікаваных марксісцка-вытрыманых гісторыкаў партыі для навукова-даследчай і педагагічнай работы.

2. У аспірантуру Інстытута прымаюцца члены КП(б)Б пераважна рабочыя, уладаючыя тэарэтычнай падрыхтоўкаю ў аб'ёме комвуза або соцыяльна-гістарычнай ВНУ і маючыя не менш пяцігадовага стажа кіруючай партыйнай, совецкай, профсаюзнай або педагагічнай работы для служачых і калгаснікаў і 3-х год для рабочых.

3. Для паступаючых у аспірантуру ўстанаўляецца наступны партыйны стаж: 5 год для рабочых, 6 год для калгаснікаў і для служачых 7 год.

ЗАЎВАГА: Членам ЛКСМ, маючым не менш пяцігадовага комсамольскага стажа і 3-х гадовага стажа кіруючай комсамольскай работы, патрабаванне стажа можа быць зніжана да 3-х год, па хадайніцтву ЦК ЛКСМБ.

4. Узрост паступаючых не павінен перавышаць 37 год.

5. Паступаючыя ў аспірантуру трымаюць іспыты па гісторыі партыі, палітэканоміі, дыялектычнаму матэрыялізму.

6. Паступаючыя павінны прадставіць наступныя дакументы: а) заяву; б) камандыроўку ГК або РК КП(б)Б; в) кароткую аўтабіяграфію; г) падрабязную характарыстыку ячэйкі, зацверджаную ГК або РК КП(б)Б; д) дакументы аб асвеце (калі ёсць); е) завераную спраўку аб партстажы, соцыяльным паходжанні і становішчы; ж) копію вайсковага дакумента, спраўку аб стане здароўя.

7. Заявы прымаюцца да 25 чэрвеня. Прыёмныя іспыты будуць праходзіць з 1 верасня. Зацверджаныя мандатнай камісіяй атрымліваюць двухмесячны водпуск, з захаваннем зарплаты па месцу работы, для падрыхтоўкі к іспытам.

8. Таварышы, залічаныя ў аспірантуру Інстытута Гісторыі Партыі, забяспечваюцца інтэрнатам і стыпендыяй у размеры 300 руб.

9. Заявы накіроўваць па адрасу: **Менск, вул. Карла Маркса, 16, Інстытут Гісторыі Партыі.**

**Ад паступаючых у аспірантуру Гістпарта патрабуюцца веды:**

**па тэарэтычнай эканоміі—Маркс „Капітал" т. I, па філасофіі—Энгельс „Анты-Дзюрынг"**

Грунтоўнае знаёмства з асноўнымі работамі Леніна і Сталіна

**ЛЕНІН**—**„Што такое прыяцелі народу".**
**„Ад якой спадчыны мы адмаўляемся"**
**„Развіццё капіталізма ў Расіі".**
**„Крок уперад, два назад".**
**„Дзве тактыкі соцыял-дэмакратыі ў дэмакратычнай рэволюцыі".**
**„Што рабіць".**
**„Аграрная праграма с.-д. у першай рускай рэволюцыі".**
**„Імперыялізм як навейшы этап капіталізма"**
**„Дзяржава і рэволюцыя".**
**„Дзіцячая хвароба „левізны" у комунізме" і інш.**

**СТАЛІН**—**„Пытанні ленінізма".**
**„Марксізм і нац.-каланіяльнае пытанне".**
**„Пра соцыял-дэмакратычны ўхіл у нашай партыі"** (беларускае выданне)

Заг. аддз. культуры і прапаганды
ЦК КП(б)Б—КОНІК

Дырэктар Інстытута Гісторыі Партыі
пры ЦК КП(б)Б—ПОССЕ

